# ПОЛЫМЯ

БЕЛАРУСКАЯ ШТОМЕСЯЧНАЯ ЧАСОПІСЬ ЛІТАРАТУРЫ ПОЛІТЫКІ ЭКОНОМІКІ ГІСТОРЫІ КРЫТЫКІ



ЧЭРВЕНЬ
1929
N6



БЕЛАРУСКАЕ ДЗЯРЖАЎНАЕ ВЫДАВЕЦТВА

# ПОЛЫМЯ



БЕЛАРУСКАЯ ЧАСОПІСЬ ЛІТАРАТУРЫ,
ПОЛІТЫКІ, ЭКОНОМІКІ, ГІСТОРЫІ

ГОД ВЫДАНЬНЯ ВОСЬМЫ




ЧЭРВЕНЬ
1929

БЕЛАРУСКАЕ ДЗЯРЖАЎНАЕ ВЫДАВЕЦТВА
МЕНСК

# КРЫЖАВЫЯ ДАРОГІ [1])

## Цішка Гартны

### I

Зацягласьць вайны на зіму крута мяняла грамадзкія настроі ў сталіцы. Дзе падзеліся яшчэ незабытыя, задзёрыстыя, ганарлівыя разважаньні на тэму пра паход на Бэрлін, пра ўзяцьце Вены?! Зьнікла пустая пахвальба вялікасьцю і пераможнасьцю расійскага войска. Трактованыя, як слабасьць ворага, усё часьцей ды часьцей вынікалі хлусьлівыя паведамленьні аб хуткім банкруцтве немцаў. Час-ад-часу ўздымаліся цёмныя, нявыразныя чуткі пра мір. Уцеха перамогаю над туркамі нацягвалася компэнсацыяй за вялізныя страты на вайне. Струмень бульварнае патрыотычнае літаратуры ў выданьні „Нового Времени“, бутафорнасьць патрыотычных концэртаў расплываліся ва ўсё ўзрастаючых недахопах. Уздым дарагоўлі на хлеб, на соль, на мяса, недастача цёплага адзеньня на фронтах; пошасныя хваробы ад недаяданьня арміі, ад яе галечы прарочылі ліхое ды нядобрае. Часьцей і больш упэўнена пачаліся чуцца крытычныя галасы наконт непарадкаў у вайсковых сфэрах. Непадгатаванасьць да зімовае кампаніі выразна вылазіла напаверх падзей, пагражаючы іх паваротам у дрэнны бок. Сэквэстрацыя маемасьці нямецкіх грамадзян, забарона опэр Вагнэра, выяўленьне здрады Мясаедава не маглі апраўдаць страшэннага згубства войска і руйнаваньня краіны. Мільёны забітых немцаў і аўстрыякаў хавалі пад сабою ня меншыя лічбы страт з расійскага боку. Вэрдэн і Лувэн на заходнім фронце—Перамышль і Асавец на ўсходнім... Атакі і крывавыя бойкі вяшчалі штосьці страшнае наперадзе.

Жыцьцё цалкам, ва ўсіх сваіх рознастайных праявах, паддавалася ўплыву вайны. Ад вайны залежала доля сотняў мільёнаў людзей, з вайною былі зьвязаны жаданьні і імкненьні любое адзінкі ваюючай краіны. Вайна ўваходзіла ў звычайнае зьявішча, але далёка ня ўсьцішала людзкога хваляваньня.

Сталіца і губэрскія гарады памагалі гэтаму нясупынным павялічэньнем раненых, мобілізаваных. Дэфіляваньне вуліцамі грамад, сагнаных з вёсак, з мястэчак людзей, перавозка гармат і прыпасаў, праезды коньніцы—нагадвалі пра несканчоную крывавую завіруху. Уваччу зелянілася хакі. Яго сьветла-зялёны колер, які выглядаў з вакон магазынаў, з плеч вялікае колькасьці мужчынскага насяленьня, каламуціў сьвятло сонца і бялізну сьнегу.

[1]) „Крыжавыя дарогі“, часьціна сёмая з трэцяе квадры роману „Сокі Цаліны“.

Жалеза і кроў напаўнялі згушчанае паветра. Разгойданыя нэрвы радзілі нялюдзкую злосьць, нянавісьць, жывёльнае драпежнае пачуцьцё. Кавалкі людзей, падапёртыя мыліцамі і цурубалкамі, павязаныя марляю і адзетыя ў скураныя, рыпучыя протэзы, пеніліся агідаю на жывых і здаровых. Крывасмагнае жаданьне бачыць перад сабою агульнае калецтва, спрэсныя мукі і мардаваньне—служыла ўцехаю болі і пакуты бязьвінна-пхнутых на расстрэл. Абыдзены фронтам, з свайго боку, нядбала, агідна пазіраў на быўшых людзей. У вагоне, у трамваі ён не саступаў захопленнага месца і пасьміхаўся з таго, хто ляжаў без нагі ці рукі каля яго здаровых ног. Затлусьцелыя, з выпучанымі на аршын грудзямі, ваяўніча пракладалі сабе дарогу тылавыя афіцэры, чыноўнікі, земгусары.

Над імі—неба, пад імі—сьмецьце. Возьнік аб'яжджаў яго на дарозе, трамвайны важаты спыняў на ўсім хаду трамвай, бачучы ківок яго пальца. Бліскучыя сьвятлом рэстораны падсьцілалі ім белыя сурвэты, ставілі букеты красак, увіваліся дзесяткамі пакорлівых, паслухмяных кёльнэраў.

Вайна, як эпоха, кіравала жыцьцём. Яна віхрыла людзкі натаўп, як парушынкі, разносіла скаргі, як вадзяныя пырскі. Вайна, як эпоха, гойдала доляю мільёнаў, зрываючы іх з месца і ганяючы па спустошаных прасторах.

Дзе яе канец?

Няўжо, сапраўды, Вільгельм просіць згоды ў Бэльгійскага караля? Дык чаму-ж той, упарты і агідны, ня хоча згадзіцца?

У Бэрліне не хапае ежы—ва ўсіх агульнае нездавальненьне вайною. Дык чаму-ж нямецкае войска з гэткаю ўпартасьцю вядзе наступ на ўсіх фронтах?

Расійскае войска ідзе на Эрзэрум. Туркаў чакае пагібель. Дзе яна, чаму яна ня прыносіць разам з гэтым пагібелі ўсёй вайне? Усюды і ўсе чакаюць міру, чакаюць тэй хвіліны, калі змоўкнуць стрэлы гармат і нязьлічоныя цягнікі пакінуць падвозіць сотні тысяч раненых. І разам з тым, усе бязвольны наблізіць той час. У чым захавана вось гэта супярэчнасьць? Якія законы ціснуць на волю мільёнаў, не дазваляючы ёй разварушыцца? Няўжо вайна—вышэйшы закон?

Насустрач прыгожай вясьне вытыркл прагныя дулы гармат, бліскучыя лёзы штыкоў і пік. Пад сіні лазурак неба імкнуцца хмары дыму ад пажараў, з комінаў фабрык ды заводаў, дзе рыхтуюцца знарады, зброя, атрутныя газы. Чырвоныя пырскі крыві зьвільжаюць вызьвеўшыя купіны зямлі. Там, пад верхнім слоем размочанага пяску, сям'я валошкі, пралескі, куколю. Няўжо на яго крохкім храстку стане падкованы абсац і расьцісьне кволыя валаконцы прыгожае красачкі?

Вясна, ядраная, з залацістымі сувоямі шаўкавістага праменьня, гудзе струменямі бурлівае вады, благаславіць зямлю нябескаю красою неабмернага блакіту. У бадзёрым гуле абуджанага лесу, ва ўзьнятым настроі зямляроба—што яна дасьць чалавецтву?

Перамогі—канчатак?

Ці-ж ня ўсёроўна, абы хутчэй.

Адно з двух—Расіі неадкладна патрэбнае.

На весну надзеі.

Навошта каму той Бэрлін, тая Вена, Будапэшт і Константынопаль?

Замірэньня—згоды!

Годзе драпежніцтва!

Гэта выразна напісана на тварах тысяч праходжых, занятых працаю, захопленых зыкамі „Сьнягурачкі“ Рымскага-Корсакава, пастаўленай замест „Трыстана і Ізольды“ Вагнэра.

Роўнадушнасьць? Так, яна не паддаецца ўжо нагараваньню адцягненымі, фальшывымі абяцанкамі. Зіма паказала, што ў ёй хаваецца.

Вясна—вырашыць!

Вясна—вырашыць?

Рыгору хацелася гэтага, але ён ня быў упэўнены, што гэта здарыцца. Нячуваны размах вайны, захапіўшай у сваё ўлоньне дзесяткі краін, мільённыя арміі, азьвярэньне людзей—не казалі на карысьць яго хаценьня. Клубок нясупынна блытаўся, рос вузел на вузлу—бясконца, бяз меры.

Разам—падвышалася напружанасьць пачуцьця. Цяжка рабілася—губляючыся ў няведаньні наступнага.

Але раздумы на гэту тэму не аблягчалі становішча. Наадварот, яны ўдубальтоўвалі яго цяжкасьць. Прыходзілася спыняцца на апошнім—калі-небудзь ды вайна скончыцца. Ня будзе-ж яна бясконцай?!

Кожны раз, адцягаючыся ў думках ад вайны, Рыгор у яе аспэкце разглядаў сваё ўласнае жыцьцё. Нельга было сказаць, каб ён цалкам залежаў ад паваротаў вайны, усё-ж яна клала на ім свой адбітак. Прымацованы мілітарызацыяй да заводу, Рыгор адчуваў усё, што з гэтага выплывала, і ня мог ня браць яго пад увагу. Але ня гэта было асноўным у навароце яго ўвагі да вайны. Ён ні на адзін момант не забываў яе вынікаў для долі яго краіны. Дзень-у-дзень перад ім паўставаў сівабароды дзядзька са Знаменскай вуліцы; пакорліва разьнятыя сінія губы не пераставалі шавяліцца, пагрозныя, пякучыя словы выкладалі балючы зьмест страшэнных падзей. Яны абнімалі Рыгораву істоту, ціснулі на яе і не давалі супакою. Вайна разбурае яго краіну, зганяе з месца соткі тысяч людзей. Колькі іх разышлося па беламу сьвету! А колькі яшчэ на чарзе! Праз усю зіму—вайна ня сьціхае. Як страшэнная тузаніна, яна пазьменна калыша мільёнамі, душыць і цісьне на зямлю і на людзей. Штодзенныя весткі ня спыняюць казаць пра ўпартае пасуваньне нямецкае арміі на ўсход. Нямецкая армія націскае—расійская адступае, ці наадварот,—а мірныя вёскі і мястэчкі няшчадна расьціскаюцца пад тоўстымі шынамі гармат, пад конскімі капытамі, пад абсацамі тысячных грамадаў пехацінцаў. Вайна цягнецца—і ня спыняецца бежанства. Хто яго ведае, у які момант надыйдзе чарга да Сілцоў? Газэты, праўда, ня пішуць—стаўка захоўвае няпрыемныя для Расіі навіны. Ці-ж не заўважаў Рыгор многаразовыя няўвязкі ў разгортаньні плянавага манэўру аба-

роны? Ці не зьнянацкам было заняцьце немцамі Лодзі, іх раптоўнае зьяўленьне пад Асаўцом і ў Сувалкшчыне? Ня заўтра—пасьлязаўтра прарвецца паведамленьне пра страту Горадні, пра надыход немцаў да Нёмну. Гэта-ж усё згон беларускага жыхарства, гэта-ж усё новыя тысячы бежанцаў. Вось-вось у іх ліку апыніцца яго маці, Сёмка з бацькамі і жонкаю, Зося і дзесяткі яшчэ нязгладжаных у памяці сілцоўцаў. У адзін ліхі момант зрушацца яны з месца і, як варáгі, як бяздомнікі, рассыплюцца па засьнежаных дарогах. Апусьцеюць сілцоўскія вуліцы; парожнімі застануцца будынкі; будзе рэхам аддавацца ў пустых хатах стукат конскіх капытоў, рэдкія стрэлы гармат ды вінтовак. Пасьля беспагадная рука запаліць пук саломы, уваткне ў рагавую хату ў бок ветру і пусьціць агнём векавую, працоўную ашчаднасьць сілцоўцаў. Голымі комінамі глядзецьмуць абгарэлыя печы, сатруцца лініі вуліц і дзікая крапіва забуяе густымі зарасьлямі. Вецер, завіруха—стане адгалоскам жніўных і вясельных песень сілцоўскае моладзі. А дзе прыпыняцца тыя, што пакінуць Сілцы? У Пецярбурзе на голым бруку халодных вуліц? Ці пад пякучым пяском Туркастану? Сярод роўнага гасьцінцу ў запушчаных палетках, ці пад скаржэлымі кустамі ядлаўцу?

Сілцы—Беларусь? Беларусь—Сілцы?.

Бежанскі камітэт! Маленькі рухавы чалавек, поўны клопату і дбаньня пра выгнаны народ. Мізэрныя сродкі дабрачыннага спэктаклю і трапунковыя асьмакі для тых, хто па тыдню ня еў, змардаваных, абезнадзеных, няўпэўненых у заўтрашнім дні, адарваных ад асноў незайздроснага, але поўнага жыцьця.

Бежанскі камітэт—купіна ў нязьмерных пустках невядомага.

Калі ў ім ачуецца Рыгорава маці? Ці дойдзе яна да парогу дому № 36 на Знаменскай вуліцы, ці кончыць сваю дарогу пад Ліцкам, пры Масткох, або на граніцы Карупінскага лесу.

Ужо месяц з лішкаю, як Рыгор бяз жаднае весткі з Сілцоў. Бадай што маці ў дарозе. „Людзі рыхтуюцца да ўцёкаў“—то было яшчэ з восені. А зараз, на весну, напэўна, падрыхтаваліся. Рушылі ці чакаюць?

У беларускім бежанскім камітэце павінны быць весткі.

Рыгору трэба цясьней зьвязацца з гэтай установай. У ёй...

Выгнаная Беларусь?

## II

Сумны, абкураны будынак заводу. На чыгунных варотах вялізная завала. За варотамі шаламлівая стукатня. Ці то страляніна? Хтосьці пераскаквае высачэзны паркан і паднімае над вуліцай разгорнуты сьцяг. Пяе? Кліча на падмогу? Наўкола—ні душы. Але раптам вырастае чалавек. Махае рукамі, і тысячы людзей вышываюцца з куткоў, са шчылінак, з патаемных схованаў—і натоўп. Усё дрыжыць ад яго бурлівага тупату, ад яго зычных песень і гукаў. Чалавек з рабрыны паркану падае

ў паднятыя рукі грамады. Сьцяг, як вялізнае чырвонае палатно, атуляе тысячы разьюшаных асоб. Яны хаваюцца ў ім, як у хустачцы штукара, гінуць. Але, вось, там, дзе кішэла зямля бурлівым натоўпам—раптам стройныя, халодныя шэрагі войска. Бліскуючыя палосы штыкоў, гузікі, як запаленыя сьвечкі. У міг—вінтоўкі на перавагу і штыкі ў воблаках дыму... Далей—шэрая павуціна нявыразнасьці...

Што гэта—дзевятае студзеня ці першага мая?.. У Рыгоравым пакоі ня месьціцца хваля бліскучага праменю сонца. Няўжо ад благавешчаньня? Залацяцца вокны, портрэткі на сьценах, буфэт. Алюмінавая сьпінка ложка палажыла на Рыгоравым твары сярэбраную лінейку. Здаровыя шчокі п'юць жыватворчае цяпло, што коўзае па беламу моху няпрыкметных валаскоў. За вакном нясьціханая тупатня—назолістай кошкі.

У кватэры ціха. Сарафіна Хлёраўна тупае ў баваўняных пантофлях па сьвежа-пасланых дарожках. Благавешчаньне? Калышуць паветра гульлівыя пералівы звону. Яна рыхтуецца да модлаў. А як-жа з кватэраю? Рыгор спацьме ці хутка прачнецца і пойдзе па справах? Возьме ды забудзе замкнуць. Хіба ключ палажыць на пліце, на белым полі памытай кафлі—угледзіць. Каля ключа—ліст. Ды няўжо-ж такі ён сьпіць яшчэ, сапраўды? Ужо-ж пашло на адзінаццатую. Бесклапотны які! Нядбайны. Сварлівы і гнеўны. Няўжо і калі сьпіць—ён той-жа? Мужчыны... Ха-ха-ха! Незачэпа, ой, ой, незачэпа! Задзіра.

Сарафіна Хлёраўна кідае на крэсла пачышчаны сак, пакідае пастэрку на круглым століку ў кутку пакою, а ліст камечыць у руках і на пальчыках падыходзіць да дзьвярэй Рыгоравага пакою.

Мнецца нафуфыраная прычоска, вуха шчыльна прыстае да нагрэтых вушакоў у дзьвярах. „Сьпіць, як пшаніцу прадаўшы! Ха-хі-хэ! Што значыць маладосьць і сіла! Глянуць. Пэўна, выпрастаўшыся, як рыцар, мужны і гарды?“

Сарафініна рука варушыць руб дзьвярэй і палец украдкаю пралазіць у вузкую шчылінку. Патуга—і касьнік залацістага сьвятла сьлепіць яе правае прыжмуранае вока. Яшчэ націск—і Рыгорава постаць выразнымі рысамі прыцягвае гаспадынін прагны ўзрок. Задзёр пхае кабеціны ногі за парог і скрадныя крокі адмяраюць адгон ад дзьвярэй да прыстаўленага да ўзгалоўя крэсла... Праз хвілю нячутнымі рухамі яна адступае назад, апусьціўшы з вока сіні канвэрт пісьма і прыліпшы ўзрокам да ружовага, квітучага твару Рыгора. „Чуе? Які слаўны!“ Сарафіна Хлёраўна стуляе нафарбаваныя губы, прытульвае да іх наодэколёненую руку і цмокае. Сьледам крута зрываецца з месца і, забыўшы асьцярогу, выбягае з Рыгоравага пакою. Дзьверы стукаюць аб вушак і будзяць Рыгора.

— Хто там?—запытаў ён, расплюшчыўшы вочы.

Адказу не пачулася—Сарафіна Хлёраўна спускалася са сходаў у двор.

Рыгор засьмяяўся, працягнуў руку да кніжкі на крэсьле. Рука абмацала пісьмо.

„Ага, гэта Сарафіна Хлёраўна“... „Мацi?“ Яшчэ зьбіраецца і, значыць, напэўна, паведамляе сына... Пакутніца.

Машынальна перад Рыгоравымі вачыма паўстаў маленькі кавалачак запісанай паперы. Сёмкаў характар? Ён! Маці трывожыцца—вясна нясе страшныя весткі. Сілцы паступова пусьцеюць і яшчэ больш наганяюць сполаху. Сёмка суцяшае Стэпу. Які верны таварыш, што за чулая душа!.. Забілі старшыню Андрэя? Цікава! Уночы, па дарозе да ураднiка—двума рэвольвэрнымі стрэламі. Забойцы схованы сьляды! Хто-б то мог гэта зрабіць? Думаюць, што гэта простыя зладзеі з дэзэртыраў, якіх за апошні час поўна ваколіца. З перапуду грамніцамі пакінулі Сілцы Хлёр Бераг з сям‘ёю і Дзямян Квіта—накіравалі на Смаленшчыну. Сьпешна рыхтуюцца ў дарогу і Прыдатныя. Васіль Бераг дзеньна-дзень чакае мобілізацыі. Але цікавей усяго да Сідара Пералаза дайшлі дрэнныя чуткі пра Гэлю... „Ці ня чуў пра яе, сынок?“ Сідорыха нясуцешна плача, а Сідар мерыцца ехаць у Пецярбург. „Пішы часьцей, Рыгорка“. „Твая маці—Стэпа“.

Рыгор адлажыў пісьмо і хвілін з дзесяць праляжаў ціхутка і непарушна, раздумоўваючы. Пасьля раптам падняўся і кінуўся да стала, дзе на відным месцы, разгорнутай, ляжала Гэліна запіска. Няроўныя радкі Гэлінага характару выказвалі роспачныя думкі дзяўчыны. „Можа я раблю вялікае злачынства перад людзьмі, што жывасілам гублю сваё жыцьцё. Я адзнаю, што мой намер ідзе востра насупроць вымаганьня жыцьця. Як-ні-як, а я складаю, хоць і незаўважную, а ўсё-ж неад‘емную часьціну людзкога колектыву. Ну, іначай зрабіць не магу. Дзеля грамады я бескарысна і непатрэбна, дзеля сябе—вораг. Я—балячка на здаровым целе і мушу стаць адплатаю за сваю няздольнасьць захаваць сябе здаровай і годнай на карысную справу. Цяжка і позна разьбірацца мне ў тым, хто не адгукнуўся на мае надзеі і праз гэта пасобіў росквіту нявер‘я ў дадатнасьць майго існаваньня. Позна і дарэмна. Мне болей не вярнуцца да таго пункту, ад якога я строма пакацілася ўніз. Мне страшна і нявытрымна стала тады, калі я стрэлася з табою. Мая баязьлівасьць прымушала схлусіць табе пра камітэт і пра спэктакль; тая-ж баязьлівасьць не дазволіла мне адмовіцца ад тваіх турбот пашукаць мне службу. Ды ня толькі гэта—не. Я ўжо тады адчувала сваю няздатнасьць да творчае працы, сваю лішніцу ў жыцьці, якое ашукала мяне. Але, прызнаюся табе, Рыгор, што і тады, і зараз, вось, успамінаю пра Пятруся. Я, ня думай таго, і няхай ён ня думае, спатыкала яго з невядомай мне дзяўчынай, зазірнула ад шчырага сэрца ў яго сарамлівыя вочы—ды не знайшла спагады. Бач, мне непатрэбна было жаднага спачуваньня, я незалежны ад нікога чалавек, ну, і ў яго людзкасьці не хапіла ні на макава зерня. Я адышлася і сплюнула, але сэрца маё балюча ёкнула. Мне стала цяжэй і безнадзейней. Тады да мяне надышло бліскучае вырашэньне—кінуць жыцьцю дакорнае ўпіканьне—ахвяраю сябе. Я не хацела сумнявацца ў праваце гэтага і баялася, моцна баялася, каб мяне не

падсьцерагло сумненьне... Скора буду ў дарозе. Цьвёрдымі крокамі я накіроўваюся да астатняй станцыі... Даруй за ўсё, але ня думай, што дарма на гэта іду. Другія шляхі мне загароджаны. Уклон Пятрусю і... можа, бацьком.—Гэля“.

Глыбіня Гэлінай трагэдыі—нязьмерна. Рыгор яшчэ ясьней уявіў гэта менавіта цяпер. Яна не давала яму супакоіцца, не дазваляла апраўдацца, Ён дагадваўся, што чаўпецца ў Гэлінай сям‘і; яе-ж так моцна любілі і шанавалі, так ганарыліся ёю і раптам...

Рыгор увесь задрыжэў ад злосьці, адлажыў Гэлін ліст і неабдумна, нэрвова хапіўся за адзеньне. У яго руках хутка закруціліся сарочка, камізэлька, жукетка, паліто. І сьледам стук дзьвярэй правёў яго на сходы. Без намеру і абдуму ён вышаў на вуліцу і шпаркім крокам пашоў кірункам да клінікі Вільле. Сустрэў-бы хто Рыгора ў гэты момант і запрапанаваў-бы яму што-колечы блазнае, нязбыўнае—ён кінуўся-б на яго з засосам, самааддана. Але на адгоне каля двух кілёмэтраў яго ня толькі ніхто не пераняў, а нават ня зьбіў яму дарогі і ня даў жаднага намёку на перашкоду яго роўнай, адшнураванай хадзе.

На скрыжаваньні трамвайных шляхоў яксьці саматугам, мімавольна кінулася яму ў галаву выпадковая думка паехаць у Народны дом—ні на драму, ні на опэру, нават ні на крыклівае, пустазвоннае кабарэ, а ў тысячную гушчу гуляючай публікі, у яе тлум, гам, бязмэтнае таптаньне.

Сеўшы ў вагон трамваю—ён ужо быў непарыўна зьвязаны сваім плянам, які вырас у нешта завабнае ды заспакойваючае. А чым бліжэй да Народнага дому, тым гэты плян рабіўся шырэйшым і багацейшым па сваім зьмесьце. Народны дом глядзеў на яго смачнымі піражкамі з кавай, бясклапотным сьмехам тысяч дзяўчат і хлапцоў, буйнымі шансамі рознастайных выпадкаў, здарэньняў ды нечаканасьцяй...

Празрыстыя рэклямы пры ўваходзе ў дом шпарка выпхнулі Рыгора з трамваю і магнэсам пацягнулі яго да дзьвярэй, якія нясьціханна, як круцёлка, кружыліся перад ім. Рыгор не апамятаўся, як халодная медная ручка, таўшчынёю з цапільна, апякла яго руку халадэчай. Хтось, што ішоў заднім, пасобіў шпарчэй адцягнуць на сябе цяжкую фортку дубовых дзьвярэй, пасьля шчыра ціскануў яго і перадтурнікетны натоўп увабраў Рыгора ў сябе.

— Праходзьце хутчэй!—прагукаў ён наперад. Яго словы засталіся без адказу. Ды фактычна іх ніхто і не пачуў з-за раптам узьнятага крыку.

— У чым справа?—запытаў хтосьці поплеч Рыгора.

— Інваліда павалілі, сто-ойце-э!—пачулася ў адказ, і новы націск адпіхнуў людзей. Але тыя, што іх прыціснулі да дзьвярэй, дружным напорам павярнулі людзкую хвалю наперад. Пачуўся гучны стук, і Рыгор на паветры пранёсься праз турнікі ў залю.

— Вось дык здорава!—пасьмяяўся з яго хтосьці ззаду.

— Так!—абярнуўся ён на хаду да сказаўшага гэта і раптам спыніўся.

— Дык гэта-ж вы, Ліба? У гэткай таўханіне, матачкі!—зьдзівіўся Рыгор.

— Даруйце мне, што я дагэтуль не сабралася да вас. Ужо гэтымі днямі—абавязкова...—успомніла Ліба пра ранейшае.

— Пройдзем да буфэта, Ліба. Я, прызнацца, яшчэ сёньня нашча.

— Нашча? Гэта з якое прычыны?

— Або іх пералічыш?

Яны павярнулі да буфэту, паціху і асьцярожна рассоўваючы публіку, каб даць магчымасьць прайсьці раненым.

Трое іх, адзін на мыліцах з дзьвюма баўтушкамі-нагамі, другі без аднае нагі, трэці—з завязанаю галавою, моўчкі ішлі між ім ды Лібаю. Раненыя пільна паглядалі на Рыгора.

Усеўшыся пры малюпаткім мармуровым століку, Рыгор заказаў піражкоў і па шклянцы кавы. Яго гасьціннасьць кранула раненых, якія ў перабой пачалі апісваць Рыгору перажытыя імі жахі вайны.

— Хутчэй-бы як-колечы на родную Кубань. Прыехала-б у госьці, сястрыца, ды мо‘ з гэтым добрым чалавекам,—з поўным палу жаданьнем, але бяз веры, праказаў той, хто быў на мыліцах, з вялікімі труднасьцямі прысеўшы на крэсьле.

— А я ўжо сястры прышлю мэлітопальскую мядзяніцу... Пахучую, во!.. Ха-ха-ха!..

Ліба цёпла ўхмылялася абодвум марнікам і спачуваюча ўздыхнула.

— Так, мы ўсе тут—нудзім па радзіме ды па блізкіх, але...

Ліба не даказала.

Толькі ў адных больш шансаў на зварот, а ў другіх іх меней...

— Некаторым ня суджана вярнуцца зусім. І не таму, што ім перашкодзіла вайна, а таму, што... Вы помніце, Ліба, тую дзяўчыну, якой кідалі кветкі на сцэну ў Смагінскай пажарнай?

— Як-бо яе зваць? О, яна выразна адбілася ў маёй памяці...

— Яе ўжо няма.

— Што вы кажаце? Го-ох!—хапілася Ліба за белую касынку на галаве:—як усё зданна і мімалётна!..

— Ха-ха-ха-а! Х-хі-ы-ха-а... Хо-х-ох-о!—запойна, шчыра заліліся раскацістым, не па сіле здаровым сьмехам раненыя.

Рыгор мігам падняўся з месца і адышоў ад стала.

Я вас чакаю, Ліба, і прашу!—стараючыся перакрычаць гукі сьмеху выкрыкнуў ён праз галавы раненых, і ў момант зьнік у натоўпе гуляючых.

## III

Маленькі рэзвы чалавек зачыніў няпрычыненыя дзьверы і нездаволена вылаяўся.

— Не навучыць іх да парадку. І што гэта за людзі! Каб чужое, а то свайго ня хочуць шанаваць. Прыказваеш, гаворыш, а яны па-свойму.

Ён адкруціў сьвятло, гаспадарскім позіркам правёў направа і налева па калідоры і прайшоў у канцылярыю.

За шырокім сталом, пастаўленым у рагу нелапога пакою, сядзела некалькі чалавек. Яны ўжо пасьпелі добра пракурыць канцылярыю, уклаўшы ў попельніцу каля дзесяці акуркаў. Курава ішло далей, агортваючы дымам дэьве трыццацісьвечныя лямпачкі пад стольлю.

— Ты што-ж гэта позьнішся, Броніс?—жартаўліва праказаў адзін з тых, што сядзелі пры стале:—мы ўжо добрую гадзіну чакаем.

— Прабачайце мяне, але-ж я не па сваёй віне: забягаў ў Тацянінскі камітэт, дык халеры гэтага, загадчыка справамі, не злавіў. Выклікалі на сёмую гадзіну, а прышоў—пуста. Якая тлумная ўстанова, ня дай ты божа. Абрыдла ўжо мець з ёю жадныя справы...

Ён круцёлкаю завіўся па канцылярыі, зашморгаў ключамі ў шуфлядах пісьмовага стала, што стаяў наўскасяк пустога, залез у шафу і навыцягваў гару сініх ды зялёных спраў.

— Усё ўрыўкамі даводзіцца вясьці работу. Дзевяць гадзін сохнеш на службе, не пасьпееш павячэраць, як барждждэй ляціш сюды. Неяк хочацца, каб што колечы зрабіць, каб памагчы сваім людзям. Бяда! Жабрачыя сродкі, а няшчасных—о-ё-ёй!

Малы чалавек у морг вока залажыў пусты стол паперамі, бухгальтарскімі кніжкамі, нейкімі пакункамі і скрынкамі з мастыкай ды пячаткамі і порстка вылецеў з канцылярыі. Усьлед яму панёсься вясёлы рогат.

— Золата—не чалавек,—праказаў адзін, паказваючы пальцам на дзьверы:—Каб ня Броніс, хоць бяры ды зачыняй камітэт. Працуе на сумленьне. Увесь час вось так і круціцца і бегае.

— Яму-б, на добры лад, трэба было-б вызначыць якіх рублёў дваццатак за турбацыю,—сур'ёзна выказаўся другі.

Першы раптам падняўся з месца і зьдзівавана пачаў даводзіць, што Броніс і слухаць не захоча пра ўзнагароду за сваю працу.

— Ну, так-жа няможна, мы мусім яго ўгаварыць на гэта. Я сам унясу прапанову.

Маленькі чалавек, вярнуўшыся ў канцылярыю, перабіў гутарку прысутных.

— Скардзяцца ўтрыманцы на недахоп ежы,—загутарыў ён:—Ну што-ж я зраблю! Колькі хапае магчымасьці. Я-ж не шкадую. Сапраўды-ж, яны маюць рацыю скардзіцца, толькі-ж мы бяз сілы пасобіць... Можа пачнем засядаць?—запытаўся ён і тут-жа адказаў:—нешта многіх няма. Цікава было-б пачакаць Рыгора Нязвычнага. Няхай-бы ён прыняў удзел у сёнешнім пасяджэньні. Але ўжо позна, а павестка...

— Усёй, бязумоўна, нам ня вырашыць у адзін засест.

— Важней усяго гародную справу вырашыць, а далей... Дык давайце, мужчыны, пачынаць.

Маленькі чалавек сеў насупроць чатырох іншых і пачаў разгортваць плян організацыі народнае гаспадаркі камітэту. Згодна яго пляну, бела-

рускі бежанскі камітэт павінен узяць дваццаць дзесяцін зямлі на іпадроме і абярнуць яе ў гароды. Апошнія мусяць апрацоўвацца сіламі камітэцкіх утрыманцаў.

Плян у сваёй аснове выклікаў спачуваньне, але зусім нязначныя дробязі яго ажыцьцяўленьня пацягнулі за сабою буру спрэчак. Відаць было, што апошнія нэрвавалі ініцыятара пляну і той, не сьцярпеўшы, падняўся з месца і злосна прагукаў:

— На гэткай дробязі і то ня можам пагадзіцца. Ды дзіва, што нас, беларусаў, усе і ўсюды крыўдзяць. Калі ласка, вырашайце самі, а я...

Яго перабіў уваход у канцылярыю незнаёмага вяскоўца, на выгляд бежанца, у кажуху, лапцях ды з кіем у руцэ. Зьняўшы шапку ў дзьвярах, ён не пасьмеў першым выказацца, чуючы галасную гутарку маленькага чалавека. Калі засядаўшыя, як згаворана, усе разам паглядзелі на ўвайшоўшага, той запытаў іх:

— Скажэце, будзьце ласкавы, ці сярод вас няма часам Рыгора Нязвычнага?

— Не,—адказаў малы чалавек.—А гэта-ж чаму вы яго тут шукаеце?

Вясковец памяўся нейкі час, пасьля разгорнена сказаў.

— Ды дзе-ж, мае мілыя, мне яго шукаць? Пецярбург для мяне горад чужы і невядомы. Куды мне ткнуцца ў гэткім разе? Дзякуй яму, якісьці добры чалавек падказаў на вашу ўстанову.

— А вы-ж зачым, дзядзька, прыехалі ў Пецярбург? Бежанец, ці проста па справах?

— Па справах... Ох, ды справы, бач, гарэйшыя на‘т ад бежанскіх...

У вяскоўца заблішчэлі ўваччу сьлёзы. Гутарыўшыя з ім бачылі, як ён паднёс да іх лапленую рукавіцу і пачаў выціраць.

— У чым-жа справа, дзядзька?—ласкавейшым голасам запытаў Бронісь і падышоў да вяскоўца.

— Не расказаць, добры чалавек... Цяжка мне, бацьку, ой, як цяжка і горна... Знача Рыгора тут няма?

— Зайдзеце, пачакайце крыху ў суседнім пакоі—мы якраз яго чакаем на паседжаньне. Магчыма, што і прыдзе, а не—дык я вам знайду яго адрас... Няшчасьце, пэўна маеце?

Маленькі чалавек папрасіў засядаўшых хвілінку пачакаць, а сам павёў вяскоўца ў суседнюю каморку.

— І начаваць я ня ведацьму дзе, калі запозьніцца ён... Хоць-бы...

— Нічога, дзядзька, усё ўладзім... Вось бярэце-э крэсла і пасядзеце, а мы зараз...

Якраз пачуўся званок і маленькі чалавек кінуўся да дзьвярэй.

— Ага-а! Вось дык трапна-а!—прагукаў ён Рыгору, які пераступаў парог.—А мы вас дагэтуль чакалі... Мне так хацелася, каб вы прынялі ўдзел у нашым камітэце, што я... Вы атрымалі, бок, маё паведамленьне? Я, паверыце, ехаць меўся па вас, толькі, на яго бяду, тацянінскі камі-

тэт паперашкодзіў... Ой-жа добра, што прыехалі. Нас, беларусаў, так мала і мы... Праходзьце—распранецеся ў канцылярыі. Прашу...

Маленькі чалавек з падкрэсьленаю гасьціннасьцю, якая падкупала Рыгора, адчыніў дзьверы і прапусьціў яго першым. Але Рыгор не пасьпеў пераступіць у канцылярыю, як маленькі чалавек яго перапыніў воклічам:

— Ага, бок, убачайце-э... Вось тут чакае адзін селянін, во...

Рыгор забыў прывітацца з тымі, што засядалі за сталом і крута павярнуў з канцылярыі.

У гэты момант ужо бег да яго з суседняе каморкі ўспомнены Бронісем чалавек.

— Рыгорка-а! Здароў, браце-э! Не пазнаеш? Сідар Пералаз, Гэлін бацька?!

Рыгор ажно падаўся на крок назад—нечаканасьць стрэчы яго зьбянтэжыла. Ён зьдзіўлена азірнуўся на маленькага чалавека, сьледам узяў селяніна за руку і нейкі час ня ведаў, як быць.

— Прабачайце мне, я ўжо не магу прыняць удзелу ў вашым пасяджэньні,—перапрасіў Рыгор Броніся:—я буду прасіць дазволу з гэтым дзядзькам...

Маленькі чалавек ня даў Рыгору дасказаць і з тэю-ж сваёю гасьціннасьцю прачыніў дзьверы ў пакой, куды толькі-што зьмясьціў селяніна.

— Вы ўжо абмяркоўвайце свае справы гэтта, а я пабягу канчаць сваё пасяджэньне,—праказаў ён, ідучы.—А шкада, што...

Маленькі чалавек схаваўся за дзьвярыма канцылярыі.

Рыгор-жа з Сідарам апынуліся адзін-на-адзін у суседнім пакоі.

Абое паселі пры круглым століку і перад тым, як пачаць гутарку, пільна паглядзелі адзін на другога.

Сідара давіў востры бацькаўскі жаль, шурпатая безнадзейнасьць, і ён сумна, але з нейкай няўпэўненасьцю глядзеў у Рыгораў сьвежы намарожаны да чырвані твар.

Рыгор адчуваў яго настрой і ўжо меў сабе поўнае ўяўленьне пра тыя сцэны бацькаўскае мукі па згінуўшай дачцэ, якія перапаўнялі ня вельмі мяккае сэрца Сідара.

„Трэба суцешыць старога, ды ці выйдзе-э што з гэтага?“

— Справы, Рыгорка,—з націскам горнасьці пачаў Сідар.—Прыехаў на вясельле да дачкі... Людзі маюць пацеху, а мы... Ласьне можна было... Рыгорка, маё сэрца чула, дык... Паверыш, ня меў сілы ўтрымаць. А, бач, ці-ж дрэнна было ёй дома... У гэткіх бацькоў, як мы... Але надало, надало... Нейкая ліхая сіла пхнула ды пхнула... Я адно, а яна другое... Упарта-а-я-а! І на табе-э... Клубко-ом, калясом па сьвеце-э... Дачушка-а, мілая... Гады ў рады пісямко, а бацькаўскае сэрца—каве-эліцца на часткі... Смагін, Ваўкавыск, Вільня... І той жаданы, той забабны... Пецярбург... Эх-эх-эх!.. Гэля-а... Гэлечка-а!.. Бацька твой у госьці-ы прыехаў... Чаму-ж ня прышла ты на вакзал... Такі-та-ж я кінуў і матку, і хату... Можа

ўжо за мною едзе-э маці з Кандратам, як бежанка... А ты... Рыгорка-а, ну, дзе-ж, ну, дзе-ж мне яе паба-чыць? Ну, можа-ж магіла ёсьць? Ці ўжо на‘т і гэтага... Гэля, Гэля-а, Гэле-ач-ка-а!!

Рыгор падняўся з месца і прайшоўся па каморцы.

Што ён мог сказаць? Чым ён мог спыніць Сідараву роспач?

— Так, дзядзька... Я і сам дагэтуль не магу супакоіцца—гэтак мяне ўразіла вестка пра Гэлін учынак... Успомню і, ведаеце... але што-ж парадзіш цяпер, што?..

Сідар моўчкі разводзіў рукамі і безнадзейна глядзеў на Рыгора.

— Парадзь, хоць-бы як мне на магілу наведаць.

Рыгор маўчаў, абдумваючы тыя рады, якія-б можна было даць асірацеўшаму бацьку, але якія мала што памаглі-б яго гору.

Павесьці яго на Гэліну быўшую кватэру, на вочы тае праціўнае ведзьмы? Атруціць бацькавы ўспаміны паветрам заклятае ямы? Кінуцца на пошукі Гэлінай магілы? Вучасткі, больніцы, анатомічкі. Ці выйдзе што з гэтага?

— Дзядзька Сідар, паверыце, гэта ўжо ня ў нашай сіле што-колечы зрабіць...

— Хоць-бы магілу, хоць-бы месца тое ўгледзець...

Зацяжныя ўсхліпы старога Сідара перарвалі паседжаньне бежанскага камітэту; яны пякучаю жальбою насіліся па пакоі, б‘ючыся ў гладкія, нячулыя сьцены, хвалюючы спагаду ў грудзях тых шасьці чалавек, што стаялі перад ім.

— Гэля, дачушка-а, прыдзі-ж пабачыцца-а з бацькам...

— Вы яго суцешце і няхай ён адпачне праз ноч... Чым-жа болей яму памагчы!—разьвёўшы рукамі, спачуваюча выказаў Броніс.

Іншыя чацьвёра, хто кіўнуўшы галавою, хто махнуўшы рукою, у адзін голас парашылі:

— Плач ня плач, дзядзька, а дачкі ня вернеш.

Рыгор клапатліва пасобіў Сідару ўлегчыся ў ложак і, калі той супакоіўся, пакінуў яго аднаго...

## IV.

— Ха ха-ха! Можа затрымалі? Глядзі на гадзіньнік, Анікей!

Якаў Гіс страсянуў галавою, і пук яго чорных, хвальністых кос скатам апусьціўся назад. Ён прыціснуў іх рукамі і прывычна капыльнуў доўгім роўным носам. Ангельскія вусікі яго апісалі нешта накшталт знаку параграфу.

— Ці дачакаемся, глядзі?

— Цікава тое, што ён не працаваў пасьля абеду,—паведаміў Анікей.

— Заняты нечым.

Якаў Гіс паглядзеўся ў люстэрка, яшчэ раз паправіў косы на галаве і хапіў са стала газэту.

— Шукаеш у газэце?—пажартаваў Анікей.

— Чаго добрага, магчыма і натраплю,—адказаў упэўнена Якаў Гіс.

— Клапатлівы—ня ўмеру. Напэўна, недзе некаму пасабляе, або...

— Другі доктар Гааз...

Абодва ў голас расьсьмяяліся.

-- Ну, пры чым-жа мы?

Якаў Гіс сарваўся з месца і прашнураваў па пакоі.

— Магчыма... выказаў ён і настаражыўся.

— Ідзе?

Анікей прачыніў дзьверы.

Да іх данеслася гутарка паміж Рыгорам і гаспадыняй.

— Нарэшце!

Рыгор нявыразным узрокам спыніўся на Якаве Гісе.

— Дзівішся, што без запросін ачуўся ў тваёй абіцелі?—пераняў той.

— Упяршыню, а гэта значыць...

— Так, Рыгор, гэта значыць тое, што я маю да цябе інтэрас. Інтэрас, да таго-ж, пільны, а тымчасам ужо каля гадзіны мы цябе чакаем. Нязваныя госьці і нядбайны гаспадар...

Рыгор пасьпешна распрануўся і падышоў да сьценкі, у якой выдзяляўся рог печы.

— Так,—пасьля хвіліннае маўчанкі вымавіў ён.—Інтарэсы. Ужо гэткі інтарэс, які я меў толькі-што, не пажаданы ні для кога...

Ён апусьціў галаву.

— У чым справа?—зьдзіўлена паглядзелі на яго таварышы.

— Справа?

Рыгор падышоў да стала, узяў Гэліна пісьмо і прачытаў з яго апошніх некалькі сказаў.

— Зямлячка... Дзяўчына, з якою ў мяне зьвязана многа агульных перажываньняў. Загінула, як аднадзенны матылёк. А зараз вось зьявіўся бацька; плача, надрываецца; пакажы яму магілу. Бедны—ён ня ведае, што самагубца папала ў унівэрсытэцкую анатомку і там... на грудах людзкіх цел у лядоўні чакае доктарскага скальпэля... Ці-ж раскажаш старому? Вадзіў з паўдня па вучастках, дапытваў і вось... змардаваным ён пашоў у бежанскі камітэт, а я дамоў. „Што я скажу яе мацеры?“—пытае.

— Так, што стары скажа сваёй жонцы пра загубленую дачку?

Усе ўтраіх мэрам-бы згаворана спыніліся ў гутарцы, прыпёртыя шчыльна да заданага Рыгорам пытаньня: што стары скажа сваёй жонцы пра загубленую дачку?

— Аднак, таварышы,—перабіў Якаў Гіс—„Мёртвы ціха ў труне сьпі, жыцьцём карыстайся жывы“... Мы ня сышліся на памінкі, хоць і блізкага Рыгору чалавека.

— Сапраўды,—падмацаваў Анікей.—Перад намі Першае Травеня і зьвязаныя з імі заданьні.

— Вы прынесьлі іх разьвязаньне?

— Мы прышлі, каб абгаварыць гэта.

— Я вельмі здаволены.

Яны чынна ўселіся каля стала, як судзьдзі, ці сваякі, і прыняліся абмяркоўваць сьвяткаваньне Першае Травеня. Рыгор хутка забыў пра мінорны настрой, справодзіўшы яго праз увесь дзень, і горача аддаўся абароне дэмонстрацыйнага выступленьня ў дзень рабочага сьвята. Ён ня браў пад увагу некаторых ахалоджваючых разважаньняў Якава Гіса і не згаджаўся з Анікеевай орыентацыяй на іншыя прадпрыемствы.

— Дык што-ж, нарэшце, па-вашаму павінна быць?—нецярпліва пытаў ён.

— Я думаю, што ваш завод знойдзе выйсьце для гэтага...—нявыразную формулаю адказаў Якаў Гіс.

— Ты заўсёды калываешся між двух крэсел, Якаў. Я прыпамінаю Рыгу, і мне яскрава відаць твая нерашучасьць...

— Усё-ж мы мусім улічаць розныя вынікі, якія магчымуць атрымацца ад таго ці іншага накіраваньня нашай тактыкі,—казаў Анікей.

— Цябе палохае студзеньская ізоляванасьць.

— Да чаго гэтыя папрокі? Я ніколі не аставаўся ззаду і зараз... ня гледзячы на тое, што мой стан куды горшы ад стану некаторых іншых...

— Ды пашто непатрэбныя развагі?

Якаў Гіс пачуў сябе на нейкі час выпхнутым з каляіны, па якой пашла спрэчка паміж Рыгорам і Анікеем. Яму вядомы былі настроі абодвух і марнасьць іх пераканаць станавілася вачавіднай.

— Я думаю, што кожны з нас за плёньнейшыя вынікі сьвяткаваньня,—унёс ён Саламонава вырашэньне для будучых і абмеркаваных пытаньняў.

Ні Анікей, ні Якаў не далі на гэта ніякага адказу.

Аднак, у далейшых абмеркаваньнях усе трое сышліся на тым, каб увязаць форму выступленьня з выяўленым на заводах перадсьвяточным настроем рабочых. Гэткае вырашэньне, разам з тым, астудзіла выбухнуўшую навостранасьць у іх гутарках. Яны не заўважылі, як сьледам Якаў Гіс у выглядзе дыялёгу да заключных размоў, завёў мэлёдыю Варшавянкі, а Рыгор дбайліва зьбегаў да гаспадыні і папрасіў у яе награць гарбаты.

Паступова Рыгораў пакой напоўніўся ціхім харавым пяяньнем рэволюцыйных сьпеваў. Стаўшы ў кола, усе трое з рашучымі махамі рук, з рытмічным патоптваньнем ног, поўныя натхненьня, выказвалі сваю ваяцкую рашучасьць у моцных словах заклікаючай песьні. Уласьцівая ёй сіла ўздыму і захапленьня няўпрыкмет падвышала настрой сьпевакоў, раздавала іх грудзі і гучніла галасы. Ужо калыханьне паветра пачало біцца ў шыбы вакна і прасочвацца ў шчыліну непрачыненых дзьвярэй, калі моцны голас Сарафіны Хлёраўны ўварваўся ў пакой і абарваў пяяньне.

— Што вы, Рыгор Міхасевіч, што вы? Пад вокнамі тупаюць гарадавікі, а вы маніфэстацыю разьвялі. Я не магу вам гэтага дазволіць, я ня мушу праз вас рызыкаваць сваім спакоем, Рыгор Міхасевіч...

Расчырванеўшы ні-то ад злосьці, ні-то з перапуду, гаспадыня хутка паставіла на стале імбрычак і моўчкі выбегла з пакою.

Якаў Гіс правёў яе квапнай капіроўкай нэрвовае хады і зачыніў дзьверы.

Але не пасьпелі яны падыйсьці да стала, як гаспадынін голас зноў адцягнуў на сябе іхную ўвагу.

Рыгор выбег з пакою і ўголас прагукаў:

— Пя-атрусь, браток, хіба-ж ты?!. Заходзьце... Рыма... Знаёмцеся...

Пяцёра чалавек рабілі Рыгораў пакой цесным і поўным. Забітых у сьцену цьвікоў не хапала для адзежы, стол сваім памерам не даваў месца для пяці крэсел, каб і былі яны ў пакоі. Але задаволенасьць гасьцей, выразна адзначаная на Рыгоравым разьвяселеным твары, раздавала сьцены пакою, робячы яго сьветлым і прасторным.

— Дзе цесна, там пацешна,—увіхаючыся з трыма крэсламі, са сталом і адзежаю, некалькі раз пераказаў Рыгор. — А хоць-бы жанчыне даць дарогу.

— Ня турбуйцеся за мяне.

— Як-жа, вы сярод нас адна.

— Ды тая лішняя... Я думала...

— Позна думаць,—пераняў яе Пятрусь.

— Давайце лепш гутарыць, чымся думаць,—пажартаваў Якаў Гіс.

Ён пільна ўглядаўся на Рыму. Высокі ростам, з чорнымі вострымі вачмі з-пад рэшата чарнільных кос, ён улічваў уражаньне, наданае сабою дзяўчыне, і лавіў яе ўкрадчывыя ўзрокі. Заспакоенасьць Анікея паднімала яго шансы, казытаўшыя мужчынскі эгоізм.

— Хто не за гэта? Ха-ха-ха!—рэзва адказала Рыма і першай уселася пры стале. Хлопцы яе пакінулі, п'ючы гарбату, і сабралі сваю ўвагу вакол Пятруся, які ў гэты момант пісаў Рыгору свой адрас.

— Я маю добрае месца, няма чаго сказаць,—аддаючы таварышу візытку, казаў Пятрусь. — Служба спакойная і заработак нядрэнны. Пры гэтым і ўвагу заслужыў ад начальства. У кожны момант знайду магчымасьць памагчы... любому з вас...

— А з усімі фармальнасьцямі знадворнага характару ты ўжо пасьпеў уладзіць?

— Ха-ха-ха! Мая прысутнасьць у цябе — сьведчаньне таго. Пятрусь Кандратаў Папяровіч, дазвольце-э...

Пятрусь не дасказаў, палічыўшы сваю разьвязнасьць залішняй.

Рыгор паглядзеў пазьменна на Анікея ды на Якава Гіса і зьвярнуўся да ўсіх:

— Ну, Рыма выгадала лепей нас усіх. Хоць па чарзе выпеце грабаты...

— Выгадала, бо пакуль вы сабраліся піць, я выкарыстала гарачую гарбату...

Яна не дасказала, накіраваўшы сваю ўвагу на разгорнуты лісток па перы, які хутка прынялася чытаць.

Рыгор скеміў, што Рыма трапіла на Гэлін ліст і прагна сачыў за выразам яе твару. Перакідаючыся сказамі з таварышамі, ён з хвіліны-на-хвіліну чакаў яе запытаньня. Невядомасьць апошняга прымушала Рыгора знаходзіць шэраг лаконічных адказаў.

— Вы наводзіце сум сваім зацяглым чытаньнем, таварыш, — кончыўшы з гарбатаю, закінуў Рыме Якаў Гіс.

Тая не адказала.

— Ваша таварышка ня ў гуморы,—паслаў ён рэпліку да Пятруся.

— Рыма, то пра цябе гутарка, — палажыўшы на яе плечы руку, на вуха сказаў Пятрусь.

— А пра цябе, во, пісаньне, маеш?

Рыма раптам паднялася з крэсла і, не адвяртаючыся ад Пятруся, падала яму чытаную паперку.

— Маеш уклон...

Рыгор настаранажа глядзеў на Рыму, чакаючы моманту падыйсьці да яе і разагнаць абдаўшы яе настрой.

Анікей утароплена глядзеў праз вакно на мігаўшы водаль ліхтар.

Якаў Гіс разглядаў залаты надпіс фірмы на цыгарцы, раз-па-разу падносячы яе да губ.

— У чым справа?

— Справа ў Гэлі, нябось, памятаеш?

Дзяўчына нэрвова стала перабіраць складзеную на ложку адзежу.

— Рыма, я прашу вас...

Рыгор пераняў яе ад ложка і, паказваючы на крэсла, папрасіў:

— Яшчэ ня позна, куды вам сьпяшацца. Гэта-ж недалёка...

— Што сталася з Гэляю?—перабіў Пятрусь.—Яна скончыла самагубствам? Рыгор!

Анікей моўчкі адзеўся і павярнуўся да дзьвярэй. Якаў Гіс зьнімаў са сьцяны паліто.

У гэты момант гучнае прывітаньне ў дзьвярах адцягнула на сябе агульную ўвагу.

У пакоі стаяў Сідар Пералаз.

## V

— Ты да мяне?

Рыгор спыніўся ў варотцах брамы і пільна паглядзеў на Пятруся.

— А я думаў!..—праказаў той і павярнуўся да вуліцы.

Рыгор вышаў з двара сьледам за таварышам.

— Хіба правяду цябе да заводу?

— Нічога ня маю... Я-б не пашоў у завод, каб не перад сьвятам, а то...

— Не-не, дзе ты бачыў! Ці-ж варта з-за мяне траціць дзень—ніколі. Калі-б на тое пашло, мне ўжо шмат выгадней на лішні дзень застацца... Няварта, ідзем.

— Дык ты надумаў ехаць?—запытаў на хаду Рыгор.

— А трэба... Разумееш, мяне хвалюе Рыма. І надало-ж табе не схаваць Гэлінага ліста...

— Яна дзіўная нейкая. Мне не хацелася табе казаць, а калі да слова прышло... Цяжкая...

— Ды мне што. Яна думае, што на ёй усе дарогі сходзяцца! Падумаеш!

— Зразумела...

— Намякнуў на пераезд у Маскву, дык закапыліла нос...

— Твая прыватная справа, браток. Мне, ведаеш, трудна што-кольвечы... Каб на мяне, то я-б ужо даўно махнуў рукою. А ты—думай...

— Скажу па-праўдзе, Рыгор,—і хочацца, і колецца. Натуру маю паганскую. Вось убілася ў галаву і ніяк ня зьмірыцца з думкаю, што... Люблю, прызнацца...

— Тады на бок сумненьні... Рабі...

— Так, пайду зноў. І пастаўлю пытаньне катэгорычна: альбо, альбо. Пятрусь затрымаўся.

— Бывай, Рыгор... Адрас маеш.

— Маю.

— У любую хвіліну адчынены дзьверы.

— Дзякую.

Яны зрабілі па некалькі крокаў адзін ад аднаго. Пасьля, як па змове, кожны з іх азірнуўся назад, сустрэўшыся яшчэ раз сяброўскімі ўзрокамі, Рыгор адчуў, як почуцьцё суму зашавялілася ў яго нутры. Колькі разоў яму даводзілася сустракацца і разьвітацца з Пятрусём? Ці хутка выпадзе чарговая стрэча? Яму ўхмыльнуліся апошнія словы таварыша: у любую хвіліну адчынены дзьверы. Таксама і ў Рыгора, што да Пятруся. У любую хвіліну...

Ён яшчэ раз азірнуўся назад, прамераўшы вострым узрокам даўжыню Выбарскае шашы, але Пятруся ўжо ня ўгледзеў. Чорныя фігуры людзей і ўдоўж і ўпоперак перарэзвалі каменны насьціл вуліцы, сьпяшаючы на работу. Яго наганялі і пераганялі дзесяткі рабочых. Знаёмыя віталіся, блізкія—закідалі адным-другім словам.

Пры самым уваходзе ў завод прымха зьвяла яго тварам да твару з надаеўшым яму вайсковым наглядальнікам. Акінуўшы Рыгора начальнічым узрокам, ён, аднак, саступіў яму дарогу і прапусьціў праз дзьверцы першым.

Было ясна, што азначала гэта далікатнасьць палкоўніка. Ад яе нясло шпегаўскаю манераю, якая пазьней выказалася ў яго паводзінах. Апынуўшыся ў такарнай заводу, ён пільна сачыў за кожным повертам як Рыгора, гэтак і іншых рабочых. Няпрыметная раней, на гэты раз у руках

палкоўніка была запісная кніжка. Раз-у-раз ён прыпыняўся ў прагалку між варштатаў і нешта пільна занатоўваў. Часьцей, як дагэтуль, між ім і майстрам адбывалася адрывістая гутарка, якая справодзілася на кароткі час зьнікненьнем палкоўніка з абшараў такарнае майстэрні.

Рыгор ня мінуў падказаць на гэта Анікею. Той-жа ў сваю чаргу сказаў суседу. Хутка вялікая колькасьць рабочых праводзіла вайскоўца падазронымі ўзрокамі. К вечару яго надазойлівае тупаньне пачало нэрваваць рабочых. Перш цішэй, а што далей—то сьмялей яны пасылалі яму ўсьлед жарты, сьмешкі і посьвіст. Сам сабою складаўся ў гонар палкоўніка дэманстрацыйны кашачы канцэрт. Гэта астудзіла палкоўнічую зухаватасьць, і ён раптам зьнік з майстэрні на болей доўгі тэрмін.

Аднак, пранозаваты ваяка не прапусьціў зьявіцца ў такарню ў той самы момант, калі рабочыя прыпынялі варштаты. Ён з украдкаю шпега пазіраў у змрок майстэрні з-пад канторкі майстра і выразна бачыў, як рабочыя ў гуртках абмяркоўвалі травеньскае сьвята. Палкоўнік цікавіўся ўвішнасьцю Рыгора, які заўзята ўгаворваў таварышоў на забастоўку. Рашучыя размахі яго рук, звонкасьць яго сьвежага голасу прыцягалі палкоўнікаву ўвагу. Палкоўніка варажыла пікантнасьць сочкі за бясьпечнаю рызыкоўнасьцю рэволюцыянэраў. Ён дрыжэў у асалодзе, паціраючы рукі ад здавальненьня і націскаючы гузік электрычнага званка, які вёў у кантору заводу, занятую пераадзетымі паліцэйскімі. І толькі рабочыя сталі пакідаць майстэрню, як ён сярод першых вышаў з заводу і з ганку канторы праводзіў зажмуранымі вачыма выбегшых з засады паліцэйскіх. Але тысячны натаўп рабочых паглынуў іх у сваёй зьлітнай, зьяднанай адзінымі жаданьнямі, воляй ды настроем рабочае гушчы. Быў-бы няпрытомны той, хто-б не разумеў усяе мізэрнасьці абранага мэтоду змаганьня з рабочымі. Апусьціў галаву і палкоўнік, калі бурлівая паводка іх бесьперашкодна лінула з адчыненае брамы на вуліцу.

Рыгор выходзіў у задніх радох і не прапусьціў наглядаць за разувераным палкоўнікам.

Першае Травеня пераможна лунала над высокімі закуранымі гмахамі заводу. Яго павей гойдаў рабочым настроем.

Увошта выльецца гэты настрой заўтрашнім днём?

— Во, глядзі, Рыгор! — спыніў Рыгора Анікей, паказваючы яму на сьвежа-прылепленую на паркане абвестку губарнатара.

Каля абвесткі грамазьдзілася многа рабочых, якія рознастайнымі рэплікамі адказвалі на застрашваньне іх начальствам. У натоўпе паднімаўся рогат і выгукі.

— Начальства нас не забывае!

— У яго напагатове ўсё!

— І першым дзелам—абвесткі!

— Машына верціцца!

— Кантора піша!

— Вайна на два фронты!

— Ды наш-та фронт небясьпечней Заходняга!

— Гэта разумеюць каму сьлед...

Рыгора хутка адціснулі ўбок і ён згубіў Анікея, не пасьпеўшы згаварыцца пра заўтрашняе спатканьне.

Адышоўшы на другі бок вуліцы, ён перш намерыўся яго пачакаць, адале перадумаў і пашоў на кватэру.

Пры павароце з Выбарскае шашы паўз яго галопам пранёсься атрад казакоў.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Загудзеўшыя сырэны паднялі Рыгора з ложка. Ён мігам ачуўся каля вакна і зьмерыў узрокам разьлёгшую перад ім карціну. Па стрэхах будынкаў, па зелянеючых дрэвах, у паветры і на небе разьлівалася раніш-няе праменьне сонца. Расшпіленая сарочка агаляла Рыгоравы грудзі, але вочы міргалі ад яркага бляску. Ён прачыніў вакно і прасунуўся ў яго па пояс, каб паглядзець у бок фабрычнага раёну. Якаясьці прыбудоўка, толькі зараз заўважаная ім, не дазваляла выбіцца яго ўзроку за межы двара. Але відаць было па каламутнасьці неба, што фабрычныя коміны па-звычайнаму сапуць густымі камякамі дыму. І частая тупатня крокаў па дашчаных тротуарах таксама сьведчыла за тое, што людзі сьпяшаць на працу...

А вось пралапатаў цягнік фінляндзкае чыгункі...

Няхай!

Рыгор зачыніў акно і вярнуўся на ложак.

Выбражаючы перад сабою моцную варожую сілу, ён, наперакор яе націску, дэмонстрацыйна заплюшчыў вочы.

Першае Травеня—рабочае сьвята!

Далоў усякія думкі аб працы!

Ён не шавяльне пальцам, каб знарушыць чыстасьць травеньскага сьвята.

Што будзе далей—пляваць; пра гэта знойдзецца часу падумаць.

А Першым Траўнем...

Нават Сарафіна Хлёраўна прытаілася дзесьці і жадным шорпатам не зварушвае Травеньскае ўрачыстасьці...

Першае Травеня—рабочае сьвята!

У цесным вобдыме варожай сілы яно бліскае красою дыямэнту. Яго чырвоная здань прысутнічае навокала і ўсюды. І няма тае сілы, якая-б магла змагацца з пераможным наступам яго хвалюючых ідэй.

Гукі сірэн—інакшыя ад звычайных. У іх меней прымуснай угоннай да працы сілы, а болей урачыстасьці, гучных напеваў вызваленьня.

Ці ня клічуць яны Рыгора да вулічных боек?

Пэўна таму і ня сьпіцца, што травеньскі настрой разварушыў яго бадзёрасьць. Калі сьвяткаваць—дык на вуліцы перад усімі, з дэманстрацыйнай адзнакаю сьвята. Хто яго бачыцьме схованым у пакоі? А мо' ён

адзін адстаў ад тых, хто злучыўся ў баявую грамадку і пры чырвоным сьцягу з песьнямі хваліць Першае Травеня?

Загнаныя, заклапочаныя, нясьмелыя і карысныя—няхай глядзяць на адвагу мужных і задумоўваюцца над значэньнем Першага Траўня!

Рыгор спрытным, адрэзаным рухам пакінуў ложак і з напевам марсэльезы пачаў зьбірацца на вуліцу.

Сарафіна Хлёраўна не пасьпела замкнуць дзьвярэй, вярнуўшыся з рынку, як Рыгор прывітаў яе з Першым Травеня.

— Калі вы, Рыгор Міхасевіч, мелі час адзецца?—зьдзіўлена і зусім сур'ёзна запытала яго гаспадыня.—Я толькі што, ня болей чвэрткі гадзіны, пакінула вас спаўшы, а гэта...

— Што нашаму брату значыць сабрацца—пяць хвілін.

— Але... ну, няхай-бы гарбаты выпілі —запрапанавала Сарафіна Хлёраўна.

Дзякую шчыра.

— Пасьпееце-э... Гэта-ж не на працу—калі і спозьніцеся на квадранец...

Гаспадыня пераступіла Рыгору дарогу і надзвычай ласкава глядзела яму ў твар. Яе лісьціў Рыгораў бадзёры і рэзвы настрой, а абдаўшая яго натхненнасьць чаравала.

— Я папрашу вас, Сарафіна Хлёраўна, пра адно... Калі што-колечы... Ну, разумееце... Як толькі здарыцца якая прыгода, паглядзеце за маім пакоем...

— О... Рыгор Міхасевіч...

Гаспадыня аберуч хапілася за галаву і ў яе вачох забегаў сполах. Мэрам-бы над маладзіцаю абрынулася столь і зьнячэўку прыдавіла яе сваім цяжарам.

— Рыгор Міхасевіч!.. Няўжо вы не шануеце сябе і свае маці? Гэта-ж... Я перапрашаю вас... Куды вам лезьці аднаму супроць аружнае сілы?.. Ня дайце прычэпкі пусьціць у ход вінтоўкі... Паходзяць-паходзяць і... Рыгор Міхасевіч! Мая вам прыяцельская парада... Я... Вось зараз закіпіць вада і хоць шклянку...

Рыгор не мяняў настрою—яго твар абмываўся тэю-ж рэзваю ўхмылкаю. Гэта ўплыло на гаспадыню; яна перамяніла трывожны тон на болей спакойны і ўжо ня ўпрошвала яго застацца на гарбату, а толькі радзіла яму быць асьцярожлівым.

— У мяне, як у бога за пазухай, Рыгор Міхасевіч!—запэўніла яна Рыгора, калі той пераступіў парог на сходы.

## VI

Над Выбарскай стараною насіліся хмары дыму. Яны куравілі зялёнае сьвежае лісьце рэдкіх дрэўцаў, працёртыя вокны будынкаў, празрыстае паветра. Дробныя крупінкі сажы садзіліся на людзкіх тварах, зала-

зілі ў нос. З цесных, абгароджаных высокімі парканамі фабрычных двароў разьляталіся ва ўсе бакі гучныя стукі малатоў, бразг жалеза, прыдушанае гудзеньне станкоў. Хвалі сіняе вады ў Неўцы аднастайным плюхаценьнем адгукваліся на працэсы непарушнай працы.

Ажыўленьне на Самсонаўскім проспэкце і на ператочных яму вуліцах мала розьнілася ад звычайнага. Зрэдку, парушаючы штодзенны парадак, то там, то сям на рагох вуліц стаялі грамадкі рабочых, дапамінаючы ні-то перапынак на абед, ні-то невялічкую забастоўку. Болей усяго дапаміналі пра выдатнасьць Першага Траўня ўзмоцненыя варты гарадавікоў, ды казачыя атрады, паважна, але зрэдку праяжджаючы ўсьцяж проспэкту.

Аднак-жа, подых травеньскага сьвята памятаўся ўсімі, хто-б ні ішоў ці ні ехаў проспэктам і вуліцамі Выбарскае стараны. Сотні вачэй недаверліва або з захованай надзеяй прабівалі ўзрокамі мурзатыя вокны фабрычных карпусоў. Настарожаныя вушы прагна лавілі кожны стук, які чуўся за парканамі і ў сьценах майстэрняў. Грамадкі рабочых на рагох вуліцаднаўлялі ў памяці нядаўнія, знаёмыя падзеі. Кожную хвіліну могуць паадчыняцца жалезныя брамы заводаў і фабрык—і тысячныя грамады чорных закураных людзей запоўняць шырокі Самсонаўскі. Мігам стане паравік. Дзе дзенуцца рамізьнікі! Расчысьцяцца ад пешаходаў тротуары і пад малочным небам залунаюць гучныя мэлёдыі паўстаньня. Нельга верыць вачавіднаму спакою. Дарма з усіх фабрычных каміноў непарыўнымі пасмамі пыхае дым, сьведчачы за поўную чыннасьць заводаў. У хмурых вокнах рабочых кватэр прытаілася няўміручая помста прыгнечаных. На кожным твары іх жыхароў, жанок і дзяцей, выглядае яскравая прага вызваленьня. Гарда пануе над усім вакольным знатны будынак Ломанскага завулку. Яшчэ не залеплены глыбокія дзіркі ад казачых стрэлаў.

Глядзіш—і яго зноў засуцэліць жалезнае кола вінтовак. Можа ў абед ці к вечару, ці ў іншы час—стукі малатоў абернуцца ў стрэлы?

Ці не таму наглядаецца якаясьці посьпешнасьць руху як у хадзе пешаходаў, гэтак і ў язьдзе рамізьнікаў ды ў прабегу паравіка?

Першае Травеня прасякла зацьвілы слой палітычнае будзёншчыны і кратае застыўшае, але не памёршае пачуцьцё свабоды. Больш як каму—выразьней гэта для Рыгора. Ён у ліку нямногіх, што аддаюць належнае вялікаму сьвяту працы. А праз год, а далей?

Ён будзе сьведкаю паступовага ўздыму працоўных да ўрачыстага ўшанаваньня Першага Травеня.

Дачакаецца, калі празрыстасьць неба над Выбарскай стараною засьведчыць поўную бязьдзейнасьць, сьвяточны адпачынак кожнага заводу, варштата ды молата.

Гэта іціме ад пачатку ў 1915 годзе, калі...

Ага!

Рыгор абяцаў гэтым днём правесьці на вакзал Сідара Пералаза. Той прасіў наведаць бежанскі камітэт у дванаццаць гадзін, каб разам купіць яму білет.

Але на гадзіньніку—першая.

Напэўна, Сідар не дачакаўся? А калі яшчэ і не пакінуў камітэту, то пакуль даедзе, можа пакінуць. „Лепей проста на вакзал“, вырашыў Рыгор і сеў на трамвай нумар восьмы.

Чамусьці надзвычай хутка прамільгнулі ў яго ваччу дзесяткі вуліц, мастоў, пляцоў і спынак, і ён агледзеўся, як шкляная сьцяна знаёмага будынку спыніла яго ўзрок.

Натоўпы людзей, шнурком накіроўваючы за левы рог будынку, сьпяшалі на цягнік. Ці знойдзе ён у гэткім натоўпе Сідара? А можа той яго пільнуе пры ўваходзе? Разглядаючы ў бакі, Рыгор прайшоў у вакзал і стаў шукаць старога. Шэрыя шынэлі салдат скрадалі асаблівасьць Сідаравага ўбраньня.

Рыгор увішна абышоў залі, паглядзеў пры касах і накіраваў да пэрону—Сідар, напэўна, прайшоў у вагон.

— Паштовы на Вільню?..—абярнуўся ён да правяральшчыка білетаў.

— Праз поўгадзіны, а...

— Рыгор!—заглушыў словы правяральшчыка Сідар, зазіраючы Рыгору ў вочы. А я ўжо думаў, што ты не захочаш...

Надарваны і ахрыпшы голас Сідара Пералаза ня даў яму даказаць.

— Што вы, дзядзька... ласьне можна так думаць! Я ўжо колькі часу, як вас шукаю.

— А божа, колькі людзей—я ледзьве дацісьнуўся да білета. Узяў—і сяджу ды чакаю, калі пачнуць пускаць... Хоць-бы не адстаць ад цягніка. Вось як напруць, а ў мяне няма прывычкі штурхацца і—глядзіш—лаві вачыма. Астануся, тады... Хто ведае, якаво там дома? Можа дамашнія даўно ўжо ў дарозе, а я дарма ўзяў білет да Ліцку... Ох!.. Зрабіў такую дарогу і... Дачушка-а мая, як ты моцна пакрыўдзіла сваіх бацькоў.

І голас Сідара, і ўражаньне ад яго нутранога надлому, балюча нэрваваўшага Рыгора, перабіў недалёка зычны званок швайцара.

— Другі-ы зва-а-но-ок на Пскоў, Вільню, Гр...

Вачавідкі перад правяральшчыкам білетаў стала расьці грамада людзей.

Сідар Пералаз крута павярнуў ад Рыгора, каб ня быць адціснутым з праходу на пэрон. Але толькі ён намерыўся залезьці ў чаргу, як чыясьці здаровая рука яго адапхнула ў бок.

— Я тут неадходна вартую, а вы нахабна пхаецеся,—пакрыўджана, выказаў Сідар да пхаўшага.

Той не зьвярнуў на Сідара жаднае ўвагі і шчыльна затуліў месьціну між ім і папярэднім яму чалавекам.

Тады Сідар зноў накіраваўся да яго, але тая-ж рука перагарадзіла яму дарогу.

Рыгор убачыў гэта і рашуча падышоў да здаравеннага, нахабнага з выгляду чалавека.

— Гэты чалавек мае права стаць наперадзе вас,—настойна праказаў ён і абярнуўся да Сідара.

— Станавіся, дзядзька, вось тут!

У адно міргацьне вока Сідар ачуўся крокаў на два ў баку, затое і таўхануўшы яго ад спрытнага і моцната штуршка Рыгора быў выбіты з чаргі і хутка зацёрты надышоўшымі пасажырамі. Яго зычная лаянка, накіраваная па адрасу Рыгора, не заўважанай патанула ў дружным сьмеху некалькіх салдат.

— Так яму, нахалу,—адобрыў Рыгора адзін з іх.

Сідар Пералаз, стаўшы пры Рыгору, зьдзіўлена паціскаў плячыма і трусьліва азіраўся назад.

— Што за людзі, божа ты мой...

Калі чарга заварушылася, ён барджджэй працягнуў Рыгору руку і скорамоўна пачаў закідаць яго пытаньнямі ды падзякай.

— Можа паведаміць мацеры, што ты?.. Ці няхай яна ў выпадку чаго накіроўвае да цябе?.. Пэўна, ты ня думаеш адгэтуль нікуды ехаць?.. Бадай, хутка жаніцьмешся?.. Даруй, Рыгорка, за турботы. Я ўжо пастараюся аддзякаваць... Што-ж парадзіш, родны... Будзь здароў, усяго табе найлепшага...

Стары памкнуўся яшчэ раз злавіць Рыгораву руку для разьвітальнага поціску, але правяральшчык білетаў сур'ёзна праказаў яму над вухам:

— Не затрымлівай, стары. Варочайся...

У хвіліну Сідар Пералаз ачуўся на пэроне. Намерыўшыся сыйсьці ў бок і азірнуцца на Рыгора, ён наткнуўся зьнячэўку на пераганяўшага другіх пасажыра, той ліхамысна паглядзеў на яго і вылаяўся. Тымчасам напоўніўшыя пэрон новыя пасажыры вымусілі яго павярнуцца ў бок да цягніка. Рыгор бачыў, як белы клумак Сідара Пералаза замільгаў між бягучых людзей і зусім незаўважна зьнік у іх мігатні.

— Бедны стары, з чым ён вернецца дамоў!—праказаў у думках, ці праўдзівей, падумаў пра сябе Рыгор і пашоў з вакзалу.

Сонечнае надвор'е абласкала яго цяплынёю. Вуліцаю шнуравалі сотні людзей, чый інтэрас хаваўся ў сумных сьценах гораду. Якое ім дзела да цягнікоў і пасажыраў, што мусяць як мага несьціся ў бок далёкае Вільні, Ліцку, Горадні і па-за імі?

Аднак, зусім нечакана паўстала і перад Рыгорам пытаньне: бывае зьнянацку складуцца ўмовы і я хачу-не-хачу мусіцьму пакінуць Пецярбург! Пры гэтых думках у яго нутры парвалася якаясьці няпрыметная нітачка: ёкнула сэрца і саладжавая боль расстаньня з улюбёным горадам прайшла па ўсёй яго істоце. Рыгор абярнуўся на вакзал, вельмі выразна ўлавіў вушамі далёкае чмыханьне цягніка. Пасьля паглядзеў направа ды налева ўсьцяж забруджанага Абводнага. Скора год як у яго

ваччу мігнула вунь тая вялізная рэкляма з шарыкападшыпнікамі, шэрае кола шыны „треугольник“, жывое, рэзвае дзіцянё з банкаю какао, электрычная лямпачка „Osram“. Ва ўсім гэтым шавеляцца яго надзеі і трапяткія жаданьні, казытаўшыя яго ў момант прыезду. Гул і завіруха, разьбежнасьць і тлуматня сталічнага жыцьця прыеліся яму, пранікі ўсю істоту, увабралі ў сябе. А вось за гэтым сумным будынкам іншае, адваротнае жыцьцё. Памятнае па Сілцох, па Смагіну. Няўжо яно без свайго хараства, бяз сілы, якая мае здольнасьць уцягнуць у свой вір любога чалавека?..

Але што за раздумы над білямі мосту?

— Пайду да Ганны...

Ужо на другім кроку ад месца, на якім мігнула гэта нявыразная ні-то думка, ні-то жаданьне, Рыгор адчуў вострую патрэбу ўгледзець сваю прыяцельку. Было-б дзіўным, калі не загадкавым, каб іх доўгае, блізкае і цёплае сяброўства так раптам і гэтак ніякавата распалася. Няўжо Ганна зразу занядбала ўсімі тымі пачуцьцямі, якія зьвязвалі яе з Рыгорам? Або да яе прыкладны трывіальныя погляды мяшчан, як на звычайную кабету, далёкую ад думак і разваг сур'ёзнага чалавека? Прынамсі, у яго, Рыгора, няма сумненьня ў тое, што Ганна хоць часткаю ды жыве мінулым. Было-б, сапраўды, шаломным і абураючым, каб яна выхаласьціла сваё нутро ад усякае да яго прыязьні. Тады—можна было-б прарэвізаваць погляды ў адносінах многіх асоб, усяго жаночага роду, нават у адносінах...

— Ну, што вунь там, па восьмай роце, за натоўп людзей?

Прыслухаўся.

Марсэльеза?

Штосьці раптам павярнула яго вузкім тротуарам налева—ага!

Першае Травеня!

Значыць, ня толькі бастуе іх такарная, ды некалькі іншых майстэрняў на Выбарскай, а і тут вось... Нават маніфэстацыя і побач з казармамі...

На ператоч яму выбегла з двара казармы каля дзесятка ізмайлаўцаў. Іх узрокі прагна накіраваліся ў бок нядаўна прагучэўшай песьні.

Але адтуль ужо гучэлі бразгі паліцэйскіх падкоў. Аголеныя тротуары лавілі скрадныя ўзрокі схаваных каля брам маніфэстантаў. Асьцярожліва некалькі чорных фігур перакрыжавала вуліцу. Пачуўся раздражальны сьвіст, рэзвы выгук. Перапяўшы вуліцу, шэраг гарадавых па камандзе абярнуўся назад і замёр на месцы.

Настаражылася купка ізмайлаўцаў.

Рыгор завярнуў да проспэкту.

## VII

Жалезны пераплёт мосьціка праз Фантанку. Моцныя гранітныя аправы сьціснулі зялёную ваду халоднымі абоймамі. Направа—землячарпалка з паднятым вядром чорнай твані. Далей—чарада цёмных засмоленых

барак. Яшчэ далей, да Чарнышовага мосту, лёгкі адкрыты параходзік разьвявае лохмы сіняватага дыму. Чуць відаць—цёмныя плямы людзей над біламі, між высокіх каменных колён. Што за выпадак?

Пэўна, вось так глядзелі людзі і тады, калі ў чорнае вока палонкі падала Гэля?

Гэля!

Які жудасны шлях—ад Фонтанкі ў анатомічку... Э-э-э!

Надарванае сэрца асірацелага бацькі. Халодныя сьцены роўнадушнага гораду. Глыбіня і нязьмернасьць людзкое трагедыі.

Гэля—сябар і таварыш.

Зелень пастаўнікоў і белы валь квітучых садоў.

Вёрткасьць і рэзвасьць маладое ласкі.

Жніўныя песьні і бескалотныя гульні.

Сілцы...

Кінографічнае прамільганьне здарэньняў, прыгод, выпадкаў і шэрагу доўгіх гадоў...

Муры туляць зьніжанае сонца.

Так, цягне золкім холадам—

На чарзе лёдаход.

Што-а? Музыка?

Разухабістай ходою пяцёра падвыпіўшых хлапцоў накіроўваюць проста да Рыгора. Буйны гармонік—на размах рук—выцінае „Чудны месяц“, далікатна змаўкаючы на вярхох людзкіх утораў. Каля мосту—спынка.

— На Пад‘ячанскую!—крыкнуў адзін, і пяцёра сьпін засланілі ад Рыгора прагляд наперад.

Ён ускорыў хаду, абагнаў вясёлую кампанію і схаваўся ў браме пяціпавярховага шэрага будынку.

Не абмыліцца-б.

Цесны падмецены двор нічым не дапамінаў пра Ганьніну кватэру. Ну, усё-ж яна жыве ня дзе іначай, як тут. Потым, вось, усходамі—паверх...

Рыгор пільна разглядаў нумаркі над дзьвярыма, паднімаючыся ўгору.

— Ці ня гэты?—падумаў ён.

І як-бы хто прачытаў яго думкі—раптам перад носам адчыніліся дзьверы і з кватэры вышла кабета.

— Выбачайце-э...

— Так?

Яна абярнулася да Рыгора.

— Здаецца, у гэтай кватэры?..

— Ах, памятаю; вашае зямлячкі ўжо няма. Яна... Хіба-ж вам невядома, што яна з мужам выехалі да Дзьвінску?

— Ганна?

— Так, так, я вас памятаю, як вы...

Кабета зачыніла дзьверы і праверыла ці замкнёны.

— Успамінала вас... І на вясельлі, і ад'яжджаючы...

Яна пашла ўніз, Рыгор сьледам.

— Добрага чалавека знайшла—мы ўжо казалі... Пра вас думала... Цяперака такі час, што кожны момант—новыя думкі... Каб-жа адны думкі! Пляны, намеры, жыцьцё... Вось ужо пашлі гутаркі пра мобілізацыю другога разраду... Божа, што мне прыдзецца рабіць тады з дзецьмі? Мужа... Ці ня былі-б ласкавы, можа-б дзе-колечы мелася месца ў такім заводзе, што...

— А Ганна вам адрасу не пакінула, часамі?

— Або-ж прыпомніш, дзе ён, калі і пакінула. Добрыя былі падсуседзі, ды колькі ўжо я іх перамяніла! Іншыя, часамі, напішуць пісьмо, успомняць, а то... У кожнага свае інтарэсы...

На вуліцы дворнік уладжваў драбіны.

— У горад, Саламея Анікееўна?—запытаў ён Рыгораву спадарожніцу.

— А табе цікава?—пацьвялілася яна і тут-жа дадала, азірнуўшыся на Рыгора.—Так, Ганна з мужам недзе на Літве...

— Бывайце...

Яна гасьцінна кіўнула Рыгору галавою і павярнула налева. Рыгор пашоў у бок Садовай. Тое, што ён спаткаўся з фактам ад'езду Ганны з Пецярбургу, у першы момант не пакінула на ім ніякага ўражаньня. Мэрам-бы факт, у перадачы выпадкова напатканай Ганьнінай гаспадыні, ня быў праўдзівым фактам.

Але калі ён вышаў на Садовую і крануў пытаньне, куды-ж яму накіравацца, як унутры адчулася выразнае нездавальненьне паводзінамі Ганны.

„Чаму-ж такі яна... Не разумею... Здавалася-а...“

Рыгор кінуў узрокам у бок трамвайнае спынкі і ўсьміхнуўся.

Нацянькі да яго ішоў Міхась Камар. Ен ужо бачыў Рыгора і кіўком рукі падаваў якісьці знакі.

— Чаго заблудзіў у нашы краі?—вітаючыся запытаў ён Рыгора.

— Думаеце, цяжка адказаць...

— Сьвята?

— Так. Дазвольце павіншаваць...

— Узаемна. Буйныя галовы. Ха-ха-ха!

— Гэта да чаго?

Камар супакойваюча крутнуў галавою.

— Хадзем да мяне!

Рыгор памаўчаў.

— Ня маеш ахвоты? Вып'ем шклянку гарбаты. Раскажу навіны. Мы так рэдка з табою бачымся...

— Рэдка, бачыце.

— Ідзем!

Камар узяў Рыгора пад руку і адарваў з месца.

Яны павярнулі ў бок, адкуль толькі-што Рыгор вярнуўся.

— У вас многа баставала?—на вуха Рыгору шапнуў Камар.

— Як вам сказаць: чалавек каля двухсот... Такарная поўнасьцю і часткова... Так, прынамсі, учора наглядалася... Сёньня нікога не спаткаў... Цэлы дзень... А ў вас?..

Камар гіронічна засьмяяўся.

— Куды нам абаронцам... Ха-ха-ха! Ты-ж, браце, павінен ведаць, што я трымаюся зусім інакшага погляду...

— Ці-ж увесь завод думае па-вашаму?

Рыгор адчуваў, што яго забірае настрой зласьлівай упічнасьці і ня думаў, што яна недачасна.

— Калі судзіць па сёнешняму дню, дык яно адпавядае праўдзе.

— Шкода!

— Ха-хі-хэ! Я зайздрошчу табе, Рыгор.

— За тое я вам—ні каліва.

— Наступнае скажа.

— Ужо бягучае гавора.

— Толькі многія яго гутаркі не разумеюць.

— Вось у гэтым і бяда.

Ключ у руках Камара, прасунуты ў дзьверы, на нейкі час перапыніў іх задзёрыстую, але яшчэ не варожую гутарку.

— А мне здаецца...

Камар не дасказаў.

Пераняўшы іх пры кухні, Камарыха растрывожана паведаміла:

— Гэта-ж арыштавалі Якава Гіса. Толечкі-што прыбягаў да цябе, Міхась, якісьці хлапчук і прасіў перадаць...

І Камар і, тым болей, Рыгор, чула настаражыліся і задумаліся.

Камарыха таксама моўчкі стаяла на адным месцы, пільна пазіраючы на мужчын.

— Хаця-б, крый чаго...—памкнулася яна выказаць якуюсьці думку, але Камар махам рукі яе пераняў.

— Не спадзяваўся-а... Няўжо і ён баставаў?—зьдзіўлена запытаў Камар ні-то ў жонкі, ні то-сам у сябе, сьледам утаропленa паглядзеўшы Рыгору ў твар.

— І я не спадзяваўся... хоць апошнімі часамі Якаў...

Усе ўтраіх зноў змоўклі, не давяраючы крокам, якія пачуліся на ўсходах.

— Якаў не адзін. Мінулаю ноччу адбыліся масавыя арышты як за Маскоўскай, Неўскай і Нараўскаю заставамі, гэтак сама і ў Выбарскім ды Пецярбурскім раёнах... Магчыма, што яны адбудуцца і сёняшняй ноччу...

— Табе казалі?—нашарохана запытала Камарыха.

— Калі кажу, то—ведаю... А Якава шкада... Неасьцярожліва, пэўна... Ну, што-ж... Гатуй, жонка, гарбату... хочацца есьці... Праходзь, Рыгор, у пакой... Вось „Біржоўка“...

Міхась прапусьціў Рыгора ў адчыненыя дзьверы пакою, а сам кудысьці зьнік.

Рыгор прысеў каля засланага машастоваю сурвэтаю стала і разгарнуў газэту.

На першай старонцы, у правым куту зьверху чорнымі літарамі адзначаліся важнейшыя навіны дня. „Вайна з Турцыяй“. „Італьянскія „комбінацыі“. „У Англіі“... Пад кожным з гэтых агульных загалоўкаў, выдзеленых буйнымі літарамі, ішлі паведамленьні пра згінуўшых людзей і турэцкіх кананэрскіх лодках, пра адстаўку міністэрства Саландры і маніфэстацыі італьянскіх патрыотаў, пра выключэньне кавалераў ордэну „Падвязкі“. Асобным радком, мала заўважна, вызначалася: „Вайна і 1 Травеня“. „Біржоўка“ зашуршала ў руках Рыгора. Ён з цікавасьцю пачаў выглядаць у тэксьце навіны пра Першае Травеня. Яны былі зьмешчаны на чацьвертай старонцы, заняўшы амаль ня цэлы слупок набору. Рыгор прагна ўперыўся вачыма ў дробныя шэрыя літары зьместу і хутка прачытаў яго з пачатку да канца. „Біржоўка“ паведамляла, што Першае Травеня ў Пецярбурзе сьвяткавала да двух тысяч чалавек рабочых. Баставалі заводы на Пецярбурскай старане, у Новай і Старой Дзярэўнях, за Неўскай заставай і на Выбарскай старане. Лік бастаўшых на Выбарскай газэта вызначала ў 150 чал. Аднак, белыя прагалы ў заметцы наводзілі на падазронасьць, што забастоўка мела куды большы размах, ніж то паведамляла „Біржоўка“. Характэрным момантам у заметцы было апісаньне тых парад, якія выпрацавала паліцыя для змаганьня з магчымымі выступленьнямі рабочых. Дзеля гэтага горад быў падзелены на шэсьць паліцмэйстарскіх раёнаў, была ў вялікай колькасьці мобілізавана паліцыя, прыгатаваны вайсковыя часткі... Паліцмэйстры знаходзіліся ў сваіх раёнах і пра ўсе заводы паведамлялі граданачальніку...

Гэткім чынам, рабочы Пецярбург сьмела адзначыў міжнароднае сьвята працоўных. Іначай было за рубяжом, дзе згодніцкая соцыял-дэмократыя ў сваіх пастановах заклікала рабочых адмовіцца ад сьвяткаваньня Першага Травеня.

Рыгор палажыў газэту на стол і гарды, і задаволены адважным выяўленьнем рабочага протэсту, волі і імкненьняў да змаганьня ўпэўнена падышоў да акна. „Памятайце ўсе тыя, хто думае, што на крыві салдат і на працы рабочых замацована ваша панаваньне. Дарэмная самаўцеха. У любую хвіліну завіхрыцца нездаваленьне, і гнеў працоўных змые вашы фортэцы і зруйнуе вашу марную сілу і дабрабыт“.

Упэўнены ўзмах крэпка сашчэпленага кулака пагрозна зарухаў над шыбамі акна.

— Ты гэта супроць каго?—заўважыўшы Рыгора, які махаў кулаком, пасьмяяўся Міхась.

— Супроць тых, каму трэба памятаць пра рабочую помсту.

— Цікавы ты...

— Ґарбату!

Камарыха спынілася пры стале і пачакала, пакуль мужчыны сядуць да гарбаты.

— Закусеце,—абярнулася яна да Рыгора.

— За Першае Травеня!

— Са здавальненьнем...

— За тое, што Пецярбург дапомніў каму сьлед, што фронт не канчаецца там, дзе пачаўся.

— Гэта як разумець?

— Пецярбург сёньня быў працягам фронту, во!..

Рыгор падаў Міхасю газэту, паказваючы на заметку „Вайна і Першае Травеня".

Міхась уважліва прабег вачыма па радкох паказанага зьместу і зьдзіўлена паглядзеў на Рыгора.

— Дзьве тысячы—на пяцьсот тысяч рабочых—гэта нямнога. Адных Рыгораў знойдзецца болей...

— Затое, кожны з гэтых дзьвюх тысяч ёсьць іскра, якое ня згасіць сотня Міхасёў...

— Недачасна, Рыгор, недачасна... Глядзі, во, як больш цьвярозыя за нас французскія соцыялістыя робяць... Нават нашы суседзі, фінляндцы...

— Вам ёсьць завошта зачапіцца...

Праслухаўшы перагаворы мужчын, Камарыха тужліва заўважыла:

— Бедныя, не падзяліць вам, я бачу, знойдзенага багацьця... Ха-ха-ха! Грызуцца ды ні рады... Пеце гарбату, да...

— Рыгор павінен начаваць сёньня ў нас. Добра?

— Тады вы паб'ецеся, чаго добрага, калі, часамі...

— Добра, Рыгор?

Рыгор нейкі час падумаў, паглядзеў на гадзіньнік і ўпэўнена адказаў.

— Дзякую, калі не ў назол—чаму-ж не...

## VIII

Назаўтра раніцою Рыгор з Міхасёвай кватэры паехаў проста на завод. Яму вельмі рупела хутчэй пачуць, чым і як адаб'ецца ўчарайшае сьвяткаваньне на далейшых яго стасунках з заводам. У нутры мулялася нядобрае адчуваньне, але Рыгор не патураў на гэта. Адзначаныя бульварнаю газэткаю дзьве тысячы забастоўшчыкаў—упісалі новую, сьветлую старонку ў кнігу вялікага і крывавага змаганьня за справу працоўных. Куды, сапраўды, задумвацца над сваім уласным лёсам? На небасхіле заблішчэлі яскравыя агенчыкі радаснага наступнага. Для яго Рыгор здаўна прысьвяціў ня толькі свае прыватныя інтарэсы, выгаду, а свае сілы і сваё жыцьцё. Ужо ён ня раз і ня два бязбоязна станавіў яго пад яўную пагрозу. А зараз?..

Вялізныя гмахі заводу адцягнулі на сябе Рыгораву ўвагу. Паравік плаўна спыніўся перад галоўным яго корпусам. Рыгор першым выскачыў з вагона і павярнуў да брамы.

— Рыгор!—пазваў яго хтосьці з грамадкі рабочых, якія стаялі пры браме.

Ён азірнуўся.

Да яго набліжаўся Анікей.

— Запазьніўся, таварыш... Можам далей сьвяткаваць!

— Магу?

— А чаму-ж не!? Во!

Анікей паднёс да Рыгоравых вачэй разьліковую кніжку.

— Ідзі, атрымлівай палучку і вып'ем за перамогу,—пажартаваў ён.

Да іх падышло яшчэ некалькі чалавек.

— Можна ў лясок куды-небудзь, на палянку,—вымавіў адзін з падышоўшых.

— Якраз і пагода спрыяе,—дадаў другі.

— Дзень прагуляем—знарадаў сотні і няма. Усё-ж чалавек дзесятак захаваем у жывых...

— Калі-б адзін усяго дзень не працаваць!.. А бывае—і месяц патырчыш пры варотах.

— Не дачакаюцца гэтага... Самі, ці што, пастануць да станкоў?..

— Знойдуць нашага брата!

— Ды чорта лысага знойдуць... Закруцілі шэйнакатрынку, нябось, не абыйсьціся бяз...

— Без цябе!..

— А то—бач!

— Знаем такіх...

— Сьпяшайся, Рыгор, па грошы, а то згінуць, мы пачакаем.

Анікей жартаўліва правёў Рыгора да варотцаў у браме і вярнуўся.

Калі праз поўгадзіны ён вышаў назад, яго чакаў Анікей з двума другімі таварышамі—рэшта рабочых разышлася.

— Памінальным сьпіскам на дзьвярах...

— Яшчэ-б ня так... А, між іншым, клопату падсыпалі...

— Пляваць... з клопатам...

Рыгор агледзеўся навакола і цішком паведаміў:

— Якава Гіса арыштавалі...

— Калі? Ласьне?

— Учора днём...

— І надало-ж яму...

— А як з нашымі?

— Пакуль ня чуваць...

Яны рушылі з месца і накіравалі ў бліжэйшую харчэўню.

Ужо Анікей ачуўся па за дзьвярыма яе, калі, ідучы заднім, Рыгор адцягнуўся ўвагаю да пад'ехаўшага паравіка. Ён на хвілю затрымаўся на месцы, спыніўшыся ўзрокам на белай касынцы сястры, якая вылезла з вагона і накіроўвалася да тротуару побач з якімсьці вайсковым чыноўнікам.

— Ліба?—заварушылася ў яго галаве, і Рыгор паважна пашоў ім на ператоч.

— Ліба Шлёмаўна?—няўверана падаў ён запытаньне.

Сястра з чыноўнікам азірнуліся на яго.

— Рыгор! Як добра, што мы цябе напаткалі! Павал гэтак прогся цябе ўгледзець!

Чыноўнік бліжэй падышоў да Рыгора і пільна, з лёгкаю ўсьмешкаю зазірнуў яму ў твар.

— Не пазнаеш? Паўла Памыйкі? Смагін—майстэрня Шульца, А?

Рыгор барджэй працягнуў яму руку і зрабіў намер да пацалунку. Павал горача, па-сяброўску, сьмелым нахілам галавы злучыў свае губы з Рыгоравымі.

— Паверыш, не пазнаў. Куды-ы там! Пане мой, зусім іншы чалавек. Люба паглядзець! Папраўіўся, пamaладзеў, папаўнеў... Палкоўнікам?..

Незаўважна падышоўшы да іх, Анікей палажыў Рыгору на плячо руку і праказаў:

— Мы чакаем. Памятаеш ці забыў?

— Мае знаёмыя і сябры—пазнайся.

Анікей па чарзе падаў руку Лібе і Паўлу.

— У госьці да Рыгора Міхасевіча?

— Трэба адведаць,—адказала Ліба.

— Шкода, што ня ў добры час.

— Чаму?

— У Рыгора Міхасевіча атрымаўся няцікавы паварот спраў.

— Як так?

— Сёньня атрымаў адстаўку з заводу.

— Ласьне?!

— Разам, вось. Адплата за Першае Травеня.

— Кінь, Анікей. Ці варта псаваць людзям настрой!—сур'ёзна пераняў таварыша Рыгор.

— А ўсё-ткі...

— Ладна... Вы ўжо прабачайце, што я мушу вас пакінуць адных... Рэдкія, неспадзяваныя госьці... Даруйце, Анікей...

Анікей разьвітаўся і павярнуў да харчэўні.

Рыгор запрасіў Лібу і Паўла да сябе.

Ідучы, Павал у агульных, абеглых рысах расказваў Рыгору гісторыю свайго жыцьця за апошні год. З яго слоў і таварыскага прызнаньня Рыгор рад быў дазнацца, што Павал увесь час з моманту расстаньня з Рыгорам не пакідаў думаць пра яго. Таварыскае пачуцьцё, нажытае ў Смагіне, ні каліва не астывала. Раз-у-раз Павал меў намерам зрабіць тыя ці іншыя захады, каб дазнацца Рыгоравага адрасу і завесьці перапіску. Выпадковыя здарэньні перашкаджалі гэтаму. Ён пэўны, што каб не вайна, то кожны з іх быў-бы ў курсе ўзаемнага бягучага жыцьця. Вайна ўсё пераблытала. Рыгор, магчыма, чуў пра тыя падзеі, якімі спра-

водзілася ў Смагіне мобілізацыя і пераход на захад першых эшалёнаў войска. Дзікія сцэны гвалту і разбою пагражалі абярнуць мястэчка ў голыя руіны. Соткі пацярпеўшых займаздароў кідалі Смагін і ўцякалі, куды вочы глядзяць. Павал астаўся на нейкі час бяз працы і спаткаўся з крутнейшымі момантамі ў сваім жыцьці. Было ратункам атрымаць выпадкова пропозыцыю застацца ў дарожным атрадзе дзесятага вучастку пры трэцяй арміі. Ён аберуч хапіўся за гэту службу і зараз ужо ачуўся ў трэцяй па чыну катэгорыі службоўцаў—дзесятнікам. Работа цікавая і выгадная тым, што абараняе стаўшых на яе ад вайсковае мобілізацыі.

У Пецярбург Павал выпрасіў камандыроўку, галоўным чынам, таму, што меў жаданьне адшукаць Рыгора, угледзецца з ім і ўспомніць разам пражыты час... Ужо Памыйка трэці дзень у сталіцы. Нечаканая стрэча на рагу Ліцейнага і Неўскага з Лібаю вырашыла спатканьне з Рыгорам. О, як ён задаволены гэтым...

— Але цікава,—перабіла ўжо ў Рыгоравым пакоі Ліба:—я неўспадзеўкі ледзь ня зьбіла Паўла з ног: нясуся так і толькі намерылася завярнуць да Анічкавага мосту, як зірк на мяне і перагарадзіў мне дарогу. „Выбачайце“, кажа, а я, вылупіўшы вочы, гляджу яму ў твар і, як няпрытомная, заліваюся сьмехам. Ані думкі, што маю неспадзяванку бачыць Паўла. І толькі яго добрая памяць выручыла абоіх... Я ўжо казала яму ў вочы, які ён, сапраўды, стаў харашун.

— Кіньце-э, Ліба, жарты.

— Ня верыце?

— А, бач, задаволены,—пакпіў Рыгор.

Малады, здаровы рогат прайшоў па пакоі.

Яго перабіў асьцярожлівы стук у дзьверы. Яны змоўклі і насторажыліся.

— Хто там?

— Рыгор Міхасевіч, гэта я, Сарафіна Хлёраўна. Прабачце, на хвілінку. Учора вечарам вас наведвала вось гэта паненка, што ўжо колькі разоў была ў вас з вашым таварышом і... прасіла перадаць—сёньня раніцою паехала ў Маскву.

— Рыма?

— Хто яе ведае, я-ж імя ня пытала... Прабачце, Рыгор Міхасевіч.

— Гэта хто такая?—пацікавіўся Памыйка.

— Рупіць?—пасьмяялася Ліба.

— Ды так... Знаёмая майго таварыша. Мо' памятаеш гэткага, Пятруся?.. Той самы, да якога я прыехаў сюды; ён у Маскве зараз і выпісаў туды-ж яе...

— Ага-а... Гэта я разумею...

— Што-ж тут дзіўнага!—заўважыла Ліба.

— Ніхто ня кажа... Ну, шчасьлівай дарогі. А вось, як будзе з намі?

Ліба зацікаўлена разглядала Рыгораў пакой. Кожная малапрыкметная рэч прыцягала яе ўвагу. Заваконны пэйзаж асабліва ёй падабаўся і яна неадрыўна ўглядалася ў яго, стоячы пры акне.

— Добрае вы месца, Рыгор, выбралі для кватэры, та-ак!—праз нейкі час уставіла яна ў Рыгораву гутарку з Паўлам.

— Добрая, але, бачыце, трэба расставацца.

— Чаму—запытаў Павал.

— Хіба забыў, што я ад сёньня стаў вольным грамадзянінам?

— Ах, ты пра гэта.

— А я нічога-б ня мела, каб хоць тыдзень які пажыць вольнай у Пецярбурзе. Мне так, ведаеце, абрыдла мая служба, што я... Толькі нідзе ня дзенешся... Да бацькоў ня вернешся—у іх самых няма чаго есьці, а скінь касынку—зразу-ж мусіш кідаць Пецярбург... Няцікава!..

— Кіньце, Ліба Шлёмаўна, кіньце-э... Адкуль на вас падзьмула гэтай роспаччу?..

— Сапраўды кажу. Трэба мець валовыя нэрвы, каб дні і ночы засаб-засаб чуць перадсьмертныя крыкі і енкі ўміраючых людзей, бачыць іх патухлыя безнадзейныя ўзрокі, разьвітальныя, поўныя жаху споведзі, успамінкі. . Не-э... Гэта пекла, гэты сад катаваньняў не апраўдвае нашага жыцьця-а... Я ня сплю, мару, тамлюся ад страшных зданяў... Што варта мая дапамога... мая спагада, ласкавае слова, міласэрная... Гэ-эх-х!.. Забярэце-э мяне дзе ў іншае месца, прашу вас...

Ліба ўся заружавеўшая ад злосьці, ахопленая нэрвоваю трасучкаю, якая моцна сьціснула яе белыя, пруткія далоні ў цьвёрдыя кулакі, скрывіла мерныя чырвоныя губы, звычайна зложаныя ў форму маленькага сэрца, супыніла разьбег вачэй.

— Кіньце-э, таварыш...

Рыгор умольна зазірнуў ёй у твар і палажыў вышэй локця яе рукі сваіх пяць моцных, мазалістых пальцаў.

— Сантымэнты, якіх жыцьцё не шануе... Кабеты-ы! Ня гэтым бярэцца перамога над жыцьцём, не... Ліба Шлёмаўна...

— Брава, Рыгор, брава... Люблю ад сэрца люблю і шаную, хто сьмела пазірае ў раскрыты твар жыцьця... Люблю!

— Памятаеце, якаво мне жылося ў Смагіне. Выйсьці саромеўся на вуліцу, а, тымчасам—надзеі выручылі. Майце драцяныя нэрвы і каменнае сэрца...

— Словы! Словы, як...

— Дык хочаце, едам са мною назад у Смагін? Можа ўжо ня ў самы Смагін, але...—задаволены знойдзенай парадзе, рэзва праказаў Павал да Лібы і сьледам абярнуўся да Рыгора.

— Рыгор? Табе-ж проста латва—з месца—на месца. Зраблю рэкомэндацыю і ты праз тыдзень начэпіш вось гэтыя палеты...

Ліба паступова ўвайшла ў сябе і зноў з дзявочым, маладым захапленьнем глядзела на сьветла-зялёную сачыстую зелень дрэў.

— Рыгору ня варта пакідаць Пецярбургу...

— Ваша думка, Ліба?

Яна не адказала. Тады Павал удвойчы абярнуўся да Рыгора:

— Падумай... Узваж усе даныя за і супроць... Пецярбург не ўцячэ— у любы момант ты можаш быць у ім. Захочаш кінуць службу—калі ласка; а яшчэ лепей—узяў і перавёўся... На парозе лета—што патраціш выехаўшы? Затое пацікавішся, як і чым праломліваецца вайна ў нашых мясцох. Паглядзіш, што там чаўпецца. Магчыма, бачыцьмеш сваю краіну ў апошні раз...

— Не кажы, Павал—ведаю... Адчуваю і выабражаю... Так—падумаю над тваёй пропозыцыяй... Ты яшчэ доўга застаешся ў Пецярбурзе?

— Ня болей тыдня.

— Хопіць часу на раздумы.

— Так, хопіць... Яшчэ пасьпеем выдумаць што-колечы і для Лібы Шлёмаўны.

— Наперад пра сябе думайце-э...

Яна падышла да дзьвярэй...

— Дайце, пойдам куды, каб разагнаць сьціснуўшы мяне сум... Га? Хлопцы паслухмяна пачалі зьбірацца да выхаду.

## IX

Першыя дні безрабоцьця нічым асаблівым не адбіліся на Рыгоравым настроі. Ён прачынаўся на сьвісткі сірэн, пасьля яшчэ на нейкі час засынаў. Уставаў з пасьцелі ў дзесяць гадзін, піў гарбату і выходзіў у горад. Часамі першым прыходзіў да яго Анікей: тады яны разам распляноўвалі дзень і яго праграму выконвалі па магчымасьці поўнасьцю. У гэтай праграме асноўным пунктам было спатканьне са знаёмымі, вызнаваньне апошніх навін з рабочага жыцьця, з жыцьця грамадзкіх установ. Некалькі разоў супольна яны адведвалі раённы камітэт партыйнае арганізацыі, бывалі ў культурна-асьветных установах, у будынку графіні Панінай, наведалі перасоўны тэатр Гаўдэбурава. Весткі пра стан рабочага рынку таілі ў сабе нядрэнныя пэрспэктывы і гэта тупіла абвостранасьць іх палажэньня. Праўда, ужо на чацьверты дзень пасьля іх разьліку ў горадзе пашлі ўпартыя чуткі наконт мобілізацыі ратнікаў апалчэньня другога разраду. І Рыгор, і Анікей кожны падлягалі, хоць і не ў адзін час, пад гэту мобілізацыю. Анікеевы гады, магчыма, супалі-б ня з першым прызывам, але ўсё залежала ад ліку мобілізаваных гадоў. Рыгора-ж чакала першая чарга. Абодвум зусім ня ўсьміхалася магчымасьць ачуцца ў шэрагах арміі і нясьці сябе на забой нямаведама за што і за каго. Погляды на мэты і сэнс вайны ў абодвух былі аднакава рашуча адмоўнымі. Ня толькі Міхась Камар, а нават і Якаў Гіс, ужо пацярпеўшы, падпадалі са сваімі поглядамі на бягучы момант пад вострую крытыку Рыгора. Апошняга моцна хвалявала роўнадушша салдацкіх гушчаў, якія пакорліва адпраўляліся пад знарады, кулі і атрутныя газы. З каразьлівай настарожанасьцю лавілі абодва пакуль рэдкія весткі пра нездаволеньне

вайною сярод салдат і нават сярод буржуазна-грамадзкіх колаў насельніцтва. Чуткі пра масавае дэзэртырства з фронту яны разглядалі, як асаблівую форму актыўнага протэсту супроць вайны. Самы факт іхнае працы па вырабу знарадаў служыў ім папрокам ў спрыяньні вайне. Але тут ужо справа датыркала другога—барацьбы за існаваньне. Як-ні-як, а побач з гэтай барацьбою можна было весьці разбураючую працу на франтох. Болей таго, позыцыі, якімі былі заводы, захоўвалі сабою сілу, гатоўнасьць і базу для peравярненьня вайны імпэрыялістычнай у вайну грамадзянскую. Куды-ж, чаму і навошта здаваць гэтыя позыцыі?

Анікей пры абмеркаваньні гэтага вяртаўся часамі да свае сям'і, радзей успамінаў Рыгор мацеру.

— Трэба абмінуць надыходзячую мобілізацыю.

Але цішэй адносіўся да гэтага Рыгор. Калі на пяты дзень беззабоцьця Анікей пахваліўся, што ў яго клюе ўладзіцца на другі завод—ён яшчэ ня меў пэўнага вырашэньня наконт Паўлавай пропозыцыі. Магчыма, што яе наяўнасьць, падмацованая Пятрусёвымі словамі пры апошнім спатканьні закалыхвалі яго цікавасьць да складзенага становішча. Аднак, Рыгор патураў дбайліваму стараньню Анікея знайсьці хутчэй працу. Ён быў здаволены, калі пэрспэктыва гэтага стала праясьняцца.

— Нацiскай.

— Націсьнеш, калі цябе ціснуць...

Хутка Анікей паведаміў Рыгора пра выпадак арышту трох разьлічаных, як вайскова-абавязаных. Гэта здарэньне сьведчыла аб шмат сур'ёзьнейшым, чымся было да гэтага. Яно прымусіла Анікея перамяніць кватэру, а Рыгора—рашуча і безадмоўна прыняць пропозыцыю Паўла.

Праз некі час Рыгор паведаміў Анікея:

— Я пакідаю, браце Анікей, Пецярбург.

— Нават?

— Так, вырашыў на нейкі час паступіць на службу ў дарожны атрад.

— Якім чынам?

— Здарылася. Памятаеш чыноўніка, з якім я цябе знаёміў—яго рэкомэндацыя.

— Дуй! Чаго табе шкадаваць і каго пакідаць?

— Шкадую Пецярбургу.

— Ха-ха-ха! Камяніц? Дому папярэдняга заключэньня?

— Шкадую адрывацца ад рабочых гушчаў, якія з дня-на-дзень пачынаюць разгортваць новыя старонкі гісторыі.

— Іх знойдзеш усюды...

— Ведаю, але Пецярбург—асяродак, месца, з якога забурліць кіпучы гейзэр.

— Магчыма. Няхай-жа пырсткі яго разьлятаюцца далёка навакола...

Пасьля гэтай гутаркі з Анікеем Рыгор пашоў да Паўла Памыйкі. Той растрывожаным вяртаўся да сябе, калі яго Рыгор нагнаў у калідоры готэлю.

— Еду, Павал, з табою.

— Надумаў?—няўверана запытаў той.

— А мо‘ сытуацыя зьмянілася?—выпрабаваў Рыгор таварыша, чуючы сухасьць у яго запытаньні.

— Го, не... Праходзь у пакой... Я меў досыць няпрыемную гутарку ў міністэрстве шляхоў. Погань—толькі нэрвы псуюць... Каб ведаў—нізашто не пашоў-бы...

— Плюй, калі на гутарцы кончыцца,—падбадзёрыў Рыгор.

— Ды я ўжо ня раз гэта зрабіў... Я, ведаеш, чуць на большае не рашыўся. Ужо кулак сьвярбеў па крэтыністай скроні начальніка стала... але, зараза, адчуў і зьнік... Ёсьць весткі, што дзесяты атрад пераехаў далей на ўсход,—дакончыў Павал крыху спакайней.

— А што вырашыў ехаць, то не памылішся,—ня даўшы замоўкнуць папярэднім сваім словам, працягнуў ён гутарку далей.

— Доўга думаў... радзіўся... Шкада Пецярбургу... Але расьце цяга адведаць Беларусь... Можа чым колечы згаджуся ёй у гэтыя скрутныя гадзіны... Можа... Еду, Павал...

— Рыхтуйся на нядзелю.

— Хоць зараз... Мне ня трэба куфэркаў пакаваць. Стаю—еду... Адно-б, рупіць...

— Што?

— Не разьмінуцца-б з мацерай... Старая зьбіраецца ў бежанцы—куды-ж ёй накіраваць, як не да сына? Прыедзе, а тут...

— Так, думай... Усё-ткі маці... Хоць можа ў гэтым і хаваецца крыху сантымэнтальнасьці, але то з погляду няпрытомных і наскрозь фальшывых людзей... Я...

— Еду, Павал... Радзь, што трэба мець з сабою...

— Білет, на першае, а там—што ўпадабаецца...

— Не бяз гэтага-ж...

— У нядзелю, тады, у дзесяць гадзін раніцы будзь на вакзале... Або ня стрэнемся, хіба? Я ўжо свае справы амаль-што ўладзіў...

Умовіўшыся наконт паездкі, яны доўгі час правялі ў гутарках на іншыя тэмы і ўжо зусім на змроку вышлі з готэлю.

На вуліцы яны сустрэлі вялікі натаўп маніфэстуючай публікі. Крыкі „ура!“, напевы царскага гімну чуліся ў розных мясцох вуліцы.

— У чым справа?—абярнуўся Павал да першага стрэчнага.

Але не пасьпеў той адказаць, як на іх наскочыў газэтчык і расьпеўна прагукаў:

— „Італія абвясьціла вайну Кайзэру“. „Капут нямчуры“. „Напружаныя бойкі на расійска-аўстрыяцкім фронце“.

Рыгор купіў газэту і яны ўдваіх запоем прачыталі выдзеленае буйнымі літарамі паведамленьне пра далучэньне Італіі да вайны.

— Яшчэ не лягчэй,—уголас незадаволена выказаўся Павал.

— Што вы сказалі?—прагудзела ў іх над вушмі.

То запытаў незаўважна падышоўшы да іх здаравенны, з доўгімі жоўтымі бакенбардамі і голенай барадою, шырока-твары і плюскатаносы палкоўнік.

— А вам якое дзела да таго?—задзёрыста адазваўся Рыгор.

— Тэўтонскія агенты!—яшчэ вышэйшай нотай вылаяўся палкоўнік.

— Мясаедаў...

Хлынуўшая на іх чарада людзей адціснула палкоўніка болей сажня ўправа. Рыгор з Паўлам павярнулі ў бок Неўскага, кірункам з разрэдзеным хвастом маніфэстантаў.

На Неўскім наглядаўся той-жа падвышаны настрой. Весткі з Італіі скланяліся на ўсе лады, служачы тэмаю для агульных гутарак. Па тэй непамерна разьдзьмутай радасьці, якая ахапіла задзёрыстую патрыотычна-гардлівую буржуазію і ваеншчыну, можна было судзіць, якое глыбокае нявер'е ды безнадзейнасьць справодзілі зацягнутую вайну.

— Няхай цяпер панатужыцца Вільгельм!—разьліваючы па тлустым чырвоным твары сытую ўхмылку, цешыўся якісьці таўсьцяк зазіраючы Паўлу ўвочы.

— Так, ёсьць чаго тужыцца,—адказаў Павал.

— А вось калі Амэрыка жахне—тады...

Яны абагналі няпрошанага размоўніка і перайшлі на другі бок проспэкту.

Непадалёку ад іх віднелася спынка трамваю. Павал раптам хапіўся за галаву.

— Ага! Я зусім забыў, што яшчэ мне трэба зайсьці па даручэньню дзелавода працы ў рэдакцыю газэты „Рѣчь“.—Ты пачакаеш?

Рыгор спыніўся.

— Я думаю адпраўляцца на кватэру. Трэба перагаварыць з гаспадыняю. Для яе будзе зьнянацкам мой ад'езд...

Павал пачакаў, пакуль Рыгор сеў на трамвай і пашоў кірункам да вуліцы Жукоўскага. Ён ужо падыходзіў да дому, над брамаю якога вісела шыльда—Друкарня „Слова“, як успомніў, што забыў парадзіць Рыгору купіць высокія рускія боты. Але, завярнуўшы ў дзьверы, парашыў, што яшчэ на гэта хопіць часу і заспакоіўся. Гэта было другарадным—Паўла здавальняла Рыгорава згода паехаць з ім разам у дарожны атрад. Толькі-б ня было замінкі з боку дзелавода. Магчыма...

Павал узяўся за ручку дзьвярэй, якія вялі ў рэдакцыю „Рѣчь“, а ў думках вярнуўся да Рыгора...

У гэты момант Рыгор таксама стаяў перад дзьвярыма ў сваю кватэру, чакаючы пакуль Сарафіна Хлёраўна іх адамкне. Гаспадыня ўпусьціла Рыгора тады, калі Павал заварочваў у пакой загадчыка провінцыяльнага жыцьця.

— Што ў вас новага, Рыгор Міхасевіч?—рупліва і гасьцінна запытала Сарафіна Хлёраўна.

— Розныя навіны!

Гаспадыня настаражылася, зрабіўшы на твары міну зусім нявыразную—ці ў ёй выказвалася цікавасьць да навін, ці любаваньне падсуседам.

— Якія-ж, цікава, Рыгор Міхасевіч?

— Першая—гэта Італія абвясьціла немцам вайну...

— Ой-жа! Як добра, што, нарэшце, паганым немцам прыдзе капут... Кабета злажыла рукі так, як багародзіца на іконе „Благавешчаньне“.

— Ну, то агульныя, але, вось, вашы, то справы, вашы...

— Дзякую, Сарафіна Хлёраўна... Ідуць...

— Ідуць. Пара п ацаваць, Рыгор Міхасевіч...

Яна правяла Рыгора да яго пакою.

— Вярней—едуць, Сарафіна Хлёраўна, едуць...

Ён прайшоў у пакой і пакінуў адчыненымі дзьверы. Гаспадыня стала ў іх, як поп у царскіх дзьвярах і напружана чакала далейшага паведамленьня ад Рыгора.

— Я павінен вас, Сарафіна Хлёраўна, пакінуць. І буду прасіць, каб вы зрабілі падрахункі...

— Што вы кажаце?!

Гаспадыня, мэрам збаяўшыся гэтага, азірнулася на калідор і крыху прычыніла дзьверы.

— Так нечакана?

— Нечакана, Сарафіна Хлёраўна...

— Назусім паедзеце з Пецярбургу?

— Не спадзяюся, каб не вярнуцца. А таму і вас прасіцьму паглядзець за ўсім тым, чаго я не магу з сабою ўзяць... Усё здараецца і... гара з гарою ня сходзіцца...

— А чалавек з чалавекам заўсёды... Шкада мне вас, Рыгор Міхасевіч... І вы далёка едзеце?

— Ня блізка.

— Гм...

Яна моўчкі пастаяла яшчэ хвілін з дзесяць і з апушчанаю галавою павярнула з дзьвярэй.

Рыгор зачыніў дзьверы, абавёў узрокам свой пакой і рашуча сам сабе праказаў:

— У нядзелю ў дзесяць!

## X

— Пішэце, Рыгор Міхасевіч, пішэце, прашу вас,—стоячы ў адчыненым на двор акне, прасіла Рыгора яго гаспадыня.

Ён яшчэ раз зьняў ёй капялюш і з куфэркам у руцэ, а пакункам у другой—павярнуў у браму.

Сарафіна Хлёраўна махала белаю хусьцінкаю і ня зводзіла вачэй, пакуль Рыгор вышаў на вуліцу і схаваўся за брамаю.

Ціхая шырокая вуліца выглядала сьвяточна. Наўсьцяж яе можна было бачыць лічаных пешаходаў. Але ўжо дзесьці ўправа ад дачы Сарафіны

Скрынкінай чулася фортэп'янная музыка. Яскравай сонечнай раніцай, пад распуканымі дрэвамі садоў і палісаднікаў, мілагучныя зыкі якойсьці незнаёмае арыі навявалі асалоду і казыталі Рыгорава нутро. Ці не праціяг гэта тае музыкі, якая вітала год таму назад яго прыезд у Пецярбург? Калі-б яна мела здатнасьць уплывовасьці на людзкі лёс—то была-б добрая адзнака. Рыгор не паскардзіцца на пражыты ў Пецярбурзе час. Яго жыцьцё дапамінала музыку, але не перабояў і вібрацый струн, а кіпеньня пачуцьцяў ды натхненьня, як водгуку законаў людзкога змаганьня за шчасьлівае, адпаведнае чалавеку існаваньне. Гэта музыка яго жыцьця і зараз не астыла, не здала свае напружанасьці, а толькі мяняе варыяцыю.

— Рамізьнік!

Заглядзеўшыся на каняку, якая нядбайна выводзіла яго з népаточнае вуліцы, лахматы чалавек на каламашцы руплва затузаў лейцамі. Каняка заварушылася, натужылася і пабегла да Рыгора.

— На Царскасельскі вакзал!

— Паўтара рубля.

— Рубель?

— Што вы, гэткая далячыня! Падбаўце-э...

— Яшчэ дваццаць капеек?

Рыгор намерыўся ісьці далей, але яго прыпыніў чыйсьці вокліч. Ён азірнуўся і ўзгледзеў маленькага чалавека з Беларускага бежанскага камітэту.

— Выбачайце, я па адным пытаньні да вас,—вітаючыся, праказаў ён да Рыгора.

— Але вы сьпяшаецеся недзе?

— Так, я зараз еду на вакзал, а там...

— Далёка?

— У Беларусь, па справах...

— На працу?

— Так...

— Цікава, вельмі цікава, гм... Толькі, бачыце, час такі, што там зусім небясьпечна...

— Давайце едам!—перабіў рамізьнік, зьвяртаючыся да Рыгора.

— Сядайце, калі па дарозе,—запрапанаваў Рыгор маленькаму чалавеку

— Як вам сказаць... я-та ня ў той бок, але... рад вас правесьці да Каменнаастроўскага.

Яны ўселіся і рамізьнік з выклічам замахаў над абабітаю, прывычнаю да пугі, канякаю.

— Цікава... Мне так хочацца туды, так цягне, што, здаецца, кінуў-бы ўсё і хоць на гадзіну-другую... Віленшчына, узгоркі, малады лясок, зьмяістыя ручайкі па мурожных паплавох. Сваё, блізкае і мілае... Толькі— нельга. Вайна. Ты туды,—а тысячы адтуль. Бяда, бачыце, страшылішча...

Яшчэ нямаведама, як будзе праз лета. Магчыма—зруйнуюць край дашчэнту. Вайна ўсё далей заблытваецца...

Рыгор слухаў суседа і раз-по-разу адцягаўся вачыма на мігаўшыя побач гароды, масты, будынкі заводаў.

Вось знаёмы паркан, вароты, ды сумны, цёмна-чырвоны фон такарных і сьлясарных майстэрняў, у якіх ён працаваў каля году. Нядзеля—і за парканам ціха. Між жалезнае брамы таўчэцца сторож, а наводаль—гарадавік. Перакідаюцца словамі, жартуюць.

— Бывай!

Маланкаю праносяцца важнейшыя, больш выразныя моманты, зьвязаныя з працаю на заводзе. Памер майстэрні, цёмныя запыленыя вокны. Трансмісіі, раменьні, варштаты. Скрыпучы і бразгучы кран за біламі, над сярэдзінай будынку, непадзеленаю на паверхі. Дзесяткі знаёмых твараў. Позы пры рабоце. Майстар і задумлёны, агідны і праціўны ваенны-контролёр, палкоўнік.

Мінулае.

— Прагналі з заводу—вось з гэтага самага і павінен пакідаць Пецярбург, паведаміў Рыгор маленькаму чалавеку, ткнуўшы пальцам у бок заводу.

— Прагналі? Баставалі, пэўна, ці за іншае што?

— Так, за забастоўку ў Першае Травеня.

— Вось на іх ліха, падумаць!..

Еду, а магчыма маці едзе сюды... Крыжуюцца дарогі, так і гэтак, уздоўжкі і ўператоч. Адны сюды, іншыя ў другі бок, некаторыя ўгору, другія ўніз... Ага!.. якраз дарэчы, што я з вамі стрэўся... Так... Я буду вас шчыра прасіць, калі толькі, часамі, мая маці трапіць у камітэт—дайце мне знаць, а яе прытулеце на нейкі час. Старая згіне адна. Добра?

— Го, чаму не! Хто-б мог адмовіцца... А вы не ў сваю дарогу?—запытаў маленькі чалавек.

— Не. Маё будучае месца перасунулася за Менск. Я перш разьлічваў заглянуць у сваё мястэчка, а зараз... Ды ў мяне з адміністрацыяй ня ўсё гладка.

— Ага-а!

Маленькі чалавек адвярнуўся ў бок шырока разьлёгшае Неўкі, праз якую яны праяжджалі. Цёмная вада адбівала яскравыя ранішнія праменьні сонца.

— Шкада, бачыце, што нам ня прышлося далей разам працаваць. Я вельмі быў абрадаваны вашаму знаёмству. Сабе думаю—сяды-тады пасобіце ў камітэцкай справе. Вы-ж малады і энэргіі—во!—У нас так мала сьвядомых людзей. Вось і зараз—я знарок заехаў да вас, каб разам адправіцца на іпадром і паглядзець на адведзены камітэту кавалак зямлі. Ажно вы едзеце, гм...

— Даводзіцца... Я-б і сам рад быў памагчы, але ўмовы злажыліся інача... Можа стацца...

Маленькі чалавек хапіў Рыгора за руку і моцна яе пацісьнуў:

— Дык едзьце здаровы! Жадаю вам усяго найлепшага. Пішэце, што чуваць у нашым краі, пішэце...

— Рамізьнік, на хвілінку спыніся!

Маленькі чалавек зьлез, не даехаўшы да вызначанага месца і яшчэ раз выказаў цёплае пажаданьне Рыгору.

Рыгор падзякаваў і загадаў рамізьніку шпарчэй ехаць. Але каняку цяжка было ўзьбірацца на гарбіну Троіцкага мосту. Прытупленыя падковы коўзалі па гладкаму, высьлізганаму тарцу. І дарма ў паветры выкручвала розныя фігуры рамізьніцкая пуга! Каняка на гарбіну мосту ішла дробным, няроўным трухам. Затое Рыгору знаходзілася магчымасьць яшчэ раз абласкаць узрокамі разгорнутую веліч цудоўнага вобразу Нявы, Петрапаўлаўскае крэпасьці, Узьбярэжнае, Біржы, унівэрсытэцкіх будынкаў і Астральныя колёны—направа, і летні сад, палацы мэдыцынскае акадэміі, разьбег Нявы з Неўкаю, Ліцейны мост і нязьлічаныя трубы Выбарскіх ды Охтэнскіх заводаў—налева. Гэта хараство паўночнае Пальміры прыкоўвала да сябе ягоную ўвагу і ўплывала на яго настрой маладым задзёрам. У заглядзеньні ён не заўважыў, як каняка апынулася пасярэдзіне мосту і ад тузаніны лейцамі—шпарка панеслася да Марсавага поля.

Тым-жа тэмпам яны праехалі і дарогу да вакзалу.

Рыгор паглядзеў на гадзіньнік. Яшчэ заставалася дваццаць восем хвілін да адходу цягніка. Але ў гэты тэрмін уваходзіла знайсьці Паўла Памыйку і, магчыма, калі той не пасьпеў гэтага, купіць білеты.

Адпусьціўшы рамізьніка, Рыгор ускоранай хадою накіраваў да правых дзьвярэй вакзалу. Ён вёртка абмінаў сустрэчных і моўчкі ўвільваў ад назойлівых насільшчыкаў.

Разглядаючы па бакох, ён ужо быў на ўсходах на другі паверх, калі з першае клясы насустрач яму выбегла Ліба. Белая касынка пракалола яго нутро нечаканай радасьцю.

— Нарэшце!—праказала сястра, разьняўшы стройныя рукі:—а мы чакаем, а мы трывожыліся.

— А білеты... Вы з Паўлам?

— Так, ён чакае вас.

— Пэўна, яшчэ няпозна.

— Ды ўжо садзяцца.

Ліба выхапіла з Рыгоравых рук пакунак і яны сьпешна ўбеглі ў перапоўненую людзьмі залю-пачакальню. Павал іх пільнаваў і ня даў заходзіць у натаўп, павярнуўшы да выхаду.

— Вось вашы білеты; Лібе пэронны.

Прайшоўшы на зацемнены шкляным навесам пэрон, Павал панёс у вагон рэчы, а Рыгор з Лібаю засталіся пры вагоне.

— Вы ведаеце, Рыгор, і я надумала ехаць. Паеду на фронт—болей у шпіталі не хачу заставацца. Мяне замучаць раненыя. Не хачу, нечым сапсьці...

— А на фронце, вы думаеце, лепей будзе?

— Я ўжо думала многа. З таго часу, як рассталася з вамі, ня маю супакою. Цягне кудысьці і толькі. Можа на фронце... але ўсё-ткі там, побач з мукамі, будзеш бачыць і чыннасьць, якая...

— Дарма, Ліба... Вы няправільна мяркуеце...

— Няхай—іначай нельга.

— Ваша воля... Дык калі-ж загадаеце прысьці вас сустракаць?

— Скора... Паведамлю, зразумела.

Між іх мігнулася трое салдат, уподбежкі шмыгнуўшы ў „іх“ вагон. З усходцаў адзін з салдат зацікаўлена паглядзеў на Рыгора і зьлёгку засьмяяўся. Рыгора гэта заінтрыгавала, але ён нічым не пасьпеў рэагаваць, бо тут-жа выскачыў з вагона Павал.

— Без дзесяці хвілін. Месцы выпалі пры акне.

— З добрымі суседзямі?

— Пагодзімся...

Яны няўверана прайшлі сажаняў два наперад, пасьля вярнуліся назад на старое месца.

У вагоне пачуўся ўзмоцнены гоман.

— Пойдам займаць месцы. Бывайце-э, Ліба Шлёмаўна! Не ўспамінайце-э ліхам...

Ліба з сумам на твары разьвіталася з абодвума і адышлася ў бок з гэткім намерам, каб бачыць, як яны будуць ад'яжджаць.

У цёмным акне вагона мігаліся людзі, але ні Рыгора, ні Паўла ня відаць было.

„Няўжо не паглядзяць?“...

— Царскі, царскі!—вылецела з дзесяткаў вуснаў наўкола Лібы.

І яна ўгледзела, як раптам гуляўшая на пэроне публіка пазгушчалася між сцэпак вагонаў, пільна гледзячы ўбок царскага пэрону. У надышоўшай маўчанцы выразна чуліся распарадчыя выгукі і наглядалася мігатня людзкіх постацяй за малочным шклом сьценкі. Лібу прыціснулі да ўсходцаў вагона. Але яна ў момант выскаўзнула з натоўпу і апынулася перад адчыненым акном вагона. Каля яго стаялі поруч Рыгор з Паўлам і старанна маталі ў бок Лібы разгорнутымі хусьцінкамі.

На фоне Лібінай касынкі аднакава выдзяляліся і паружавеўшы дзяўчынін твар, і чырвоны крыж.

„Шчасьлівае дарогі, шчасьлівае дарогі“—шапталі яе раскрытыя губы, зложаныя ў маленькае, чулае сэрца.

# АРХАНГЕЛЫ З КРЭСАЎ [1])

**В. Сташэўскі**

## АКТ III

АСОБЫ:

| | |
|---|---|
| Юзэфа | Булавінскі |
| Аркадзь | Заўзенты |
| Мікісь | Белавудка |
| Уладзік | Паляндвіца—высокі здаравенны асаднік |

### Карціна першая

*Адбываецца перад домам Булавінскага, ззаду саду.*

Юзэфа *(выцірае самавар і напявае мотыў, пасьля падымаецца і гукае ў процілеглы бок ад хаты).* Ігнась, Ігнась. *(Націск на І).* Як загоніш гусі, дык злаві каторага гусака. Зарэжам аднаго!

Голас *(за сцэнаю, далекавата).* Каго? Гусака?

Юзэфа. Гусака!

Голас. А мо' гуску? Гусакоў і так мала.

Юзэфа. Я табе задам гуску! Гусака зарэжам. *(Ізноў бярэцца выціраць самавар і пачынае напяваць, пасьля зноў да Ігнася).* Ігнась! чуеш ты! скажы Янку, каб зьняў клетку з сырамі. *(Мацней).* Клетку з сырамі, а то за яго галавою, дык і яшчэ адну здымуць. *(Сьпяваючы пачынае паласкаць збанок, наліла вады, спаласнула і лінула ў бок вугла хаты. У гэты час з-за вугла выскачыў Заўзенты і ўся вада папала яму на галаву).*

Юзэфа. Вой, міленькія, траха не абліла.

Заўзенты *(выціраючыся).* Гэта, па-вашаму, называецца траха! Ну, што-ж гэта вы нарабілі?

Юзэфа *(чуць стрымліваючы сьмех).* А я і сама ня ведаю!

Заўзенты. І сама ня ведаю! Выліла на чалавека цабэрак вады—і сама ня ведаю. Толькі, пшапрашам, ад мужыка і можна чакаць гэтага!

Юзэфа *(сур'ёзна).* Што?

Заўзенты. Тое самае!

Юзэфа. Ад мужыка? Бачыш ты, якога панства панаганяла сюды... Ой, мала на цябе памыяў!

---

[1]) Гл. „Полымя" № 5.

Заўзенты *(выціраючы шыю)*. Ну, ну, будзьце асьцярожны, будзьце асьцярожны!

Юзэфа. Асьцярожны... што я прасіла вас, каб вы падстаўлялі сваю галаву? Трэ' было як і заўсёды праз парадныя дзьверы ісьці.

Заўзенты. Я пастукаў,—ніхто не адчыніў, дык кудою-ж я ўвайду? Праз страху ці што?

Юзэфа. Не адчынілі, бо нікога няма.

Заўзенты. Як? Пан-жа павінен быць.

Юзэфа. Калі ты яму загадаў, дык пэўна павінен. *(Пашла ў дом)*.

Заўзенты *(уздыхнуў)*. Як гэта чалавек можа жартаваць у такі зусім нежартаўлівы момант? *(Адцягвае на сябе адзежу і прапускае ваду, якая засталася за пазухаю, пасьля трапеча нагою)*. Якое хамства— льле на чалавека ваду, усёроўна як у якую памыйніцу. *(Падыходзіць бліжэй да дзьвярэй)*. Пачакай, галубка. Я табе падзякую за гэта, гэта табе так ня ўвойдзецца! *(Паварочваецца сьпіною да дзьвярэй, нагінаецца, падцягвае боты і мармыча)*. Я табе падстрою штуку, толькі, каб як схаваць гэта ад пана. *(У гэты час з пустым вядром вышла Юзэфа, замахнулася на яго, забразгала вядром і як крыкне)*.

Юзэфа. Сьцеражыся! *(Заўзенты, адразу рынуўшыся, упаў, закрычаў, зноў усхапіўся, адбегся ды пацепаецца, Юзэфа аж кладзецца ад сьмеху)*.

Заўзенты. На яе ліха, як шрапнельлю разарвалася над галавою.

Юзэфа. Ха-ха-ха! Ну, і храбрэц, пан Заўзенты!

Заўзенты. Выскаляецца яшчэ, хвабрэц... а чорт вам будзе верыць, ад вас, пані, усяго можна спадзявацца, такую ўжо натуру маеце!

Юзэфа. Натуру? Ну, ідзі лепш, пакуль я яшчэ не паказала свае натуры.

Заўзенты. Выбачайце, я мушу чакаць пана. Я яму патрэбен нават ня менш, чым некаторыя іншыя.

Юзэфа. Вунь пан пашоў у сьвірань.

Заўзенты *(глянуў)*. Але, ён! О, дзякуй богу. *(Пашоў. У гэты-ж бок пашла і Юзэфа з вядром па ваду. Нейкі момант на сцэне нікога няма. Потым з-за дому выходзяць Аркадзь, Мікісь, Уладзік. Паперадзе Аркадзь, за ім—Мікісь з палкаю і Ўладзік)*.

Мікісь. Пачакайце, хлопцы, чаго нам адразу ўсім ісьці? Ты, Аркадзь, схадзі адзін, а мо' няма яго, дык чаго-ж нам усім перціся?

Аркадзь. Пойдзем усе, чаго тут!..

Уладзік. Але, пойдзем!

Мікісь. Ціха, я вам кажу, так будзе спрытней. Няхай Аркадзь пагаворыць з Юзэфаю, намацае...

Аркадзь. Ды кінь ты!

Мікісь. Ды ні яе, а намацаць гэтага, як яго, як яно і што, з якога боку дзьме і наогул, а мы пачакаем тут. *(Мікісь і Ўладзік зьнікаюць за вуглом, Аркадзь ідзе далей. Ён заглядае ў вокны. У гэты час*

*пачуўся голас Юзэфы, яна засьпявала. Аркадзь хутка павярнуўся, падымае галаву, глядзіць у той бок, адкуль чуваць голас).*

Мікісь *(высунуўшы галаву).* Аркадзь, трымайся, ідзе! *(Аркадзь махнуў на яго рукою. Мікісь схаваўся).*

*(З вядром ідзе Юзэфа).*

Юзефа *(спынілася пасярод сцэны).* Вой! Хто гэта? Аркадзь?

Аркадзь. Я.

Юзэфа *(паставіла вядро ля дзьвярэй, выцершы аб хвартух руку).* Як гэта ты? *(Вітаецца).*

Аркадзь. Так, прышлося.

Юзэфа. Прышлося. І ня сорамна табе, га? *(Хапае яго за рукі).*

Аркадзь. Пачакай, тут-жа ўбачаць, тады-ж я прапаў.

Юзэфа. Хадзі сюды! *(Энэргічна хапіла яго за руку і яны падышлі да дзьвярэй).* Ня бойся, за бэзам нічога ня відаць, а ў доме нікога няма. Ну, што ты гэта? Я-ж цяпер з радасьці задушу цябе! *(Хапае і цалуе).*

Мікісь *(высунуў галаву).* Во папаўся хлопец!

Аркадзь. Ну, кінь ты, Юзэфа, нельга-ж так кусацца.

Юзэфа. Каб памятаў! Я чатыры вечары хадзіла пад ліпу ў сад, а цябе ня было. Эх, і злосьць-жа мяне брала!

Аркадзь. Ну, ей-богу, ніяк ня мог, паверыш.

Юзэфа. Чаму не, трэба-ж было каму-небудзь з Гэлькаю гуляць, праўда?

Аркадзь. Кінь ты, Юзэфа, якое цяпер гуляньне? Сёньня ходзім яшчэ па вуліцы, па волі, а заўтра нізашто ў дэфэнзыву зграбуць.

Юзэфа. Чаму ты так думаеш?

Аркадзь. Вось-жа і зараз пазваў нас пан, а што ён думае рабіць з намі—невядома.

Юзэфа. З кім? З табою? Нічога ён з табою ня зробіць, я нікому ня дам цябе.

Аркадзь. Ну, ну, пабачым, як яно будзе.

Юзэфа. Аркадзь, сёньня я хачу цябе бачыць, мы сёньня спаткаемся пад ліпаю, добра? Добра, Аркадзь?

Аркадзь. Ня ведаю!

Юзэфа. Не, не, ты прыдзеш!

Аркадзь. Невядома яшчэ, што засьпявае нам пан Булавінскі.

Юзэфа. Каму-ж гэта нам?

Аркадзь. Ды я тут не адзін, там за домам хлопцы.

Юзэфа. Дзе, тут?

Аркадзь. Але.

Юзэфа. Я іх паклічу. *(Цішэй).* Дык пабачымся, Аркадзь?

Аркадзь. Ну, добра!

Ю з э ф а. Нам добра будзе ўдваіх, Аркадзь! *(Юзэфа пашла і заве хлапцоў).*

Ю з э ф а. Хадзеце сюды, чаго-ж вы там спыніліся? Хадзеце!

*(Выходзяць Мікісь і Ўладзік).*

Ю з э ф а. А, і Мікісь тут!

М і к і с ь *(здымае шапку праваю рукою, робіць гэст у правы бок, пасьля перадае шапку ў левую руку, робіць гэст леваю рукой, а праву́ю падае Юзэфе).* Добры дзень, ці мо' і вечар пані Юзэфа! *(Асьцярожненька трасе яе руку).* Як здароўечка, як жысьць ваша?

Ю з э ф а *(жартуючы).* Дзякую, як ваша, пане Мікісь?

М і к і с ь. Мая? Ха-ха, ні храна! *(Юзэфа вітаецца з Уладзікам. Мікісь да Аркадзя).* Во як, браце. Гэта ўсёроўна, што ў паноў—пардон, Ха-ха-ха!

А р к а д з ь. Пачакай ты, ня сьмейся!

Ю з э ф а. Чаму ня сьмейся? А што-ж, плакаць павінен?

М і к і с ь. Але-ж у вас і кветак панасаджвана, розных сартоў, ёсьць такія, што я іх ніколі і ня бачыў. Уладзік кажа, што тут усё па большай часьці хрызанцемы.

У л а д з і к. Няпраўда, я гэтага ніколі не казаў, бо я такога слова ніколі ня чуў.

Ю з э ф а. У мяне тут розныя ёсьць. Хочаце, я вам нарву? *(Хоча ісьці).*

А р к а д з ь. Не, што вы, пачакайце!

Ю з э ф а. Чаму? Хваціць!

А р к а д з ь. Ня ў гэтым справа, вунь, здаецца, ідзе сюды пан.

Ю з э ф а. Ідзе ўжо? *(Глянула).* Ага, ідзе, ну, добра, другім разам. Гэта-ж ён, мусіць, пра тую нядзельку будзе гаварыць з вамі. Гэты-ж руды таго-ж дня прыбег і данёс. Я хацела яго тады чапляёю пачаставаць.

М і к і с ь. Ай, добра было-б.

Ю з э ф а. Ён такі і дачакаецца. Сёньня ён наляцеў на памыі.

А р к а д з ь. А ён тут?

Ю з э ф а. А вось толькі перад вамі пашоў да пана, а то тут усё выціраўся. Я папаласкала збанок і вылівала ваду, а ён—тыц з-за вугла, так і пашло за каўнер.

М і к і с ь. Ха-ха! Трэ' было выліць цэлы цэбар.

Ю з э ф а. Будзе яму яшчэ і цэбар! Ну, дык панясу-ж я ваду! *(Бярэ вядро і ідзе ў дом).*

А р к а д з ь *(паглядаючы то на хлапцоў, то ў той бок, адкуль ідзе пан).* Ідзе! Трымай сябе, Мікісь, больш сур'ёзна і менш трашчы. Я скажу, што трэ' будзе.

Мікісь. Калі ласка, ахвотна мне з ім вельмі гаварыць, каб яму так жыць хацелася, як мне хочацца з ім гаварыць. *(Да Ўладзіка).* Праўда, Уладзік?

Уладзік. Праўда, браце!

Аркадзь. Ну, ціха!

*(Уваходзіць Булавінскі).*

Булавінскі. Ага, гэта вы?
Аркадзь. Добры вечар, пане!
Мікісь. Пахвалены Езус!
Уладзік. Дзень добра, пане!
*Усе разам*

Булавінскі. Гэта вы там у нядзелю... маеце, гэтага, сходку рабілі? *(Юзэфа час ад часу выглядае ў акно).*

Аркадзь. Сходкі ніякае мы, пане, не рабілі.

Булавінскі. Ну, ну, кіньце, так гаварыць я вам ня раю. Я, маеце, гэтага ня люблю. Я вас паклікаў не дзеля таго, каб судзіць ці караць, я, маеце, паклікаў вас, ну, як сваіх суседзяў... Але, так, як сваіх суседзяў, каб так, шчыра, маеце, сумленна пагутарыць з вамі. Можа вас хто зьбівае?

Аркадзь. Нас ніхто ня зьбівае і не саб'е.

Булавінскі. Пачакай, пачакай! Што ты адказваеш за ўсіх? Цябе ня зьбівае, дык мо' яго *(паказвае на Мікіся)* ці яго *(паказвае на Ўладзіка)* зьбівае хто.

Мікісь. Мяне? Ды я яму, каторы паспрабуе зьбіваць, ня ведаю што, а Ўладзік - ручаюся: павыбіваў-бы таму зубы.

Уладзя. А што-ж, паглядзеў-бы я на яго? *(Ззаду, за дрэвамі, паціхеньку прайшоў у бок дому Заўзенты).*

Булавінскі *(скрывіўшыся).* Ну, добра, пачакайце з гэтымі, маеце, зубамі. Чаму вы ў той дзень павялі туды на паплавы, пад лес пасьціць коні, а не на процерабы?

Аркадзь. Ці-ж гэта нам першы раз там пасьвіць коні! Вы-ж самі, пане, бачылі ўперад, як мы там пасьвілі.

Булавінскі. Бачыў... што я, маеце, сумысьля хадзіў глядзець, як вы там пасяце коняй?

Аркадзь. Мы-ж ня кажам, што сумысьля, а так, праездам, маглі заўважыць.

Булавінскі. Ну, і скажэце мне—вы заўсёды пасучы там коні чыталі газэту?

Аркадзь. Якую газэту?

Мікісь. Якую?

Булавінскі. О, гэта вы цікава, маеце, запыталі: якую газэту. Розныя бываюць, праўда?

Аркадзь. Дык вядома, што розныя—і польскія, і беларускія, скажам.

Мікісь. Ї японскія, і нават турэцкія, во!

Булавінскі. Так, так, праўду кажаш—і турэцкія, а мо' чуў, ёсьць яшчэ, кажуць, нейкія савецкія...

Мікісь. Не, пра такія ня чуў.

Булавінскі. Ня чуў? А бачыш ты... а мо' пра бальшавіцкія чуў?

Мікісь. Бальшавіцкія? А гэта там, недзе ў бальшавікоў, пане?

Булавінскі. Ага, у бальшавікоў, ды вухналёўскіх, маеце, хлапцоў.

Аркадзь. Шкода, што пан Булавінскі верыць розным плёткам.

Булавінскі *(пачынае нэрвавацца)*. Плёткам?! А што, калі пан Булавінскі, маеце, пакажа вам тую бальшавіцкую газэту, якую вы ўсе чыталі?

Аркадзь. Я ня чытаў.

Мікісь. І я ніколі ня чытаў.

Уладзік. А я і ня ўмею чытаць.

Булавінскі *(крычыць)*. Даволі! Пакепліваць вы можаце адзін з аднаго. *(Пачаў хадзіць, дразьнячы іх)*. Ня чытаў, ня ўмею!.. Я, маеце, думаў размаўляць з вамі, як з людзьмі, а вы мне хочаце замазаць вочы? Ня раю вам гэтага рабіць! Газэтка ў мяне, маеце, у камодзе. Я пакульшто нікому не паказваю, бо я маю на ўвазе, што мы будзем гаварыць з вамі як свае людзі, а не як ворагі. Што, вы мо' скажаце, што ня бачылі Пііпа?

Аркадзь. Піліпа мы бачылі, гэтага мы не адмаўляем.

Булавінскі. Ну, а ад газэткі адмаўляецеся?

Аркадзь. А прычым-жа мы, калі ў яго і была якая газэтка?!

Булавінскі. Ні якая, а „Савецкая Беларусь“, якая навучае, як рэзаць, паліць, нішчыць, маеце, людзкое дабро і веру.

Мікісь. Пра гэта, дык мы першы раз чуем.

Булавінскі. Брэшаце! Пра гэта вы даўно чулі, дзеля гэтага вы і зьбіраліся па лясох. Ну, што-ж, падпалеце мяне, няхай згарыць мой хлеў ці гумно, няхай пагараць каровы, дык што-ж, вы разбагацееце, тады вы панамі паробіцеся?

Аркадзь. Ды навошта гэта, пане, нам падпальваць вас? Навошта такія думкі?

Мікісь. І пра панства, пане... навошта нам яно? Хапае гэтага і бяз нас.

Булавінскі. А чаму, скажэце, Піліп у бандытах?

Аркадзь. Хто-ж яго ведае, так здарылася.

Булавінскі. Ага, так здарылася, значыць, можа ўсё здарыцца. Вось што, мае суседзі: пра гэтую сходку вашу ў лесе будзем маўчаць.

Аркадзь. Ды якая-ж тут, пане, сходка?

Булавінскі. Ну, ня будзь залішне разумным! Я вам ня вораг. Толькі адна ўмова: памагчы нашай уладзе злавіць таго бандыта. Тады ваш аўторытэт уздымецца на належную вышыню.

Мікісь. Ой, цяжка, панок, увабраць! Я і тады пры спатканьні ў лесе думаў аб гэтым, не паглядзеў-бы, што ён добры хлопец, э-э добры стралок і ўсё такое.

Булавінскі. Так, я ведаю, што ён ходзіць увесь абвешаны бомбамі, што ён, каб ня корч, мог-бы забіць пана Заўзентага і каго-небудзь з вас.

Мікісь *(паглядаючы на Аркадзя)*. Ага, так, калі смальнуў, пане, дык усё закруцілася, а ён у гэты час і ўцёк.

Булавінскі. Але, яго трэба злавіць! Вы павінны памагчы, гэта мая вам суседзкая парада. Як гэта зрабіць—абмяркуйцеся самі, але ваша дапамога павінна быць. І наогул раю вам прыглядацца, часам, бывае сям-там прашмыгне вечарком якая-небудзь падазроная асоба. Пастарайцеся неадкладна паведаміць мяне, а калі мажліва—затрымоўваць такіх. Я магу дакляраваць вам пэўную падзяку. Вось і ўсё. Дабранац. *(Пашоў у дом)*.

Аркадзь. Дзякуем, пане!

Мікісь. Дзякуем! *(Пауза)*. Ён нас падзякуе! Аддай сваю падзяку сабакам.

Аркадзь. Ну, ціха ты! Пойдзем!

Мікісь. Калі я не магу... *(Адыходзяць)*. Раскажу Піліпу, ён пакажа, як лавіць яго, сам прыдзе. Праўда, Уладзя?

Уладзік. О, будзе гарачыня! *(З-за вугла дому выходзіць Заўзенты, ён выцірае хустачкаю лоб, шыю. Спаткаліся)*.

Заўзенты. Добры вечар! Душна нейк на дварэ.

Мікісь. Вось Уладзік і кажа, што заўтра гарачыня будзе.

Заўзенты. Так, так, а мо' нават і гром.

Мікісь. Можа быць, добра кажаце, і гром.

Аркадзь. Ну, пойдзем, даволі табе...

Мікісь. Пачакай, дай паглядзець на гэту хрызанцему.

Заўзенты *(круціцца)*. Пшапрашам, ня ведаю аб чым ідзе гутарка.

Мікісь. Хе-хе-хе, ну, і хрукт! *(Пашлі)*.

Заўзенты. Бачыце, якая ў чалавека адвага—называць мяне нейкім хруктам. Ну, пачакай-жа ты, я цябе ўбяру, паспытаеш ты хруктаў, паспытаеш!

Карціна другая.

*Альтанка (бяседка). Асаднікі: Паляндвіца, Белавудка, Заўзенты і шляхціц Булавінскі. На століку закуска, выпіўка.*

Булавінскі. Я заўсёды казаў і кажу тое, што казаў мне адзін паважаны разумны чалавек, чалавек, які ўсім сэрцам адданы справе нашэй Жэчы Паспалітай. Э-э-э, маеце... кожны чалавек... не, ня так, каб кожны адданы поляк... Так, так, каб кожны, маеце, адданы шляхціц, поляк уважліва сачыў за кожным мужыком-беларусінам, дык мы ня мелі-б той няпрыемнасьці, якую яны нам робяць. Занадта многа яны маюць вольнасьці, а астрогаў не хапае.

Паляндвіца. Як гэта, каб у нашай дзяржаве не хапіла астрогаў?

Белавудка. А што-ж тут такога, запоўнілі ўсе—і цесна.

Паляндвіца. Паціснуць!

Белавудка. Цiснулi.

Паляндвiца. Яшчэ пацiснуць!

Белавудка. Пацiснулi яшчэ, так што сьцены трашчаць, ня ўлазяць. Тады што?

Заўзенты. Збудаваць, пане, такую, каб даць выгаду тым, хто мае сядзець. А то яны бадзяюцца па лесе, ды забойствам займаюцца.

Паляндвiца. Збудаваць такую, каб, прыкладна, у Стоўбцах пачыналася, а ў Беластоку канчалася, во! За гэта i вып'ем!

Булавiнскi. Ага, я не запрашаю выпiць, але вы самi не марудзьце.

Белавудка. Мы, пане, нiколi не марудзiлi. Белавудка нiколi... *(Заўважыў, што Заўзенты хоча адыйсьцi).* А ты куды?

Паляндвiца. Што, ня хочаш выпiць за маю iдэю?

Заўзенты. Браце, гэта ня толькi твая iдэя, гэта i мая iдэя i ўсёй нашай дзяржавы.

Паляндвiца. Значыць, пi!

Заўзенты *(выцiраючы хустачкаю шыю).* Я зараз, я адвiнуся на адну толькi хвiлiнку.

Белавудка. Ага, ён ня хоча. Вось вам, панове, патрыотызм пана Заўзентага. *(Да Заўзентага).* Можаце ня пiць!

Заўзенты. Не, выбачайце, выбачайце, я ўвесь адданы справе нашай айчыны. Маё жыцьцё належыць ёй. *(Бярэ чарку).* Я п'ю. *(Выпiў залпам i закашляўся, потым вышаў).*

Белавудка. Называецца выпiў!

Булавiнскi. Бывае, часам, крышку няўдача.

Паляндвiца. У мяне ня бывае, асаблiва калi я п'ю за якую-небудзь вялiкую iдэю. *(Чыста выпiў).*

Булавiнскi. Гэта-ж трэба, маеце, мець такую адвагу—яго шукаюць, а ён сабе спакойна падыходзiць да сваёй вёскi, нясе бальшавiцкую газэтку i, маеце, пропагандуе.

Паляндвiца. Гэта вы пра каго, пра Пiлiпа?

Булавiнскi. Але, пра яго. Ды не адзiн ён, Пiлiп, такi. Яны ўсе такiя, хто набраўся гэтага нячыстага духу. I скажаце—колькi ўжо iх зьлiквiдавалi, здаецца ўсю Грамаду счысьцiлi, а спакою няма.

Белавудка. Ага, чулi, я i забыўся: па дарозе ў Садкi, у лесе знайшлi прыбiтыя на дрэвах вось такiя лiсточкi. *(Дастае i дае Булавiнскаму).* Напiсана, пане, коратка, але даволi выразна, рукою пад друк.

Булавiнскi *(чытае. Прачытаўшы).* Так, коратка, але выразна: душэце, зьнiшчайце паноў i асаднiкаў, падпальвайце iх...

Паляндвiца. Як? I асаднiкаў? Гэта значыць i нас?

Булавiнскi. Так, як бачыце i вас.

Паляндвiца. Ну выбачайце, я такi самы селянiн, як i ўсе. Ды i вы таксама, якое тут у вас вельмi панаваньне на гэтым фальварку?

Булавiнскi. Я не раўняюся сваёю маемасьцю, скажам, маеце, да пана Лiпiнскага, да графа Пшэзьдзецкага, да князя Радзiвiлла, але я

высока паважаю іх слаўны шляхетны род і, маеце, іх высокія польскія ідэалы. І я, і вы, і ўсе мы, адданыя справе нашай Жэчы Паспалітай, павінны, маеце, мець гэтыя ідэалы.

Белавудка. Бясспрэчна, а як-жа можа быць іначай?

Булавінскі. Але вось чытаеш, вось такую рэч і неяк, маеце, думаеш: якая, маеце, супярэчнасьць—мы будуем дзяржаву, мы ахоўваем яе спакой, мы прымушаны змагацца з імі каб мець пэўны парадак, гэта-ж так натуральна, а яны ідуць супроць гэтага, ім хочацца паліць, рэзаць. Я не разумею, тут недзе нейкае, маеце, закранцэньне.

Белавудка. Такая, пане, на сьвеце політыка.

Паляндвіца. З-за гэтай політыкі дык і бой ідзе. А я ня люблю ніякае політыкі. Я супроць політыкі ваяваў і буду ваяваць, ага, і яшчэ жыдоў біць...

Булавінскі. Вы маеце на ўвазе бальшавіцкую політыку?

Паляндвіца. Ну, так, бальшавіцкую, а якая-ж яшчэ можа быць другая?

Булавінскі. Якая другая? Ну, наша.

Паляндвіца. Дык у нас ёсьць політыка?

Булавінскі. Кожная дзяржава мае сваю політыку.

Паляндвіца. Значыць, па-вашаму выходзіць, што кожная дзяржава мае сваіх бальшавікоў і сваю рэволюцыю?

Булавінскі. Мажліва, што ў кожнай дзяржаве вы знойдзеце бальшавікоў, гэта іх, бальшавіцкая політыка, але ў кожнай дзяржаве ёсьць людзі і якія ня хочуць, каб была гэтая бальшавіцкая політыка. А гэта і ёсьць супроцьбальшавіцкая політыка.

Паляндвіца. Пачакайце, я вып'ю. *(П'е)*. Па-мойму, дык вы, пане, нешта блытаеце. Я вось служыў у Горадзенскай турме і ведаю, што ёсьць, скажам, крымінальнікі і політыкі, а політыкі—гэта значыць бальшавікі.

Булавінскі. Ну, так, так.

Белавудка. Адкрыў Амэрыку. Ха-ха-ха! У турме ёсьць крымінальнікі і політыкі. Ха-ха-ха!

Паляндвіца *(дражніць)*. Ха-ха-ха! Выскаліўся! Я правільна кажу: політыка, гэта—бальшавікі, а па-вашаму, політыка адно, а-а-а бальшавікі—гэта нешта другое?

Белавудка. Вох-ха-ха-ха!

Булавінскі. Скажэце, у вас, маеце, ёсьць якая-небудзь політыка?

Паляндвіца. У мяне? Ніякае.

Булавінскі. Я мысьлю, што вы супроць рэволюцыі?

Паляндвіца. Ну, так.

Булавінскі. Ну, і добра.

Белавудка. Ён, ведаеце, абсолютна не разуме, што ест такое політыка?

Паляндвіца. А хто гэта вельмі ўжо разумее, ці ня пан Белавудка толькі?

Белавудка. Так, Белавудка, мусіць, крыху больш ведае, чым пан Паляндвіца.

Паляндвіца. А адкуль гэта такога розуму пан набраўся?

Белавудка. У вас, здаецца, не прасіў.

Булавінскі. Ну, гэта ўжо, маеце, ня інтэрас. Супакойцеся!

Паляндвіца. Бачыш ты яго, выскачыў знайка!

Булавінскі. Пане Паляндвіца, прашу супакоіцца. Не дзеля гэтага я паклікаў вас да сябе.

Паляндвіца. Ды я да яго нічога ня маю.

Белавудка. Я таксама да цябе нічога ня маю.

Булавінскі. Ну, і добра, проша выпіць яшчэ па кілішку.

Белавудка. Я толькі маю зазначыць колегу Паляндвіцы, што ён, як былы жолнеж і чалавек, які жыве тут на Крэсах, павінен-бы больш спрытна орыентавацца наогул, ну, і ў політыцы таксама.

Паляндвіца *(плюнуў)*. Цьфу! Зноў пра політыку. І што-ж па-твойму гэта такое політыка?

Белавудка *(да Булавінскага)*. Ну, вось бачыце, ён злуецца. Я вам дам простае і яснае тлумачэньне. *(Крыху начупырыўся)*. Політыка—яна бывае даволі, як-бы табе сказаць... даволі тонкая... Так, кожны, разумееш... *(Пстрыкае пальцамі, успамінае)*. Ага! Кожны дыплёмат павінен ведаць францускую мову... Бывае, што зьяжджаюцца ў Жэнэве, скажам... *(Да Булавінскага)*. Так, здаецца?

Булавінскі. Ну, і ў Жэнэве, і ў іншых гарадох.

Белавудка. Прыяжджаюць з усяго, разумееш, сьвету. І бываюць, я сказаў-бы, цікавыя пікантныя моманты... А там, глядзіш, каго-небудзь заб'юць, тады значыць ноты, скажам, нота Чычэрына і г. д. Адным словам, політыка надзвычайна цікавая рэч і, вядома, у некалькіх так словах не дасі поўнага эфэкту. Як-небудзь другім разам я табе больш шырока растлумачу. Я яшчэ раз скажу—мы жывем тут сярод беларусінаў, нашых ворагаў і таму трэба ведаць політыку.

Паляндвіца. Во, гэта ты правільна сказаў, нам трэба ведаць, дзе яна водзіцца гэта політыка і паведамляць дзеля зьніштажэньня яе.

Булавінскі. Вось вы сказалі, што мы жывем сярод беларусінаў.

Белавудка. Так, так.

Булавінскі. Ну, вось бачыце, першае, што трэба нам усім запамятаваць, што хоць тут і беларусіны жывуць, але край гэты мы не павінны называць беларускім, бо гэта зямля спрадвеку належыла, і, маеце, мусіць належыць Польшчы. Яна на Ўсходзе Польшчы і таму, маеце, яна ёсьць, звычайныя, маеце, Крэсы Ўсходнія. Ну, а далей на Ўсход самі, панове, ведаеце што.

Белавудка. Бальшавічкі!

Булавінскі. Занадта, пане, мякка кажаце.

Паляндвіца. Гэта і я скажу!

Булавінскі. Там—анцыхрыст. Ён падняў свой меч і хоча прарвацца ў царства культуры, ён хоча разбурыць усё тое, што вякамі ства-

ралі нашы, маеце, продкі, захапіць касьцёлы і *(трагічна)* адабраць у нас, маеце, веру ў пана Езуса Хрыстуса.

Паляндвіца. Гэта хто, усё анцыхрыст?

Булавінскі. Так, ён.

Белавудка. Гэта ўсё комуністыя...

Булавінскі. Так, яны.

Паляндвіца. Ну, дык хіба гэта будзе па маёй сьмерці.

Булавінскі. О, гэтага яны дамагаюцца зараз, а вас, пшапрашам, як яны завуць, асаднікаў, дык яны даўно хацелі-б пасекчы, маеце, сабакам на біфштэксы.

Паляндвіца. Што? Мяне сабакам? Выбачайце, пане, гэта я чую першы раз.

Белавудка. Дык што-ж, хіба мы ня ведаем дарогі на Менск, Барысаў, Воршу? Пане Булавінскі, няўжо вы думаеце, што былыя жолнежы забыліся пра гэтую дарогу? Жолнеж Паляндвіца, ты забыўся?

Паляндвіца. Я? Як ішоў на Менск-Барысаў памятаю добра, а як ужо назад на Варшаву, дык добра не памятаю. Ага, толькі памятаю, як адрэзваў жыдом барады, ха-ха-ха! Вось была фацэція!

Булавінскі. Панове, чакайце, станьце тут! *(Паляндвіца і Белавудка становяцца абапал з чаркамі. У гэты момант падбягае, выціраючы хустачкаю шыю, Заўзенты).*

Белавудка. Панове!

Заўзенты. Прашу прабачэньня, я ў момант зьвярнуўся. Былі ў мяне, ведаеце, сякія-такія патрэбы агульнага інтарэсу. Тымчасам я...

Паляндвіца *(камандуе)*. Бачнасьць! *(Заўзенты і Булавінскі спужана страпянуліся).*

Булавінскі *(глянуўшы на Паляндвіцу і Белавудку)*. Э-э, так, так. Дык вось я і кажу, маеце, як і казаў: на Ўсходзе стаіць анцыхрыст з паднятым вострым мячом, на нашу, маеце айчыну. Наш абавязак, абавязак кожнага шляхетнага поляка з Крэсаў і асабліва, маеце, былога жолнежа, узяць меч архангела. *(Белавудка і Паляндвіца вышэй паднялі чаркі, а Заўзенты, выцершы хустачкаю лоб, скамячыў яе ў кулаку і зрабіў такі гэст, нібы ён трымае ў руках меч).* Як, маеце, архангел ахоўвае сьвятое месца ў небе, так і мы тут мусім ахоўваць нашу айчыну. Вось, што я лічыў патрэбным вам сказаць, панове!

Белавудка. Віват, віват!

Заўзенты. Вельмі слушне, вельмі слушне.

Паляндвіца. Гэтак сама гаварыў пробаршч у касьцеле, я чуў раз, ну, якраз так.

Булавінскі. Можа вы хочаце сказаць—пра гэтае самае гаварыў пробаршч?

Паляндвіца. Ну, дык я-ж так і кажу.

Булавінскі. Мне вельмі, маеце, прыемна, што ў нас з айцом духоўным аднолькавыя думкі і жаданьні.

Заўзенты. У нас таксама, пане, далучэце і нашыя думкі, пане, я магу сказаць за ўсіх. *(Булавінскі адвінуўся да століка, Паляндвіца таксама).*

Белавудка *(перабівае, крыху хістаючыся).* Ня можаце вы гаварыць за ўсіх.

Заўзенты. А я думаю, што магу, бо я выказваю добрыя думкі.

Белавудка. Няма ў вас добрых думак і быць ня можа.

Заўзенты. А чаму вы гэта так думаеце?

Белавудка. Я і думаць не хачу, бо гэта так ясна.

Заўзенты. Я не разумею.

Белавудка. Ага, вось бачыце, вы не разумееце, дык як-жа вы можаце гаварыць за ўсіх ды яшчэ выказаць добрую думку? Усё-ж такі дзеля гэтага патрэбна мець галаву.

Заўзенты. А-а па-вашаму выходзіць, што ў мяне яе няма?

Белавудка. Так, няма.

Заўзенты. Няма.

Белавудка. Няма! *(Пашоў да століка).*

Заўзенты *(памацаў лоб, адвёў руку).* Не, я прашу вас, пане, давесьці гэта, бо я яшчэ гэтага ніколі ня чуў. Я таксама жолнеж!

Паляндвіца. Жолнеж, дык ідзі выпі.

Заўзенты *(адвярнуўшыся ад іх нэрвова дастае папяросьніцу і дзьмухае ў яе).*

Белавудка. Ды ня кліч яго, ён-жа і выпіць ня можа.

Заўзенты. У такой кампаніі мне ня вельмі ахвотна...

Белавудка *(гістэрычна).* Чулі, чулі, што ён сказаў?!

Заўзенты. Пшапрашам, я ня меў на ўвазе пана з Паляндвіцай.

Белавудка. Можа вы робіце гонар кампаніі, што знаходзіцеся тут?

Заўзенты *(падбегшы да Булавінскага).* Я прашу ня прыняць мае словы да сябе.

Булавінскі. Давайце ня будзем рабіць, маеце, інцыдэнту, бо яшчэ ёсьць справы.

Заўзенты. Так, так.

Белавудка. Прабачайце, мяне дзівіць такая непавага да саміх сябе. Вы можаце прымаць абразу, а я, Белавудка, ніколі! Раз вы на яго баку, я магу пакінуць кампанію!

Булавінскі. Чакайце, чакайце!

Паляндвіца. Хто расстройвае кампанію?

Заўзенты *(крыху спуджана).* Браце, я ня ведаю... Я-ж нічога, няхай будзе ўсё добра.

Белавудка. А-га-га, бачыце!..

Булавінскі. Я прашу заспакоіцца, панове, бо яшчэ ня вырашана самая важная справа.

Паляндвіца. І я скажу, чалавек запрасіў, дык трэба-ж і выпіць, і закусіць.

Булавінскі. Я, маеце, панове, не сказаў вам яшчэ ўсяго таго, наконт чаго і паклікаў вас.

Заўзенты. Калі ласка, трэба з прыемнасьцю паслухаць.

Булавінскі. Мне здаецца, што нам, маеце, нельга быць спакойнымі, пакуль гэты бандыта Піліп знаходзіцца тут недзе блізка. Трэба нешта рабіць, каб яго злавіць.

Заўзенты *(задаволена)*. Э-э, так, так, пан мае вялікую рацыю.

Паляндвіца *(крыкнуў)*. Не перабіваць! *(Булавінскі, Заўзенты ўздрыгануліся)*.

Булавінскі *(скрывіўшыся)*. Пачакайце, пачакайце, крычыць быццам фэдфэбэль ідучы, маеце, у гэтае самае... у атаку.

Паляндвіца. А я тры месяцы замяшчаў фэдфэбэля.

Булавінскі. Ну, добра, добра. І вось усё, што мажліва, я раблю, вы таксама, але пакуль-што мы яго не знайшлі. Тут я крыху націснуў на мужычкоў, ды баюся так адкрыта націскаць. Вам трэба крыху прыглядзецца да маладзейшых і нават да старэйшых.

Заўзенты. Я, пане, ня сплю.

Белавудка *(падсьміхаючыся з Заўзентага)*. Я ня сплю і страляю варон.

Заўзэнты. Я ня раіў-бы пану Белавудку так жартаваць.

Белавудка *(горача)*. Які тут жарт? Сустрэўся з бандытам, дык і стрэльбу ўпусьціў!

Паляндвіца. Гы-гы!

Булавінскі *(раззлаваўшыся)*. Панове, вы дасьце мне дагаварыць? Шэфу павятовае паліцыі вядома гісторыя з панам Заўзентым у лесе, я, маеце, мысьлю, што ён возьмецца за гэту справу як се належыць. Я прасіў яго паведаміць мяне лістом наконт таго, як і што нам рабіць у такім выпадку, бо ведаеце, я, напрыклад, я, маеце, не магу спакойна спаць.

*(Зьяўляецца Юзэфа)*.

Юзэфа. Там прынёс чалавек ліст. І хоча аддаць ва ўласныя рукі.

Булавінскі. Што, ліст? Чакайце, можа адтуль. А ня ведаеш ад каго.

Юзэфа. Ды ад Аскеркі.

Булавінскі. Ад Аскеркі? Не пайду, няхай пачакае. Ён думае—мне цікавы яго лісты.

Юзэфа. Дык вы сабе ня чытайце, а чалавека-ж адпусьціць трэба.

Булавінскі. Ну, так. *(Пашоў)*.

Юзэфа *(да асаднікаў)*. Ну, што, набраліся?

Паляндвіца. Для мяне хапіла.

Юзэфа. Відаць, вось толькі пану Заўзентаму крыху замала. Нешта ён ня ў гумары.

Заўзенты. Дзякую за ўвагу, якраз у добрым гумары.

Белавудка. Мадам, прашу кілішак! *(Падносіць)*.

Паляндвіца. Правільна!

Белавудка. Са мною! *(Хістаючыся робіць рэвэранс).*

Юзэфа. З вамі? *(Гіронічна).* Не адважуся.

Белавудка. Будзьце сьмелы, я да вас проста.

Заўзенты *(у бок).* Дзякуючы богу, здаецца, што ён нарвецца.

Белавудка *(падносіць кілішак да яе губ).* Ну, раз!

Юзэфа. Прымеце чарку!

Белавудка. Прашу!

Юзэфа. Прымеце чарку!

Белавудка. Раз!

Юзэфа *(выбівае кілішак).* Два!

Заўзенты *(задаволена).* Ага, так, так, так, зарабіў!

Белавудка *(спачатку нібы нахмурыўся, а пасьля).* Ха-ха-ха! А мне гэта падабаецца. Ха-ха-ха! *(Хістаючыся ступіў крок і схваціў яе за талію).* Тры!

Юзэфа *(піхнула яго).* Чатыры! *(Белавудка паляцеў і зусім упаў-бы, але Паляндвіца яго падтрымаў Юзэфа вышла).*

Заўзенты *(задаволена сьмяецца).* Ляпнуў з усіх чатырох. Ага, бог не памог!

Паляндвіца *(падняўшы Белавудку).* Во, браце, сіла, ледзьве табою ды мяне ня зьбіла.

Белавудка. Штэ-штэ, мяне? Не такіх я пры адступленьні клаў р-разуме-еце-е... Была такая, не давалася, а я ўзяў, я быў першым, а пасьля мяне чалавек... шаснаццаць... *(Дзіка сьмяецца).*

*(Зьяўляецца Булавінскі).*

Булавінскі. Панове, увага! Я маю цікавыя навіны. Вось, маеце, ліст ад пана Аскеркі. Ён тут піша... *(Разгортвае ліст).*

Заўзенты. Мусіць, мае прыехаць?

Булавінскі. Не, але мажліва. Ды што ён прыедзе—гэта мяне мала цікавіць. Ён тут піша. *(Чытае).* „Прашу прабачэньня за той вечар, я быў пад моцным кілішкам“. *(Гаворыць).* Ага, гэта гаворыць, маеце, яго шляхетнае сумленьне. *(Чытае).* „Прабачце і забудзьцеся“. *(Гаворыць).* Ну, што-ж, раз чалавек просіць прабачэньня, я, маеце, мушу прыняць просьбу, але вось, што ён піша далей. *(Чытае).* „Гэтымі днямі да мяне прыяжджае шэф павятовае паліцыі“. *(Гаворыць).* Ну, ён тут піша, чаму ён да яго прыяжджае, гэта, маеце, ня важна, але вось далей. *(Чытае).* „Абавязкова па аднэй справе будзе ў вас. Просіць перадаць прывітаньне“. Вось, вам, маеце.

Заўзенты. Сам шэф?!

Булавінскі. Як бачыце, ён напэўна запатрабуе дасканалых вестак аб усіх, маеце, бандытах.

Заўзенты. Цяпер мы не павінны цырымоніцца.

Булавінскі. Дазвольце мне скончыць сваю думку.

Заўзенты *(кланяючыся).* Пшапрашам, пане, пшапрашам!

Булавінскі. Невядома, калі ён прыедзе, але, як відаць, гэтымі днямі. Зараз-жа трэба, маеце, пакуль-што аб гэтым маўчаць і толькі ўважна і, маеце, тонка прыслухоўвацца і прыглядацца, нават добра было-бы праскочыць сям-там па лесе...

Заўзенты *(з замілаваньнем і прагнасьцю)*. Каб нам хоць аднаго якога-небудзь увабраць к гэтаму часу... Э-э, пшапрашам, пане!

Белавудка. Правільна, правільна! Заўзенты павінен злавіць Піліпа. Ха-ха-ха!

Заўзенты. Ой, які сьмех! Пасьмяяўся! Заўзенты ўсё робіць, што патрэбна нашай дзяржаве. Ня ведаю, што зрабіў пан Белавудка.

Булавінскі. Ну, панове, нельга-ж так...

Заўзенты. Я-ж нічога...

Белавудка. Няхай пан Заўзенты прыдзе да мяне. Я дам яму справаздачу.

Булавінскі. Ну, што вы...

Паляндвіца *(камандуе)*. Бачнасьць!

Булавінскі. Ой, чаго-ж яшчэ вы?

Паляндвіца. Я для парадку, пане, ды каб выпілі.

Булавінскі. Ага, так, можна па кілішку выпіць. *(Бяруць кілішкі)*.

Заўзенты. За прыезд шэфа!

Белавудка. І за рыцарскія паходы пана Заўзентага!

Заўзенты. Пасьмейцеся сабе, калі гэта так прыемна. *(Выпілі)*.

Паляндвіца. Эх, я вам скажу, уся гэта ўнутраная работа ў нас тут з палітыкаю з комуністымі, альбо, як мы кажам, з бандытамі, усё гэта ня зусім для майго нутра. Маё нутро любіць шырокі фронт! Усё-роўна, ці гэта наступленьне ці адступленьне. Наступаем. Забіраем якое-небудзь мястэчка, а там жыды. Ну, і пашла пісаць! Зойдзеш у хату, глянеш, поўзаюць па падлозе, просяцца. Ну, думаеш, чорт з вамі. Давай на карысьць нашага слаўнага войска польскага, скажам 100 руб. звонкаю монэтаю. Бывае, што спрачаецца, падымеш прыклад—усе бэбахі вытрасе,—усё аддае. А што? Каб комуністым заставалася? Ну, але наступаючы ня так, а вось пры адступленьні—тут ужо самі аддавалі ўсё. Ну, але-ж дзе яго падзенеш, калі за табою па пятах бальшавікі пруць. Тут мы злаўчыліся з адным, Антусь такі быў, адрэзваць бароды старым жыдом. Ну ўжо так злаўчыліся, што як толькі напаткаем, я падыходжу, бяру яго за бараду, а Антусь выцягвае шаблю. *(Паказвае рукамі)*. Шась-шась—і к чорту... Так мы, напэўна, барод 33 зьнялі.

Белавудка. Колькі?

Паляндвіца. Барод 33, ага—і адну запалкамі высмалілі.

Белавудка. А можа ты памыліўся, можа 3?

Паляндвіца. Але, тры, за каго ты мяне лічыш?

Белавудка. Глупствам займаўся. Адрэзаў-бы адну-дзьве для ўцехі—і ўсё. Па-мойму, у такіх выпадках бываюць больш цікавыя і, як кажуць пікантныя моманты. Напрыклад: ускакваеце вы ў хату, а тут прыгожая,

чорнавокая шаснаставачка, радню з хаты вон—і наступаеш. *(Раскідвае рукі і паказвае).* Яна туліца да сьцяны ці печы, хоча крычаць, а ёй рот р-раз—і на ложак. *(На твары дзікая ўсьмешка).* Або, скажам, наскочыш увечары ці ўночы, цапнеш ды ў лес! Але гэта доўгая процэдура, пакуль давязеш. Ну, а была адна пападзьдзя, тоўстая такая, дык тая сама расплылася. Чатыры чалавекі пашлі, а больш не захацелі.

Паляндвіца. Пакінулі, значыць, для папа.

Белавудка. Так яму.

Паляндвіца. Там мо‘ і на ўсю парахвію хопіць, ха-ха!

Белавудка *(са злосьцю).* А адна, сволач, прыгожая, бялявая жыдовачка, разумееце—бялявая жыдовачка! Маладзенькая, ну, проста кроў з малаком, ніяк не давалася, схапіла мяне рукамі за галаву, зубамі за горла і грызьці, я выхапіў з кабуры рэвольвэр і пусьціў ёй кулю ў жывот.

Булавінскі. Ат, пачалі пра што гаварыць, гэтага мне ня хочацца слухаць.—Лепей ня трэба такіх успамінаў. Можа мы на гэтым скончым сёньня, бо ўжо тымчасам...

Заўзенты. Я хацеў-бы яшчэ сказаць аб сабе, што са мною...

Булавінскі. Будзе ўжо...

Заўзенты. Таксама былі здарэньні. Я быў у абозе. Забіць, здаецца, нікога не забіў...

Булавінскі. Пакіньце, я ня буду слухаць. *(Адышоў у бок, каб паклікаць Юзэфу).*

Заўзенты *(сам сабе).* Эх колькі я вёз дабра, каб ня гэтыя праклятыя беларускія партызаны, дык хапіла-б з мяне на ўсё жыцьцё. Прышлося кінуць.

Булавінскі *(кліча).* Юзэфа! Юзэфа! Можна тут прыбраць! Ну, панове, вядома, што ў вас многа ўспамінаў, але на гэтым сёньня скончым. Будзьце ўважны да нашай справы крэсовай! *(Адыходзіць).*

Заўзенты. Так, так.

Паляндвіца. А як-жа, але-ж успамінаецца, асабліва адзін з доўгаю сівою барадою, а шабля была тупая, барада трашчыць...

Белавудка. А гэта прыгожая сволач мяне зубамі, я мусіў пусьціць ёй кулю... *(Гэтыя словы ён гаворыць адначасна з Паляндвіцай. Заўзенты, выходзячы за імі апошнім, спыніўся і спыняе Паляндвіцу).*

Заўзенты. Пачакай, пачакай на хвілінку!

Паляндвіца. А што?

Заўзенты. На адну хвілінку! *(Падыходзіць на авансцэну. У альтанку, няпрыкметна для іх, прышла Юзэфа і пачынае прыбіраць).*

Заўзенты. Нам трэба пастарацца...

Паляндвіца. Ну, так, пастарацца.

Заўзенты. А як?

Паляндвіца. А як?

Заўзенты. А вось як. Гэтыя хлопцы, Аркадзь і іншыя, яны напэўна маюць сувязь з гэтым галоўным бандытам Піліпам. Нам трэба пастарацца гэта давесьці, каб іх сцапаць. *(Юзэфа прыслухоўваецца).*

Паляндвіца. А як?

Заўзенты. Я думаю паспрабаваць так: пераадзецца, падфарбавацца і пайсьці вечарам. Перадаць ім катораму-небудзь некалькі лісточкаў проклямацый і сказаць, што ад Піліпа, гы-гы, ды можа запрасіць у лес на спатканьне і прыпільнаваць.

Паляндвіца. Гэта вельмі лоўка прыдумана, але каб не пазналі мяне па росту.

Заўзенты. Так, ты маеш рацыю. Тады з кім-жа мне?

Паляндвіца. Валі адзін, што там! А як з бародкаю? Зголіш?

Заўзенты *(гладзіць бародку).* Не, браце, шкада! Я пачарню яе, а пасьля-ж адмыю.

Паляндвіца. Правільна!

Заўзенты. Рэволюцыянэры-ж часта адпускаюць сабе бароды.

Паляндвіца. Правільна! *(Адыходзяць).*

Заўзенты *(задаволена хлопае яго па плячы).* Эх калі ўдасца!.. А нам трэба пастарацца... Прыяжджае шэф. *(Пашлі).*

Юзэфа *(глядзіць ім усьлед).* Вось што ты задумаў, руды сабака... хочаш усіх хлопцаў загнаць у турму, на хітрыкі ідзеш, пераадзявацца будзеш? Пачакай-жа, трасцу табе ўдасца гэта. Я-ж ня буду маўчаць, не!.. *(Пашла).*

*ЗАСЛОНА.*

---

## АКТ IV.

### АСОБЫ

Булавінскі
Юзэфа
Шубяртовіч — музыка.
Аркадзь
Мікісь
Уладзік
Заўзенты
Аскерка
Іква — агент паліцыі гадоў пад 40, нявысокага росту, з прыпаднятымі плячыма.
Яніна — яго жонка, высокая, ня зусім зграбная, бойкая, у абыходжаньні — вольная.
Музыкі.

*Адбываецца ў доме Булавінскага. Дэкарацыя 2-е дзеі з маленькімі зьменамі ў абстаноўцы, выгляд крыху чысьцейшы. На століку кветкі.*

Булавінскі *(глядзіцца ў люстэрка, якое стаіць на століку ці камодзе, папраўляе на сабе пінжак, гальштук).* Здаецца, так будзе добра. Выгляд нішто сабе, крышку цісьне гэты каўнерык, але нічога. *(Адвярнуўся ад люстэрка).* Ну, так. Ага тут нешта... *(Адварочваецца ад публікі і зашпільвае штаны).* Юзэфа, Юзэфа! Хадзі сюды. Гэтыя

музыкі пачынаюць псаваць мне нэрвы. Каторая пара, а яны і ня думаюць яшчэ ехаць *(прачыняе дзьверы)*. Юзэфа, зайдзі сюды!

*(Уваходзіць Юзэфа).*

Юзэфа. Ну, што тут яшчэ за няўпраўка?

Булавінскі. Што будзе з музыкамі?

Юзэфа. А ліха іх ведае. Я-ж сама хадзіла ў мястэчка, гаварыла з самым Шубяртовічам. Сказаў, што самым змрокам будзе з усёю сваёю капэляю.

Булавінскі. Добры змрок, калі на дварэ, здаецца, ужо зусім цёмна.

Юзэфа. Ну, яшчэ ня зусім, але-ж яны ня едуць.

Булавінскі. Таксама...

Юзэфа. Бяды вялікае, калі яны і ня прыедуць.

Булавінскі. Ну, гэта ня так. Яны прыедуць. Вось што, галубка, дай ты мне кілішак, маеце, якога небудзь сярэдняга віна, а то крышку нэрвовасьць...

Юзэфа. Добра! *(Пашла).*

Булавінскі *(глядзіць усьлед ёй, пацірае рукі).* Так, паглядзеўшы ззаду, дык здаецца, што яна неяк больш шляхетна пачынае выглядаць. *(Храбрыцца).* Эх, каб мне хоць гадкоў 20 назад. Закруціў-бы я яе *(паказвае)*, выгнуў-бы, перагнуў бы...

Юзэфа *(з бутэлькаю віна і бакалам).* Што гэта ты ўжо сам з сабою гаворыш?

Булавінскі. Я, я, Юзэфка, успамінаю... успамінаю ўсё такое добрае, прыемнае... *(Юзэфа налівае).* Можа і ты выпіла-б для настрою?

Юзэфа. Няхай, я ўжо і так настроена. Толькі ў цябе нейкі расстроены настрой.

Булавінскі. Кажаш, расстроены? Так, мажліва, крышку... Гэта заўсёды бывае, калі ўспамінаеш сёе-тое. *(Юзэфа пашла).* Трэба яшчэ адну выпіць для заспакаеньня. *(Налівае бакал, падымае ўверх, глядзіць на яго).* Дай божа, роду Булавінскіх жыць на многія лята! *(Падносіць і хоча выпіць: у гэты момант у расчыненыя дзьверы голас Юзэфы).*

Юзэфа. Едуць! *(Рукі ў Булавінскага затрэсьліся, ён паставіў бакал, схапіў бутэльку і ня ведае, дзе яе дзець).* Чаго цябе носіць? Музыкі едуць!

Булавінскі. Ну, вось, а ты не магла сказаць, што едуць музыкі, а я... я думаў, што гэта ўжо госьці.

Юзэфа. Ну, а калі і госьці, дык чаго-ж так пужацца? Ці можа надта яны важныя тузы, або вельмі страшныя?

Булавінскі. Не, нічога, маеце, страшнага, я-ж табе казаў—госьці з павету, але з імі будзе адна шляхетная дама і наогул такі чалавек, якога трэба прыняць як найлепей. Усё-такі да гэтае пары пра Булавінскага дрэнных чутак, маеце, ня чутно.

Юзэфа. Як дзе...

Булавінскі. Чаму? А можа дзе чула што?

Юзэфа. А калі-б і чула, дык што мне?

Булавінскі. Як гэта што табе? Няўжо-ж ты мне не сказала-б?

Юзэфа. Ды тут і няма чаго казаць. Вядома, што вёска нікога не падзякуе за тое, што яе ў астрог гоняць.

Булавінскі. Прычым тут, маеце, астрог? А калі хто сам сабе шукае нейкіх вострых здарэньняў, каб не сказаць вяроўкі, дык, вядома, што знойдзе. Хто іх прасіў закладаць Грамаду?

Юзэфа. Я гэтага ня ведаю, ці прасіў хто ці не, ці трэба прасіць, ці мо' і ня трэба.

Булавінскі. А я ведаю, я ўсё ведаю чым, маеце, пахне ад гэтых мужыкоў.

Юзэфа. Вось, калі ты ўсё ведаеш, скажы мне: калі арыштуюць гэтых апошніх хлапцоў з нашае вёскі?

Булавінскі. Э-э... якіх гэта?

Юзэфа. Ну, якіх-жа, адны-ж яны, здаецца, засталіся—Аркадзь і тыя, што з ім прыходзілі.

Булавінскі. А за што іх маюць арыштаваць?

Юзэфа. Табе-ж лепей гэта відаць.

Булавінскі *(крыху загарачыўшыся)*. Я не разумею... Што ў мяне—пастарунак?

Юзэфа. Я таксама не разумею.

Булавінскі. Дык чаму-ж ты пытаешся? Ты-ж бачыш, што я хачу, каб усё было спакойна. Я іх выклікаў, па-суседзку пагаварыў, параіў ім не набірацца гэтага беларускага бальшавіцкага духу, быць сумленнымі палякамі, быць патрыотамі нашае айчыны.

*(Зьяўляецца Шубяртовіч).*

Шубяртовіч *(пры апошніх словах Булавінскага прычыніў дзьверы, прасунуў галаву, пакланіўся раз, другі і пасьля)*. Пшапрашам пане!..

Булавінскі. Ага, пан Шубяртовіч!

Шубяртовіч *(ускочыў у пакой)*. Так, гэта я сам, гэта я сам. Пахвалёны Езус пану Булавінскаму і Хрыстус пані Юзэфе. *(На ім белы пыльнік, у руках чорны капялюш і парасон).*

Юзэфа. Пахвалёны! Ты вось позьнішся, а мне бяда. *(Падае яму руку і выходзіць).*

Булавінскі *(падыходзіць, падае руку)*. Ну, значыць прыехалі?

Шубяртовіч. Усе чыста, поўнаю капэляю: Авэль Клёц—на флейт (ці корнэт), Міхаль Клёц—на клярнэт, Рувэ Пікельсон—другая скрыпка, Саламон Блях—24 гады б'е ў барабан, ну, і я—першая скрыпка ў капэлі.

Булавінскі. Даўно ўжо, маеце, я чуў вашу музыку.

Шубяртовіч. Ну, я-ж ня вінават, так здарылася. Гэта будзе два гады таму назад, як мы ў вас тутігралі, ну, а на каляды, як я чуў, у вас тут іграў Мікіта.

Булавінскі. Так, але яго капэля мне не падабаецца, ну, а вы былі занятыя.

Шубяртовіч. Я вам скажу, пане Булавінскі, я сам сябе хваліць ня буду, але скажу, што Шубяртовіч можа быць спакойным—Мікіта яго ня толькі што не абгоніць, але і не дагоніць. І калі вы калядамі адлажылі-б свой баль на адну толькі пару сутак, мы-б ігралі ў вас.

Булавінскі. Ну, мы, маеце, загаварыліся, а тымчасам трэба быць гатовымі. Вядзеце музыкаў тудэю садам і проста на вэранду, там ужо стаіць лямпа і сьвечкі, і там вы будзеце іграць.

Шубяртовіч. Тут на вэрандзе? Слухаю! *(Выходзіць).*

Булавінскі. Музыка на месцы, значыць, можна сустракаць гасьцей. *(Прайшоў па пакоі, стаў, абвёў вачыма сьцены пакою і спыніўся на гярбе).* Здаецца, у нейкі бок ён пахілены. *(Падстаўляе крэсла, становіцца і папраўляе).* Вось так, маеце, ён павінен вісець, так. *(Злазіць з крэсла).*

*(Зьяўляецца Шубяртовіч).*

Шубяртовіч *(увайшоў з вэранды. Ён ужо скінуў сваю накідку, на ім стары чорны сурдут, на шыі высокі белы каўнерык, завязаны, рабенькі ў клетачку гальштук).* Праз адну мінуту можна будзе даць першы акорд. Што гэта—пан хоча зьняць карціну? Можа вам памагчы?

Булавінскі *(зьлез).* Не, гэта не карціна, гэта, як бачыце... ды вы, здаецца, бачылі—мой герб!

Шубяртовіч *(з павагаю).* Герб! Ага, гэта фамільны герб пачэснага роду паноў Булавінскіх! Цяпер я разумею. *(Закладае рукі назад і разглядае).*

Булавінскі. Простая, маеце, штука—булава.

Шубяртовіч. Ну, ня зусім, пане, простая, ня кожны такую простую штуку можа мець, ого-го!

Булавінскі. Маеце дубовы вянок і булава азначае сілу і моц роду.

Шубяртовіч. Дубовая булава, о, гэта вядома, што моцная.

Булавінскі. Адсюль, маеце, фамілія—Булавінскі.

Шубяртовіч. О, гэта вельмі цікава. У нас, у яўрэяў, як вам вядома, па большай часьці без гярбоў, але фаміліі бываюць розныя, ні то, што яны розныя, а тое, што бываюць такія фаміліі, што аб іх ніхто, нідзе, ніякага слова ня скажа. І ёсьць такія, што толькі вы пачуеце яе—і вы ўжо ўспамінаеце таго чалавека, но, можа быць, не яго, дык штонебудзь з яго. Скажам сабе—Рубінштэйн. Вы ўспамінаеце дзіўную музыку, яго сонату, квінтату, пахавальны марш Бэтховэна, мазурку Вэняўскага...

Булавінскі. Гэта цікава. Дык мо' віна паспрабуеце?

Шубяртовіч. Не магу адмовіцца.

Булавінскі *(налівае).* Дык проша!

Шубяртовіч. Ну, дык за здароўе пана! *(Выпіў).* Альбо, скажам узяць такія фаміліі, як Моцарт, Шубэрт—іх музыку...

Булавінскі. Апошняга як вы назвалі?

Шубяртовіч. Шубэрт.

Булавінскі. А гэты Шубэрт таксама выдатны музыка?

Шубяртовіч. О, гэта, слава богу! Кожны музыка хацеў-бы быць Шубэртам.

Булавінскі. Яго фамілія Шубэрт, а ваша—Шубяртовіч.

Шубяртовіч. Так, Шубяртовіч.

Булавінскі. Дык мо' ў вашай, маеце, крыві засталося што-небудзь ад гэтага самага Шубэрта?

Шубяртовіч. Я, не скажу, каб напэўна, але мажліва, што што-небудзь і засталося. Я, ведаеце, магу дзень ня есьці і такі гэта часта бывае, ну скажам, няма дробных, ці сёе-тое, бывае, што здараецца. Ну, але кожны дзень я павінен узяць скрыпку, адгарнуць ноты і зайграць і ня што-небудзь такое, а што-небудзь такое, што такі можна паслухаць.

*(Увайшла Юзэфа).*

Юзэфа. Зайгралі-б вы там крыху якую-небудзь вясёлую пакуль-што.

Шубяртовіч. Вясёлую? Вясёлую'мо крышку ранавата. Ну, а так можна даць пару нумароў з опэры ці з попурэй. *(Да музыкаў).* Падымеце інструмант і дайце гук! *(Музыкі пачынаюць прабаваць кожны свой інструмант, б'е і барабан).*

Юзэфа. Ну, і музыка!

Шубяртовіч *(задаволена пасьмейваецца).* Што, вы думаеце гэта ўжо музыка? Сапраўдная музыка пачнецца тады, калі я вазьму скрыпку. *(Ідзе на вэранду, бярэ скрыпку, усе змаўкаюць, пауза. Акорд. Барабан б'е тры разы. Зноў маленькая пауза).*

Булавінскі *(да Юзэфы).* О, чуеш! *(Капэля іграе якую-небудзь мэлёдыю. Юзэфа паслухала і пашла. Булавінскі пачакаўшы).*

Булавінскі. Пане Шубяртовіч.

Шубяртовіч *(са скрыпкаю ўбег у пакой).* Я вас слухаю, пане Булавінскі.

Булавінскі. Можа-б вы так, скарочана, зайгралі некалькі штучак, каб выбраць такія больш, маеце, цікавыя.

Шубяртовіч. Дам вам розных скарочаных нумароў. *(Выходзіць, капэля іграе).*

Булавінскі *(ківае галавою).* Нішто сабе! *(Музыкі выконваюць некалькі нумароў. Булавінскі робіць заўвагі).* Гэта так сабе, гэта вы зайграеце ў пачатку вячэры, гэта за вячэраю; гэтае занадта яўрэйскім аддае.

Шубяртовіч. Ну, скажэце, пане Булавінскі, як ваша агульная думка?

Булавінскі. Агульная? Добрая. Прынамсі, ня тое, што ў Мікіты.

Шубяртовіч. Я думаю! У прэшлую сыботу, мы ігралі ў Адаліне ў пана Квяткоўскага. Ну, дык як толькі мы прыехалі, нам адразу далі

павячэраць, а з дому мы выехалі, ну, так як сёньня: некаторыя крышку перакусілі, а некаторыя так сабе. Ну, а праца музыкі толькі здалёк здаецца лёгкая, а так усё-ткі яна чалавека зморвае. Напрыклад, Саламон Блях, каторы б'е ў барабан, дык ён пад'еўшы можа біць бесьперасьціханку, ну, мо' двое сутак, а калі галаднаваты, тады ў яго выходзіць вяла. *(Да Бляха, сур'ёзна).* Слухай, ты, Саламон! Ты не зьвяртай увагі на сябе і на свой жывот, грай як належыць!

Булавінскі. Ага, пачакайце крышку, я зараз. *(Вышаў).*

Блях. Перакусіць што-небудзь дасьць? Вячэра будзе?

Шубяртовіч. Наконт перакусіць я яму асьцярожна, тонка намякнуў. У, халеры на іх, на гэтых шляхтаў. Яму толькі каб іграў, а пакарміць, дык яму трэба намікваць.

*(Булавінскі, за ім Юзэфа з закускаю).*

Булавінскі. Ну вось, маеце перакусіць з большага.

Юзэфа *(нясе дзьве талеркі з закускамі на вэранду).* Хадзеце падвячэрайце! *(Да Булавінскага).* Дык мо' віна ці гарэлкі трэба было даць па якому кілішку?

Шубяртовіч. Я вам скажу: раней яўрэі ня любілі выпіваць, ды яшчэ, скажам, гарэлку, а цяпер кажуць—чым мацней, тым лепш. *(Пашоў на вэранду).*

Булавінскі *(да Юзэфы).* Па адным кілішку можна даць. *(Юзэфа пашла па гарэлку).*

Шубяртовіч *(да музыкаў).* Ну, хлопцы, каб у адзін момант пасуда была чыстая! *(Узяў бутэрброд і пачынае есьці. Да Булавінскага).* Калі хто-небудзь у вас тут сёньня будзе такі, што захоча патанцаваць фокстрот, дык проша заказваць! Мне нядаўна прыслаў з Варшавы мой добры знаёмы музыкант з Ілюзіёну, мы ўжо яго выўчылі і маем новы, сьвежанькі аргентынскі фокстрот.

*(Увайшла Юзэфа).*

Юзэфа. Мусіць, ня прыдзецца частаваць музыкаў, бо пад'ехалі госьці.

Булавінскі. Што? прыехалі?

Юзэфа. Ужо ля ганку.

Булавінскі. Дык чаму-ж ты маўчыш?! *(Забегаў).*

Юзэфа. Я-ж кажу, што прыехалі, вось трэба прыбраць. *(Прыбірае бутэльку з віном, з якое піў Булавінскі).*

Булавінскі. А чаму музыкі... *(Махае на Шубяртовіча).* Давайце, давайце!

*(Юзэфа пашла ў спальню).*

Шубяртовіч *(ускочыў у пакой, спуджана).* Што, пане?

Булавінскі. Давайце музыку! *(Выбягае сустракаць гасьцей).*

Шубяртовіч *(да музыкаў)*. Палажэце бутэрброды і бярэце інструманты. *(Вымае хустачку, закручвае свой бутэрброд і бяжыць на вэранду. Марш. Нейкі час на сцэне нікога няма. Са спальні ў новай блюзцы вышла Юзэфа).*

*(Зьяўляецца агент Іква).*

Іква *(расчыніліся дзьверы, ён хуткімі крокамі ўвайшоў і стаў па сярэдзіне пакою, глянуў у адзін бок, у другі, як-бы перад вобыскам і заўважыў Юзэфу)*. Пшапрашам, вы будзеце гаспадыня?

Юзэфа. Так, я гаспадыня.

Іква *(падыходзіць да яе. У гэты момант уваходзіць Яніна, Булавінскі, Аскерка)*. Вельмі рад пазнаёміцца—Канстанты Іква. *(Цалуе Юзэфе руку. Булавінскі выказвае некаторае незадаваленьне гэтым).*

Яніна. Я таксама маю гонар зазнаёміцца, Яніна. *(Вітаецца з Юзэфай).*

Булавінскі. Э-э... Так...

Юзэфа. Проша сядаць!

*(Выходзіць).*

Булавінскі. Выбачце мяне... э-э, гэта, маеце, як той казаў—гаспадыня, але ня ёсьць мая жонка.

Іква. Але, відаць, крэўная, бо такая сымпатычная і ўсё такое... Скажэце, пане Булавінскі, вы таксама паляўнічы, як і пан Аскерка?

Булавінскі. Я? Не асабліва, маеце, не асабліва.

Яніна. Канстанты, ты адразу пачынаеш аб сваім паляваньні. Можна-ж завесьці гутарку пра што-небудзь больш такое лібэральнае. *(Да Булавінскага)*. Скажэце, адкуль гэта ў вас іграе оркестра?

Булавінскі. А гэта, маеце, з мястэчка, капэля тут аднаго Шубяртовіча. *(Шубяртовіч паглядае з вэранды).*

Яніна. І яны могуць усе танцы іграць? *(Шубяртовіч адзін на скрыпцы зайграў пачатак фокстроту).*

Іква. А табе адразу танцы! Пачакай, яшчэ-ж няма з кім танцаваць.

Яніна. Я спадзяюся, што будуць і маладыя людзі?

Булавінскі. Так, я запрасіў, тут, маеце, з суседняга фальбарку двух, але, маеце, такое зграбнасьці да танцаў я не заўважаў. Я мысьліў, што з вамі больш прыедзе, як мяне паінформаваў пан Аскерка.

Яніна. Ах так? Што вы скажаце, пане Аскерка? Ды што гэта вы, пшапрашам, апусьцілі вушы? Едучы быў вясёлым і раптам—такая зьмена.

Аскерка. *(стараецца быць вясёлым)*. Што вы пані Яніна, я ў такім добрым настроі... і наогул... Праўда, я крышку вінаваты перад гаспадаром гэтага дому... разумееце, быў адзін выпадак...

Булавінскі. А, што там успамінаць! Прашу, маеце, быць ня толькі госьцем, а і гаспадаром.

Іква. Скажэце, у вас, здаецца, і рэчка тут ёсьць?

Булавінскі. Рэчка? Тут-жа за садам.

Яніна. Тут у вас, мусіць, прыгажэй, чым у пана Аскеркі?

Аскерка. Я з гэтым згодзен.

Іква. Дык-жа тут сапраўдная дача.

Яніна. Але-ж тут, мусіць, мала культурнага таварыства?

Булавінскі. Так, на жаль, маеце, прыходзіцца жыць сярод мужыкоў, ад якіх усяго можна чакаць.

Іква. А што, Беларускае Грамады ўжо няма?

Булавінскі. Пасадзілі з мае вёскі шэсьць чалавек, але баюся, маеце, што гэта ня ўсё, бо...

Яніна. Канстанты! Я хачу весела, прыемна правесьці час, а ты пачынаеш то пра паляваньне, то пра Грамаду...

Булавінскі. Выбачайце мяне, пані, праўду кажаце, мы лепш штонебудзь такое... ну, мо' запаліце, маеце, майго ўласнага вырабу. *(Ставіць пудэлак з тутуном і папяросы).* Проша, а для вас мо' заказаць што-небудзь музычнае?

Яніна. Так, мне музыку.

Булавінскі. Музыкі, дайце там, зайграйце! А я на адну, маеце, хвіліну. *(Вышаў. Музыкі выконваюць нейкую ціхую мэлёдыю. Усе закурваюць).*

Іква *(да Аскеркі).* Скажэце, хто-ж будзе гэта дамачка, з якою я тут вітаўся?

Аскерка. Гэта, як вам сказаць, крышку больш чым служанка і менш, чым жонка.

Яніна. Здаецца, што ў руку можна было і не цалаваць.

Іква. Як ваша думка, пане Аскерка?

Аскерка. Так, вы крышку памыліліся.

Яніна. А што, я так і адчувала! Ты ніяк ня можаш, каб ня сконфузіць мяне.

Іква. Адкуль чалавек можа ведаць? Стаіць яна ў поўным такім шляхетным выглядзе і кажа, што гаспадыня...

Аскерка. А яна праўду сказала—яна вядзе ўсю гаспадарку пана Булавінскага, і я жартую, калі кажу, што вы памыліліся. Вы зрабілі правільна.

Іква. Але-ж ці шляхетная яна?

Аскерка. І вельмі шляхетная.

Іква. Я так і прачуваў. *(Да Яніны).* А ты ўжо—конфуз, конфуз!.. Будзьце спакойны,—Канстанты Іква пад конфузам ня быў і ня будзе.

*(Зьяўляюцца Булавінскі і Юэзфа).*

*(Юэзфа ставіць на столік чатыры налітыя віном бакалы).*

Булавінскі. Прашу, дарагія госьці, успомніць, маеце, звычай маіх дарагіх продкаў—вып'ем, стоячы пасярэдзіне пакою. Чыста вып'ем у адзнаку чыстаты нашага сэрца, гэта значыць, маеце, гаспадара да гасьцей і гасьцей да гаспадара.

Іква. Па звычаю вашых продкаў?

Булавінскі. Так.

Іква. Добрыя звычаі былі ў вашых продкаў! *(Бярэ бакал).*

Яніна. Калі вашы продкі пашлі па вас, дык яны былі самымі шляхетнымі людзьмі. *(Бярэ бакал).*

Булавінскі *(запрашае).* Пане Аскерка!

Аскерка. Калі піць за чыстату сэрца, дык дайце мне шклянку чыстае—белае.

Булавінскі. Э-э мо' пакуль-што выпілі-б гэтага.

Аскерка. Я папрасіў-бы белага.

Булавінскі. Юзэфа, можна перамяніць пану Аскерку на белае. *(Юзэфа хоча браць паднос з бокаламі).*

Аскерка *(робіць гэст рукою).* Прабачайце, няхай стаіць. Налеце мне проста ў шклянку!

Юзэфа. Добра! *(Пашла).*

Булавінскі. За спакой на Крэсах, за Жэч Паспаліту.

Іква *(дадае).* Ад Гданску да Смаленску! *(Выпіваюць. Оркестра іграе туш).*

*(Уваходзіць Юзэфа).*

Юзэфа *(прыносіць на сподку амаль поўную шклянку гарэлкі, дае Аскерку).* Проша.

Аскерка *(бярэ шклянку, другою рукою бокал з віном і дае Юзэфе).* Проша! *(Булавінскі незадаволены).*

Юзэфа. Проша піць без мяне!

Аскерка. Я адзін ня буду піць, проша!

Юзэфа. Ну, што-ж, можам выпіць! *(Выпіла і пашла. Аскерка таксама з прагнасьцю выпіў усё. Оркестра гучней іграе туш).*

Яніна. Пане Аскерка, вы-ж можаце быць п'яным.

Аскерка. Вось гэта і добра!

Яніна. Ну, што вы, я вам не дазволю. Мы з вамі будзем танцаваць. А цяпер пойдзем у сад, пройдземся. *(Бярэ пад руку і яны ідуць).*

Булавінскі. Проша, там ёсьць альтанка.

Іква. І надоўга?

Яніна. Там будзе відаць.

Іква *(да Булавінскага).* Ну, што-ж, нічога не магу мецъ.

Булавінскі. Нічога, няхай пройдуцца! Я гэтым часам дам вам, маеце, некаторую інформацыю. *(Да музыкаў).* Іграйце там што-небудзь! *(Оркестра пачынае ціха іграць. Ён дастае са століка газэту „Савецкая Беларусь").*

Іква. Я вам буду вельмі ўдзячны.

Булавінскі. Гэта мой абавязак. Вось, маеце, сапраўдная, бальшавіцкая.

Іква *(чытае).* Савецкая Беларусь!

Булавінскі. І вось, бачыце, прастрэлена, калі гэты бандыт Пілiп трымаў яе ў сваіх руках.

Іква. Варона страляла!

Булавінскі. Не, маеце, чалавек даволі спрытны.—Заўзенты.

Іква. Заўзенты? Чуў пра яго, як самага стараннага на гэтым вучастку.

Булавінскі. Мне здаецца, пане, што лепей старацца як мы, я ня ведаю, ці мажліва.

Іква. Ну, а што гэтыя хлапцы, наглядаеце?

Булавінскі. Наглядаем. Я іх, маеце, па-суседзку крыху нагастрыў, абяцалі нават памагчы шукаць гэтага Пілiпа. Такі, маеце, мэтод, часам, можа даць і добрыя вынікі. А галоўнае, дык я вам вось пакажу адзін дакумэнцік... *(Дастае)*. І вось тут папробуй націснуць. *(Дае Ікве)*.

Іква *(чытае)*. Хлопцы не вінаваты, я сам прышоў да іх і прынёс газэту. Калі зачэпіш іх, спалашчу ня толькі тваю гаспадарку, а і цябе. *(Абурана)*. Якая нагласьць пісаць такі ліст!

Булавінскі. Дайце-ж рады!

Іква. Ён павінен быць у нашых руках!

*(Увайшла Юзэфа)*.

*(Булавінскі дае знак, каб спыніць гутарку. Змаўкаюць. Юзэфа вышла. Оркестра змоўкла)*.

Булавінскі *(злосна)*. Іграйце! Што вы, патаміліся? *(Оркестра іграе)*.

Іква. Пане Булавінскі, ён павінен быць у нашых руках.

Булавінскі. Ну так, але-ж каб ведаў, дзе ён знаходзіцца.

Іква. Заўтра выклічце нашых людзей, я з імі пагутару. *(Оркестра прыціхла, толькі чуваць солё на скрыпцы)*. Значыць, гэта асоба ў вашым доме ня зусім надзейны чалавек?

Булавінскі. Як вам сказаць... Я лічу, маеце, што асьцярожнасьць ня шкодзіць.

Іква. Так, гэта вы кажаце праўду. Ну, добра. Ага, шэф нашае павятовае паліцыі даручыў мне перадаць вам падзяку за ўсю вашу фатыгу і дапамогу нашай справе.

Булавінскі. Як кажаце, шэф? А вы-ж хіба ня шэф?

Іква. Я яго даручны агент.

Булавінскі. Вы агент? Чакайце, дык-жа мусіў быць сам шэф!

Іква. Так, але ён заняты і ня мог прыехаць.

Булавінскі. Ну, гэта, ведаеце, неяк вышла... Я ня ведаю... Тады прабачайце... Я... Я павінен *(цьвёрда)* папрасіць вас... паказаць мне свае дакуманты.

Іква. Гэта вы маеце рацыю, пане Булавінскі. Вось вам! *(Нешта няпрыкметна для публікі паказвае)*. Старшы агент!

*(Уваходзяць Яніна і Аскерка)*.

Яніна. З панам Аскеркам зусім нельга быць на рандэву. Ён кажа, што тут недзе, мо‘ нават у садзе, сядзіць вельмі страшны бандыт.

Булавінскі. Што вы, пане Аскерка? Як-жа так?

Яніна. І кажа, што недзе гарыць.

Булавінскі. Што гарыць?

Іква. Дзе гарыць?

Аскерка *(прыкметна п‘янаваты)*. Панюхайце, у вас павінен быць нюх добры.

Іква (*нюхае*). Не, здаецца, ня чуваць.

Булавінскі *(нюхае)*. Нічога ня чую.

Аскерка. Вось гэта і дрэнна. Я ўжо колькі гадоў чую пах едкага дыму. Сям-там прабівалася полымя. Яго тушылі. Яно прабівалася ў другім месцы... і гарыць.

Іква. Ага, так, так... Я разумею...

Аскерка. Нічога вы не разумееце. Вы тушыце ці не?

Іква. Тушым.

Булавінскі. І патушым!

Аскерка. І распаліце страшэнны агонь, ад якога не ўцячы будзе і нам. Я адчуваю, нутром адчуваю *(б‘е кулаком сябе ў грудзі)*, што на Крэсах будзе страшэнны агонь. Чырвонымі будуць лясы, палеткі, сеножаці, усюды агонь, куды ня ступіш, усюды будзе агонь...

Яніна. Ён проста п‘яны!

Аскерка. Ха-ха-ха! Ха-ха-ха!

*(Увайшла Юзэфа)*.

Юзэфа. Там злавілі бандыта.

Булавінскі. Што? Дзе?

Іква. Дзе?

Юзэфа. Прывялі сюды, тут ён, на кухні.

Яніна. Вой! Канстанты, Канстанты, што-ж гэта такое?

Булавінскі. Пане Аскерка, вы... можа вы... возьмеце ў спальні стрэльбу.

Іква *(выхватвае з кішэні рэвольвэр)*. Янінка, супакойся!

Яніна. Вой, вой, што-ж гэта будзе? *(Упала на крэсла)*.

Іква. Супакойся, Янінка!..

Булавінскі. Туды яе, у спальню. *(Сам убег у спальню і вынес стрэльбу)*.

Іква. Ідзі сюды, у спальню! *(Увапхнуў яе ў спальню)*.

Булавінскі. Вазьмеце, пане, стрэльбу! *(Аддаў Аскерку. Наставілі рэвольвэры, стрэльбу)*. Скажэце, няхай вядуць.

Юзэфа (*у часе гэтае мітусяніны яна стаяла спакойна, глядзела і зьлёгка ўсьміхнулася пад канец*). Ды ён зьвязаны ў мяшку, няма чаго баяцца!

Іква. Няхай вядуць! *(Ідзе за ёю і адчыняе дзьверы)*.

*(Уваходзіць Мікісь, Невядомы, Уладзік, Аркадзь, Юзэфа. Невядомы ў ботах з нізкімі халяўкамі, без штаноў, на яго накінуты мяшок).*

Мікісь. Вось вам, пане, злавілі і прыставілі бандыта, які хадзіў па падваконьню, і ў адным месцы прасіў яды для Піліпа.

Невядомы *(здушаным голасам).* Гэта я...

Уладзік *(сьціснуў яго праз мяшок за рот).* Яшчэ будзеш лаяцца!.. *(Аскерка наставіў стрэльбу).*

Іква. Ён прасіў яды для Піліпа? Так... Так... Цяпер мы напалі на сьлед.

Невядомы *(зноў хоча гаварыць, а Ўладзік хапае яго за рот і ён змаўкае).*

Уладзік. Усю дарогу лаецца.

Булавінскі. Ага, яму не падабаецца.

Іква. Рукі ў яго зьвязаны?

Мікісь. Сабачым вузлом, пане.

Іква. Цікава! Яніна, Яніна! *(Прачыняе дзьверы ў спальню. Яніна крычыць).* Ня бойся, ён завязаны ў мяшок, хадзі глянь!

Яніна. Я не пайду.

Іква. Ідзі-ж ты, не саром мяне!

Булавінскі. Проша, проша!

*(Уваходзіць Яніна).*

Іква. Ну, вось, бачыш, які ён пакорны. *(Невядомы зноў памыкаецца гаварыць, а Ўладзік зноў прыціскае яго галаву).*

Яніна. Што я бачу! Ён-жа бяз тэго...

Юзэфа. Без партох, пані.

Іква. А, так... Як гэта вышла?

Мікісь. Ён не хацеў ісьці, дык мы зьнялі яму штаны, вось яны, у вандзэлачку...

Іква. Ну, і што-ж?

Мікісь. Крапівою ткнеш, дык ня толькі ідзе, а бяжыць.

Іква. Якая спрытнасьць!

Булавінскі. Так, так...

Іква. *(да Мікіся).* Як цябе завуць?

Мікісь. Мікісь!

Іква. Гэта што? Імя ці прозьвішча?

Мікісь. Гэта імя, а поўнапраўнае імя—Мікіта, прозьвішча маё—Галачка.

Яніна. Галачка... Як сымпатычна! *(Невядомы зноў замармытаў).*

Мікісь *(кулаком ткнуў у нос).* Спакойна!

Іква. Малайчына!

Булавінскі. Малайчына!

Іква *(дастаў грошы).* Вось, маеце вам дзесяць злотых на вудку.

Мікісь. Дзякуем, пане, гэта-ж наш абавязак.

Яніна. Як шляхетна!..

Іква. Вазьмі.

Мікісь *(глянуў на Аркадзя)*.

Аркадзь *(кіўнуў галавою)*. Бяры!

Мікісь. Ну, што-ж... *(бярэ)*. Дзякуем!

Булавінскі. Вось вам, маеце, і маіх пятнаццаць злотых.

Мікісь. Пятнаццаць? Добра, дзякуем.

Аркадзь. Каб-жа ня ўцёк той. .

Іква. Хто той?

Мікісь. Ды там мы яшчэ аднаго заўважылі. Трэба бегчы, каб злавіць.

Іква. Дык бяжэце, хлопцы!

Мікісь. Вось яго вандзэлачак і тут у яго мы знашлі проклямацыі.

*(Хлопцы пабеглі)*.

Іква. Як шкада, што няма тэлефону. Зараз-бы паведаміў шэфа паліцыі.

Невядомы. Я не-е бандыт...

Іква. Давайце, глянем на яго і пагаворым. Мяшка здымаць няма як, дык трэба зрабіць прарэз.

Юзэфа. Трэба аслабаніць яго галаву, бо так чалавек можа задушыцца.

Булавінскі. Вазьмі нажнічкі і надрэж яму над галавою. *(Юзэфа праразае; высоўваецца рыжая галава з чорнымі вусамі, брывамі і барадою)*.

Іква *(аднэю рукою ўдарыў яго па вуху, а другою наставіў рэвольвэр)*. Ну, як?

Невядомы. За што?.. Як гэта вы не пазнаеце свайго?

Іква. Свайго? Ха-ха-ха!

Булавінскі. Чакайце, чакайце! *(Падыходзіць да яго)*.

Юзэфа. Дык гэта-ж пан Заўзенты!

Булавінскі. Так, нібы і ён, але-ж... вусы, барада нейкая... *(Юзэфа вышла)*.

Невядомы. Заўзенты. Я знарок пачарніў, каб не пазналі.

Іква *(адыходзячы пытае ў Булавінскага)*. Гэта—наш?

Булавінскі. Наш.

Іква. Я цяпер разумею.

Аскерка *(крычыць оркестры)*. Музыкі! іграйце які-небудзь скандальны марш, іграйце!

Булавінскі. Пачакайце, чаго вы крычыце?

Заўзенты. Як гэта вы не маглі пазнаць свайго чалавека? Здаецца, ужо відаць быў мой твар, дык ён яшчэ б'е ў морду. Гэта-ж сьвінства! Я стараюся, а яны...

Булавінскі. Супакойцеся, пане Заўзенты, каб вы не пачарнілі сябе, дык лягчэй было-б пазнаць.

*(Увайшла Юзэфа)*.

Булавінскі. Ідзеце ў сад! *(Падымае зьвязаныя яго штаны).* Вазьмі, Юзэфка!

Аскерка *(крычыць).* Разьвяжы пана Заўзентага! *(Гіронічна).* Оркестра, падрыхтуйся!

Юзэфа *(узяла вандзэлак гіронічна).* Пойдзем, мой дарагі! *(Выходзяць праз вэранду).*

Іква *(з боку на авансцэне).* А я яшчэ даў дзесяць злотых.

Булавінскі *(з другога боку на авансцэне).* А я ім яшчэ пятнаццаць злотых даў.

Аскерка. Парадны марш! *(Оркестра выконвае нейкую дзікую мэлёдыю. Аскерка стаіць пасярэдзіне пакою).* Ха-ха-ха! Люблю што-небудзь скандальнае! Ха-ха-ха!..

*ЗАСЛОНА*

# МАРТА, МАРЫЛЯ, ГАЛЕНА

*Новэля*

**Язэп Копта**

I

Тройчы адступалі аўстрыйцы, тройчы адступалі расійцы, але ў Рускай Раве найгорш дасталося тым, хто яе засяляў.

(Пасьля бомбаў, кіданых у вокны хат, засталіся ў пакоях крывавыя лужы, бы бацькі па дзецях, а дзеці па бацькох плакалі крывавымі сьлязьмі).

Дык вось:

Лейзар Лёў дастаў на сходах перад сваёй крамай, яго захвацілі казакі ў той час, калі ён пісаў нешта незразумелае на дзьвярах. (Было гэта толькі забабоннае заклінаньне, але яны падумалі, што гэта—умоўны сыгнал шпіёнам ворага).

Дык вось:

Жонка-ж яго (гэта мы павінны сказаць) дастала ад аўстрыйцаў, калі стаяла на каленях ля печы, падпальваючы яе. (Бо ў дыму, які вылятаў з коміна, камандуючы дывізіі, якога тут пасялілі, убачыў знак, які яна нібыта падавала расійскай артылерыі).

*Вечная ім памяць!*

Шосты дзень сядзеў Лейзар-Бэр у цёмным куце хаты і бесьперастанку пазіраў вытарашчанымі вачыма на лямпу, якая пагасла ў той час, калі заміраў і апошні енк яго маці.

Мабыць чакаў, што, як і раней, зноў ціха загарыцца, і маці да яго аберне галаў і скажа:

— Добры вечар, мілы Бэрэ!

* * *

А тут?

Ружовае, ружовае нешта бярэцца.

Нельга паверыць!

(Слухае).

Яшчэ ўсюды ціха. Войска залегла перад горадам, войска залегла за горадам глыбока, маўчыць і яно, і іх зброя.

Скок да лямпы, але яна халодная і цёмная, як і была.

Адкуль-жа, аднак, гэта сьвятло, якое разьліваецца па хаце і ўсё больш ружавее. Матчын твар, які ўжо пасінеў за гэтыя дні, таксама паружавеў, бы яна зьбіралася ўстаць і хадзіць.

(Устань і хадзі, войска мабыць адышло).

Але вокны адкрылі таемнасьць. Вуліца затоплена бляскам, які рвецца з абодвух бакоў, бы вада ў паводку.

Чалавек у вакне! Лейзар-Бэр выглядае, як-бы гэта была нядзеля. (Лепш сказаць субота).

І Лейзар-Бэр:

— Куды ўцякаеце?

А людзі пад вокнамі:

— Гарым з усіх бакоў!

Ніхто не ўцякаў тым кірункам, дзе былі расійцы. (У Расіі, як вядома, б'юць яўрэяў найахвотней на вялікдзень!). Усе да аўстрыйцаў. Бо там далёка за імі Вена. (Хіба-ж не на іх грошах была з аднаго боку галава цара Франца-Іосіфа з лаўровым вянком на скронях). Адылі і Галіцыя належыць да яго імпэрыі.

— Вена!—крычалі друг другу людзі з рукамі, поўнымі рэчаў.

— Вена! там спаткаемся!

„Вена“, чуў Лейзар-Бэр, бацька якога маўчаў у краме, а маці ля печы.

— Вена,—сказаў уголас, нібы клікаў іх, каб туды за ім прышлі.

(Пасьля затрымцеў, бы мусіў памерці).

У хаце было так ясна, што ўбачыў сябе ў люстры. Скокнуў да яго і сарваў са сьцяны. Калі лез за ім, штурхануў локцем лямпу, але заразжа схапіў, каб ня ўпала, і ўспомніў раптам пра сваю маці.

Не праляцела і сэкунды. Дзьве рэчы меў у руках, у гэтых дзьвюх рэчах браў з сабой цэлую радзіму.

Не выбіраў, а бег адсюль з люстрам і лямпай, нібы іх быў выбраў пасьля доўгіх размоў з поэтамі.

(Але і яго гналі боль і жах, якія яго рабілі вар'ятам).

* * *

Срэбраныя шпоры званілі, срэбраныя шпоры сьціхалі, каханкі, падчапіўшыся пад руку з афіцэрамі, коўзалі ружовымі пальцамі па тоўстых шклох вітрын. Ільсьцілі, прыкідваючыся закаханымі. Ах, першыя праменьні сьвятла выскачылі на венскай Кэрнэр-штрассэ і разьбіліся ў гранках брыльлянтаў на мільёны дуговых крупінак.

Гук бубнаў, завешаных чорным сукном,—глухі. І конскія капыты па пругкаму асфальту адбівалі таксама глуха, бы тыя бубны.

Але ўсё гэта—нудна.

Газэтчыкі маўчаць і пазяхаюць. (Афіцэр, каб насьмяшыць сваю даму, суне хлапцу ў разяўлены рот дзесятку, адмаўляючыся ад паданай яму вячэрняй газэты).

Над уваходам рамізьнікаў выскачылі чырвоныя літары Olla gummi і, умацованыя, як бляшаныя ветракі, раскруціліся з журботным скрыпам жалезных ложкаў.

Сэнс гэтага вечара быў адкрыты.

Гаварэце аб бліскучых зорках, якія вам паказваюць дарогу да готэляў, ухапецеся за два крывавыя словы і зьмяняйце іх у разьлезлыя жарты. (Бо і паліцыянт на рагу пазяхае, заразіўшыся ад вас нудой).

Але ня было суджана, каб гэты вечар мінуў без пацехі. Хто ты, што прыходзіш, раздаючы сьмех, колькасьць якога так заняпала?

Блазан?

Звар'яцелы ў акопах жаўнер, што бяжыць без адпачынку сто кілёмэтраў, якога ніхто не адважыцца пагнаць назад?

У шалёных вачох Лейзара-Бэра затрымалася белае, зялёнае і чырвонае сьвятло і ён быў зроблены тым клёўнам, які сюды ўбег для весялосьці людзей. Бо чаму-б гэты малады яўрэй, пэйсы якога сумна ўюцца, нёс у левай руцэ лямпу, а ў правай—люстра і чаму-б з гэтымі дзіўнымі сымболямі ён прыбег сюды ў час вячэрняга гуляньня?

Мо'якаясь жартаўлівая рэкляма, якая стала дзіва́цтвам?

— Лямпа і люстра,—сказаў нехта,—кагосьці нібы шукае.

Нейкі зласьлівец.

— Каб не яўрэй, сказаў-бы, што гэта—здань мёртвага жаўнера, які ідзе зірнуць, за каго ласьне загінуў.

(Але гэта былі хутчэй думкі, чымся чутныя галасы). Лейзар-Бэр спыніўся.

О, горад яўрэйскіх сноў, няўжо ў цябе не знайду літасьці?

Але горад забаўляецца.

— Запалеце яму гэтую лямпу, крычыць нехта, будзе яшчэ весялей!

Апошнія словы спадабаліся, нейкая дзеўка, п'яная ад сэкту[1]), не дала доўга чакаць.

Лейзар-Бэр дзяржыць лямпу, як засуджаны на калодзе.

— Ідзі з ёю прэч!—крычыць дзеўка, там няма газы.

Паліцыянт:

— Што гэта тут хочаце?

— Шэсьць дзён бягу ад Рускай Равы. Ой-ой-ой?

— Вядома,—гаворыць афіцэр,—дзе-ж Руская Рава!

І п'яная дзеўка зноў прыскоквае і накручвае пэйсы Бэра на свой наглы палец.

— Фэ,—крычыць раптам,—дык гэта вошы!

(Афіцэр адскоквае, паліцыянт адскоквае, хто толькі да яго цэлам дакрануўся, старанна на тым месцы чысьціцца).

---

[1]) Дарагое віно.

Варожасьць у сэрцы Бэра ўжо ўзышла.

Заплюшчвае свае вялікія вочы, цярпліва маўчыць і чакае.

Гэй, ты, дзеўка, а ты, горад, апрануты золатам! Тут трэба мець золата, каб табе пакланяліся.

Але што гэта, няўжо тут ня знойдзецца аніводзін яўрэй, каб Бэра ўзяў пад апеку? Чуў дома: найбольшыя палацы там належаць нашым людзям. Чуў у Рускай Раве: цару пазычаюць грошы нашыя людзі. Бацька: часта ставала, што туды прыходзіў з Галіцыі і за пару гадоў рабіўся баронам.

Хто-ж з вас, прызнайцеся-ж!

Першы, другі, трэці твар мацае вачыма Лейзар-Бэр і бачыць, як адгэтуль ціха адходзяць. Стыдаюцца, гэта зразумела. Ня стыдаліся-б, калі-б і Бэр быў апрануты ў шубу і цыгару мог сабе запальваць аб брыльлянт на пальцы. (Так асьляпляюча іх пальцы зіхацелі!).

— А ну, згіньце, куды хочаце!—кажа паліцыянт. За хвіліну тут будзе праяжджаць вайсковы міністр.

Але Вена—сантымэнтальная. Ужо тое папаўзло, што сказаў Бэр аб сваім уцёку. (Ён уласьне вялікі бядак). Плацем і пойдзем, за гэта прадстаўленьне варта заплаціць!

Дробныя медзякі проста дажджом сыплюцца.

— Ня дурэйце,—крычыць дзеўка,—гэты сабе заробіць. За год нас купіць усіх!

— Калі-б так!—думае сабе Лейзар-Бэр. Усіх, і цябе, п'яніца.

— Гэта дзеля пачатку. (Зьбірае). Прышоў сюды бяз крэйцара. (Ня быў такі дурны, каб на іх зьневажаньне адказваць гордым адмаўленьнем).

А цяпер: хтось зьбірае з ім і што назьбірае, тое яму ўцісквае ў далонь.

— Ты, стары?

Газэтчык, адзіны яўрэй, які за Бэра не сароміцца.

На вуха саўсім тайна:

— Хочаш, хадзі са мною. Ведаю, што ня маеш дзе спаць.

— Пайду.

Лейзар-Бэр забірае лямпу і люстра, якія стаялі ля яго ног.

Голас на тротуары:

— Ня пускалі-б такіх у Вену. Прынясе сюды тыфус і пачне яшчэ тут спэкуляваць. Уся Вена будзе сьмярдзець цыбуляй.

Лейзар-Бэр прыплюшчвае вока:

Пачакайце!

І сьціскае зубамі:

— Далі свайго мы досыць. Будзем цяпер зноў браць!

Выходзяць ужо з вуліцы, стары ідзе ля боку Бэра.

— Я з Львова,—гаворыць шэптам,—дзьве тысячы карон ужо маю.

— Блазны,—сьмяецца Бэр.—Пасьля спыніцца і зірне ў люстра.

Вось так, гаварыў бацька, трымаючы ў руцэ галер, вось так я пачынаў. А потым ішоў да століка (але, вось там стаіць наш столік) і лічыў тысячныя!

— Дзьве маю,—радаваўся стары.

— Пазычу іх у цябе на восем процантаў,—сказаў Лейзар-Бэр, а стары з запалам адказаў:

— З Рускае Равы паходзяць найхітрэйшыя галовы!

* * *

— Таксама львоўскі банкір Натан быў з Рускае Равы,—хутка сказаў стары, раніцай, прынёсшы Бэру гаршочак з чаем. Застаўся там і нічога, кажуць, яму ня стала!

У гарлівасьці, з якою служыў Бэру (увесь час яму закрываў ногі сваёю коўдраю), было многа пашаны да старых пляменаў, якія вышлі з Бэравага гораду.

Гараж, у якім мяшкаў, даўно пазбыўся свайго аўто, які мабыць згарэў недзе на балоцістых шляхох перад Львовам. Але ня быў парожні. Месца там заставалася толькі для трох людзей, бо ўсё было завалена рэчамі, якіх сюды стары паступова нанасіў.

— Для чаго ўсё гэта?—пытаўся Бэр, які навучыўся ўжо павышаць голас, калі трэба, таксама як і служыць тым, якія зьяўляюцца пястунамі. (Быў адзіным сынам і таму прайшоў нейкую адукацыю).

— Зьбіраю ўсё, што ўгледжу,—сказаў стары пакорна.—Мне цікава, ці не пахваліш ты гэта?

Бэр засьмяяўся. Засьмяяўся саўсім з пагардай. (Былі тут ласьне каробкі ад консэрваў, пагнутыя бляшанкі ад бэнзыны, магчыма і нейкія выкінутыя гаршкі і конаўкі).

— Кепска,—адрэзаў ён,—у гэтым няма вялікай дасьціпнасьці.

— Пагаджаюся,—сказаў стары пакорна.—Я ласьне толькі дурны кравец

Лейзар-Бэр задумаўся.

(Стары, калі толькі яго абходзіў, ішоў на пальчыках).

Прабіла шэсьць гадзін, і з некалькіх грузавых аўтомобіляў, якія праяжджалі ля дому, скінулі газэты. Належалі старому, ён іх меў на працягу дня распрадаць.

Цягаў іх у гараж, разьвязваў і ў галоўныя нумары ўкладаў дадаткі. Палову з іх паклаў на старыя насілкі, другую палову пакінуў у гаражы, каб з недалёкага рогу мог прыйсьці за новым запасам.

— Ты быў краўцом?—пытаўся яго Бэр, нахмурыўшыся ад думак.

— Але, пане! (Скокнуў і палажыў перад Бэрам пяць сваіх газэт).

— Ніткі робяцца з бавоўны, ці можа не?

— Думаю, што з бавоўны.

Пасьля гэтага Бэр панурыўся ўвесь у газэты і калі мусіў стары, нарэшце, адыйсьці, палопаў Бэра па плячы:

— Сядай да сьцяны, пане. Яна цёплая. Побач ёсьць пякарская печ.

З пальцам на адным з радкоў, Бэр перасунуўся туды і прасядзеў ля яе аж да полудня, калі стары прышоў з абедам.

— Мне патрэбны нажніцы,—сказаў Бэр.

За хвіліну яны ўжо былі.

Навырэзваў многа вакенак на газэтных старонках, а пасьля ўзяў люстра, каб выразкі засунуць у яго, з адваротнага боку за картон. Перад гэтым, аднак, туды зазірнуў.

Паспрабаваў свае пакручастыя пэйсы схаваць за вушы і запытаўся:

— Схаваў добра?

— Кепска,—сказаў стары.

— Дык хадзі і пастрыжы. (Падаў старому нажніцы).

— Успомні аб сваім бацьку, пане,—перасьцерагаў яго стары, не адважваючыся выканаць яго волю.

— Іх насьмешкі сапсавалі-б увесь посьпех!

І двома рухамі астрыг сам свае пэйсы і пачаў іх таксама ўкладваць за адваротны бок люстра.

Але тут яго пальцы затрымаліся. Твар выцягнуўся. Узварушаны, мацаў сябе. Быў узварушаны разам з ім і стары, які сачыў за ім.

Папяровая пачка, якую ўжо прышчамляў кончыкамі пальцаў, выкаўзнулася і застрамілася глыбей. Абярнуў люстра і стукнуў у яго край. Нарэшце, тое выляцела на зямлю.

— Рублі—сказалі абодва і хвіліну над гэтым стаялі, думаючы аб войску, якое гэтыя грошы занясло ў іх горад.

Пасьля сталі на калены і лічылі:

— Дзьве тысячы трыста рублёў,—сказаў Бэр.

— Ай-ай!—крыкнуў стары.—На гэтыя тут ёсьць попыт! Ці няма іх таксама ў лямпе?

Вынялі яе з бронзавае падстаўкі. Была парожняя.

— Цяпер будзем есьці,—паклікаў стары.

Елі нейкае зельле, зваранае ў поліўцы; здалося ім вельмі смачным.

— Хто гэта табе варыць?—пытаўся Бэр.

— А цераз два будынкі ніжэй ёсьць рамесьніцкая школа. Насялілі туды нашых уцекачоў, і іх кабеты вараць.

Старога паслугі зрабіліся цяпер асабліва ахвотнымі. Што-хвіліны падала яго вока на рублі. Што-хвіліны яго напаўняў страх, каб пасьля такое багатае знаходкі не адмовіў яму Бэр у фінансавым удзеле ў супольных прадпрыемствах, якія будуць такімі зыскоўнымі.

— Хацеў-бы пазнаёміцца з зямлякамі,—сказаў Бэр і адлажыў драўляную лыжку.

— Нікога тут няма,—ня раіў яму стары,—хто-б табе мог быць патрэбны. Спрытнасьці там ніхто ня мае, усе жывуць на ахвераваньні тутэйшай яўрэйскай організацыі.

— Нічога,—сказаў Бэр,—спрытнасьць атрымаюць ад мяне.

— Мае дзьве тысячы прымаеш?

— Прыняў-бы дзесяць, калі-б ты іх меў!

Пашлі, заяўляючы аб тым, што ім патрэбна знайсьці памяшканьне для Бэра, нанялі суседні гараж, які быў таксама парожні.

Аднак, Бэр пакуль-што спаў і надалей з старым, бо былі вялікія марозы, а сьцяна пыхала цяплом, якое іх прыкрывала пахучымі пярынамі, пад якімі сьнілі белыя, разрэзаныя гусі, сьнілі смачны шулят[1]).

* * *

Вучэбня рамесьніцкай школы перапоўнена, як багамольня. Было падобным да змовы, якая адбывалася ўвечары. Бо ніхто ня сьмеў даведацца, што рыхтавалася пад Бэравым кіраўніцтвам.

Каля дзевятай увайшоў стары;

— Так нядобра. Вы лепш зьбярэцеся ў кола.

Узяўся за гэта сам і раўняў іх. Сярэдзіна засталася вольнай і адгэтуль вулічка да дзьвярэй. Столькі ўвагі ня было-б выказана нават рабіну. Стары ўмеў за тры дні схіліць іх сэрцы Бэру, запэўніўшы іх, што добра будзе ўсім, хто ўвойдзе ў кола агульнае справы.

Тут увайшоў Бэр.

— Прыгожы,—прабегла ў думках жанчын.

— Нашы гарады, нашы вёскі, нашы хаты—усё зруйнована і спалена,—сказаў задумчыва, і ўсе ў адказ толькі ківалі галовамі.

— Няма крамаў, няма сталага месца, дзе-б мог кожны з нас працаваць на сваю ўласную руку. Ёсьць толькі вялікі натаўп уцекачоў, адданы на ласку і злосьць чужыны. Мяшкаем грамадамі, ямо грамадой, мусім таксама і грамадой працаваць. Чаго вы дагэтуль дасяглі, працуючы ў адзіноцтве?

— Нічога,—сказаў стары за ўсіх. (Пра сябе:—я маю ўсяго толькі, што тыя бляшанкі).

— Аднак, ёсьць тут магчымасьці,—прадаўжаў Бэр,—якія проста клічуць, каб іх выкарыстаць. Ніхто за іх ня можа ўзяцца, толькі мы, бо няма такіх людзей, апрача нас, якія-б маглі па першаму-ж загаду прылажыць сто рук за дзела.

— Ахвотна прыложым,—сказалі многія,—ахвотна цябе паслухаем.

Бэр ім кіўнуў, каб падышлі аж да яго, і калі меў свае вусны амаль-што каля іх вушаў, пачаў шаптаць. Шаптаў так ціха, што кабеты яго ня чулі, і калі яны аб гэтым заявілі, іх пачалі мужчыны ўціхамірваць.

— Аб гэтым ужо даведаецеся ад нас.

— Гэта першая рэч,—сказаў Бэр цераз хвіліну.—Другая—цяжэйшая.

— Паспрабуем гэта пакуль-што з ніткамі,—гаварылі, і з іх ваччу было ясна, што ўжо прагнуць да працы, якая, нарэшце, адчынілася для іх.

— Добра,—згадзіўся Бэр.—Але зрабеце, як я сказаў. Зьвяжэцеся з іншымі, апутайце горад сеткамі супольнае працы. Калі будзеце праца-

[1]) Яўрэйская ежа—смажаны гусь з гарохам.

ваць на мяне, тады зможаце знайсьці сабе людзей, якія будуць працаваць на вас.

— Колькі-ж дасі за шпульку?

— Карону.

— А колькі-ж каштуе ў краме?

— Поўкароны.

— А каму іх прадасі ты?

— Тым, якія шыюць для войска.

— Заробіш, бязумоўна, двойчы толькі, як мы!

— Ня думаеш,—сказаў кусьліва стары,—што ён таксама ў два разы і хітрэйшы?

— Вызнаем гэта,—кіўнула большасьць.

— Галоўнае,—намаўляў іх стары,—каб вы працавалі саўсім паціху. І тавары да нас нясеце толькі калі сьцямнее.

* * *

— Хто гэта пяе?

— Зірні,—сказалі Бэру,—і паказалі ў вакно.

Вар'ятка, якой забілі жаніха ў шлюбную ноч,—раней чымся зьдзейсьнілася яе жаданьне, яна зноў запяяла і варушыла белымі пальцамі, быццам часала жаніховую галаву на сваіх каленах.

(Так яна і тады забаўлялася з яго валасамі, пакуль яго не пракалолі).

— Бачыце,—сказаў Бэр, голасам з глыбіні,—мусім сабе ўсе тварыць новую радзіму.

Калі адышоў, сказалі хорам:

— Няхай бог яго блаславіць!

* * *

Другога вечара гэта ўжо пачалося.

Стары ля запаленае лямпы лічыў шпулькі. Бэр выплачваў. А пасьля, калі заставаліся самі, адносілі ніткі ў пабочны гараж, які, пастанавілі яны, павінен зьмясьціць тавараў на сорак тысяч.

— Зірні,—сказаў тады Бэр,—прышлі хутчэй, чымся я думаў. Мушу прадаць рублі ўжо заўтра.

— Ай-ай!—сказаў стары,—не магу забыць, як хітра ты гэта змудрагеліў. Яны вераць, што гэта адсюль зараз-жа заўтра пойдзе далей. Не далі-б шпульку за карону, калі-б ня ведалі, што іх некалі будзем прадаваць за дваццаць.

Бэр, прыжмурыўшы вочы:

— За год будзе горад бяз нітак. Тое, што ёсьць у крамах, часткова будзе спажыта, часткова пяройдзе да нас. Крамы, якія давалі бавоўну, належаць ворагам.

— Колькі-ж гэта дастанецца мне?—пытаўся стары.

— Даў ты дзьве тысячы, атрымаеш іх у столькі раз больш, у колькі раз павялічым цану пакупкі. Але заробіш яшчэ больш, калі будзеш мне і ў другім прадпрыемстве памочнікам.

— Дапусьціў-бы ты крыўду, калі-б шукаў памочніка па-за гэтай хатай.

— Ня ведаю, ці знойдзеш у сабе досыць адвагі. Трэба будзе, каб ты прабраўся да Львова. Гаварыў ты аб банкіру Натане, які там застаўся. Ці знаёмы ты з ім?

— Чаму-б не?—сказаў стары, і ў яго словах было шмат пыхі.—Мая майстэрня была-ж у яго ў двары!

— І майго бацьку магчыма прыгадае,—сказаў Бэр.—Вось тады быў-бы другі канец таго ланцуга. (Гэта ўжо сказаў цішэй, як у поўсьне. Быў гэта толькі чароўны сон!).

І калі той ужо больш нічога не сказаў, пацягнуўся і стары на сваё месца, а з прычыны таго, што занадта доўга перадумваў, праспаў Бэраў адход, які стаўся перад сёмай гадзінай раніцы.

(То была таксама першая раніца, калі з пяці аўто ня ўпалі пачкі газэт у двор, бо стары пакінуў свой рог, каб служыць Бэру з усяе сілы).

* * *

Доўгія хвіліны лічыў стары зноў усе шпулькі і радаваўся, што іх так шмат.

Пасьля вышаў і пачаў гутарыць з пекарам, які быў вельмі сумны. Заўтра ідзе ў войска ў інтэнданцкую каманду ў Сэрбію, і яго печ згасьне.

Пякарню тады наймуць, бо лепей машкаць у пякарні, чымся ў гаражы!

„Глядзі—падумаў стары,—лёс робіць нам усё на руку. Усё напоўнім ніткамі, для якіх хутка не хапіла-б месца“.

Было каля паўдня, а Бэр усё не варочаўся.

Раптам нехта далікатна падышоў і паклаў перад старым бляшанкі з ежай.

— Вось гэта яму,—сказала ўсхвалёвана і паказала на пасудзіну, якая была паўнейшай.

(Стары таго ня мог зразумець, бо быў звыклы насіць ежу сам).

— Хто гэта цябе паслаў?—пытаўся яе, і яна сказала пужліва:

— Сама я прышла. Ён да яго вельмі падобны.—Якраз у гэты час Бэр прышоў; усьмешка сядзела ў яго на губах, як вялікі матыль.

— Пане,—сказала, калі ён на яе паглядзеў са зьдзіўленьнем,—пане, не сярдуй!

І ўхапіла яго руку, у якую нешта ўсунула. Пасьля апусьціла на вочы жалобную вялёну сваіх веек і спалохана ўцякла.

— Ай!—сказаў стары,—гэта прызнаньне ў каханьні.

— Не хачу!—сказаў Бэр і з насьмешкай кінуў паперку цераз плячо.— Бачыў я жанчыну, якая мела валасы, як золата шлюбных пярсьцёнкаў. Ах! (уздыхнуў, бы той чалавек, якога мучыць смага) была гэта сапраўдная Венка.

— Банкір Натан,—пачаў апавядаць стары,—быў вялікі раскошнік. Мы, гаварыў, маем у жмені цэлы сьвет. Так я маю—і пачынаў лічыць па пальцах—так я маю паперы петраградзкія, лёндонскія, парыскія, венскія і бэрлінскія. Ці ня ёсьць гэта ласьне вялікі букет? Але панюхай яго (там вось ляжыць у скарбніцы), ці-ж добра пахне? А ўсё-ткі, аднак, кожная тая краіна, якую трымаю хоць за кончык, мае свой асаблівы пах. Гэта ня толькі пах паперы, у ім я адчуваю трошкі і пах крыві. А таму, гаварыў, пяць разоў у год знаходжуся ў падарожы. І быў. Не зьяўляешся ты Бэр, першым, які адрэзаў свае пэйсы. Натан іх ня меў ужо даўно, а жупан насіў толькі ў сынагогу. А калі аднекуль прыяжджаў, заўсёды меў на сабе адзежу, якую ў той краіне якраз насілі. І, напэўна, была тая адзежа прасякнутая парфумамі тамашняй каханкі. Бо пяць, кажуць, іх трымаў, а ў жанчын заўсёды застаецца гэты закляты пах краіны!

— Гэта, сапраўды, мабыць, толькі гаварылася,—уставіў Бэр.

— Так, але я яму тое ўбраньне заўсёды прыводзіў у парадак, гладзіў і на тыя пахі ўспамінаю нават сёньня. Апрача таго (стары засьмяяўся і нахіліўся да Бэра), апрача таго я находзіў у кішэнях портрэты. Добра я гэта налічыў: расіянка, англічанка, француженка, венка, немка. Гэта іх маеш якраз пяць.

— Гэта ня кепска,—усьміхаўся Бэр.—Але наперад мусіш мець тыя паперы!

І з палаючымі вачыма:

— Зірні!

(І шырокім вахляром расклаў перад старым дзесяць тысячных).

— Не магу глядзець,—закрычаў стары.—Рублі тут збыт маюць, гэта я ведаў!

— Быў я наняты, каб іх сюды сагнаць хоць мільёны,—сказаў Бэр і пацёр сабе рукі.—Дык пойдзеш да таго Львова?

— Пайду, чаму не?

— Атрымаў я за рубель амаль-што пяць карон. Уяві сабе, што заробіш, калі дам табе з чыстага палавіну. Але затое мусіш ад'ехаць як найхутчэй, абяцаў я цераз месяц зрабіць першую даставу.

Стары, прыплюшчыўшы вочы, маляваў у думках сваю дарогу. Трошкі лятуцьліва:

— Іду ў Львоў, іду дамоў памерці. І яны мяне напэўна ўсюды прапусьцяць.

— Лепей будзе, калі пойдзеш праз фронт ноччу. Знойдзеш месцы, якімі можна пракаўзнуцца.

— Праўда,—згадзіўся стары,—стары чалавек ня мае чаго губляць. (Хціва і з насалодай). Будзе падобна мая дарога, да доўгага ланцуга. Буду вязаць ад Львова да Вены, а банкір Натан ужо зьвяжацца з Расіяй.

— Але,—кінуў Бэр радасна,—адзін будзе перадаваць другому. Ужо ідучы адсюль, знайдзі людзей, праз рукі якіх гэта пабяжыць у Вену.

— А як гэта будзе з аплатай?

— Перад ад'ездам прынясу табе сто тысяч карон заставы,—сказаў Бэр, задаволена прыплюшчыўшы вока.

— Столькі табе давяраюць?

— Друкуюць тут грошы, як газэты.

— Але пасьля ўпадуць на цане!

— Добра, але няхай дадуць дзесяць карон за рубель, калі будзем змушаны купляць даражэй. У гэтым месяцы, між іншым, ад'едзе ў Расію першая дэлегацыя Чырвонага Крыжу. Мае таксама тайныя даручэньні. І, апрача таго, мусіць весьці атаку на валюту ворага. Чым болей расійскіх грошай атрымаюць у Аўстрыі да сэйфаў, тым горш для расійскае валюты. Чымся больш у звароце будуць грошы, тым больш зьнізіцца іх вартасьць.

— Праўда,—сказаў стары,—гэта ўжо я ад цябе чуў. А ты будзеш тымчасам працаваць з ніткамі. Паглядзі, пякарня будзе цераз пару дзён парожняя. Наймеш яе, значыць, і расшырыш склад.

Бэр падышоў да вакна пякарні, зьмерыў яе крыж-на-крыж і згадзіўся. Але занадта панурыўся ў сваіх думках і перавярнуў нагою пасудзіну, у якой прастынуў яго абед. (Стары тымчасам патрошкі еў).

Пазіраючы на гарох, зьмешаны з цыбуляй, усміхаўся.

Потым з вялікім запалам:

— Была Натанавая Венка блёндынка?

— Пачакай, пакуль яшчэ нічога ў цябе няма,—навучаў яго стары.— Такія кабеціны каштуюць грошы немалыя!

— Будуць,—адказаў Бэр, упэўнена,—за год убачыш! (Вочы яго пры гэтым заіскрыліся).

— Эх, вы, з Рускае Равы!—сказаў стары і пакруціў вялікай галавой.— Эх, вы—мудрыя галавы! (Пасьля задумаўся). І неяк узварушана:

— Да году вярнуся, калі дасьць гасподзь!

Бэр прысеў, зачэрпнуў першую лыжку і шукаў пальцамі цыбулю, якую цераз плячо выкідаў. Еў толькі гарох, які не засмуродзіць яго дыханьня. (Валасы, жоўтыя як золата шлюбных пярсьцёнкаў, праходзілі ў яго думках).

Апрача ўсяго, знайшоў у страве доўгі чорны волас і, згадаўшы на вар'ятку, ускочыў, схапіў паперку і разарваў яе.

(Быў-бы з яе вычытаў хаўтурны сьпеў над сваімі ўстрыжанымі пэйсамі).

II

Позьнім летам сядзеў Бэр на парозе гаражу і сачыў за месяцам, які падымаўся над стрэхамі. Сёмы раз ужо зьмяняў свой вобраз, сёмы раз ён ужо зьменшваўся, але стары не вяртаўся. Калі памёр, стацца гэта магло толькі на зваротнай дарозе. Бо шлях да Львова быў засеяны яго жывымі сьлядамі, бо сотні нябачных рук ужо працавала, быццам ім няўпынна дыктаваў: раз, два, раз, два.

Злучаліся ў ланцуг таямнічымі сьцісканьнямі, пасьля якіх заставаліся ў жменях зьвіткі рублёў, як эстафэта ў руках бягуноў. Гэта яны былі, што злучалі Вену з Расіяй, хоць тэлеграфныя драты і былі перарваны. (Недзе ў сярэдзіне быў банкір Натан, пяць напарфумаваных гарнітураў якога ляжалі супакойна ў скрынях!).

Адны былі высланы, другія ўцяклі з жалезнага кола ваюючага войска, каб заўладаць краінай, крывёю якой усё-ж зьяўляюцца толькі грошы. Бэр, думаючы аб гэтым, дзякаваў галасом, якія лемантавалі пасярод страшнай ночы: Вена!

Пяць удараў у вароты, і ён спускаў вочы з месяца, каб ісьці адчыніць.

— Рублі?—сказаў чалавеку, які яму кланяўся, а той яму адказаў:

— Дзесяць тысяч.

У пякарні засьвяцілася лямпа, вусны заварушыліся чысламі. (На вокнах ужо былі фіранкі, на падлозе ўжо былі каберцы, на сьценах ужо былі малюнкі, на сьцяне ўжо была і люстра ў пазалочаных рамках).

А ў адным кутку стаяла жалезная скарбніца.

Скарбніца адкрылася, скарбніца закрылася; чалавек, засунуўшы грошы аж кудысь на голыя грудзі, з паклонамі адходзіў.

— Жаднага даручэньня ня прышло наконт гэтых грошай?

— Жаднага.

(Бэр думаў пра старога, ці не адазьвецца ўсе-ж такі аднекуль).

— Быў-бы задаволены,—сказаў Бэр,—калі зьвярнуўшыся, адкрыў-бы кнігу, у якой вёў стары свае рахункі. Прыпісаў-бы да свайго дабра палову заработку, які пасьля гэтай падарожы зьявіўся-б, і зноў пашоў-бы на парог гаражу, каб пільнаваць начную цішу, якая да поўначы магла штохвіліны ўзварушыцца пяціразовымі ўдарамі.

* * *

Сёньня ня прынесьлі абед дзеці, сёньня прынёс абед найстаршы з яўрэяў.

— Ведаем,—сказаў,—што ты ніткі не даставіў арміі. Ведаем, што іх маеш поўны гараж і поўны склеп пад гэтай пякарняй. Баімся, каб ня струхлелі.

— Але,—сказаў Бэр,—хачу ўсёроўна адсюль перабрацца. (Папраўдзе сказаць, ён пра ніткі амаль-што зусім запамятаваў. Быў проста захоплены адважным прадпрыемствам з рублямі і рос хутчэй на банкіра, чымся на купчыка з крамай пад бразэнтам).

— Глядзі, ніткі, якія я сабе тады пакінуў,—сказаў стары і выняў пакунак з-пад жупана. (Ня было гэта, бязумоўна, праўдай. Гнілыя ніткі, якія яму нехта прынёс, вельмі прыдаліся для яго хітрасьці).

— Праўда,—сказаў Бэр, разматаўшы шпульку і лёгка перарваўшы струхлеўшую нітку.

— А попыт ужо нячуваны,—казаў далей стары.—Большы, чымся на мыла!

— А што такое з мылам?—пытаўся Бэр зьдзіўлена.

— Заробкі з нітак мы ўклалі на мыла. Навучаныя табою, вынайшлі мы сабе тавар іншы. Уначы мы капалі глыбокія ямы, каб яго было куды схаваць.

„Бачыш“, думаў пра сябе Бэр, а пасьля галосна:

— З ніткамі яшчэ пачакаю. Іх каштоўнасьць увесь час узрастае.

— Гм,—засьмяяўся стары і, узяўшы ў рукі нітку, разарваў яе перад вачыма Бэра.

— Дык колькі дасьцё?—пытаўся Бэр пахмура.

— Скажы сам!

— За шпульку шэсьць карон.

— Ай-ай, калі-б хоць пяць. Шэсьць дастанем мы.

(Глядзі, мыла яму ў голаў ня прышло! Але ўспомніш на мыла, калі ты паходзіш з краіны такой бруднай? Глянь на рукі: такіх рук ужо жадная кабета ня брыдзілася-б!).

— Добра!

(Стары яму зараз-жа падаў руку, але ён яе ўзяў вельмі асьцярожна).

— Так, сказаў стары,—паможаш трошкі сваім людзём. Сам ты ўжо з бяды вылез. Мог-бы нам між іншым пакінуць і памяшканьне.

— У доўг?—кпіў Бэр.

— Заплацім гатовымі!

— Не кажы, дзе-б ты іх узяў?

— Ты сам гаварыў: злучэцеся! Ты сказаў: апутайце горад сеткамі супольнае працы! Раней, чымся ў тваёй скарбніцы, многія рублі, вандруючыя па розных краінах, былі ў нашых руках.

(Стары засьмяяўся, але толькі коратка, каб не раздражніць Бэра).

Засьмяяўся і Бэр.

— Дык пяць карон за шпульку і пяць тысяч адступнога. (Цяпер трэба адгэтуль ужо сьпяшацца. Як відаць, сочаць за ім і праз сьцены).

— Колькі шпулек?

Бэр, паглядзеўшы на запас:

— Дваццаць тысяч.

— Вечарам прынясу грошы.

Вечарам прынёс грошы, і Бэр умовіўся, што тут пакуль яшчэ некалькі дзён будзе прымаць наведнікаў. (Гэта было ў аўторак).

А ў суботу іх мог паведаміць аб новым памяшканьні.

Уначы з суботы на нядзелю перавозіла фурманка яго маемасьць (скарбніцу падымалі тры дзядзькі), а ў нядзелю раніцай праходжваўся ўжо стары яўрэй гаражамі і склепам ды, выпрабоўваючы ніткі, скакаў ад поўнага сэрца:

— Дзе там маглі-б затрухлець!

(Ледзь іх перакусіў у жоўтых зубах, якія яшчэ захаваліся).

Верым, бязумоўна, усе, што яшчэ многа раз зьменіць месяц свой выгляд, пакуль, нарэшце, будзе першая нітка з тых запасаў усунута ў іголку венскіх швачак і краўцоў.

Каго будуць адзяваць?

(Пяць напарфумаваных гарнітураў банкіра Натана супакойна ляжаць у львоўскіх скрынях).

Дзьверы ў вялікім доме на Кэрнэр-штрасэ носяць новае імя, і Бэр стоячы ля вакна, паказвае пальцам уніз:

Там вось я тады стаяў.

* * *

Пальцы, якія бегаюць па клявіятуры, чуем добра.

Але хто з нас ведае, куды дасягнуць, што граюць, што ўзварушаць пальцы, якія бубняць у дошку пішучага стала ў рытм думак?

Бэр ужо працуе. Бэр яшчэ працуе, бо ад учарашняга вечара не падняўся ад гэтага стала, а цяпер ужо ясны дзень.

Цераз пару дзён скажа жаўнер у акопах:

— Зноў сабе нехта на нас зарабіў!

І паверне прамоклы бот, каб зьдзерці падэшву, як паперу.

Альбо той камандзір дывізіі, які загадаў забіць Бэраву маці, крыкне на дзяншчыка:

— Якую гэта ты адкрыў консэрву, недарэка. Гэта-ж не абрыкосавае варэньне, гэта—нейкая размолатая морква!

І дзяншчык выбежыць, знойдзе бляшанку, выцягнецца ўвесь і будзе разьбіраць па складох каляровы надпіс:

— А-бры-ко-са-ва-е ва-рэ-ньне.

Але што з папяровых грошай? (Калі толькі Бэр інкосуе свае рахункі за рублі, заўсёды бываюць аўстрыйскія банкаўкі саўсім новыя і пахнуць барвамі). Дык гані іх хутчэй, пакуль яны не зрабіліся нічога ня вартай паводкай.

Знайшлі сабе прытулак у фабрыцы на абутак, абярнуліся ў акцыі гамарняў, укараніліся глыбока ў зямлю ў выглядзе некалькіх будынкаў, нарэшце, яны кіравалі рукой маляра, які, пасьвістваючы на вісячых рыштаваньнях, пісаў сіняе на белым:

*Leiser & Co.*

Фабрыка для консэрваваньня фруктаў.

Думкі некалькіх бяссонных начэй такім чынам выясьніліся.

(І ўсё, што Бэра ў новым памяшканьні атачае, таксама набыло яснасьць).

Націсьне кнопку і слуга прыносіць чай.

Сьнедае і перагортвае пры гэтым шмат газэт.

Зноў шукае канцылярскіх службоўцаў. (Мае ўжо чатыры: аднаго бухгальтара, аднаго скарбніка, дзьве машыністкі).

Зноў шукае канцылярыстку.

(Часта сабе думае: „Вось было-б цікава, калі-б раптам прышла мне прадставіцца тая блёндынка!“).

Але дасюль прымаў выключна яўрэек. (Поўнакроўная венка, мабыць, увесь час толькі-б сьпявала: Komm in meinė süsses Laube, in mein Paradies! Як учора ў опэрэтцы).

Дата на газэце кінулася яму ў вочы:

Ах, было гэта якраз год таму назад!

(Што сказаў старому? За год убачыш!).

Калі-б гэта тут быў!

Але ёсьць тут люстра!

Двойчы перад ім паварочваецца, тройчы перад ім паварочваецца, але ніхто ня скажа ў захапленьні:

— Ай-ай!

Каб гэта бацька і маці выступілі са срэбранае паверхні! Пэўна выкрыкнулі-б:

— Гэта наш мілы Бэр? (Што-ж тут: ганьбы нам ня робіць).

Звоніць, слуга кланяецца, пасьля вядзе яго ў ванную.

Усё пахне далікатнымі кветкамі. Душ шуміць, як фонтан, белае цела арашаецца, як рожы летняй раніцай.

Але ніхто ня скажа ў маркоце:

— Ах, якая прыгожасьць!

Пасьля засыпае.

Пасьля сьпіць у ружовых сумётах ядвабу.

(І з ядвабамі пазнаёміліся яго рукі. Чаму-б не паспрабаваць далікатнай гібкасьці ядвабу?).

Пасьля сьпіць, а навокал працуюць людзі ў гарачай пасьпешнасьці. (Цэлую ноч выдаваў новыя загады).

Ва сьне:

— Купеце!

Ва сьне:

—Прадайце!

Ва сьне:

— Галё, тут банкір Лейзар Бэр. Удзельнічаем адным мільёнам!

(Капкі плёхаюць аб водную роўнядзь. Сьпіць на канапе, вушы як ружовыя чарапашыны).

— Дзе хто-небудзь з тых, хто з Рускае Равы?

— Прага!

— Будапэшт!—адказваюць газэты, у якіх галіцыйскія яўрэі шукаюць адзін аднаго.

— Хачу злучыцца! Зрабеце! Ня будзеце шкадаваць, калі злучыцеся са сваім земляком! Каб вы ведалі!

Цэлая Руская Рава тут гуртавалася.

Лейзар Бэр прыходзіць. (Рукою яшчэ раз паспрабаваў, ці гальштук добра завязаны. Якая нязьмерная праца ўладаць усімі тонкасьцямі гэтае адзежы!).

Думае сабе:

Так, паглядзеце!

А яны:

Хвіліну ціха, а потым доўгі кусьлівы сьмех.

Ці гэта можа для іх выгляд занадта нязвычайны?

Бэру няёмка.

Але адкуль тут бярэцца банкір Натан?

(Бязумоўна і ён належыць да Рускае Равы).

Выходзіць з шэрагу і ідзе к Бэру. Ледзь стрымлівае сьмех, а пасьля яго бярэ асьцярожна за плячо. На вуха:

— Прыяцелю, мусіце перш за ўсё дасканала навучыцца. Пярсьцёнкі-ж ня носяцца на рукавіцах!

Бэр абудзіўся:

Бясспрэчна ў мяне яшчэ шмат няпэўнасьці!

Успамінае пра блёндынку:

Мушу да яе прыступіць саўсім беззаганным!

* * *

Срэбраныя шпоры званілі, срэбраныя шпоры сьціхалі, каханкі, падчапіўшыся пад руку з афіцэрамі, коўзалі ружовымі пальцамі па тоўстых шклох вітрын. Ільсьцілі, прыкідаючыся закаханымі. Ах, першыя праменьні сьвятла выскачылі на венскай Кэрнэр-штрассэ і разьбіліся ў гранках брыльянтаў на мільёны дуговых крупінак.

Гук бубнаў, завешаных чорным сукном,—глухі. І конскія капыты па пругкаму асфальту адбівалі таксама глуха, бы тыя бубны.

Але ўсё гэта—нудна.

Як прыдзецца!

Можа сюды зьнячэўку ўвайсьці чалавек, які будзе лавіць сьвятло, шэлест крокаў, шалёны сьмех кабет, душныя пахі, і ўсё гэта будзе лавіць вачыма, вушыма, ноздрамі,—гэты чартоўскі скок будзе лавіць, як вязень ловіць сьвежае паветра, як зьдзіўлены хлапец сьвятаянскі [1]) фэст, калі добры дзядзька кажа:—выберы сабе!

Можа сюды яшчэ ўвайсьці гэткі чалавек, не памыляемся!

Глядзі, цяпер якраз нагінаецца з балькону свайго будынку:

Шкло падзорнае трубы шукае. (Штодня яна праходжвалася). Праходжваецца тут і сёньня?

Сама бяз нікога! (Праз шкло ўпала ў Бэравыя вочы блядое золата валасоў пад шырокім капялюшом).

---

[1]) Фэст на сьв. Яна.

Так! Стаў перад люстрам. (Нарэшце, агляд усяго, чым яго апрануў горад, каб зрабіць сабе падобным).

Шуба!

Кравец сёньня раніцай:—Але, бабры з зарукай. Падкладка з шоўку. Апранаем найбольшых кавалераў.

Выпрабоўваецца пэўная поза. (Можа абаперціся аб палку, срэбрам каваную).

Апошняя хвіліна ўзварушаньня.

— Язэпе!

— Калі ласка!

— Усё ў парадку?

— Беззаганна, проша. (Нагнецца толькі і зашпіляе лепей гузік на камашы).

— У каго кажаш, ты быў пакаёвым?

— У барона Шакелы. Можна яго пазнаць з чатырохграннага манокля.

— Але я ня хочу быць падобным да фарсуноў.

(А гамашы ссоўваюцца зноў уніз).

— Цьвёрды капялюш надае соліднасьць. Apropos [1]): Як называецца той рэсторан?

— Сахэр, проша.

(Хацелася яму яшчэ раз сказаць Apropos! Так быў захоплены гэтым словам, якое ўсьпеў беззаганна выславіць і пры гэтым яшчэ пстрыкне пальцамі).

— Adieu!

(Язэп скокне і адчыніць з уклонам дзьверы).

І калі іх зачыніць, выляціць уздых:

— Наш брат такога шчасьця ня мае!

* * *

Як-бы яму хацелася сказаць:

— Летась у гэты час я стаяў на гэтым месцы.

Як-бы хацелася крыкнуць:

— Летась вы з мяне яшчэ сьмяяліся.

Але ён мусіць адказваць на прывітаньні капялюшоў:

— Маё паважаньне!

— Да вашых паслуг!

Альбо толькі:

— Добры вечар.

А таксама мусіць апісваць капялюшам даўжэйшыя або карацейшыя крывыя, гледзячы, каго спатыкае.

— Проша,—гавораць сабе некаторыя, як толькі апынуцца ззаду яго.—Проша, год таму ня меў нічога, апрача пэйсаў!

[1]) Дарэчы.

(Але гэта па большасьці ўсё венскія яўрэі).

Ішоў-бы бязумоўна да пэўнай меры больш няўважліва, калі-б вочы ня былі змушаны шукаць залаты круг.

І бачыць:

Хоць на момант, але ўсё-ж такі на ім спыняюцца жаночыя вочы. Яго твар відавочна прыгожы.

(Прынамсі, асаблівы. Яго белы твар). Яго вочы відавочна прыгожыя. (Прынамсі, яго чорныя вочы дзіўна палкія).

Ведаю, думае ён пра сябе, палае з мяне сьвежасьць!

І іншая раса! (Венскія маюць вочы нейкія мутныя. Дый пузатыя. Успамін пра стройнае цела ў ванным пакоі).

Тут, урэшце, сустрэліся.

Губкі: чырвоныя, як разрэзанае сэрца.

Вочы: блакітныя.

Адскочылі, як пужлівыя зьвераняты.

Была сама.

За ёю!

А тут якраз азірнулася. (Бо ён вельмі доўга стаяў і яна гэта чула).

— Яшчэ два разы туды і назад.

А на рагу, нарэшце, паварот.

Крокі скарочваюцца; якая цікавая бясслоўная гутарка.

Крокі скарочваюцца, ледзь яе ня выперадзіў.

— Далёка ідзеце?

— Дзякую.

— І я, як бачыце, адзінокі.

— Можа нас хто-небудзь убачыць. (Баязьлівыя навокал погляды).

— Мяшкаеце, мабыць, паблізу?

— Там. (Паказала на нейкі будынак).

— Пойдзем у такім разе ў процілеглы бок.

Хацела гэтага і абярнулася. Хацела гэтага і з апушчанай галавой ішла побач з ім.

— Няма ў вас тут нікога?

— Муж служыць афіцэрам у Галіцыі.

(Ах!).

І паварочвае левую руку, дзе блішчыць шлюбны пярсьцёнак.

— Ня ў першы раз бачу я вас сёньня.

— Як? (Сэрца яму падскочыла: бух, бух).

— Але, ня ў першы раз; вы—нязвычайна прыгожая ў кожным натоўпе.

(Зьвярнула між іншым увагу на яго захопленыя погляды).

— Шуба вам вельмі да твару.

— Сёньня ўжо няма нічога, што-б ня мог насіць.

(Касы погляд: што на гэта скажа?).

Нейкі востры ўсьмех.

— Церпіце?

— Адзінокай цяжка.

— Грошай маеце даволі?

— Або не ясі, каб адзецца. Або адзяешся, каб пасьля...

(Зарадаваўся).

— Калі дазволіце, паедзем да Сахра.

— Ведаю, што і ён мяне ў далёкай чужой краіне ашуквае.

(Збочылі ў іншую вуліцу. Нейкі чалавек, які за ёй сачыў, хутка дабег да рогу вуліцы. Калі-ж селі ў аўто, ён наняў аўто ды паехаў ім усьлед. Пасьля праходжваўся перад рэсторанам так доўга, пакуль зноў ня вышлі. Пільнаваў Марту як анёл-абаронца).

— Цяпер хацела-б дамоў,—сказала Марта і губы ёй пахлі віном і некалькімі лёгкамыснымі пацалункамі.

— А заўтра прыдзеце?

— Не,—сказала і адвярнула голаў у нейкім сораме.

— Тады прыду да вас!—ускрыкнуў з палам Бэр.

Засьмяялася.

— Прыду!

— Маю адзіны пакой—прысенак. Ня было магчымасьці захаваць сабе дарагое памяшканьне.

— Ах,—уздыхнуў зачарована Бэр.—Усё тое, што вас атачае, робіцца сьветлым.

(Спужаўся, але пасьля ўспомніў, што за віном казаў больш гэткіх слоў).

— Ці-ж можна ведаць, калі ён вернецца? Не жадала-б я вам, каб вас у мяне знайшоў.

(Бэр адчуў холад вострай шаблі).

— Дык паедзем?

А ў аўто скажа ёй:

— Магу вам наняць яшчэ адну кватэру.

Зажурылася:

— Было ў нас чатыры пакоі.

— З відам на Дунай?

— Але,—адказала і зноў яму сьціснула руку.

Аўто спыняецца.

Бэр, сьпяшаючыся:

— Заўтра пашлю адрэсу.

(Зноў яму сьціснула абедзьве рукі).

— Заўтра ў такім разе мне прызначце гадзіну!

Шчоўкнуў ключ:

— Бывайце!

Загудзеў аўто:

— Да пабачэньня!

І з вакна:

— Apropos.

Але дзьверы ўжо зачыніліся.

(Калі аўто зьнік, пад'ехаў сюды з сумежнай вуліцы другі, які, як злодзей недзе хаваўся. А пасьля дзьверы дому адчыніліся і зачыніліся яшчэ раз).

Бэр соннаму Язэпу:

— Адчуваеш фіялкі?

(Язэп нюхае адзежу і ківае):

— Можа сапраўдная Венка называецца Марта?

— Напэўна, проша.

І Бэр сядае за пісьменны стол і, прысёрбваючы гарачы чай, змагаецца з цыфрамі, у натоўпах якіх павінна быць знойдзена ўзнагарода.

(Да чаго дакранецца, тое потым пахне фіялкамі).

* * *

Чатыры пакоі, балькон, перад вачыма Дунай.

— Хі-хі-хі.

— Дзьве ночы ў тыдзень належаць яўрэю. А іншыя нам!

— Хі-хі-хі.

— Добра мець на руцэ шлюбны пярсьцёнак...

(Падумайце, гледачы!).

Ах, гэта той чалавек, што ім у першы вечар увесь час ішоў сьледам.

(Сядзіць у Марты за абедам).

Старанна кроіць мяса, накладае сабе компот.

— Толькі больш, ён мае на іх фабрыку!

— Марная рэч, дзяўчына. Гэта—найлепшая з тваіх перамог. (За свае магутныя скіўцы мог-бы быць боксэрам).

Але за кулакі—толькі дасканалым абаронцам.

Азірнуўшыся, аж цмокнуў:

— Добрая кватэрка, дай бог, каб табе яе трымаў да канца вайны.

(Недзе за кухняй мае Рудольф сваю бярлогу).

Марта:

— Ужо будзе гэта поўгода.

Рудольф:

— Калі ты яму збрыднеш, захоча пасадзіць сюды іншую.

— Часта гаворыць:—Ах, Марта, гэткага каханьня нідзе не знайду.

Рудольф праходжваецца і ў вакне забаўляецца з кветкамі:

— Маеш грошы? Трэба зноў падкупіць фэльдфэбэля.

(Дае яму пару соцень).

— Ты-ж ведаеш, калі-б ня мазаў, дык ты мяне тут ня бачыла-б.

Пасьля зайздросна:

— Трошкі мяне злуе, што гэткі малады. Старому не дала-б таго і палову.

Гладзіць яго:

— Я скупая на ласкі.

— Гэта добра.

— Часта гаворыць: прыйду ў соты раз і ў соты раз мусіць таксама трэба будзе цябе браць сілай. Вось якая венская кабета!

— Хі-хі-хі.

Рудольф лопнуў сябе рукою па лобе:

— Ведаеш што?

— Што?

— Ведаю, як яго прыцягнуць мацней:

(Штосьці шэптам).

— Хі-хі-хі.

— Ну, што?

— Добра!

— Форму дастану, якую трэба.

(Селі на канапу).

— А тымчасам яго сюды пускай ня больш, як двойчы ў тыдзень.

(Салодкае ціхае стагнаньне).

— Таксама дзеля цябе, ці няпраўда!

— Хі-хі-хі.

* * *

Бэр у сваім габінэце; перад ім вялізная карта.

— Хай увойдзе той з Будапэшту!

Уваходзіць:

У вачох адзін жах.

— Вітаю цябе шчыра, Янкель.

(Бэр устае, каб яго Янкель бачыў ад пят аж да галавы).

— Лёвага сына ўжо-б у табе не пазнаў!

(Пераможны ўсьмех па ўсім Бэравым твары).

— Ну, сядай у гэтым крэсьле. (Сьмех над Янкелевым замяшаньнем). Гэтага мы ў Рускай Раве ня мелі, га?

— Вельмі пекна ты падняўся. (Гэта, сапраўды, залатая Вена!).

— Вас, дык занесла трошкі далей. Але добра, што вас там маю. Найбольшае давер'е належыць аднапляменьнікам.

— Можаш здаверыцца.

— (Бэр трэ сабе рукі).

— Дык як ужо ведаеш з майго ліста (гэта добра, што вы падалі адрасы ў газэты), дык як ужо ведаеш, закінуў я якар і ў Будапэшце.

— І ў Празе, чуў я ад Майсея ў перадпакою. Толькі Майсею таго, кажу табе, шмат не давярай. Ты, мабыць, ня ведаеш, што ён з тваім бацькам сварыўся.

— Але нікога іншага ў Празе з Рускае Равы няма. Аднак:

(Дыялёг. Бэр бязумоўна пераканаў. Прызначае Янкеля кіраўнікам свае філіялкі ў Будапэшце).

Слуга ў дзьвярах:

— Яшчэ чакае, проша, дзесяць кліентаў.

Бэр:

— Адну хвіліну!

І да Янкеля:

— Мадзяркі—чорныя, ці праўда гэта?

(Янкель трохі сароміцца і праз нос хіхікае).

Бэр пра сябе:—калі чорныя, дык былі-б добрыя для зьмены ўражаньняў.

Янкель:

— Часамі маюць зялёныя істужкі ў валасох.

— Але ідзі! Вось гэтага ня ведаў,—хціва выгукнуў Бэр.

* * *

А тады ўваходзіць Майсей:

— Бог цябе хай благаславіць, Бэр. Жадаў-бы Лёву, каб цябе тут так мог наведаць!

— Што гэта ты меў з маім бацькам?

— Але нічога.

— Гэта мне цікава ведаць,—кінуў Бэр.

— Нешта з рублямі, вось і ўсё.

— Толькі кажы праўду! Калі хочаш працаваць са мною, нельга, каб між намі быў бацькаў цень.

(Сядаюць адзін супроць другога).

— Вось так гэта было,—кажа Майсей.—Вось так:

У той час да нас прыехалі казакі ўпяршыню. Сена, гаварыў Лёў, сена і авёс, Майсей! Пастараліся мы, Лёў прадаў, заработак меў быць напалову. Лёў пашоў у штаб па грошы (я яго бачыў), а пасьля прыходзіць да мяне дый раве:—нічога мне не далі, яшчэ біцьцём пагражалі. Страцілі мы ўсё. (Я з гэтага меў дастаць тысячу сто рублёў).

— Тысячу сто пяцьдзесят, ці ня так?

— Пачакай! (Далоню на чало). Ага, тысячу сто пяцьдзесят. Ты аб гэтым дома чуў?

— Але.

— Прынёс іх Лёў дамоў?

— Ня ведаю, але выплачу табе іх каронамі.

(Востры погляд на люстра, пасьля алоўкам: 1.150 памножанае на 7 раўняецца 8050 к.).

— Вось маеш!

— Лёгкі табе адпачынак, Лейзар Лёў!

І тут Бэр уздыхне і ўжо весялей пусьціцца з Майсеем у гутарку:

— А з чаго гэта там жывяцё?

— Як вы тут. (Гутарыў перад гэтым з двума тутэйшымі ў перадпакоі).

— З чаго?

— Ніткі і мыла. (І некаторыя дробныя гешэфты).

Бэр адкашляўся:

— Патрабую там, каротка кажучы, каго-небудзь мецъ.

— О, краіна гэта—багатая. І немцы там амаль усё ў сваіх руках. Але чэхі (гэта тамашні народ). Чэхі рады былі-б аддзяліцца.

Бэр:

— Хтось мне пісаў з Будапэшту (забыў я аб тым Янкеля запытацца), што мадзяры таго самага хацелі-б дабіцца дзеля сябе. У такім выпадку там чакаюцца пагромы.

— Шукай сабе рады,—адказаў Майсей.—Калі ўсё гэта станецца, ніхто ўжо тыя краіны разам ня ўтрымае. (У Галіцыі стогнуць палякі).

Бэр з задуменнай паважнасьцю:

— Будзеце, каротка кажучы, маімі мацунамі. Што мне парадзіце, тое і зраблю. Кепска вам са мною ня будзе!

Майсей Бэра азірае:

— З цябе ласьне вышаў пекны матыль! (Мэлянхолічна). Таксама гэта мабыць пакінем. (Намотвае на палец пэйсы, загорнутыя за вухам).

— Сьмяяліся?

— Трохі прашкаджае.

(Першы, хто за іх Бэра ў Вене скубнуў, была ласьне дзеўка!).

— У чэшак кажуць валасы каштанавыя?

— Ня ведаю.

— Але сьветла-валосых там мабыць мала?

— Чай там кепскі—гэта ведаю.

— А як там мужчыны апранаюцца?

Майсей прыпамінае:

— Але, белы каўнерык, пад тым што-небудзь каляровае, але нагавіцы маюць у нізе якраз так зарубленыя, як гэтыя. Гэта—саўсім аднолькава.

— Ну!—ускрыкнуў Бэр.—Гэтага я не чакаў!

— Ну! і езьдзіць белым грабянцом па валасох. (На белым грабянцы можна знайсьці кожную пылінку!).

* * *

— Гатовы?

— Гатовы!

— Застанься ў кухні. Націсну потым званок.

Дзьверы зачыняюцца. Марта сама.

Мінулы раз лятуцеў аб чорных валасох мадзяркі!

Перад гэтым пытаўся на каштанавыя?

Ужо перасычаны белавалосай венкай!

Пачакай!

Ідзе, а шоўк шамаціць.

Праходжваецца і ломіць сабе голаў! задумалі хітры і адважны крок.

Пасьля стаіць над вялікім кошам сьвежых кветак:—бясспрэчна, гэта вось—довад, што усё яшчэ цягнецца так, як і спачатку.

Усьміхаецца, узрушваючы плячыма.

Але чымся больш пэўнасьці, тым лепш.

Ключ у дзьвярах, тры рухі—і ўжо на канапе.

(Схопіць рукі:—усё хай будзе закрыта, як-бы прыходзіў сёньня ўпяршыню!).

І кнігу ў рукі.

Заўсёды выбягала яму насустрач.

Сёньня толькі напалову павярнула голаў:

— Ты?

Бэр (зьдзіўленыя рукі павісьлі ўніз):

— Што здарылася?

Марта: глыбокі, сумны ўздых.

Бэр набліжаецца, хоча ля яе прысесьці. Але яна адварочваецца.

— Пакінем усё гэта!

Пасьля парыўча сядае, вытарашчыўшы вочы:

— Альбо хадзем супольна застрэліцца!

— У гэткім прыгожым месяцы траўні?

Марта мройліва:

— Якраз таму! Закідалі-б нам трупы фіялкамі.

Бэр усхвалёвана:

— Ня ведаю прычын.

— Сумленьне!

— Як?

— Была я здрадніцай. Ашуквала. (Ружовыя рукі на вочы).

— Ах,—сказаў Бэр з палёгкай,—і я ашукваў.

І палажыў на яе свае рукі.

Баранілася:

— Ніколі!

Не хацеў і слухаць:

— Было-ж заўсёды так!

Крычала:

— Ужо ня будзе!

(А цяпер спусьціла руку ўніз і намацала пад канапай званок. Дзелень!).

Яе адзеньне было напалову сьцягнута, калі застукалі дзьверы. (Пасьля задрынкацелі шпоры, пасьля некалькі парыўчых крокаў і ўдары некалькіх дзьвярэй са злобай адчыненых і зноў зачыненых).

Бэр белы, як папера:

— Пакінуў я ўсё-ж такі ў замку ключ!

Марта:

— Я гэта прадчувала!

Скрыжавала рукі на грудзёх і павалілася тварам уніз.

А капітан у дзьвярах (гарапнікам б‘е па жоўтых гамашах):

— Даносчык. значыць, пісаў праўду!

Бэр. узрушыўшы плячом:

— Справу можна вырашыць згодай.

— Тсссс,—зласьліва сычыць капітан. (У палявой старой форме, толькі блішчаць зорачкі новыя, нашытыя з прычыны водпуску).

(Бэр пра сябе. Калі ня стрэліў адразу пры сваім уваходзе, цяпер ужо страляць ня будзе!).

Капітан выходзіць і праходжваецца. Азіраецца ды ўсьміхаецца той роскашы.

А пасьля ідзе ў сумежны пакой.

Марта шэптам:

— Бррр, які брыдкі!

(Бэр кладзе ёй палец на вусны).

Марта сумна:

— Думаю, што ад мяне не адмовіцца.

(Бэр з благаючымі вачмі кладзе ёй на вусны ўсю руку).

Марта:

— Эт! Будзем сустракацца і надалей.

Падскочыла на цыпках да яго і дакранулася яго вуха вільготнымі зубамі:

— Каханьне—салодшае, калі зьяўляецца небясьпечным.

Шпоры зноў, капітан вяртаецца.

(Прайшоў усе тры пакоі).

Стаў, раскірэчыўшыся, супроць Бэра:

— Усё, значыць, самі купілі?

(І сьмех).

Бэр хоча гаварыць.

Капітан:

— Дзякую. Хацеў-бы застацца са сваёй жонкай.

Бэр, узрушыўшы плячыма:

— Гэта ваша права.

(Пужлівы погляд на Марту, якая ў імпэце жаху яго ўхапіла).

Але Бэр, укланіўшыся, з халоднай далікатнасьцю выходзіў горды і стройны.

(Думаў сабе:—ззаду ўжо ня стрэліць!).

У дзьвярах:

— Apropos: Як вы адчынілі?

Капітан:

— Адмычкай!

(А ключ, засунуты Бэрам у дзьверы, быў сапраўды на зямлі).

Ідучы туды, Бэр за яго зачапіў нагою.

(Унутры чулі, як зазваніла).

Рудольф:

— Гэта быў крок з усіх найхітрэйшы.

— Які?

— Што я выцягнуў ключ і палажыў яго на зямлю.

Марта з вялікім палягчэньнем:

— Цяпер ужо не адлучыцца. Цяпер яго гэта асабліва пачне вабіць.

Рудольф, зьняўшы шаблю, якая была з правага боку:

— У другі раз ужо гэтага не зрабіў-бы.

(З вуліцы ў вокны зазірае Бэр: сама пастанавіла за мяне, гэта ясна).

Рудольф расшпільвае Марту, а Марта Рудольфа:

— Няхай-жа будзе так, як-бы ты сапраўды вярнуўся аднекуль здалёку.

III

Гады можна рахаваць усяляк.

(У кожнага звычайна свой рахунак).

Жаўнер:

Ужо гэта будзе, нарэшце, чатыры гады, як атручваю сваё цела на франтох!

Маці ў чорнай хустачцы:

Сёньня мінуў трэці год ад Францішкавае сьмерці. (Пакуль ня было вайны, рахавала:—у сёньнешні дзень якраз дваццаць гадоў назад, ты, Францішак, нарадзіўся).

Але Марта:

Гэты вось пярсьцёнак я атрымала на каляды 1915 году. Але, а гэтыя вось каралі з шаснаццатага году. (Пачакай! Гэты ласьне прынёс толькі летась удзень нараджэньня).

А Бэр да бухгальтара:

— Прынясеце мне галоўную кнігу з пятнаццатага, шаснаццатага і семнаццатага гадоў! А рахункі праскага і будапескага заступнікаў мне падрахуеце на заўтрашні дзень!

Бухгальтар (зірнуўшы цераз пляча гаспадара ў каляндар):

— Значыць, к канцу верасьня восемнаццаць?

Бэр:

— Уцякло гэта, як вада.

А тут ужо бухгальтар вяртаецца з кнігамі.

Бэр, расклаўшы іх перад сабою, чытае на іх вокладках:

*1915 1916 1917.*

(Кожны мае звычайна іншы рахунак).

І перагортвае кнігі.

У кожнай з іх адкрываецца надпіс на першай старонцы:

*Блюм Ісаак Блюм Ісаак Блюм Ісаак*
*Кравец Львоў Кравец Львоў Кравец Львоў*

(А чырвоны аловак піша загад рахункаводнаму аддзяленьню):

*Конто Ісаака Блюма перавесьці на рахунак нясталых!*

Гатова! і ідзе ў сталовую:

— Гэта добра, што не чакаеце!

Майсей і Янкель, схіліўшыся над талерачкамі:

— Мы з галодных краін.

— Дзе там такія яечкі!

— Дзе там такі белы хлеб!

Бэр цешыцца іх зьмененым выглядам:

— Вы маглі-б быць кіраўнікамі ў Ротшыльда!

— Бяз жарту,—адказаў Майсей.—Першы Ротшыльд паходзіць з вайны. І першы Ротшыльд паходзіць з Галіцыі!

— Правільна,—пацьвердзіў Янкель.—Якраз таму мы і прыехалі.

Мяшаюць чай, а Янкель пачынае:

— Так, Мадзяршчына ўжо мабыць будзе сама па сабе. Блюмэнталь і яшчэ іншыя хочуць перабрацца ў Вену. І Блюмэнталь усё аддаў-бы за палову. Гаварыў:—маю я чакаць, пакуль аднаго дня не павыбіваюць вокны? Думае пры гэтым яшчэ на горшыя рэчы!

Бэр:

— Купі! Усю нашую гатоўку з спэкуляцый можна аддаць за гэта!

Мяшаюць зноў чай, а пачынае Майсей:

— Як я табе ўжо пісаў: прамысловасьць там нямецкая, і некаторыя пачынаюць пазіраць на Вену. Чэхі хочуць уласную дзяржаву, а з гэтага, кажуць, немцы шчасьлівымі ня былі-б. Пакуль-што ведаю аб аднэй фаянсавай фабрыцы.

Бэр:

— Купі! Толькі пасьля аднаго таго сала ляжыць у банку поўмільёна.

Майсей і Янкель:

— Калі дойдзе да ўцёку, добра будзе сачыць за імі ў Вене!

Бэр ківае:

— За гэтым ужо пасачу!

І тут да яго нахіляецца з правага боку Янкель:

— Не хацеў-бы гаварыць перад Майсеем.

А з левага боку Майсей:

— Не хацеў-бы гаварыць перад Янкелем.

Бэр:

— Янкель, хадзі да мяне нешта паглядзець!

І Янкель шэпча ў Бэравым габінэце:

— Ужо я аб тым разьведаў.

— Аб чым?

— Чорнавалосыя. І ў нас у доме ёсьць вінарня, а ў ёй прыгожая кёльнэрка. Называецца Галена. Але клічуць на яе: Ілона!

— Кёльнэрка?

— Разносіць віно, але, аднак гэта толькі так. Штосьці з ёю мае менавіта той гаспадар вінарні.

Бэр:

— Што з таго! За грошы будзе ўсюды вялікі выбар. (Калі захачу, буду мець, напрыклад, маладзіц!).

(Якраз яму пісала Марта—сёньня а трэцяй пасьля полудню! Урэшце пасьля чатырнаццаці дзён! Забаўляецца сабе з той пахучай пісулькай у кішэні камізэлькі).

А потым гукае ў сталоўку:

— Цяпер ты, Майсей!

Майсей заступае Янкеля.

— Ужо я аб тым разьведаў.

Бэр:

— Каштанавыя?

— Найбольш. І найбольш называюцца Марылямі.

Бэр:

— Магчыма туды таксама некалі заеду.

А калі адходзілі, затрымаў на сходах Янкель Майсея і пытаецца:

— Хацеў ад яго большыя процанты?

А Янкель:

— Але. А ты?

Майсей:

— Я таксама.

А Бэр пасьля гэтага стаіць перад сьценнай картай і распасьцёр рукі ва ўсю шырыню. Левай рукою якраз дакранаецца Прагі, а праваю—Будапэшту.

(Вусны мае прыблізна там, дзе ляжыць Вена).

* * *

Тэлеграфуе Янкель:

Маем сына! (Гэта паводле ўмовы значыць: Блюмэнталь наш!).

Тэлеграфуе Майсей:

Віншую з днём нараджэньня! (Гэта паводле ўмовы значыць: уклаў я грошы ў добрыя акцыі!).

А пасьля ліст ад Майсея:

Мусіш гэта бачыць!

Бэр па тэлефону:

— Адно месца другое клясы ў простым вагоне Вена-Будапэшт!

І а поўдні (з коўдрай праз руку, бо-ж лістапад, і з чамаданам з боку, бо-ж там прабудзем тыдзень).

— Хацеў-бы мець купэ для сябе!

А кондуктар:

— Будзьце рады, што людзі не занялі замоўленае месца!

(Едуць, Бэр курыць цыгару і перадумвае).

Едуць і толькі за межамі скажа Бэр:

— Якая прыгожая гэта наша краіна!

— Бо яна мадзярская! крыкнуў нехта ў кутку.

Мадзярская, а не яўрэйская!

— Хай бог яе блаславіць,—кажа Бэр,—хай бог блаславіць мадзярскі народ.

Мадзяр крывіцца, а Бэр унутры сябе:

Добра будзе навучыцца па-мадзярску! (Натан гутарыў пяцьма мовамі).

А ў памяшканьні ў Янкеля:

— Яны ня вераць, што добрыя посьпехі мадзярскай дзяржавы зьяўляюцца нашым сардэчным жаданьнем!

— Бязумоўна,—адказаў Янкель,—вось гэтыя паперы таго патрабуюць.

(Аглядаюцца купчыя, копіі балянсаў, тут і там які-небудзь здымак об'ектаў, якімі заўладалі).

Бэр у нейкім захапленьні:

— Умець па-мадзярску—лічу цалкам за сваю павіннасьць.

— Хэ-хэ,—заміргаў вачыма Янкель.—Кабета—жывая граматыка!

(Выглянуў з вакна, а Ілона якраз праходзіць праз двор. Ідзе са склепу і на плячы нясе збанок з віном).

— Хадзі зірні!—крыкнуў Янкель на Бэра, і той пусьціў з рук паперы.

— Гэта Ілона!—гукае Янкель, і Бэр ляціць да вакна, быццам ня бачыў кабету сто гадоў.

(Па-праўдзе сказаўшы, бачыў тры гады толькі адзіную).

Янкель адчыняе вакно:

— Панна Ілона!

— Што?—запяе яна і спыніцца.

— Хадзеце бліжэй!

(Падыйдзе, першы паверх нізкі).

— Перастань!—крычыць на яго Бэр, схаваўшыся за фіранкамі. Але цяпер бачыць яе твар, падняты ўверх: Паглядзі на яе!

Янкель:

— Маю гасьцей. Маглі-б вы мне прынесьці сюды збан такайскага?

(Бэр ужо не супярэчыць. Бэр ужо саўсім растаў. Бэр як-бы дэкламаваў:—гэта не яе ўласны вобраз. Гэта—толькі вобраз нашага першага каханьня, які вяртаецца, калі толькі нас апаноўвае новая кабета. Маім першым каханьнем была Марта).

— Маю якраз час,—адзываецца Ілона,—зараз вам паслужу!

(Гэта не яе голас, даведваецца Бэр, гэта зноў толькі—падабенства голасу нашага першага каханьня, ён нагадвае тую чароўную ноч, калі мы ўпяршыню кахаліся).

— Бачыў?

Бэр мройліва:

— Гэта—як-бы я спаткаў Марту са зьмененым толькі колерам валасоў; так і хочацца сказаць:—усё на табе саўсім новае.

— Гэткім чынам маем чыстакроўную мадзярку!

— А што той гаспадар вінарні?—кажа Бэр.

— Толькі яго не чапай, будзе дзешавей. Ён між іншым досыць стары!

— Не хачу!—крычыць Бэр,—піць з кім-небудзь віно з аднае шклянкі.

А Ілона ўваходзіла.

— Ай,—сьмяялася яна,—гэта ваш сын?

Янкель па-мадзярску:

— Гэта ня мой сын, гэта—адзін багаты пан.

(Ілоне на вушка:—вельмі хоча пазнаёміцца з чыстакроўнай мадзяркай!).

Бэр:

— Sprechen Sie deutsch? [1])

— Ja, aber nicht viel. [2])

Паставіла збан з віном якраз перад ім, і віно, ускалыхнуўшыся ад гэтага руху, густым пахам запахла. І здавалася, нібы адчуў пах яе дыханьня.

Бэр, наліўшы ў шклянку, падаў ёй.

Яна піла, а ён пазіраў, дзе дакрануліся яе губы, выкраеныя бы маленькае сэрца.

Пасьля піў, дакранаючыся вуснамі таго месца.

— Сядайце ў нас на хвіліну,—запрашаў Янкель.

— Можна,—сказала,—хай падае сам!

(І калі ўселася супроць Бэра, Янкель хітра зьнік).

А калі сядзела супроць Бэра, распальвалі Бэра ўсе навінкі першай хвіліны.

Пасьля сказаў Бэр:

— Маглі-б вы жыць, як каралеўна.

Ілона, сьмяючыся:

— Як-жа гэта?

А Бэр:

— Ня мусілі-б вы цярпець гаспадаравыя нападкі.

Яна:

— Гэта-б мне падабалася. Але на што пасьля гэтага магла-б жыць?

— Янкель!

(Янкель ціха ўлязае).

Янкелю на вуха:

— Маем будынак, у якім-бы былі парожнія хоць тры пакоі?

Янкель:

— Пасьля Блюмэнталя. Мог-бы прапанаваць у сябе пакой. Але не магу цераз жонку.

---

[1]) Ці гаворыце вы па-нямецку?

[2]) Але, але ня шмат.

Пасьля:

— Дарагая Ілона, хочаце яшчэ сёньня перабрацца?

— Змушана была-б уцячы, бо ён мяне ня пусьціць!

Бэр, поўны натхнёнасьці:

— Вынесу вас, вось будзе пекна!

— Ня ведаю,—сьмяецца Ілона, ён дзядзька, як гара!

— Не баюся!—адпавядае Бэр. (І радуецца: Марту я таксама ўхапіў! І наперад ужо бачыць:—убяжыць у вінарню, схопіць яе на рукі і аднясе ў аўто. Мусіць гэта стацца бязумоўна ўвечары).

А было гэта ўвечары такім чынам:

Убег у вінарню, дзе за прадажным сталом стаяў здаравенны дзядзька. А Ілона стаіць ля яго. (Ах, ня выйдзе ўсё гэта паводле пляну!).

Пойдзе ў такім разе на хітрасьць!

— Добры вечар, пане, хачу ўзяць у аўто бочку віна.

Гаспадар да Ілоны:

— Што гаворыць гэты пан?

А Ілона:

— Хоча бочачку *сапраўднага мадзярскага!*

— Ага! Дык я іду ў склеп.

— (Гэтага я-б не магла прынесьці!).

Вышаў, а Ілона ідзе да дзьвярэй:

— Куды-ж гэта яго пакладзеце?

А Бэр перад домам, адчыніўшы дзьверцы аўто:

— Зірнеце, колькі там месца!

— Для сапраўднага мадзярскага!—сьмяецца Ілона, а Бэр нырае ў аўто сьледам за ёю.

І ляцяць яны па вуліцах, а Бэр толькі шкадуе, што ня можа ёй паказаць крамы, куды яе хоча заўтра завесьці. Але пасьля быў рады. Думае ён: Ілона мусіць мець такую піжаму, якую мае Марта. З сьветла-зялёнага ядвабу; была ў Вене пашыта на асобны заказ. І на асобны заказ былі да яе пашыты сьветла-зялёныя пантофэлькі з залатым поўмесяцам над наском).

— Ці таксама Натан апранаў сваіх каханак,—шэпча Бэр на жаргоне.

Гэтак моляцца яўрэі, думае сабе Ілона.

* * *

Толькі на хвіліну, толькі на хвіліну.

Толькі, каб зірнуць: ці няма ў яе значка на левай руцэ.

Няма!

Але наогул розьніца толькі ў драбніцах.

(Напрыклад: мадзярка наступае сама. І наогул: у некаторым сэнсе— больш шалёная).

Марта—гэта горад. (Далікатная, дасьціпная, хітрая).

Галена—гэта стэп. (Запальчывая, ні аб чым ня думае, беспасрэдная). І пасьля Галены пахнуць рукі левандуляй.

— Скажу табе гэта адкрыта, Марта:

— Папрабаваў я ўжо таксама каханьне сапраўднай мадзяркі!

А Марта востра:

— Я-ж не твая жонка, каб цябе магла трымаць на ланцугу вернасьці.

— Праўда,—кажа Бэр,—жаніцьба мяне зрабіла-б двудушным.

Уздыхнула:

— У Будапэшце ты таксама натрапіў на здрадніцу?

— Нічога падобнага, яна незамужка.

— Маладзейшая, чымся я?—ускрыкнула Марта, быццам ёй нешта пагражала.

— Ня бойся,—цешыў яе Бэр.—І хоць там кабеты іншае расы, аднак мне спадабалася якраз толькі тая, якая была надзвычайна падобна да цябе. Не павінна журыцца, калі ведаеш, што ты стаіш усюды, куды толькі мае вочы павернуцца.

Марта, кусьліва сьмяючыся:

— Яна-ж чорнавалосая!

— Напэўна,—радаваўся Бэр.—Якраз таму з новаю тугою і вяртаюся да свае золатавалосай!

І калі былі ўжо ўтомлены, сказаў:

— Выдумаў я цікавую рэч. (Зашпіляе яе піжаму). Гэты сьветлазялёны ядваб падобны да келіха, у які тры краіны будуць налівань свае віна.

— Тры?—пыталася невясёла.

— Але!—запаліўся Бэр.—Яшчэ мяне кліча Прага!

Сьмяялася:

— Танцавальныя залі ў Пратру—поўны чэшак.

— Сьмяяўся:

— Але з афарбаванымі валасамі, каб удаць з сябе венак.

— Ах,—уздыхнула Марта,—яны вартыя жалю.

— А чаго-ж тады варты тыя, каторыя самі ашукваюць!—сьмяяўся Бэр, а Марта сказала ў дзіўным узварушэньні:

— Так ім і трэба, зладзеям! У трыццаць гадоў скачуць тыя бядачкі-дзяўчаты ў Дунай.

(І сумна, быццам гэта былі яе сёстры):

— Хоць-бы прынамсі Дунай цёк у мора праз Маравію [1]). Адгэтуль іх прыходзіць найболей.

— Ах,—сказаў Бэр, разганяючы пацалункам яе сумныя спачуваньні.—Пра гэта ня думай!

І потым пераможна:

— Найлепш хадзіць да крыніцы!

---

[1]) Усходняя частка Чэхіі.

* * *

Пах, гэта—пах пудры Clythia, зьмешанай з салодка-прыкрым потам танцоркі.

Гадзіна, цяпер—дзесятая гадзіна ўвечары за сцэнай.

Вось жанглёр, які хоча яшчэ ў астатнюю хвіліну закурыць і няспрытна раскідае поўную скрыначку запалак.

Вось акробат, які мае за хвіліну правесьці скок сьмерці ды бегае тут як занядбаны, пакутуючы ад болю зубоў.

І эксцэнтрычная танцорка ляжыць вяла на аблезлай канапе, бы закрыты вахляр, а Марыля Цыбулькова, сьпявачка мараўскіх песень, ідзе сумна ў дырэкцыю.

(Клёун, чэрававяшчун і чароўнік гуляюць у марыяш [1]), чараўнік прайграе, а чэрававяшчун з яго сьмяецца двума галасамі, бо клёун нейкі сярдзіты, таму, што ныркі, якія меў на вячэру, былі саўсім цьвёрдыя).

А ў дырэкцыю, абцягаючы рукамі белую, шырокую спадніцу ўваходзіла Марыля Цыбулькова.

Перад дырэктарам, які, сьпяшаючыся, вячэрае, зьяўляюцца ў люстры стройныя, тонкаватыя ногі ў чырвоных панчохах (і ў глянсавых халяўках на лытках) і ён кажа:

— Якая-ж помач, панна. Трохі мы памыліліся!

Марыля, непакойна забаўляючыся з мярэжанай хустачкай:

— Хадзіла сёньня наўмысьле на рагі вуліц, на якія вы вывесілі плякаты з маім вобразам. Людзі спыняліся і гаварылі, што я прыгожая.

А дырэктар (пальцамі шукаючы ў камізэльцы зубачыстку):

— Для нас бясспрэчна важны настрой публікі. Таксама ўчора пляскалі толькі кёльнэры і некалькі студэнтаў, якім мы далі вольныя білеты.

— А можа-б я ў такім разе магла зьмяніць імя, раптам сказала Марыля. Клаўдзія Рыя, якая сьпявае па-нямецку, таксама чэшка і ўчора была выклікана дзесяць разоў.

— Мараўскія песьні нельга сьпяваць па-нямецку,—сьмяецца дырэктар.—Памыліўся я, вось і ўсё. Ня трэ' было мне вас угаворваць.

— А мне тут падабаецца,—марыць Марыля.—Была я рада, што вы мяне вызвалілі з тае пральні.

Дырэктар, урэшце, паварочваецца і ўстае. (Прыплюшчыўшы вочы, прыпамінае, як гэта было, у чым уласна была яго памылка). Вось як гэта было:

— Іду па вуліцы, а праз адчыненыя дзьверы пральні шугае ваш сьпеў. Прыходжу на другі бок і бачу, як там людзі спыняюцца ды слухаюць якраз з такім захапленьнем мэрам на карнізе праскага дому сеў салавейка і пяяў.

Не хадзі да нас, хлапчына, я-ж табе не кажу,  
я-ж табе дзьверцы стужкамі завяжу.

[1]) Чэская гульня ў карты.

— Але, гэтую песьню вы той раз пялі.

А Марта ціха падае:

Завяжы сябе, дачушка, стужкамі сінімі,
разьвяжу я іх славамі добрымі.

А дырэктар:

— Эх, я блазан! Пакінуў вам гэтае імя якраз таму, што была нейкая зарукаю тутэйшага паходжаньня. Выступайце як найпрыгодней, гаварыў я, хай здаецца, што здаровая, чырвоная, здольная і яшчэ несапсаваная дзяўчына прышла проста з мараўскае вёскі. І наўмысьле я вас ня вучыў кокетным хітрасьцям, якія ўжываюць спрактыкаваныя профэсіяналкі. Але цяпер мне ясна, што людзі хочуць быць узварушаны сэнсацыямі і экзотыкай, хоць гэта—можа ўбогая мізэрнасьць. У гэтым кірунку жанатыя мужчыны найболей зьвяртаюць на сябе ўвагу.

— Але,—сказала Марыля,—пяць кветкавых кашоў, якія ў суботу атрымала Клаўдзія Рыя, былі ад старшых паноў. Вячэрае з кім-небудзь кожны дзень (і заўсёды яшчэ сабе зьбірала), капае нешта ў вочы і кожныя тры гадзіны ўпырсквае ў цела морфій. Ужывае фіялкавую пудру, а вы мне раілі, каб ня пудрылася зусім. Як гэта называецца тая вадзіца, якую сабе капае ў вочы?

— Аб гэтым не клапацецеся, панна, — кажа дырэктар. — Калі ўжо не ўдалося, вярнецеся зноў да свае працы. Мужчыны—блазны. Лётаюць хутчэй за намазанымі развалінамі, з якіх на іх пазірае бог ведае колькі хваробаў, чымся за здаровай дзяўчынай, якая здаецца ім надта нуднай, таму што гутарыць іх роднай мовай і не паходзіць ні з Парыжу, ані з Бэрліну, адкуль дастаўляюцца няведамыя яшчэ спосабы каханьня.

— Усё зрабіла-б,—ускрыкнула Марыля,—каб не пайсьці адсюль бяз усякіх вынікаў. Мая вёска зларадная і зьдзеквалася-б з мяне і з маёй маці. (Узварушана). Пастрыгла-б свае косы ды адкінула-б сваю гладкую зачоску з прадзелам пасярэдзіне, якую вы мне загадалі. Зраблю сваю галаву лёгкай і жвавай, як Клаўдзія Рыя, якая падабаецца хлапцом. Бо шмат шкодзіць мая зачоска, аб якой Клаўдзія з насьмешкай сказала, што яна такая сьціпная і бязьвінная, як у сьвятой Анэжкі [1]).

— Ніколі, панна, гэтага на сваё сумленьне не вазьму. Сёньня канчыцца програма, заўтра знайду вам якое-небудзь месца. Будзе з вас надзвычай добрая касірша, дзеля якой набярэцца ў краме многа пакупнікаў.

— Няма там сьвятла, і рукі касіршаў памёрзлыя. Пекна я сабе ўжо выпеставала свае рукі!

— Гэта прыкра, панна Марыля,—кажа дырэктар запальчыва,—але для кабарэ ў вас няма таленту. Паказ мараўскіх песень у народнай вопратцы было спробай, якая сюды магла-б унесьці зусім няпрыстойны элемэнт. (Зірк на гадзіньнік). Ужо час гатавацца вам да свайго нумару.

[1]) Чэскае імя.

— Калі даб'юся посьпеху, пакінеце мяне ў сябе?

— Гэта безнадзейная справа. Не чакайце цудаў ад апошняга дня, калі ўжо перад гэтым бяз водгуку прайшоў цэлы месяц.

— Нафарбуюся фіялкавай пудрай Клаўдзіі!

— Сьмешна! Што—вы хіба эксцэнтрычная танцорка?

— Буду ў такім разе плюшчыць вочы, як гэта чыніць яна!

— Сьпявайце, як вы сьпявалі ў той пральні! Калі вы ў праграме і на плякатах зьяўляецеся дзяўчынай з мараўскай вёскі і калі зьяўляецеся ёю і ў сапраўднасьці, ня можаце псаваць свой здаровы выгляд фіялкавай пудрай і працісэнсавай мімікай эксцэнтрычнай танцоркі.

Адчыняюцца дзьверы:

— Ужо трэба выступаць!

А Марыля:

— Можа ўжо ня трэба?

— Толькі бяжэце,—пасылае яе дырэктар,—пайду на вас пазірнуць.

Марыля ідзе, і калі бачыць вялізарны кош з кветкамі, які сюды прыносяць два слугі, уздыхае:

— Зноў для той-жа Клаўдзіі!

* * *

— Зноў нешта іншае, зусім іншае!—радуецца Бэр, наліваючы віно.

(— Мельніцак [1])—горад з гэтае краіны! І, як даведваюся з газэт,—дадае Майсей,—даволі добры).

— Зноў іншае, зусім іншае, гэта мне падабаецца!

(Новае каханьне вымагае новых абставін. Часта можна кахаць толькі дзеля новых абставін).

— Вось глядзі!—скажа Майсей.—Гадаў я, што плякаты—выкінутыя грошы.

— Гэта як трапіцца,—адказвае Бэр.—Гледзячы, як зроблены. Найболей удаецца на людзі ўплываць вобразам. Заплацілі-б мы дорага за білеты, калі-б гэтай Марыляй не наляпілі кожны рог?

— Памятаеш?—пытаецца Майсей.—Гаварыў я:—па-большасьці маюць каштанавыя валасы. І па-большасьці называюцца Марылямі.

— Колер валасоў на малюнку не пазнаеш. (Больш асабліваe—гэта тое, што яе твар мне зноў нагадаў Марту).

Азіраюцца, але ўсё яшчэ грызе іх нуда.

— Скажу табе навінку—пачаў Майсей Львоўскі—Натан зарэзаўся.

— Ну!—крыкнуў Бэр.—Дзе гэта ты аб гэтым даведаўся?

Прыяцель атрымаў сёньня ранічай ліст з Львова.

---

[1]) Ад назвы гораду недалёка ад Прагі.

— А чаму гэта зрабіў?

— Яшчэ добра невядома!

— Можа нейкія страты?

— Хутчэй, кажуць, меў нешта з нейкай полькай, і была з гэтага злая хвароба.

— Няўжо-ж,—кажа Бэр, як быццам ужо перарос Натана на тры галавы. (А тым часам, аднак, яшчэ не дарос нават да яго пяці каханак). У гэтым трэба быць асьцярожным.

— Я-б табе гэтага не сказаў,—пачынае нясьмела Майсей.—Не, нагул сказаў-бы табе, але іншым разам, каб ты ня думаў, што хачу псаваць табе забаўку.

— А чаму мне гэта ў такім разе гаворыш якраз цяпер?

(Майсей на вуха):

— Каб да нечага падобнага ня прышоў-бы.

— Толькі ня бойся,—сьмяецца Бэр трохі кусьліва.—Толькі ня бойся прыяцелю. Пакуль ты аднёс нашыя сурдуты ў адзежную шафу, выспаведаў я кёльнэра ад *а* аж да *я*.

— Дык пра што-ж ты даведаўся?

— Галоўнае тое, што яшчэ зусім ні з кім ня была.

— Ай-ай,—дзівіцца Майсей,—гэтаму-б дык верыў.

— Сур‘ёзна!

— Тут усе працуюць сабе на-руку.

— Гэтага не гавары,—злуецца Бэр.—Калі-б падабалася, дык яе-б не звальнялі.

— Дапраўды?

— Якраз сёньня. Мужчыны гавораць:—яна чырвоная, як дзяўчынка ад кароў. І такая нязграбная. А таксама гавораць: для такой ня варта хадзіць у кабарэ.

— Дык за тваё здароўе, Бэр,—п‘е Майсей.—Гэта таксама ня будзе дарагая.

А са сцэны крычыць чараўнік:

— Калі ласка, назавеце тры карты!

Саля:

— Чырвоны туз, крастовая сямёрка, званковы валет.

— Дзякую! Цяпер раскідаю вось гэтыя трыццаць дзьве карты па зямлі і трыма кітайскімі нажамі, кінутымі здалёк, прыкалю да падлогі якраз тыя, якія вы сабе выбралі.

(Нажы засьвісьцелі, і тры карты прыколаты. Падыходзяць з вамі, а ў чырвонага туза сапраўды праколатае сэрца).

А за хвіліну пяюць дзьве лялькі на каленах чарэвавяшчуна любоўны дуэт!

А за хвіліну заскуголіць оркестра. Ідзе Марыля! і Бэраў бінокль прагавіта праглынае цэлую Марылю.

— Майсей, ідзі запытайся, ці ўжо занесьлі за кулісы кош з кветкамі?

А Майсей за хвіліну:

— Не клапаціся!

Тады Бэр з захапленьнем:

— Толькі зірні, чым тут пагарджаюць!

(Майсей пазірае праз бінокль).

Пасьля:

— Рады, што ты знайшоў тое, што шукаў.

— Бясспрэчна,—радуецца Бэр.—Дык-жа гэтыя рухі—проста нявінныя. (Дапяяла).

Бэр загарлаў:

— Брава! (і выскачыўшы з крэсла, пляскае).

Людзі хутчэй глядзяць на Бэра, чымся на Марылю.

А Марыля кланяецца.

(Клаўдзія падскочыла да кулісаў і пазірае праз шчыліну:

— Бач!

А пасьля другой песьні ёй прыносяць кош.

Бэр зноў пляскае, а некалькі юнакоў зайздросна:

— Глядзі, куды ён цаляе!

І, пляскаючы, схваццца з Бэрам у заўзятым паядынку.

(Дырэктар, схованы ў лёжы:—гэта ўжо позна хлопцы).

А Марыля трэці раз кланяецца ў кірунку лёжы, бо верыць, што дырэктар аздобіў кветкамі хоць яе адход.

Але пасьля.

Пальцы скаўзнуліся да конвэрту, які быў павешаны якраз на жоўтай ружы і вочы бягуць ад слова да слова.

*Той, што пры пляскан́ьні падымаецца, просіць панну Марылю, каб не адмовіла завітаць на малую вячэру, засланую ў лёжу № 3 сёньня, а палове адзінаццатай. Ласкавы адказ будзе такі:*

*Чырвоная ружа: Але! Белая ружа: Не!*

А Бэр зноў:

— Майсей, запрапаную ёй якое-небудзь месца. Што ты думаеш?

— Мая жонка патрабавала-б здаровую і дужую служку. (Пра сябе:— і мой сын таксама).

Бэр буркатліва:

— Шкада, што ты такі стары, Майсей.

Майсей вяла:

— Можа-б мы яе ў такім разе памясьцілі куды-небудзь у банк.

— Не хачу ёю дзяліцца з якім-небудзь дырэктарам!

— Дык ня ведаю,—кажа Майсей,—ва ўсякім разе павінен мне даць які-небудзь загад.

Кёльнэр кланяецца:

— Ужо заслона, проша.

(І кладзе на стол чырвоную ружу).

— Дык добрай ночы, Майсей!

— Добрай ночы!—разьвітваецца Майсей.—Заўтра а дзесятай паедзем да тае фаянсавай фабрыкі.

— Бачыш,—раптам успомніў Бэр,—Марыля магла-б быць у праскай краме прыказчыцай.

— Быў-бы гэтаму рады,—цешыцца Майсей,—маем там гэтую немку.

(Уваходзяць у той час, калі на сцэну ўбягае Клаўдзія, ад якое тхнула морфіем

І расходзяцца ў той час, калі шчасьлівая Марыля сьніць мараўскую вёску, поўную вясны; вясна гэтая адразу шугнула з чорнае, дажджом ды сонцам акропленай зямлі.

* * *

Маці ў мараўскай вёсцы адчыняе вокны і тужыць, а паштальёнавая галава зьяўляецца пад чырвонымі мушкатамі.

— Гэта адзін, вось тут другі, а вось трэці.

— Дык хай будуць на радасьць!

Тры лісты, як тры ластаўкі, зьляцелі ў хату, і матчыны рукі іх прыгарнулі як цёплае гняздо.

(А потым акуляры з кантычкі, нарэшце, шпільку з сярэбраных валасоў).

— Дык Марта прыедзе на чысты чацьвер.

— Дык Галена прыедзе на чысты чацьвер.

(Цяпер сумна).

— А Марыля прыедзе аж на вялікодную суботу. Мусіць быць у краме аж да полудня. (З той наймалодшай нават не пацешуся).

Ай! Чысты чацьвер сёньня.

І выходзіць, каб замяшаць цеста на тры вялікодныя пірагі. (Адзін для Марты, другі для Галены, трэці для Марылі).

Але ў сенях, дзе схілілася над скрынкай з мукою, яе вочы закрываюць дзьве нечаканыя рукі. (Яна адчувае, як усё запахла фіялкамі).

— Гадайце! (І вясёлы сьмех).

— Ці ня Мартачка?

І сапраўды Мартачка!

— Прыехала ты сюды ледзь ня хутчэй, чымся твой ліст.

І азірае яе, вядучы на сьвятло:

— Пачакай! Якія гэта маеш валасы?

— Баронэса так хацела.

— Баронэса?

— Але! Тая старая дама, якой я служу супольніцай.

— Дык ты таксама вялікая дама, га?

— Няўжо-ж не, мамка.

(І маці азірае яе рукі і вельмі дзівіцца выгладжаным, бліскучым, ружовым пазногцям, аб якіх гаворыцца, што яны цьвітуць; калі папырскаць іх белымі плямкамі.

— А як ты маешся, галубка?

(Каробачка з мукою стаіць на скрынцы. Хата іх праглынула).

— Вядомая рэч, мамка. Як у баронэсы.

— А што павінна рабіць такая супольніца?

— Чытае ёй романы, езьдзіць з ёю на гуляньні; калі застанецца сама, дык з ёю абедае, а калі ня можа ўначы спаць, так ёй зноў мусіць чытаць альбо нешта апавядаць. Зразумела, гэтыя ночы найгоршыя.

Але праца-ж чыстая, далікатная, павінна ты яе паважаць. Аднак, ты ведаеш добра, што гэта лепш, чымся быць служкай.

— Я ведаю! Што гэта, урэшце, чэскую служку ў Вене чакае. Хтонебудзь яе падвядзе, пару гадоў прадаецца і пасьля з таго Дунай.

— А гэтага я калісьці баялася, ня думай. Што хіба ў нашым краю мала ёсьць прыкладаў?

— Бясспрэчна,—кажа Марта,—і ў гэтым трэба быць умелым. Ёсьць між імі такія, якія здабылі сабе вялікае шчасьце. Але зірнеце, мамка, ці гэта-ж не Галена?

Галена падыходзіла, і яны ёй выбеглі насустрач.

А Галена:

— Даехала я з рамізьнікам на брычцы. На вузкакалейку мусіла-б чакаць чатыры гадзіны!

— Дык Мартачка, Галенка, зьяўляецца спольніцай у баронэсы!

— Гэта добра,—сьмяецца Галена.—А я кірую дамашняй гаспадаркай аднаго старога барона.

— Гадала я, — радуецца маці, — што табе кепска жывецца. Ага, шчыра дзякую табе за тыя грошы, якія ты прыкладала да тых лістоў. Ішоў з іх пах, як ад нейкіх кветак.

(Я гэта аддам амаль-што ўсё Рудольфу, думае сабе Марта).

— Што, будзем рабіць баханцы?—сказала Галена, убачыўшы каробачку з мукою і шэсьць яек, запіхнутых у белыя сумёты. Зусім ня ведала, што хутка вялікдзень!

— Добра,—кажа маці.—Ты зробіш свой, Мартачка, а я гэты зраблю для Марылі.

(Перабіралі разынкі, лупілі міндалы, мясілі цеста і бярозавымі паленамі палілі ў печы).

А вечарам, адкрываючы патаемна свае куфэркі, шукалі ў іх начныя адзежыны, такія пекныя, такія надзвычайныя.

(Жадаючы зьдзівіць маці, пашлі ў пакой і ў цемры апраналіся).

Пасьля падышлі да сьвятла лямпы і клікалі:

— *Мам...*

(Але ў другі раз ужо толькі прыдушана):

— Мамка.

А маці, поўная ахвотнага зьдзіўленьня:

— Як вам гэта да твару, мае галубкі!

(Пасьля ўцякалі ў цемру пакою і як уцякалі, шлёпалі сьветла-зялёныя пантофэлькі з залатым поўмесячыкам над наском жахліва, жахліва).

— Галенка!

— Мартачка!

— Таксама і ў мяне сьветла-зялёная...

(Два галасы шкрабаюць цемру:—маўчы, калі ласка!

* * *

А на вялікодную суботу прыяжджае Марыля.

— Шчыра цябе вітаю, дачушка!

— Шчыра цябе вітаем, Марыля, чым гэта цяпер ласьне зьяўляешся?

— Я цяпер, мамка, я цяпер, мілыя сёстры, у аднэй вялікай краме і нічога не раблю, толькі ўкланяюся людзям ды даглядаю, каб былі добра абслужаны.

(Марыля адкрывае куфэрак і раздае ім падарункі з далікатнага фаянсу).

— Дзякую табе,—кажа Марта,—гладзячы зялёную папугу.—Як гэта ты ласьне трапіла ў тое кабарэ?

— Ах,—усьміхаецца Марыля і апавядае аб пральні, у якой пяяла і дзе знайшоў адзін дырэктар. Але цяпер ужо таму два месяцы, як адышла, цяпер ужо таму два месяцы (скажу вам, мамка, праўдзівую праўду), як не хаджу сама, а што ёсьць са мною на кожным кроку яшчэ нехта другі. Ці разумееце гэта?

— Нейкі пан?—гадае маці з шчасьцем у голасе.

— Калі скажу: сяджу тут сама, а ўсё-ж такі тут сяджу яшчэ з кімсь, можа яго пазнаеце, хоць і схованы ва мне!

— А так!—ускрыкнулі Марта з Галенай.—Але гэтакую ганьбу ты нам рабіць не павінна.

— Цяпер ужо гэта пазнаю па твайму твару, Марыля, што гэта ты нам, Езус Марыля, нарабіла?

(І маці агарнула рукамі твар і заплакала).

— Магла ты маўчаць, няшчасная, абурыліся сёстры на Марылю, а яна перад імі адступіла, аж апынулася ў сумежным пакою.

(І тут сёстры зачыняюць дзьверы, і тут сёстры зноў засічэлі на Марылю).

— І як ты да гэтага дайшла?

— Мае мілыя сёстры,—ясным і радасным голасам гаворыць Марыля,—пазнала вялікае каханьне, і аддалася я яму з шчырага сэрца. Калі я апошні вечар у кабарэ выступала, тут, урэшце, аднаму чалавеку я спадабалася і, седзячы з ім, адчувала тое, што вас мабыць дасюль мінала і перад чым я ніколі так салодка ня дрыжэла. Дзіўныя, нябачныя, мройлівыя вочы гэтага чалавека з першае хвіліны мяне зьняволілі, гэта ня былі вочы пастухоў нашае вёскі, халодныя і шэрыя, гэта ня былі вочы

рамесьнікаў, вураднікаў і работнікаў, якія мне ў пральні аддавалі свае каўнерыкі, і былі пагардлівыя альбо бяссорамныя. Ах, сёстры, каханка далікатнага, ветлівага і вабнага, які трымаўся, як быццам сядзеў з кабетай упяршыню. Такі багаты, а ўсё-ж такі грошай не прапанаваў, і аб нявіннасьці гаварыў, якую ў мяне паважае. І не гаварыў аб каханьні, якое прадаецца, але аб тым каханьні, аб якім просіцца. І так мы аб ім прасілі адзін аднаго, і яно прышло толькі тады, калі я ўжо была перакanана, што яго туга ёсьць сястра мая. У вялікай краме, дзе прадаецца фаянс з яго фабрыкі, мяне прымасьціў на службу, тры пакоі мне наняў і служку, з Вены кожны тыдзень да мяне прыяжджае, але я ад пачатку за тыя пакоі плачу сама і працу ў краме сумленна выконваю ад раніцы да вечара. Падарункі каштоўныя хацеў даваць, але я іх не ўзяла, строга пільную сваю волю, сёстры мае, і прашу вас, каб вы былі пэўны ў маёй чэснасьці. І каб вы верылі ў чэснасьць яго. Паводле многіх прыметаў прадчуваю, што і ён ня ведаў каханьня перада мною, з яго бясконцых клопатаў бачу, з якім шчасьцем прыход мае гадзіны чакае, а цяпер ужо аб вясельлі гаворыць, каб дзіцё, хацелася-б каб гэта быў сын, зьявілася ў нас, калі мы будзем ужо зьвязаны шлюбам. Ніколі я аб гэтым слова не сказала, але тужу па ім усё больш і больш. Калі-ж мяне на доўгія дні пакідае ды ў Вену і Будапэшт за сваімі гандлёвымі справамі едзе, гавару яму: ах, Бэр—такое асаблівае ў яго імя—аб тваёй вернасьці не сумняваюся, але цяпер, калі ў мяне пад сэрцам новае жыцьцё прабуджаецца, хацела-б з табою часьцей гутарыць аб сваім шчасьці. Вось якая, сёстры, праўда аб маім граху,—граху найчысьцейшым і найсаладзейшым, які я калі-небудзь дапусьціла, а паглядзеце, як мала я ад яго ўзяла, каб вы верылі, што я беззаганная.

І Марыля выбягае ды куфэрак свой прыносіць і белую, сьнежна-белую піжаму перад імі разгортвае, а тыя нічога, толькі зьдзекваюцца. А Марыля яшчэ белыя, атлясовыя чаравічкі вымае і на срэбраны поўмесячык над наском паказвае, але сёстры стаяць і маўчаць, стаяць і маўчаць, а іх нянавісьць не растопіць нават срэбраны поўмесяц.

— Гэты ядваб далікатны,—радуецца Марыля,—пекныя гэтыя чаравічкі, што-ж вас не разьвяселіць?

Але сёстры маўчаць і ідуць цяжкімі, маруднымі крокамі, ідуць па свае куфэркі.

(Марылю пашкадавалі-б, але яму нельга дараваць!).

— Каб ты ведала, як!—гавораць, прыбягаючы да Марылі,—каб ты ведала, што ты белы колер заслужыла, але ён твайго давер'я ня варты.

— Гэта не ад яго,—усьміхаецца Марыля,—аглядаючы чаравічкі, якія ёй далі ў рукі. Гэта толькі падобныя, ці няпраўда, сёстры, бо ён тыя мае напэўна купіў у Вене або ў Будапэшце, дзе і вы жывяце.

Але тут Марта з Галенай бягуць і пасьля гэтага прыносяць Бэравыя партрэты, якія былі з другога боку сьпісаны яго словамі.

— Бачыш гэтую дату?—пытаюцца Марылі, і Марыля кажа з жахам:

— *Бачу!*

І яны бяруць у ёй з рук портрэты і чаравічкі, а Марыля падае тварам да белага ядвабу, яны-ж адходзяць да маці і просяць яе, каб ім памагла злажыць рэчы для ад'езду.

(Вечар набліжаецца, звон па вёсцы звоніць, месяц усходзіць).

Марта ўцякае замовіць фурманку.

Марта вяртаецца з фурманкай, маці іх праводзіць, махае за імі прамоклай хустачкай і калі вяртаецца, знаходзіць Марылю ў горкім плачы.

— Марта з Галенай ад'ехалі, ты тут у мяне застаешся. Марта супольніца ў баронэсы, Галена кіруе дамашняю гаспадаркай барона, а Марыля мая зганілася.

Але Марыля—добрая і маўчыць, Марыля—чыстая і маўчыць, а калі маці засыпае, Марыля ўспамінае пра каханка, ціханька з роднага кутка адходзіць да сажалкі, штурхае ўперад свой крок, і жывая ўжо не вяртаецца дамоў, мілая дзяўчынка.

# НА ШЛЯХОХ ВОЛІ [1])

**Якуб Колас**

XII

Мінуўшы добрую траціну
Крывавых сьцежак і дарог,
Спыніцца мушу на „Шляхох“,
І на кароткую хвіліну
Згарну поэмы я тканіну
Ды за яе зірну парог.
  У шуме бурнага патоку,
У гаме розных песень, слоў,
Парнас усплыў наверх ізноў.
Парнас мой бедны! ты—бяз клёну!
Ты ад жыцьця стаіш здалёку,
Табе крычаць ужо—далоў!
І марна ўсё тваё стараньне,
Хоць ты аб сьцену біцца рад,
Каб мець найлепшы атэстат,
Але няма табе ні званьня
Ані пахвал, ані прызнаньня—
Сьпяваеш ты, да неўпапад!
Ня здолен ты папасьці ў жылу,
У песьнях тон патрэбны ўзяць
На ўсе сто процантаў, на яць.
Таксама ты ня маеш сілы,
Каб ухіліцца ад ухілу
І тыпа нашых дзён падаць.
І страшна мне за лёс поэмы:
Мой крытык возьме строгі тон,
Ухілаў знойдзе ў ёй мільён
І нясучаснасьць самой поэмы,
Дакоры кіне, што я—немы,
Глухі на зовы нашых дзён.
І скажа: „Досыць нам блуканьня

[1]) Гл. „Полымя“ № 3.

Па зьбітых, пройдзеных „шляхох“—
Пішы аб сёньнешніх франтох!
Давай героіку змаганьня,
Сучаснасьць, волі гартаваньне,
Трыумфы новых перамог!“
Што я скажу яму на гэта?
Ён пусьціць зноў у вочы пыл
І іншы знойдзе тут ухіл.
Але ў машыны і ў поэта
Свая конструкцыя і мэта,
А кожын—спэц на свой капыл.
Яшчэ ня скончана дарога,
Яшчэ ў клубок ня зьвіта ніць—
Былое ў сэрцы гаманіць...
Дык ня судзі, мой крытык, строга—
Работы ўперадзе так многа,—
Я ў іншы круг хачу ступіць.
Гудзе казарма, як паводка,
Чуваць адразу—скрышан лёд:
Узяў уладу сам народ—
І справа проста і каротка!
Ды можа гэта—яшчэ плётка,
А праўды ўсёй—наплакаў кот?
Ўжо колькі дзён, як ходзяць чуткі
І, ўрэшце, вось, прышлі сюды,
Што ў Петраградзе нелады:
Аб рэволюцыі пагудкі—
Яе ня спыніш, брат, не—дудкі!—
Гудуць, шумяць на ўсе лады.
Падзея, братцы, немалая.
Дума, студэнты, маракі,
Салдаты ўсе і казакі
Пашлі насупроць Мікалая!
Сталіца бунтамі палае,
Міністры зьнікалі, як шпакі.
Дзядзькі прыціхлі, з тропу зьбіты,
І нават строгасьць спала з іх—
Кранула вестка гэта ўсіх:
Няўжо ад трону цар адшыты?
Адрокся, кажуць, сам і—квіта!
Ну, як то сам? няма дурных!
Бо дзе-ж то відана, чувана,
Каб вось такія ўладары
Ды самі злазілі з гары

Або мянялі годнасьць пана
На ролю простага Івана—
Вось панства, моў, Іван—бяры!
Відаць, прыпёрлі добра к плоту,
Калі нямілым стаўся трон,
І сам прастолу зрокся ён!
Настала сьвята для галоты—
Папіў ён „кровушкі“ ў ахвоту,—
Ня гонім, але проша вон!..
Навіны, братцы, дык навіны:
Цару і то ўшчамілі хвост!..
Што-ж будзе далей? вось дзе гвозд!..
Ну, падвялі там лоўка міну!
Гані вайне, брат, штык у сьпіну,
Валі туды-ж яе, пад мост!..
„Устаць! сьмірна!“ гаркнула каманда,
Гнучы ўсю гутарку ў дугу.
Зьнямела рота, ні гу-гу!
Ідзе паручнік, ротны Гланда,
А з ім і прапаршчыкаў банда
Паважна сунецца ў нагу.
А самі ўсе яны сур'ёзны
І свой захоўваюць фасон,
Сьпяваць гатовы ў адзін тон,
Хоць можа думаюць і розна.
Паручнік кінуў погляд грозна
Ды так салдатам кажа ён.

РОТНЫ ГЛАНДА

Рабята, слухайце, сюды!
Адбыўся ў нас пераварот:
Уладу ў рукі ўзяў народ,
Бо лад стары быў—нікуды,
І паў, аджыў свае гады.
Цяпер Дзяржаўная Дума
Абрала новы ўрад сама,
Гучкова,
Мілюкова,
Князя Львова,
І іншых дэмократаў,
Што цьвёрда сталі за народ
І ў першы чарод
За вас, рабята!

Народу воля такава.
Найвыдатнейшая-ж пэрсона, галава—
Керэнскі, адвакат.
Ён шчыры дэмократ,
Ад галавы, сказаць, да пят.
Цяпер дадуць зямлі народу
Ї поўную свабоду:
Што хочаш гавары,
Да толькі ня дуры,
Бо, першае, што новы ўрад
Патрабаваў ад нас, салдат,
Дык гэта, братцы,—
Дысцыпліна!
Ї вы павінны пастарацца
Намовам розным не паддацца
Ї ворагу на страх
Трымаць высока сьцяг
Грамадзяніна!
Няхай ня цешыцца наш вораг,
Аб рэволюцыі пачуўшы весьць,
Што рэволюцыя нас зьесьць
Ї баявы падмочыць порах.
Пакажам-жа яму, чаго мы варты,
Што волю мы умеем шанаваць
Ї будзем далей ваяваць,
Крышыць яго, біць не на жарты...
Яшчэ раз, братцы, дысцыпліна
Ї служба перш за ўсё, рабята!
На вас глядзіць уся краіна.
Трымайце-ж сьцяг грамадзяніна
Ї салдата!
  Панове афіцэры,
Бярэце ўзводы!
Замест славеснасьці пустой
Займецеся работаю сьвятой:
Байцом тлумачце сэнс свабоды
Ї ўрады новага намеры.
Чытайце ім „Русское Слово“,
Дзе ўсё апісана падробна,
Ї, я сказаў-бы, беспадобна
Ї прышчапляйце дух здаровы.
Прызналі ўсе пераварот:
Ї глаўны штаб, і ўвесь народ!—

Чытае ротны настаўленьне,
Як самы шчыры дэмократ,
На новы шлях вядзе салдат,
Знаходзіць бурнае натхненьне
Рассыпаць шчодрае хваленьне,
Каб узьнясьці часовы ўрад.
Паручнік Далін сочыць збоку,
Як Гланда робіць зьмену вех
Ды толькі ў вус пускае сьмех:
Ну, і спрытняга-ж, ну, і дока—
Перарадзіўся ў момант вока!
Ну, чым, скажэце, не стратэг?
Пабралі прапаршчыкі ўзводы,
На нары селі і давай
Расьпісваць воінам тут рай
І перавагі, і выгоды
Ад заваёванай свабоды,
Але адно ты, воін, знай:
Вайна яшчэ ў сваім разгары,
Яшчэ гудзе прызыўны звон:
Гані з Расіі немца вон!
Крытычны час, гусьцеюць хмары,
Прынесьці трэба нам ахвяры,
Каб спажываць свабоды плён.
Экскурсы робяць, хто як можа,
У глыб гісторыі, вякоў—
Штурмуюць факт з усіх бакоў,
Бо рэволюцыя пахожа
Ў жыцьці людзей на раздарожжа,
Дзе з трону зводзяць прастакоў.
Гамоняць прапаршчыкі з жарам,
Між імі—вер ім ці ня вер—
Ёсьць і рэволюцыянэр,
Што да народу стаяў тварам,
І вось прышоў час яго марам
Ператварыцца ў факт цяпер.
Трашчаць салдацкія галовы
Ад гэтай процьмы новых слоў,
Ды беднаваты іх улоў.
Адно ім ясна з той прамовы:
Пагоняць іх, хоць лад і новы,
На бойню зноў, як тых валоў.
Глядзі, тут нешта ня ўсё ладна:
Пераварот зрабіў свой брат.

Ці-ж за вайну стаіць салдат?
Чаму начальства так спагадна
І ў тон адзін сьпявае складна,
І кожны стаўся дэмократ?
Нявер'е, сум бярэ салдата:
На ліха-ж той пераварот?
Пра мір сказалі-б наўпярод,
Дык не—пра мір маўчаць зацята!
Хіба ім выбраць дэпутата
Разблутаць гэты перамот?
  Паручнік Далін скуп на словы:
Не агітатар ён—салдат,
Ён рэволюцыі ня рад—
Разваляць армію прамовы!
Глядзіць ён скоса, хмурыць бровы—
Вайна праіграная, брат!
Але і ён паддаўся плыні
На волю выпушчаных слоў
І хоча сам вучыць „аслоў".

ПАРУЧНІК ДАЛІН

Салдаты! Русь сьвятая згіне,
Калі вайну салдат пакіне,
Што, бачу, ён зрабіць гатоў.
Мільёны шкурнікаў, брадзяг,
Нікчэмства, прах,
Шалаецца ў тылох
Бяз дзела, без дарог—
Ні абавязкаў, ні сумленьня,
Ні ў чым ніякага адказу.
Адно іх толькі прызначэньне:
Насіць заразу
Разлажэньня!
Цяпер яны,
Ня нюхаўшы вайны,
Прахвосты, дызэртыры.
Узьнімуць голас, крык аб згодзе:
Паваявалі мы і годзе!
Далоў вайну! мы хочам міру!
Што ім вайна? што ім айчына?
Нарэшце, што свабода ім?
Глухія словы, маска, грым!
Цяпер-жа зьнята з іх ляйчына—

Ня сьмей крануць грамадзяніна!
Грамадзянін ты, сукін сын?
Вашывы струп і гной на целе,
Чортапалох!..
Ганеце вон такіх прайдох,
Каб тут яны і не сьмярдзелі!
У чым-жа сэнс перавароту?
Адмесьці гніль і ўсю брыдоту,
Дарогу даць таму,
Што чэсна і здарова,
А з гнільлю, шкурніцтвам
Расправіцца сурова!..
Салдаты мы, нам трэба ваяваць,
А на ўсё іншае—пляваць!
Вось так паручнік адчыкрыжыў
Сваю праграму, свой пагляд,
Але ня ўсьцешыў тым салдат.
Не, тут прыгнуцца трэба ніжай,
Каб падыйсьці да праўды бліжай—
Хай слова скажа тут свой брат.
Як патрывожаныя пчолы,
Шуміць, гудзе салдацкі рой.
Распаўся ўвесь казённы строй.
Салдат, падняўшы свае полы,
Ідзе на мітынгі з стадолы.
Ён—цэнтр увагі, ён герой.
За ім, як хлопцы за дзяўчынай,
Профэсар ходзіць і студэнт,
Часамі поп, інтэлігент.
Цікавяцца ўсе „ніжнім чынам“,
Бо толькі ён сваёй айчыне
На шчасьце можа даць патэнт.
А што-ж рабіць яму? парадкі
І дысцыпліну захаваць
І здольнасьць далей ваяваць,
Каб на абедзьве на лапаткі
Шпурнуць, прыцісьнуць немца гладка
І волю тым застрахаваць.
Грымяць прамовы, слоў багата,
І што ні момант, што ні час,
Абвестка новая, прыказ,
Сюды, туды шлі дэлегата,
Ад кожнай роты па салдату,
А то і некалькі за раз.

Растуць, буяюць камітэты,
Канца ня ведае іх штат—
На дэлегаце дэлегат,
Адозвы множацца, газэты,
У ход пашлі „эсэр“, „кадэты“,
І ўсе крычаць: ваюй, салдат!
Але салдаты не ахвочы
Да гэтых лёзунгаў і слоў.
Даволі, годзе ўжо ліць кроў!
Даволі пыл пускаць у вочы!
Няхай ваюе той, хто хоча—
Ня трэба ім вайны—далоў!
І свой ухіл вядуць салдаты,
І хоць Керэнскі той—эсэр,
Ды і яму ня надта вер—
У іх свае ёсьць дэпутаты...
Ідуць дыскусіі, дэбаты,
На бок адсунут афіцэр.
Злыя ходзяць афіцэры.
Горкі сьмех іх крывіць губы—
Расшрубованы ўсе шрубы:
Няма войска, ёсьць зброд шэры.
Што-ж? сьвядомасьць—дысцыпліна,
Усчувай іх толькі словам,
Ды бяда: пустым галовам
Больш патрэбна—што?—дубіна!
А прыказ той чаго варты,
Знамяніты, нумар першы?!
Развалілі войска шэршні,
Далі ў рукі немцу карты!
Расьпяразана „кабылка“...
Вось дзе сьвята ёй, дык сьвята!
Не, ня зробіш з халуя ты
Угаворамі асілка!
Мітынгуюць, гарладзёры,
Самі топяцца ў брудзе...
Гіне Русь, дабра ня будзе,
Бо няма ні ў чым апоры!
Разброд, разлад. Няма надзеі.
Расьце анархія, развал.
Стараражымшчык, генэрал,
І паказацца ўжо ня сьмее,
І кадр палкоўніцкі радзее,
Змывае ўсё салдацкі шквал.

А ў пятай роце Клім Сафонаў,
Ефрэйтар, ён-жа дэлегат,
Чытае з прыціскам даклад,
Тлумачыць новыя законы
Наконт вайны і абароны
І дэкларацыі салдат.

## ДЭЛЕГАТ САФОНАЎ

Таварышы! пад націскам Савету
Рабочых і Салдацкіх Дэпутатаў
Прыказ па войску вышаў гэты.
Дык вось, таварышы салдаты!
Наўперад мы былі рабамі,
За глупства нас каралі строга,
Казарма нам была астрогам.
Цяпер-жа самі мы з вусамі
Свабода нам дана,
І вось яна:
У карты хочаш граць ты—грай!
Задумаў у тэатр—валяй!
Бо ты цяпер ня „ніжні чын“,
А, як і ўсе, грамадзянін!
Дысцыплінарнае ўзысканьне
Касуецца да званьня:
Папаўся ты ў бяду,
Адказвай па суду!
А што да „блага“ і „высока“ родзіі—
Шабаш, і зваць так годзе іх!
Заві па чыну,
Дадаўшы „гаспадзіна“:
Гаспадзін капітан,
Гаспадзін палкоўнік,—
Як іх паказвае каптан,
Які хто з іх чыноўнік.
А вось наконта замірэньня,
Дык справа глухавата,
Але ня зрушыш ты салдата
За буржуёў у наступленьне!
Ёсьць партыя адна—
За нас, таварышы, яна!

9-28. IV. 1929 г.

# НАРАДЖЭНЬНЕ ЧАЛАВЕКА[1])

*Роман*

**Андрэй Александровіч**

## XXX

Людзкая злосьць. (Няма ёй меж і форм!)
Яна гатова варам помсты лютай
разьбіць сьцяну грудзей і вырвацца ў прастор
злачыннай дзейнасьцю, суровасьцю нячутнай.

Людзкая злосьць. Як моцна карані
(Сівая спадчына!) віюць вянкі традыцый.
Рукамі слоў варожых—закрані
і злосьць прарве вузлы, як хмары бліскавіца.
Няўдача—будзіць крыўду, крыўда—будзіць злосьць,
а далей—помста кроў штурмуе страшна...

У горле Клемуся засела помсты косьць
і выкінуць яе гатоў крывавы кашаль.
— „Ці крыўда-ж тут, ці злосьць? Дарма!..“
Даводзіў Клемусь часта пры сустрэчы
сваім таварышам, і слухала гурма...

— „А гонар ёй, як сук, пара падсекчы.
Ды Павал, сукін сын, усюды нос уткне.
Каторы раз. Як камень на дарозе!
Ой, рук маіх, відаць, ён ня міне...“

І кулакамі выказаў пагрозу.
А ўсё так проста. Клемусь атрымаў
замест Марылі толькі сьмех раскатам...
І злы ён не адзін, уся яго гурма
ягонай злосьцю лютаю працята.

---

[1]) Гл. „Полымя“ за красавік, кніга чацьвертая.

А тут, як масла, хціўна падлілі
ў агонь зласьлівасьці—пагудкі,
і хутка плёткамі расьлі:
— Амністыя акцябарская хутка.
— Залтушкіна на волю, ей-жа-ей.
— Казалі, Англія міргнула толькі вокам,—
перапужаліся, і турмы ад людзей
нашчэнт ачысьцяць...
— Вылезе ім бокам.
— Спужаліся, а як-жа... Трэснулі па швам.
— Нацешыліся... Так яно часамі...
— Гэй-гэй, братва,
праз дзень, альбо праз два
Залтушкін будзе з намі!
— Дык радасьць гэтую
хадзем, шпана, зальлем мы!
Гурму адпетую,
міргнуўшы клікнуў Клемусь.
— Лафа цяпер!
Гуляй!
Мільтон нястрашны нам.
Заляжам зноў—
у бровары пад кранам!..

. . . . . . . . . . . . . .

— Ты чуў?.. —Амністыя?..
І выла навіна
забруджаная плёткамі мяшчанаў...

* * *

Іх гурма.
Пакой, як скрыня.
Дым вісіць дугою.
Тут гандлюе гаспадыня
чыстаю ханжою.

Востра-едкім перагарам
злосьць ламала ў сэрцы краты.
— Бачыў хто такую шмару?..
Скаргу Клемусь сплюнуў матам.

І ў атрутным гэтым чадзе
злосьць, як пена, бушавала.
Што-ж, ад п'янага разладзьдзя
вельмі блізка да скандала.

## XXXI

Сонца гэтак хітра вылезла з-за хмары,
золатам убрала хмуры небасхіл.
А ў Марылі смутак сьцелецца на твары
і ў грудзёх згарае кроў дзявочых сіл.

Доўгую вязанку вяжуць успаміны.
О, які пярэсты, як ня роўны шлях!
Страх ня перад будучым крыецца ў дзяўчыны,
за шляхі мінулыя неадвязны страх.

Хто ў такіх хвілінах шчыра паспрыяе
словам добрым сілы бурна-маладой?
— Ці далёка дзень той? Хай ён пахавае,
ўсё маё былое, выклятае мной.

Я хачу радзіцца, нанава радзіцца,
працаваць шчасьлівай...
Дзень той, дзе-ж ён, дзе?

Крыльля гэтай думкі не змаглі прабіцца
і сугуччам слова выляцець з грудзей.

— Ўсё, што ўспомніць можна — ўсе, як на далоні.
А якою платаю адкупіць жыцьцё
і ўжо больш ніколі, што было, ня помніць,
назусім забыцца, апавіць стацьцём...

Сіліцца Марыля дум сваіх журботнасьць
(Не стае адвагі!) гнеўна абарваць.
— Што-ж чакаць так доўга?.. Там —
у пераплётнай
пэўна будуць думаць: — „любіць байсаваць"...

Прыкра, няпрыемна... Ды хутчэй-бы клікнуў,
хочацца папасьці ў беларускі клюб...
А на небакраі пазалота зьнікла,
ўвосень сонца мала радуе зямлю.

— Выбачайце, сёньня мо' заняты сьледчы,
дык прыду я заўтра, што-ж чакаць дарма?
— Ён казаў чакаць вам...
А ўжо блізка вечар.
Ветрамглісты вечар. Радасьці няма...

Праз хвілін дванаццаць клікнулі Марылю.
Страх працяў дзяўчыну, скрозь як той мароз...
Габінэт знаёмы, тут дапрос рабілі,
і знаёмы сьледчы—ён рабіў дапрос.

Ля стала прысела, апусьціўшы вочы,
а ў вачох жаданьне болей не маўчаць.
Сьледчы задуменны па пакою крочыць,
быццам „цот ці лішка“ хоча адгадаць.

— Вас чакаць прымусіў, але ў справай вашай
дзень цалюткі сёньня гутарку вяду.
— Трэба, значыць, трэба... Пачакаць нястрашна...
Толькі што шчасьлівага ўбачу тут, знайду?!

І на крыльлях змроку дзіўныя праявы
жах нясуць Марылі, прагнуць заўладаць...
— Я сказаў пазваць вас. Вымагае справа,
і, напэўна, радасьць прыдзецца спаткаць.

. . . . . . . . . . . . . . . .

## XXXII

Ходзіць Павал бяспрывычна,
каля крам, на тротуары.
Надакучліва скавычуць
ветрам восенскія хмары.

Ходзіць Павал, думкі роем,
зьніч вачэй імглой заліты.
— Дзе-ж Марыля? Што такое?
І жужжыць трывога скрытна.

І жужжыць глухою сілай...
Толькі думкі-лятуценьні,
нібы птушак плаўнакрылых,
шчасьце сонечнае стрэне.

І настрой званчэйшы нават,
як убачыш думкай сьмелай,
што адлужыны, канавы
захаваны ў коўдрах белых.

І ня чуць, як вецер плача,
і галосячы разносіць
па краіне, няіначай,
пажаўцелым лістам восень.

Ходзіць Павал... Выглядае,
мо' пакажацца Марыля.
На зямлю ўжо змрок ступае,
хмары грудзі прыдавілі.

Ходзіць Паўла. Ў змроку шэрым
аб сабе ў наступным марыць.
Сэрца моўчкі шчасьцю верыць,
зьзяе ўсьмешкаю на твары.

— Дзе-ж Марыля? Што такое?
Ходзіць Павал задуменны...
А ў грудзёх гудзіць прыбоем
кроў, бушуючаю пенай.

— Кажуць, вышла на гадзіну,
а ўжо й трэцяя мінае.
Што такое? Дзе прычына?
Толькі вецер завывае,

тэлеграфным дротам плача,
як за горадам прысады.
— Як-жа так? Няўжо іначай?
Так, бясспрэчна, толькі здрада.

Што-ж, няхай няўдзячна гэтак
за сваё дабро трываю.
Так і ўсе, відаць, кабеты
сьлед гарэзны пакідаюць...

Першы раз, балюча нават,
твар скаробіўшы ў маршчыны,
распазнаць імкнуўся Павал
псыхолёгію жанчыны.

І настрой чарней ад ночы.
Як зьмяняюцца-ж настроі!
Але ўсё яшчэ, заскочыў
ў пераплётную, стралою.

— Не. Няма.. Ня прыдзе сёньня,
бач, канчаем працу скора...
Вечар ветраны палоніць
цьмою восенскаю горад.

— Што-ж рабіць? Ісьці дадому—
з бацькам едкая сустрэча.
І ў завулак, як бяздомак,
завярнуў, сагнуўшы плечы...

Цераз вокны з сутарэньня
мітусіцца сьвет газьніцы.
Бачыць Павал, быццам цені,
насупроць гурма шчарбіцца.

Крок далей і добра чуе
голас Клемуся п'янога.
Хай іх чорт, перасьцярога
ад бяды парой ратуе.

Каб раней вярнуўся крышку,
а то ўгледзелі,—аравай:
— Жар яго! Хрысьці! Бр-рацішкі!
І ўзьвівалася расправа.

Самасуд устаў на ногі,
і спрабуй, ня будзь пакорным.
Злосьці крык нажом трывогі
рэжа хмары ў змроку чорным.

Шчасьце Паўла,—ўдарыў звонам
неўзабаве голас п'яны:
— Маць тваю! Бягуць мільтоны!..
І... закашлялі наганы.

Карыстаючыся крыкам,
Клемусь хітра вокам зьмерыў,
з-за вугла падбег і „фінкай“
раніў
міліцыянэра
. . . . . . . . . . . .

## XXXIII

— Не, таварыш сьледчы, я-ж у тым нявінна,
што Аўзор шпіёнам, ворагам ён быў.
Нават і ня ведала.
Прыманіў скарынкай
у хвіліны роспачы,
голаду,
журбы.
Ён імкнуўся словам, ён імкнуўся сілай
пакарыць, зьняславіць, жонкаю зрабіць.
Я скажу вам шчыра:
ён быў мне нямілы,
я таіла ненавісьць да яго ў глыбі.

— ...?
— Я не атрымоўвала а-ні-якіх грошай.
— ...?
— Кажаце, развозіла нелегальна пошту?
Так, пакет я везла.
Толькі-ж несьвядома,
як і дні былыя каратала скрозь...
— ...?
— Праўда, так, я помню. Ён прасіў нікому
не паказваць ліст той,
гэты самы, вось—
І вачыма глянула на пакет ружовы,
што, у сургуч заплямены, на стале ляжаў.
Заміргаў на шчоках золакам-падковай
малады румянец, сонечны пажар.
Уздыбіла бровы праватой дзявочай,
у брывях таіцца сьветлы дым вачэй.
Паглядае сьледчы, крыху жмурыць вочы
і на вуснах ветла ўхмылкай
радасьць тчэ.
— ...?
— Сходы? Я не ведаю. Я ўжо вам казала,
можа й адбываліся,
а ці-ж мне там быць?
Шчыра так і проста гутарка вязала
доўгую вязанку фактаў барацьбы.
І спакойна сьледчы запытаў Марылю:
— Мо' з Дарубашвілем
даць спатканьне вам?
Бо, напэўна, болей
у жыцьці ніколі—
так сказаць, сустрэцца з ім няўдасца нам.
— Што-ж, калі вам трэба, каб пры ім, у вочы,
расказала тое, што кажу цяпер,—
калі ласка, клічце.
Я-ж сама ня хочу,
зноў, каб сэрца енчыла, як падбіты зьвер.
— ...?
— Вы ў мяне пытаеце, што, каму спрыяю?
Адкажу вам проста: не хачу спрыяць!
Я хачу змагацца, працаваць, я знаю, —
хай сягоньня сіла кволая мая, —
трэба мне акрэпнуць, падвучыцца трэба,
(я, між іншым, думаю на рабфак пайсьці)

і тады, таварыш, чым змагу, як-небудзь
я здабуду права барацьбы ў жыцьці!
— А скажэце, ясна сутнасьць вам, прычына,
як, за што мы б'емся, што мы хочам мець?
— Як-жа, каб працоўным уладаць краінай,
гнаць буржуяў, белых,
  што-ж не разумець?
— Правільна. Рабочы з селянінам разам
злучанаю сілай праламалі лёд.
Загудзелі хвалі, з берагоў адразу
вышлі валам злосьці
  ў баявы паход.
Грозная паводка. Толькі крыгі шчорацць,
гінуць, як ад сонца сьнегавы сумёт.
Гэта рэволюцыя...
Крыгай—плача ворагі,
а штурмуе хваляй—
  пролетарскі пот.
Пот разьліўся хваляй, а мазоль вяслуе.
Будучыну кліча вольны пролетар.
Ён будуе будучае!
  Ён—цяпер працуе,
ну, а хто працуе—той і гаспадар.
  І расказваў сьледчы, як раней жылося,
  працавалі сотні—панаваў адзін.
— Вось чаму заўзята багацеі злосна
зноў вярнуць імкнуцца жах былых часін.
  Слухала Марыля, ўважліва лавіла
кожны гук, захоплена... чуе, як прыбой,—
у грудзёх бунтоўна, ўзбуджанаю сілай,
б'е крыніцай прагнасьці вырвацца у бой!..
І гатова доўга, доўга—без спачыну
слухаць словы моцныя і губу кусаць—
і—зласьліва думаць:—расьцьвіла дзяўчына,
толькі пустацьветная гэтая краса...
— Так, на гэтым скончым.
  Справу ліквідуем.
Вольныя цяпер вы.
  І ў імя жыцьця
за работу, шчыра!
— Як жыцьцё муштруе!..
— Патрабуе выбраць свой жыцьцёвы сьцяг!
У бакох хавацца ў часе бойкі нашай,—
нож рэволюцыі ня церпіць хітрых схоў.

Ці з багацеямі супроць братоў паўстаўшых.
Альбо з працоўнымі супроць багатыроў!
Пауза...
Маўклівасьць.
Нявымоўнай сілай
зашчымела сэрца... Радасьць тут ці жах?
Радасьць, хоць сьлязою твар і арасіла,
але каляруецца радасьць ў вачах.
. . . . . . . . . . . . . . .
Зноў
выць
пас-
той.
Но-
вы
нас-
трой!
Залп!
Верх!
Раз!
Стой.
За-
ве
нас
бой!
Свой
страх
сьмерч
зьдзень.
Во-
раг
сьмерць
стрэнь!
Рэвалюцыі слава!
Слова—
ўверх!
Пазнаў сваё права
новы
чалавек.
. . . . . . . . . . . . . . . . . . .
...Дзіцё маленькае прасьцерла вачаняткі
і ў першы раз убачыла сьвятло.
Затым пазнаць змагло
з усьмешкай постаць маткі,

а там—вітаць яе сугуччам першых слоў.
Вось так і я. У першы раз пазнала
зямлю і сьвет і родных мне братоў.
О, рэволюцыя, як маці спавівала!
О, ў рэволюцыю радзілася я зноў...
Мой шлях адзін і сьцяг адзін, таварыш,
сваё жыцьцё злучу з жыцьцём другіх.
І на Марыліным бадзёра-сьветлым твары
плывуць шчасьлівыя кругі.
— Цяпер я вольная?
Ня трэба больш прыходзіць
сюды ў ЧК?
— Закончаны разбор...
— Бывайце! Дзякую.
— Бывайце!
І, як злодзей,
схаваўшы ў хустку твар,
пабегла ў калідор,
а там на вуліцу і—
гэй—
скарэй,
скарэй,
скарэй.
Хустка ветрам з плеч спаўзла.
Што крок—бліжэй.
Што крок—бліжэй.
Запал вачэй
грэзе імгла
О, вочы агнявей!

Ня сутрымаць юнацкі ўздым,—
як не зьмяніць і плынь вады!

Агонь гарыць, спрабуй—падуй,—
вятрыска—ў радасьць, ты—ў бяду!

Ня сьцяць юнацкі ўздым-задор,—
як не дастаць рукамі зор!
Скарэй,

Марыля,
крыльля—
узьвей!
Скарэй,
скарэй.
Скарэй!

Як дзяўчынка, сэрца скача,
як ручайкі кроў бурліць.
Не пачуе голас плачу
чорнай восенскай зямлі.

Кожны год за летам восень
хмарай шлях пралажа свой.
Так вядзецца, так вялося
па прывычцы векавой.

Што-ж, няхай сабе дурэе,
нэрвы можна пачасаць...
Але ў сэрцы палымнее
жыватворчая краса.

І няўжо запал, імкненьні
ў сілах восень утрымаць?
Восень стане на калені—
як імкненьні зашасьцяць!..

Вечар хутка сплюшчыць вочы,
ноч прыляжа на зямлю.
А ў грудзёх запал дзявочы—
не спазьніцца сёньня ў клюб.

Каб пачуць з агністых вуснаў,
родны як жыве народ.
Як сястрыцы-беларускі
вышлі ў сонечны паход.

І бяжыць, бяжыць дзяўчына
клікнуць Паўла іскрай слоў,—
бегчы ўдвох на вечарыну
беларускіх песьняроў.

І яму пра нараджэньне
з захапленьнем расказаць...
Кроў юнацкая струменіць,
струны радасьці зьвіняць.

. . . . . . . . . . .

Горад.
Пры горадзе—прыгарад.
Вуліца і
з канца
будынак, як быццам прыгарак,
кватэра шаўца.

Прыбегла Марыля.
— Дзе-ж ён, Павал!
Маці бясьсільлем:
— Пабілі...
Расправа...
Марылька ў бядзе мы...
— Якая расправа?
— У міліцыі Клемусь
і Павал...
Бліснулі вочы ваўчыцы і
Марыля йдзе ў штаб міліцыі.

## XXXIV

Годы сучасныя! Бурныя годы!
Гартованай сілай агнём расьцьвілі.
На экране эпох
бягуць эпізоды
бязьлітасных схватак народаў зямлі.

І хочацца там быць,
праскочыць праз дамбы.

Навалаю бур мы
раскідвалі-б турмы.

І воляю ім бы
пярэсталі німбы.

О, памяць, як стогн рый
скарбы гісторый.

Змаганьне! Змаганьне! Крылатае слова!—
Здавалася, вусны працёрлі да дзір.
Змаганьне жыве!..
О, скошвай галовы
і моцным да мэты праз косьці дайдзі!

Змаганьне жыцьцё! І каб жыць—то змагацца!
Стагодзьдзямі ўслаўлены сьмелы закон!
З сабой, з чалавекам, з прыродаю, з працай—
змагацца для славы наступных дзён!

Мала радзіцца! Будзь цьвёрдым, як камень!
Любою істотай умей заўладаць!
Тысячы дышаць тваімі грудзямі—
Сэрца тваё—грамада!

Радасьць са злосьцю, бадзёрасьць з надломам,
хто пераможа? А ў сэрцы пажар.
Ня кожны удар навальнічнага грому
высасвае кроў чалавечых ахвяр...

... У штабе міліцыі ўбачыла Паўла.
Міліцыянэры наўкол.
Старанна рука вартавая пісала
сутнасьць падзей—пратакол.

— Кажаце, вам пагражалі пабоем
за тое, што сальнік Залтушкін ў турме?
— Старым не давалі ў жыцьці супакою,
ня толькі мне!

— Таварыш,—яна да стала падбягае,
і ўзбуджаным голасам, крыўдай сваёй,—
жыву ў іх... Бачаце, справа такая,
Клемусь хацеў пажаніцца са мной.

А я адвярнулася, што мне з бандытам
адною дарогай?.. Таму вось яны
яго прылавілі...
  І глянула скрытна
на Паўла,
  а Павал падцягваў штаны...

. . . . . . . . . . . . . .

Дарогай дадому... А ноч, як смала.
Пасьвіствае вецер, шуршыцца імгла.

Маўкліва спачатку: кожны ў журбе:
у кожнага ў сэрцы дасада скрабе.

— Бандыты... А ты дзе-ж змагла прападаць?—
хацелася Паўлу ў Марылі спытаць.

— Нявєтлівы ў новае першы уступ,—
Марыля ня можа забыцца пра клюб...

А ноч, як смала.
Вецер.
Імгла.
Разгаварыліся. Злосьць прайшла.

*Працяг будзе.*

# КОЛЁНІЯЛЬНА-НАЦЫЯНАЛЬНАЕ ПЫТАНЬНЕ Ў ЛЕНІНІЗЬМЕ [1])

**М. Равіч-Чэркаскі**

## V. Аўтономія, фэдэрацыя, незалежнасьць

Мы ўжо бачылі, што Маркс пры вырашэньні нацыянальнага пытаньня ставіць апошняе ў падпарадкаваным становішчы ў дачыненьні да пролетарскай барацьбы супроць капіталістых. Усякае прымяшаньне, якое можа служыць перашкодай разьвіцьцю міжнароднай солідарнасьці працоўных, Ленін адкідае. Усьлед за Марксам Ленін лічыць, што ўсякае прымяшаньне нацыяналізму ў соцыялістычным руху толькі зьбівае рабочых з правільнага шляху. Буржуазія заўсёды імкнецца скарыстаць прыгнечанае становішча нацый для таго, каб зацямніць клясавую сьвядомасьць сваіх рабочых.

У межах дзяржавы, у якой жыве многа нацыянальнасьцяй, мы ведаем тры спосабы вырашыць нацыянальнае пытаньне. Кожная нацыя на працягу ўсяе барацьбы вырашае гэтае пытаньне ў залежнасьці ад умоў. Але кожная нацыя ў капіталістычнай дзяржаве імкнецца вырвацца тым ці іншым спосабам з ланцугоў уціску пануючай буржуазіі.

Спосабы вырашэньня нацыянальнага пытаньня наступныя:

Калі буржуазія прыгнечанай нацыі досыць дужая і хоча ў тэй краіне, якую яна засяляе, абараніцца ад конкурэнцыі пануючай буржуазіі, тады яна імкнецца зусім адлучыцца ад тэй дзяржавы, у якой яна жыве. Спосаб адлучэньня, які выкідае буржуазія прыгнечаных нацый, дае ёй магчымасьць пры перамозе стаць поўным гаспадаром на сваёй зямлі, не дапускаць увозу тавараў з іншых краін і пашыраць і павялічаць свае багацьці.

Адначасова буржуазія карыстаецца монопольным правам бязьмежнай эксплёатацыі свайго ўласнага пролетарыяту. Пролетарыят-жа пакінуты сам на сябе без падтрыманьня рабочых пануючай нацыі яшчэ вельмі слабы для таго, каб аказаць сур'ёзнае супраціўленьне сваёй буржуазіі. Ствараючы сваю дзяржаву, буржуазія мае ў ёй усю паўнату ўлады. Таму яна не дае пролетарыяту ствараць свае клясавыя, профэсіянальныя або палітычныя організацыі. Яна запалохвае пролетарыят тым, што дзяржава яшчэ маладая, што яна яшчэ ня мае моцнага фундаманту, што

---

[1]) Гл. „Полымя“ № 5.

спробы выклікаць беспарадкі ў дзяржаве могуць прывесьці да развалу. Мала таго, буржуазія заўсёды наводзіць на пролетарыят страхі, якія заключаюцца ў тым, што суседнія дзяржавы пры беспарадках унутры данае дзяржавы могуць умяшацца і заняць частку належнай дзяржаве зямлі.

Гэты спосаб вырашэньня нацыянальнага пытаньня называецца спосабам *адлучэньня*. У гэтым спосабе, у большасьці выпадкаў, у межах капіталістычнае дзяржавы, зацікаўлена больш за ўсё буржуазія прыгнечанай нацыі, таму, чым дужэйшая буржуазія прыгнечанай нацыі, тым больш моцнае яе імкненьне да адлучэньня, да незалежнасьці, да самастойнасьці.

Пролетарыят прыгнечанай нацыі ў такім імкненьні незацікаўлены. Для пролетарыяту, у першы чарод, важна агульная барацьба яго разам з пролетарамі ўсіх іншых нацый, супроць свае і чужое буржуазіі.

Таму сярод рабочых адбываецца барацьба за ўплыў, з аднаго боку буржуазіі, з другога боку, пролетарскай партыі, якая называецца комуністычнай. Буржуазія супроць комуністычнай партыі стварае свае організацыі, якія яна досыць часта называе дэмократычнымі, рабочымі і нават соцыялістычнымі. Буржуазія робіць гэта для таго, каб лягчэй спакусіць, захапіць масы пролетарыяту ў свае сеці, у сваю ідэолёгію. Яна прымушае праз свае ілжывыя, фальшывыя організацыі служыць сваім інтарэсам і замест аб‘яднаньня пролетараў розных народаў яна прапаведуе адасабленьне кожнае рабочае клясы па лініі свае нацыі.

Калі буржуазія прыгнечанай нацыі не адчувае сябе выстарчальна дужай для таго, каб будаваць уласную дзяржаву, калі яна яшчэ невыстарчальна пасьпела для таго, каб пабудаваць уласную прамысловасьць, тады дзяржава лічыцца для буржуазіі неабавязковай. Яна стараецца ў межах адзінае вялікае дзяржавы патрабаваць для сябе як можна больш правоў, ураўнаньня ў правох з пануючай буржуазіяй.

Яна і тут не жадае быць у падпарадкаваным становішчы і стараецца праводзіць свой уплыў на пролетарыят для таго, каб ён прыняў яе програму, яе патрабаваньні ў нацыянальным пытаньні.

Але, урэшце, дзяржаўная незалежнасьць зьяўляецца канцовай мэтай буржуазіі кожнай нацыі: быць монопольным гаспадаром на сваёй уласнай зямлі; здабываць прыбыткі з сваіх прадпрыемстваў толькі для сябе; эксплёатаваць сваіх рабочых толькі на сваю карысьць,—вось запаветная мара капіталістых кожнай нацыі.

Супроць гэтых інтарэсаў капіталістых канцовай мэтай усіх сьвядомых рабочых зьяўляецца цеснае яднаньне ня толькі ў межах аднэй дзяржавы, але ва ўсім сьвеце.

У кожнай капіталістычнай дзяржаве народы, што жывуць у ёй, рассьселены неаднолькава. У царскай Расіі, напрыклад, усе прыгнечаныя народы жылі пераважна на ўскраінах. Карэнная Расія знаходзілася нібы ў абкружэньні, у ланцугу з усіх бакоў чужых народаў. Пачынаючы

з ускрайняе поўначы і канчаючы поўднем, усьцяж жылі самыя рознастайныя народы. Фіны, эстонцы, латышы, літоўцы, беларусы, палякі, украінцы, крымскія татары, самыя рознастайныя каўкаскія народы, бухарцы, рознастайныя народнасьці Паваложжа і Сібіры ахоплівалі ланцугом усю вялізную краіну.

У Аўстра-Вэнгрыі наадварот, усе насяляўшыя яе народы жылі ўперамежку, цераспалосіцай. На кожным любым вучастку зямлі жылі самыя рознастайныя народы. Калі ў адным месцы чэхаў, напрыклад, было больш, чым немцаў, то ў суседнім мястэчку немцаў было больш, чым чэхаў.

Але ў Расіі, скажам, такая нацыя, як яўрэі, ня жылі шчыльнымі масамі ў адным месцы, а былі раскіданы на землях сучаснай Украіны, Польшчы, Беларусі і Літвы.

Рознастайныя спосабы расьсяленьня народаў унутры кожнай дзяржавы прымушаюць для кожнай нацыі па-рознаму вырашаць нацыянальнае пытаньне.

У той час, калі народу, які жыве на ўскраіне, няма ніякіх асаблівых труднасьцяй, каб адлучыцца, то для народу, які трапіў у чужы асяродак невялікімі масамі, спосаб адлучэньня абсолютна выключаецца. Колькі не адлучайся, такая нацыя, усё-такі нацыянальнае пытаньне ў дачыненьні такой нацыі цалкам вырашана быць ня можа пры капіталістычным ладзе.

Такім чынам, аднастайнае вырашэньне нацыянальнага пытаньня ўсюды, заўсёды і ва ўсіх выпадках зусім немагчыма.

Ленін пры вырашэньні нацыянальнага пытаньня заўсёды выходзіў з гэтае акалічнасьці. Ён разумеў, што ў дачыненьні да нацыянальнага пытаньня трэба прыстасоўвацца да ўмоў месца і часу і ў залежнасьці ад гэтых акалічнасьцяй трэба шукаць спосабаў вырашэньня пытаньня.

Яшчэ адну акалічнасьць улічваў Ленін пры вырашэньні нацыянальнага пытаньня. Гэта—ступень дэмократычнасьці дзяржавы, у якой жывуць розныя нацыі. Калі дзяржава фэўдальная, памешчыцкая, дваранская, калі ў ёй уціск ва ўсіх відах пераважае, то, зразумела, аб якім-небудзь мірным вырашэньні нацыянальнага пытаньня гаварыць ня прыходзіцца.

Калі-ж політычны лад дзяржавы гэткі, што ў ім забясьпечаны хоць і ў самай малой ступені правы грамадзян, то ў гэтым выпадку трэба падыйсьці да вырашэньня нацыянальнага пытаньня па-іншаму.

„Сьвядомыя рабочыя,—піша Ленін,—не прапаведуюць адлучэньня, яны ведаюць выгады вялікіх дзяржаў і аб'яднаньне буйных мас рабочых“.

Таксама глядзеў на пытаньне аб адлучэньні і аб дзяржаве Энгельс. „Па-мойму,—пісаў ён,—*пролетарыят можа скарыстоўваць толькі адну форму адзінай і непадзельнай рэспублікі*“.

Маркс і Энгельс, а ўсьлед за імі і Ленін былі ворагамі маленькіх рэакцыйных дзяржаў. Яны аддавалі перавагу дэмократычнай цэнтралістычнай рэспубліцы. Маленькая дзяржава знаходзіцца заўсёды ў страху перад суседзямі і на гэтай падставе трымае ў страху свой і без таго

слабы пролетарыят, які бязьлітасна эксплёатуецца маленькай, але прагавітай буржуазіяй.

У буйнай-жа дзяржаве рабочыя розных нацыянальнасьцяй маюць магчымасьць магутнай сьцяной пад кіраўніцтвам пролетарыяту самай культурнай нацыі процістаяць націску ўраду і буржуазіі. „...Капіталізм,— піша Ленін,—у адным месцы патрабуе для свайго разьвіцьця магчыма больш буйных і магчыма больш цэнтралізаваных дзяржаў. Пры іншых аднолькавых умовах сьвядомы пролетарыят заўсёды будзе стаяць за больш буйную дзяржаву. Ён... заўсёды будзе вітаць магчыма цеснае экономічнае згуртаваньне буйных тэрыторый (землі), на якіх магла-б шырока разгарнуцца барацьба пролетарыяту з буржуазіяй“. У другім месцы Ленін, абараняючы ў інтарэсах пролетарыяту перавагі буйнае дзяржавы, піша: „Цэнтралізаваная буйная дзяржава ёсьць вялізны гістарычны крок наперад ад сярэднявяковай раздробленасьці да будучага соцыялістычнага адзінства усяго сьвету, і інакш, як праз такую дзяржаву, няма і ня можа быць шляху да соцыялізму“.

Але ня ўсякі цэнтралізм і ня ўсякая буйная дзяржава можа служыць тым мэтам, якія ставілі сабе Маркс і Энгельс, а затым і Ленін, у інтарэсах пролетарскага соцыялістычнага руху. Расія, напрыклад, таксама пры царох Раманавых была і буйнай, і цэнтралізаванай дзяржавай, але нельга зьмешваць двух відаў цэнтралізму. Цэнтралізм, аб якім пісалі Маркс, Энгельс і Ленін, зьяўляецца дэмократычным і ня толькі не выключае свабоды нацыянальнага разьвіцьця, але і абавязкова з ім зьвязаны. Цэнтралізм-жа, які існаваў у Расіі, зьяўляецца нічым іншым, як азіяцкім дэспотызмам, пры якім душылі ўсякае імкненьне да свабоды і ўсякія азнакі нацыянальных рухаў. З гэтым цэнтралізмам зьвязана паняцьце аб бюрократычным уціскным рэжыме, які праводзіць усе пастановы ўраду пры дапамозе арміі чыноўнікаў, прадстаўнікоў пануючай нацыі. Усе законы праводзяцца мэханічна на ўсім працягу дзяржавы і прыстасоўваюцца да ўсіх бяз розьніцы краін і нацый.

Такім чынам, мы бачым, што інтарэсы буржуазіі прыгнечаных нацый зводзяцца ў агульным да адлучэньня, да самастойнасьці, да стварэньня ўласнае, хоць-бы і карлікавае дзяржавы. Інтарэсы-ж пролетарыяту зводзяцца, наадварот, да стварэньня буйных дэмократычных дзяржаўных адзінак ці да падтрыманьня ўжо існуючых буйных дзяржаўных організмаў, калі яны дэмократычныя.

## VI. Як вырашаюць нацыянальнае пытаньне дробна-буржуазныя організацыі

Як ужо было сказана, у 90-х гадох мінулага сталецьця была створана Расійская соцыял-дэмократычная рабочая партыя. Гэта партыя прадстаўляла інтарэсы пролетарыяту розных нацыянальнасьцяй, насяляўшых Расію.

Маркс і Энгельс, якія лічылі, што буйныя дзяржавы больш адказваюць інтарэсам пролетарыяту таму, што толькі ў буйнай цэнтралізаванай дзяржаве магчыма згуртаваньне шэрагаў пролетарыяту розных нацыянальнасьцяй, зразумела, не маглі-б сабе ўявіць пролетарыят аднэй дзяржавы разьядналым і падзеленым на рознастайныя палітычныя організацыі.

Супроць цэнтралізаванага апарату буржуазнай дзяржавы, які зьяўляецца выканаўцам волі буржуазіі ўсіх нацыянальнасьцяй патрэбна адзіная і непадзельная жалезная організацыя пролетарыяту ўсіх нацыянальнасьцяй данае дзяржавы.

Усякія спробы адасобіць пролетарыят кожнай нацыі ў асобную організацыю, загнаць яго ў лушпавіньне асобнай партыі, зьяўляюцца сродкамі, якія не адбіваюць інтарэсаў пролетарыяту. Такія організацыі служылі-б інтарэсам буржуазіі, а ня клясавым інтарэсам рабочых. Такія організацыі, ня гледзячы на тое, што яны называюцца соцыялістычнымі або нават соцыял-дэмократычнымі, зьяўляюцца праваднікамі буржуазнага ўплыву на пролетарыят.

Цэлы шэраг такіх організацый быў створаны прыблізна ў той час, некаторыя раней, некаторыя пазьней, калі была заснавана Расійская соцыял-дэмократычная рабочая партыя. Сярод яўрэйскіх рабочых у Польшчы, Беларусі, Расіі і на Украіне быў створаны так званы „Ўсеагульны яўрэйскі рабочы саюз“, які вядомы пад назвай „Бунд“. Сярод украінскіх рабочых і сялян была організавана „Рэволюцыйная украінская партыя“ (РУП), пазьней перайменаваная ва Украінскую соцыял-дэмократычную рабочую партыю (У. С.-Д. Р. П.). Сярод польскіх рабочых была організавана Польская соцыялістычная партыя (П. П. С.). Апрача ППС у Польшчы была заснавана некалькі пазьней Польская соцыял-дэмократычная партыя (ПСД).

Тое-ж самае, прыблізна такія-ж організацыі былі створаны сярод рабочых самых рознастайных нацый у розны час. Усе гэтыя організацыі вялі сваю працу, сваю пропаганду сярод рабочых свае нацыі, побач з Расійскай соцыял-дэмократычнай рабочай партыяй, прычым, як мы бачым, многія з іх таксама мелі назву соцыял-дэмократычных партый.

Чым-жа адрозьніваліся паказаныя організацыі ад Расійскай соцыял-дэмократычнай партыі, да якой мэты імкнуліся гэтыя організацыі, калі яны вялі самастойную працу і чым яны апраўдвалі сваё самастойнае існаваньне?

Калі меркаваць паводле іх програм, то ў гэтых організацый нічога, што адрозьнівала-б іх ад Расійскай партыі, апрача нацыянальнага пытаньня, амаль ня было. На словах усе паказаныя організацыі толькі ў адным пункце, у пункце па нацыянальным пытаньні мелі разыходжаньні з Расійскай партыяй. На справе-ж работа большасьці гэтых організацый згуртоўвалася іменна на нацыянальным пытаньні. Рэшта програмы ў іх амаль заўсёды ня ўжывалася.

Як-жа ставілі гэтыя організацыі нацыянальнае пытаньне? Чым-жа нацыянальнае пытаньне ў іх пастаноўцы адрозьнівалася ад нацыянальнага пытаньня ў пастаноўцы Расійскай соцыял-дэмократычнай партыі?

Для таго, каб разабрацца ў гэтым пытаньні, мы пачнем з „Бунду“. Бунд быў аднэй з буйнейшых рабочых організацый у Расіі. Яму ўдалося за параўнальна невялікі пэрыяд часу згуртаваць у сваіх шэрагах тысячы забітых яўрэйскіх рабочых. Таму Бунд першы час адыгрываў досыць вялікую ролю ў Расійскім рабочым руху. Але трэба памятаць, што Бунд вёў сваю працу ў большасьці выпадкаў сярод рабочых рамесьнікаў. Рабочыя рамесьнікі, якія досыць часта працавалі па аднаму ў сваіх гаспадароў, несабраныя вялікімі масамі на буйных заводзкіх прадпрыемствах, зразумела, не маглі мець закончаную клясавую пролетарскую псыхолёгію. Уплыў дробнай майстэрні, уплыў дробнага буржуа-гаспадарчыка на падмайстраў быў надзвычайна моцны. Вось гэтая-то дробна-буржуазная ідэолёгія ад гаспадароў праз рамесьнікаў бязумоўна перадавалася і Бунду і захоплівала яго ў сеці дробна-буржуазнага яўрэйскага нацыяналізму.

Бунд заражаўся нацыяналізмам і па іншай лініі. Вядучы барацьбу супроць сыёніцкай організацыі, аб якой мы ўжо пісалі, Бунд пакрысе, незаметна для сябе, ішоў на ўступкі гэтай нацыяналістычнай організацыі сярэдняй і дробнай буржуазіі.

Вось па гэтых двух струменях у яўрэйскую рабочую організацыю прасочваўся нацыяналізм, які зьяўляецца зусім чужым пролетарыяту і яго організацыям.

Пад уплывам дробна-буржуазнага нацыяналізму, Бунд пачаў паступова ўносіць у сваю програму патрабаваньні, якія ніяк ня могуць быць сумешчаны з задачамі і характарам пролетарскага клясавага руху.

На першым зьезьдзе Расійскай соцыял-дэмократычнай партыі, які адбыўся ў 1898 годзе, была ўхвалена програма, у якой п. 9 абвяшчаў „Права на самавызначэньне за ўсімі нацыямі, што ўваходзяць у склад дзяржавы“. Гэты пункт зусім ясна гаворыць аб тым, што ўсе нацыі маюць права вырашаць сваё пытаньне, як яны знаходзяць патрэбным, аднак, выклікаў нездаволеньне Бунду. Прадстаўнік Бунду на 2-м зьезьдзе партыі, які адбыўся ў 1903 годзе, патрабаваў дадатку да п. 9. Дадатак гэты быў наступны: „Стварэньне ўстаноў, якія гарантуюць ім (нацыям) поўную свабоду культурнага разьвіцьця“. Другім патрабаваньнем Бунду на другім зьезьдзе партыі, было: „Прызнаньне за Бундам права быць самастойнай організацыяй у Расійскай соцыял-дэмократычнай партыі і ўваходзіць у яе на фэдэрацыйных асновах (на правох роўнапраўнага члена), прычым Расійскую соцыял-дэмократычную партыю Бунд лічыў не Расійскай, а рускай, на падставе гэтага „Бунд“ лічыў магчымым патрабаваць для сябе „выключнае прадстаўніцтва яўрэйскага пролетарыяту“. Ва ўяўленьні Бунду Цэнтральны Камітэт Расійскай соцыял-дэмократычнай партыі павінен быў складацца з прадстаўнікоў цэнтральных

камітэтаў рускай, польскай, яўрэйскай ды іншых соцыял-дэмократычных партый.

Такое патрабаваньне Бунду сьведчыла аб тым, што Бунд хоча не аб'яднаць пролетарскія організацыі розных нацый, а разьяднаць іх, раздрабняць іх на паасобныя організацыі, зьвязаныя між сабой толькі праз верхавіну, якая называецца Цэнтральным Камітэтам. Такое патрабаваньне ідзе ў разрэз з інтарэсамі масавага руху рабочых. Яно патрабуе цеснага яднаньня не наверсе, а ўнізе сярод самых мас: агульных спраў, агульнага руху, супольных выступленьняў.

Такія патрабаваньні Бунду сьведчаць аб тым, што пад уплывам дробнай буржуазіі ён страціў клясавае чуцьцё ў адносінах патрабаваньняў рабочага міжнароднага руху.

Дадатак, унесены Бундам на 2-м зьезьдзе Расійскай соцыял-дэмократычнай партыі, вядомы пад назвай „нацыянальна-культурнай аўтономіі".

Яшчэ да Бунду аўстрыйскія соцыял-дэмократы Отто Бауэр, Рудольф Шпрынгер ды іншыя правадыры прыдумалі тэорыю для вырашэньня нацыянальнага пытаньня ў Аўстрыі. Гэтая тэорыя заключаецца ў тым, што ўсе пласты насельніцтва кожнай нацыі, дзе-б яны ня жылі, ствараюць для сябе ўстановы, якія загадваюць усімі справамі культуры данай нацыі. Паводле думкі абаронцаў гэтай тэорыі, такія ўстановы зьяўляюцца вернай гарантыяй супроць гвалтоўнага прыгнечаньня нацыі і ў той-жа час вельмі добрым сродкам, які забясьпечвае ўсебаковае культурнае разьвіцьцё кожнай нацыі.

Вось гэтую тэорыю Бунд прыняў у аснову сваёй папраўкі да пункту програмы Расійскай соцыял-дэмократыі аб самавызначэньні нацый.

Усьлед за Бундам прынялі тэорыю нацыянальна-культурнай аўтономіі і некаторыя іншыя соцыял-дэмократычныя партыі і ў свой чарод патрабавалі для сябе ў самой Расійскай партыі адзінага монопольнага прадстаўніцтва рабочых свае нацыянальнасьці.

Некалькі асобна ад гэтых партый стаіць польская соцыялістычная партыя, якая высунула патрабаваньне поўнага адлучэньня Польшчы ад Расіі і патрабавала стварэньня незалежнае польскае дзяржавы.

Украінскія соцыял-дэмократы выставілі ў сваёй програме ў 1905 г. патрабаваньне для сябе шырокай аўтономіі ўнутры Расійскай дзяржавы, а ў 1917 годзе зьмянілі гэтае патрабаваньне, замяніўшы яго патрабаваньнем незалежнае дзяржавы.

У якой меры гэтыя патрабаваньні выяўлялі інтарэс рабочых, можна заключыць з таго, што патрабаваньне Бунду было прынята некаторымі яўна буржуазнымі яўрэйскімі партыямі. Програму Польскай соцыялістычнай партыі заядла абаранялі ў самой Польшчы польскія паны і абшарнікі, якія вялі самую заядлую барацьбу супроць рабочае клясы Польшчы. Усе без выключэньня абшарніцкія і буржуазныя партыі Польшчы выстаўлялі лёзунгі незалежнай Польшчы. Украінскую соцыял-дэмократыю ў яе патрабаваньнях падтрымлівалі самыя заядлыя украінскія шовіністыя, якія

марылі аб выгнаньні кацапаў і яўрэяў з украінскіх земляў. Трэба яшчэ адзначыць, што патрабаваньне нацыянальна-культурнай аўтономіі ўключылі ў сваю програму нават расійскія кадэты, а затым і цэлы шэрах іншых народніцкіх партый і груп.

## VII. Як Ленін крытыкаваў нацыянальную аўтономію.

Ня было ніводнага сярод правадыроў Расійскай соцыял-дэмократычнай рабочай партыі, хто-б так заядла нападаў на высунутую аўстрыйскімі соцыял-дэмократамі, бундаўцамі ды іншымі дробна-буржуазнымі партыямі тэорыю нацыянальна-культурнай аўтономіі, як Ленін.

Ленін заўсёды лічыў, што з дзьвюх небясьпек—яўнай і тайнай, трэба лічыць тайную больш небясьпечнай. Небясьпека яе заключаецца ў тым, што яна незаметна, пад выглядам добрых пажаданьняў, падносіць пазалочаную атручаную пілюлю.

Буржуазія вельмі часта падавала рабочай клясе замест адкрытых варожых мер і дзеяньняў такія тэорыі, якія на першы погляд здаюцца прасякнутымі добрымі намерамі. Буржуазія падавала свайму клясаваму ворагу такія сродкі паратунку, якія могуць здавацца правільнымі. Трэба добра ўдумацца, прыгледзецца да іх для таго, каб зразумець, наколькі яны фальшывяць, колькі ў іх захоўваецца зла для пролетарыяту.

Ленін, які ўсё жыцьцё ішоў па сьлядох Маркса і Энгельса, стараўся адлучыць сапраўдныя сродкі ад фальшывых для разьвіцьця рабочага руху, ня мог, зразумела, пакінуць бяз самай рэзкай крытыкі таксама і тэорыю нацыянальнай аўтономіі.

Барацьба супроць Бунду і яго тэорыі была пачата Леніным ужо з самага пачатку яе зьяўленьня ў сьвет. Пытаньне аб нацыянальна-культурнай аўтономіі зводзіцца, урэшце ўсяго, да пытаньня аб захаваньні і разьвіцьці культуры кожнай нацыі. Пытаньне-ж аб нацыянальнай культуры Ленін зводзіць, урэшце ўсяго, да пытаньня аб мове. Пры забясьпечаньні свабоды друку, свабоды слова, а таксама навучаньня ў школах на сваёй роднай мове, далейшая барацьба за так званую нацыянальную культуру, ня мае ўжо ніякага значэньня.

Ленін наступным чынам ставіць пытаньне аб мовах. Ён пытае, ці патрэбна дзяржаўная мова і адказвае на гэтае пытаньне адмоўна. Ленін лічыць, што дзяржаўная мова непатрэбна, не павінна быць абавязковай, не павінна навязвацца ўсім, што жывуць у дзяржаве, нацыям, у прымусовым парадку. Вывучэньне тэй ці іншае мовы, на якой гаворыць тая ці іншая частка насельніцтва, павінна быць зусім добраахвотнай.

Пытаньне аб тым, якая мова пераможа ці стане пануючай, у свабодным супэрніцтве многіх моў, не павінна рэгулявацца дзяржавай, дзяржаўнай уладай. Ленін, як на прыклад краіны, дзе зусім правільна вядзецца барацьба між рознымі мовамі, паказвае на Швайцарыю. Як вядома, у Швайцарыі, у розных яе частках, гавораць на нямецкай, францускай

і італьянскай мовах. Усе гэтыя мовы карыстаюцца зусім аднолькавымі правамі, зусім аднолькавымі прывілеямі. Не адна з гэтых моў ня можа паскардзіцца на які-б то ні было ўціск. Аднак-жа большасьць насельніцтва Швайцарыі, у тым ліку італьянцы і немцы гавораць адначасна і на сваёй роднай мове, і на францускай. Ленін лічыць, што прычынай перавагі і панаваньня францускае мовы зьяўляецца тое, што „гэта—мова свабоднай цывілізаванай нацыі, мова, якая не навязваецца агіднымі паліцэйскімі мерамі“.

Можна быць упэўненым у тыя, што калі-б дзяржаўная ўлада ў Швайцарыі зрабіла-б хоць маленькую спробу навязваць у прымусовым парадку немцам і італьянцам вывучэньне францускае мовы, яна зрабілася-б нянавіснай для швайцарскіх немцаў і італьянцаў.

Пры такім становішчы рэчаў ясна, што прымусовасьць толькі перашкаджае справе разьвіцьця краіны. „Чаму-ж—пытае Ленін,—у адным артыкуле,—вялізарная Расія значна больш стракатая, страшэнна адсталая павінна тармазіць сваё разьвіцьцё захаваньнем якой-бы то ні было прывілеі для аднэй з моваў?“

Ленін на гэтае пытаньне адказвае зусім ясна і акрэсьлена. „Калі адпадуць усякія прывілеі, калі спыніцца навязваньне аднэй з моваў, то ўсе славяне навучацца лёгка і хутка разумець адзін аднаго... А патрэбнасьці эканамічнага звароту самі сабой вызначаюць тую мову данай краіны, ведаць якую большасьці выгодна ў інтарэсах гандлёвых зносін.

Царскі ўрад, а разам з ім усе чорнасоценцы, лібэралы імкнуліся да таго, каб усякімі мерамі карнага характару прымусіць людзей розных нацый, што насяляюць Расію, забыць сваю мову і навучыцца рускай мове. Многія гады практыкі ў такім парадку стварыць так званую адзіную і непадзельную Расію ні да чога не прывялі. Але чым больш няўдач цярпела царская ўлада ў сваіх гвалтоўных спробах, тым больш заядла яна прасьледвала ўціскаными нацыянальнасьці. Нацыі, якія адчувалі на сваёй сьпіне гэты ўціск, азлабляліся, замыкаліся і пераносілі нянавісьць да рускага царскага ўраду на ўсё рускае насяленьне, на яго мову і на яго культуру. Посьпехі, такім чынам, дасягаліся якраз адваротныя тым, на якія разьлічалі царскі ўрад, разам з чорнасоценнымі бандамі.

„Мы больш вас хочам,—піша Ленін,—каб паміж уцісканымі клясамі ўсіх бяз розьніцы нацый, што насяляюць Расію, устанавіліся магчыма больш цесныя зносіны і братэрскае адзінства. І мы, зразумела, стаім за тое, каб кожны жыхар Расіі меў магчымасьць навучыцца вялікай рускай мове.

„Мы ня хочам толькі аднаго: элемэнту прымусовасьці. Мы ня хочам заганяць у рай дубінай... Мы думаем, што вялікая і магутная руская мова не патрабуе таго, каб хто-б там ні быў павінен быў вывучаць яе з-пад палкі... А прымусовасьць (палка) прывядзе толькі да аднаго—яна затрудніць вялікай і магутнай рускай мове доступ у іншыя нацыянальныя групы, а галоўнае, абвострыць варожасьць, створыць мільён новых трэньняў, узмацніць раздражненьне, узаемнае непаразуменьне і г. д.“

Скончыўшы з пытаньнем аб мовах, Ленін пераходзіць да наступнага пытаньня, так званага пытаньня аб нацыянальнай культуры. Ленін вядзе працяглую зацятую барацьбу супроць яўрэйскіх і украінскіх псэўда-марксыстых, якія ілжыва называюць сябе соцыял-дэмократамі, якія забываюць пра міжнародныя інтарэсы рабочых і прыкоўваюць увагу апошніх да ўсякай буржуазнай балбатні.

„Лёзунг нацыянальнай культуры,—піша Ленін,—ёсьць буржуазная (а часта і чорнасоценна-клерыкальная мана, наш лёзунг—ёсьць інтэрнацыянальная культура дэмократызму і сусьветнага рабочага руху“.

Калі мова кожнай нацыі зьяўляецца прыладай яе культуры, то розныя клясы кожнай нацыі зацікаўлены ў тым, каб з мовы зрабіць прыладу для абароны сваіх клясавых інтарэсаў. Буржуазія стварае на сваёй мове кнігі, малітвы для таго, каб трымаць у цемнаце ці ў клясавым палоне ўсю рабочую клясу, каб прымусіць яе служыць сваім інтарэсам, каб прапаведваць гэтую ману. Соцыял-дэмократыя-ж, калі яна хоча служыць інтарэсам пролетарыяту, павінна зрабіць з мовы свае нацыі прылады пропаганды соцыялізму і клясавае самасьвядомасьці. Толькі вядучы на сваёй мове барацьбу супроць сваёй нацыянальнай буржуазіі, соцыял-дэмократыя выканае сваю клясавую задачу.

Ленін лічыць, што трэба скарыстаць мову тэй ці іншай нацыі не для таго, каб ставіць лёзунг нацыянальнай культуры, а для таго, каб супроць гэтага лёзунгу весьці агітацыю. Буржуазія карыстаецца гэтым лёзунгам для таго, каб унесьці разбэшчанасьць сярод рабочых, зацямніць іх сьвядомасьць, разьяднаць іх. Задачай-жа ўсякага марксыстага зьяўляецца пропаведзь яднаньня рабочых усіх нацый. Ленін многа раз паўтарае, што для марксыстага нават самая пастаноўка пытаньня аб нацыянальнай культуры—недапушчальная.

„Хто абараняе лёзунг нацыянальнай культуры,—гаворыць Ленін,—таму месца сярод нацыяналістычных мяшчан, а не сярод марксыстых“.

Ленін крытыкуе Бунд і, нападаючы на яго патрабаваньні нацыянальна-культурнай аўтономіі, піша:

„Хто проста ці ўкосна ставіць лёзунг яўрэйскай нацыянальнай культуры, той (якія-б ня былі яго добрыя намеры)—вораг пролетарыяту, прыхільнік старога і каставага ў яўрэйстве, памочнік рабінаў і буржуа“.

Ленін вядзе барацьбу ня толькі супроць спроб з боку Бунду ўнесьці нацыяналізм у клясавую барацьбу яўрэйскага пролетарыяту, але робіць гэта ня менш рэзка ў дачыненьні да украінскіх соцыял-дэмократаў.

„Калі,—кажа ён,—гутарка ідзе аб пролетарыяце, то гэтае проціпастаўленьне украінскай культуры ў цэлым вялікарускай, таксама ў цэлым, азначае самую бессаромную здраду інтарэсам пролетарыяту на карысьць буржуазнага нацыяналізму... Ёсьць дзьве нацыі ў кожнай сучаснай нацыі... Ёсьць дзьве нацыянальныя культуры ў кожнай нацыянальнай культуры. Ёсьць вялікаруская культура Пурышкевічаў, Гучковых і Струвэ,

але ёсьць таксама вялікаруская культура, якая характарызуецца імёнамі Чарнышэўскага і Пляханава“.

Ленін паказвае на тое, што ў нас, у Расіі, тэорыю культурна-нацыянальнай аўтономіі прызналі ўсе буржуазныя партыі яўрэйства, нацыянальна-соцыялістычныя, дробна-буржуазныя партыі розных нацый і меншавікі. Бунд звычайна спасылаецца на тое, што гэтая тэорыя прынята і вельмі популярна сярод аўстрыйскіх соцыял-дэмократаў. Ленін лічыць гэтую спасылку сьмешнай, бо Аўстрыя і Расія становяць з сябе зусім рознастайныя як па свайму палітычнаму ладу, так і па становішчы нацыянальнасьці ў іх. Ленін таксама паказвае на тое, што ў нас, у Расіі, Бунд зьяўляецца самым заядлым абаронцам тэорыі Отто Бауэра, а сам Отто Бауэр зьяўляецца супраціўнікам нацыянальна-культурнай аўтономіі для яўрэяў.

Цэлым шэрагам прыкладаў Ленін даводзіць, што разьвіцьцё капіталізму прымушае вялізныя масы розных нацый перасяляцца з аднаго месца ў другое, пакідаць даўно наседжанае месца і накіроўвацца на новае для адшуканьня зямлі і заработку. За апошнія дзесяткі год амаль ва ўсіх капіталістычных краін адбываецца ўзмоцненая эміграцыя ў іншыя краіны, іх гоніць нэндза. Гэта яна прымушае дзесяткі тысяч яўрэяў, сотні тысяч італьянцаў, ірландцаў эміграваць у Амэрыку. Экономічная неабходнасьць прымушае украінскіх сялян зьбірацца цэлымі вёскамі і накіроўвацца на свабодныя землі халоднай Сібіры.

У гэтым непарыўным процэсе эміграцый і перасяленьняў можна назіраць з цягам часу процэс узаемнага збліжэньня розных народаў між сабой. Амэрыка, напрыклад, уладае найлепшай здольнасьцю асыміляцыі (зьяднаньня) розных нацый, якія жывуць там. Чым вышэй па свайму культурнаму ўзроўню краіна, тым лягчэй яна набліжае да сябе іншыя народы, уцягваючы іх дабраахвотна, бяз жаднага прымусу, вывучаць і гаварыць на сваёй мове.

Чым далей, тым больш будзе капіталізм збліжаць між сабой жывучыя побач народы. Пролетары розных нацый будуць ва ўзаемнай барацьбе супроць капіталістых збліжацца і спалучаць свае інтарэсы.

Ленін лічыў, што нацыянальна-культурная аўтономія—гэта небясьпечная спроба з боку яўрэйскай буржуазіі перашкодзіць натуральнаму збліжэньню і ўзаемнаму зразуменьню пролетараў розных народаў. Таму яна адказвае не інтарэсам пролетарыяту, а буржуазіі.

## VIII. Ленін супроць Розы Люксэмбург

Мы ўжо спамянулі аб тым, што ў Польшчы былі організаваны дзьве партыі, якія працавалі сярод рабочых: ППС і ПСД. Першая, як ужо было сказана, у сваёй програме высунула лёзунг незалежнай Польшчы.

Мы ўжо казалі і аб тым, што гэты лёзунг ППС падтрымліваўся ўсімі партыямі польскай шляхты і капіталістых. Ужо па гэтым адным усякая

соцыялістычная партыя, якая стаіць на пункце погляду пасьлядоўнай абароны інтарэсаў рабочых, не павінна была падтрымліваць гэткі лёзунг. У кожнай краіне, унутры кожнай нацыі партыя пролетарыяту павінна весьці політыку варожую політыцы пануючых кляс.

Вось чаму гэты лёзунг незалежнасьці, высунуты ППС, сьведчыў аб тым, што гэтая партыя была не сапраўднай рабочай партыяй, а партыяй для рабочых, організаванай польскай дробнай і сярэдняй буржуазіяй.

Барацьбу супроць ППС і яе буржуазных лёзунгаў унутры самой Польшчы праводзіла польская соцыял-дэмократычная партыя, організаваная Розай Люксэмбург. Гэтая партыя была сапраўднай партыяй польскага пролетарыяту і таму яна вяла супроць ППС такую-ж заядлую і рэзкую барацьбу, як Ленін вёў супроць меншавікоў і эсэраў у Расіі. Ленін лічыў, што меншавікі і эсэры зьяўляюцца ня кім іншым, як агентамі буржуазіі сярод пролетарыяту. Гэткі-ж погляд быў у дзеячоў ПСД на ППС і яе дзеячоў.

Праводзячы ўзмоцненую соцыялістычную пропаганду сярод польскіх рабочых, ПСД праводзіла адначасна агітацыю супроць буржуазных лёзунгаў, высунутых ППС. Роза Люксэмбург лічыла, што якія-б то ні былі лёзунгі па нацыянальным пытаньні ў програме пролетарскай партыі непатрэбны, што яны зьяўляюцца перажыткам капіталістычнай ідэолёгіі. І ў гэтым Роза Люксэмбург, паколькі гэта датычыцца програмы ПСД, мажліва мае слушнасьць.

Але рознагалосьсі між польскімі соцыял-дэмократамі і РСДРП пачаліся з таго, ці трэба ўключыць пункт аб праве нацый на самавызначэньне і на адлучэньне ў програму Расійскай соцыял-дэмократычнай партыі. Роза Люксэмбург была супроць уключэньня такога пункту ў програму РСДРП. Яна лічыла, што ў дачыненьне да Польшчы гэты пункт супадае з жаданьнем і інтарэсамі польскай шляхты і буржуазіі.

Гэты свой пункт гледжаньня па нацыянальным пытаньні польскія соцыял-дэмократы абаранялі на другім зьезьдзе Расійскай соцыял-дэмократычнай партыі ў 1903 годзе і гэтыя рознагалосьсі былі прычынай таго, што польскія соцыял-дэмократы не ўвайшлі тады ў Расійскую партыю.

На гэтым зьезьдзе і пазьней Роза Люксэмбург і яе аднадумцы выказвалі погляды, у якіх яны сьцьвярджалі, што права нацый на самавызначэньне не адказвае інтарэсам пролетарыяту. Нацыя—гаварылі яны—гэта ня толькі пролетарыят, але і буржуазія, таму пролетарская партыя не зацікаўлена ў тым, каб буржуазія самавызначалася, а ў тым, каб падрыхтаваць самавызначэньне працоўных унутры кожнай нацыі.

Як вядома, погляды Розы Люксэмбург падтрымлівалі такія дзеячы, як Дзяржынскі, Пятакоў, Бухарын, Радэк ды інш.

Ленін у цэлым шэрагу артыкулаў і прамоў рэзка крытыкаваў гэтыя погляды. Ён лічыў, што пролетарыят у пэрыод падрыхтоўкі да соцы-

яльнай рэволюцыі зацікаўлены ў тым, каб уцягнуць у барацьбу супроць капіталістых ды іх урадаў усякія прамежныя клясы: сялянства і гарадзкую дробную буржуазію, а таксама дробна-буржуазную інтэлігенцыю. Гэтыя клясы грамадзтва яшчэ знаходзяцца ва ўладзе нацыянальных і нават рэлігійных забабонаў. Таму, пролетарыят зацікаўлены ў тым каб уцягнуць іх у барацьбу некаторымі вызваленчымі лёзунгамі.

Расійская соцыял-дэмократычная партыя выступае супроць усякіх прывілей якой-бы то ні было нацыі. У нас, у Расіі, адзіная нацыя, якая мае прывілеі ў выглядзе дзяржавы незалежнае і самастойнае,—гэта нацыя вялікаруская. Для таго, каб даць такую прывілею ў аднолькавай ступені ўсім нацыям, пролетарская партыя, якая зьяўляецца супраціўніцкай усіх відаў уціску, абавязана была выставіць лёзунг самавызначэньня і адлучэньня для ўсіх нацый, якія-б пажадалі адлучыцца.

У апошні раз спрэчкі між прыхільнікамі Розы Люксэмбург і Леніным былі на IX зьезьдзе партыі ў 1919 годзе. На гэтым зьезьдзе абаронцамі поглядаў Розы Люксэмбург выступілі супроць Леніна Бухарын і Пятакоў, якія абаранялі лёзунг „Права працоўных кожнай нацыі на самавызначэньне“.

Погляды Леніна былі падтрыманы пераважнай большасьцю IX зьезду Расійскай комуністычнай партыі і ўвайшлі ў аснову поглядаў усяе партыі на нацыянальнае пытаньне.

## IX. Нацыянальная палітыка Ўсесаюзнай комуністычнай партыі (бальшавікоў)

Погляды Леніна па нацыянальным пытаньні, як мы ўжо сказалі, былі паложаны ў аснову поглядаў УсеКП(б).

Пачынаючы з лістапада 1917 году, комуністычная партыя стала на чале ўлады. Перад ёй вырашэньне нацыянальнага пытаньня стала пытаньнем ня толькі гутарак, ня толькі абстрактных разважаньняў, але пытаньнем, якое чакала свайго практычнага вырашэньня.

Мы ўжо казалі аб тым, што ў Расіі пры царскай уладзе жылі многія дзесяткі народаў, ад палякаў і фінаў—народаў высокай культуры, да самаедаў і зыран—народаў, якія знаходзіліся ў напоўдзікім стане.

Ужо ў першыя дні свайго існаваньня савецкая ўлада, кіраваная комуністычнай партыяй, агаласіла наступныя лёзунгі па нацыянальным пытаньні:

1) Роўнасьць і сувэрэннасьць (самастойнасьць) народаў Расіі.

2) Права іх на свабоднае самавызначэньне, аж да адлучэньня і ўтварэньня самастойнае дзяржавы.

3) Скасаваньне ўсіх і ўсякіх нацыянальных і нацыянальна-рэлігійных прывілей і абмежаваньняў.

4) Свабоднае разьвіцьцё нацыянальных меншасьцяй і этнографічных груп, што насяляюць тэрыторыю Расіі.

Апрача таго, ужо ў сьнежні 1917 году савецкі ўрад прызнаў за Фінляндыяй права на адлучэньне. Фінляндыя, якая ў працягу многіх год тапталася абсацам царскіх генэралаў, пры часовым урадзе падпадала пагрозам з боку Керанскага і кадэтаў, якія стаялі тады на чале ўлады. Генэрал-губарнатарам у Фінляндыі ў той час быў вядомы кадэт Родзічаў. Гэта адзін з многіх правадыроў констытуцыйна псэўда-дэмократычнай партыі ў царскія часы, які гаварыў многа прыгожых прамоў у дзяржаўнай думе, у тым ліку ў абарону розных нацыянальнасьцяй.

Калі-ж констытуцыйна-дэмократычная партыя ўзяла ўладу, і ёй трэба было практычна выступіць у абарону ўцісканых царскай уладай нацый, тады замест абароны мы бачылі працяг царскай політыкі.

Так было з Украінай, якая патрабавала для сябе права на самавызначэньне, так было і з Фінляндыяй, якая чакала вызваленьня. Замест самавызначэньня часовы ўрад, які складаўся з меншавікоў, кадэтаў і эсэраў, пагражаў пасылкай войск. У гэтай злачыннай справе ўдзельнічалі і славуты Цэрэтэлі і Керанскі і вышэйпамянёны кадэцкі правадыр Родзічаў.

Як за Фінляндыяй, так і за Украінай Савет народных камісараў прызнаў права на адлучэньне ў адносінах Украіны, утварыўшай Незалежную украінскую народную рэспубліку, мы прызналі „права зусім адлучыцца ад Расіі або ўступіць у перагаворы з Расійскай рэспублікай аб фэдэрацыйных, саюзных узаемаадносінах".

Тое-ж самае і ў дачыненьні да цэлага шэрагу іншых народаў, якія раней жылі пад царскай уладай: палякоў, эстонцаў, латышоў, беларусаў ды іншых. Пры гэтым трэба адзначыць, што савецкая ўлада прызнавала прынцып самавызначэньня і адлучэньня за кожнай нацыяй нават і тагды, калі там устанаўлялася ўлада буржуазная.

Пасьля вайны Польшча ўтварылася як незалежная абшарніцкая і буржуазная рэспубліка. Гэта не магло паслужыць перашкодай да таго, каб савецкая ўлада прызнала незалежнасьць.

Што да краін, якія да 1918 году былі заняты нямецкім войскам, то ў дачыненьні да іх савецкая ўлада не зьмяніла сваёй політыкі.

Да гэтых рэспублік трэба аднесьці—Латвію, Эстонію, Літву, якія зараз-жа пасьля нямецкай рэволюцыі склаліся як савецкія дзяржавы, але пры дапамозе войск Нямеччыны і Англіі аднавілі ў сябе ўладу буржуазіі.

Праводзячы цалкам у жыцьцё прынцып самавызначэньня і адлучэньня савецкая ўлада пад кіраўніцтвам комуністычнай партыі ня толькі прызнала самастойнасьць дзяржаўных адзінак, якія ўтварыліся пасьля зьвяржэньня царскага і часовага ўраду, але і сама пачала праводзіць нацыянальную політыку сярод іншых народаў.

Для правільнага правядзеньня нацыянальнай політыкі савецкая ўлада падзяліла ўсю былую царскую Расію на 6 зусім незалежных савецкіх рэспублік. У кожнай з гэтых рэспублік, утвараючых Социялістычны

Саюз Савецкіх Рэспублік, у сваю чаргу ўтвораны—дзе больш, а дзе менш—аўтономныя рэспублікі і аўтономныя краіны. Кожная з гэтых рэспублік і краін мае сваю ўласную цэнтральную ўладу і сваё ўласнае мясцовае кіраваньне...

Уся гэтая сетка самакіраваных рэспублік і краін выклікае шалёную трывогу сярод ворагаў рабочае клясы, сярод белагвардзейцаў і капіталістых іншых краёў. Леніна і бальшавікоў ужо даўно абвінавачвалі ў тым, што яны прадалі Расію немцам, што яны раздрабнілі і зьнішчылі „вялікую адзіную і непадзельную Расію“.

І сапраўды. На першы погляд былая Расія становіць з сябе такую сумесь пляменьняў і гутарак, такую стракатасьць рэспублік і самакіраваных народаў, што людзі, не разумеючыя політыкі пролетарскай партыі будуць праліваць кракадзілавы сьлёзы над „няшчаснай краінай“.

У сапраўднасьці-ж пытаньне заключаецца ў тым, што комуністычная партыя ажыцьцяўляе тую нацыянальную політыку, якая праводзілася Леніным задоўга да рэволюцыі ў програме партыі.

У адзнаку ад старой царскай Расіі, якая раскідалася ў выніку панаваўшага ў ёй паліцэйскага бюрократычнага цэнтралізму, Саюз Савецкіх Соцыялістычных Рэспублік магутны іменна тым, што даў поўную свабоду разьвіцьця ўсім народам, якія насяляюць Расію.

Ленін у адзнаку царскага паліцэйскага бюрократычнага цэнтралізму назваў той лад, які склаўся пры савецкай уладзе, дэмократычным цэнтралізмам.

Дэмократызм пры савецкай уладзе праводзіцца поўна і пасьлядоўна. Кожная нацыя, якой-бы яна ня была малой, атрымлівае поўную магчымасьць усебакова разьвіваць свае культурныя магчымасьці, свае прыродныя багацьці, зьвязаныя з краінай, якую яны засяляюць, а таксама ўдзельнічаць у кіраваньні і законадаўстве ня толькі сваёй уласнай рэспублікі, але і ўсяго Саюзу Савецкіх Соцыялістычных Рэспублік.

Усе програмы, якія ў свой час выставілі дробна-буржуазныя і псэўдосоцыялістычныя партыі, ставілі, як самую далёкую мэту, так званую нацыянальна-культурную аўтономію, аб якой мы ўжо шмат казалі ў папярэдніх разьдзелах.

Усе-ж дробнабуржуазныя соцыялістыя тады ўпікалі Леніна і бальшавікоў, што высунутая імі програма па нацыянальным пытаньні вельмі слабая і блядая, што яна ня досыць ясна абараняе інтарэсы ўцісканых нацыянальнасьцяй.

Толькі цяпер мы бачым навочна, да якой ступені гэтыя агенты буржуазіі сярод рабочых не разумелі ці не хацелі разумець усяго значэньня лёзунгаў, якія абараняў Ленін у працягу 26 год і якія цяпер савецкая ўлада праводзіць упарта і настойліва ў жыцьцё.

Лёзунг нацыянальна-культурнай аўтономіі высунуты дробнабуржуазнымі партыямі, якія працавалі сярод рабочых, цяпер пры савецкай уладзе становіць з сябе ўжо пройдзены этап разьвіцьця. Нават яўрэй-

ская нацыя, раскіданая сярод іншых народаў СССР, зараз перaступіла за межы нацыянальна-культурнай аўтономіі. Яўрэйская нацыя, якой Отто Бауэр адмаўляў у праве на нацыянальна-культурную аўтономію, у сучасны момант концэнтруецца (зьбіраецца) масамі на аднэй тэрыторыі (зямлі), у Хэрсонскай губэрні і Паўночным Крыму. Такім чынам, нават і тут ажыцьцяўляецца ня толькі культурнае, але да пэўнай ступені політычнае і нават экономічнае самавызначэньне.

Многія нацыянальнасьці, якія жывуць у Сібіры і на Паваложжы, якія ня мелі да гэтага часу нават сваёй азбукі, у сучасны момант маюць свае кніжкі, свае газэты на роднай мове. Усе гэтыя нацыянальнасьці маюць свае краіны і рэспублікі з уласным самакіраваньнем.

---

Вялікія запаветы нашых настаўнікаў—Маркса і Энгельса—былі пакладзены ў аснову поглядаў Леніна ў нацыянальным пытаньні. Ленін пашырыў і паглыбіў гэтыя пытаньні і зрабіў іх поглядамі ня толькі комуністычнай партыі ў Расіі, але таксама поглядамі пролетарыяту ўсяго сьвету, які змагаецца пад сьцягам Комуністычнага Інтэрнацыяналу.

# ПРОБЛЕМЫ ЭУГЕНІКІ

## Я Кіпель

### I

Эўгеніка—навука аб палепшаньні пароды людзей. Чалавецтва ніколі ня было індэфэрэнтным да сваіх уласных натуральных якасьцяй. Як толькі пачала разьвівацца чалавечая думка, дык людзі пачалі задумвацца над сваёю прыроднаю адаронасьцю. Таленавітым, дужым і зграбным асобам поэты ахвяроўвалі свае вершы, лічылі гэтых людзей падобнымі да багоў і часамі сумавалі аб тых людзях, што маюць фізычныя хібы. Але не заўсёды чалавечая думка ставілася да чалавечых хібаў у такіх плятонічных формах, часамі людзі пачыналі актыўна змагацца з хібамі людзей. У старажытняй Грэцыі было ўзаконена забіваньне дзяцей, якія нараджаліся з фізычнымі хібамі. У найноўшыя і сярэднія вякі проблемы чалавечае пароды набываюць клясавы характар. Пануючая кляса пачынае лічыць сваю пароду вышэй за пароду клясы прыгнечаных і, каб захаваць чыстату свае пароды, яна пачынае выразна адмяжоўвацца ад клясы прыгнечаных. З гэтаю мэтаю выдаюцца законы, якія забараняюць шляхетнаму стану браць шлюб з людзьмі паднявольнага стану. З разьвіцьцём капіталізму пытаньне аб пародзе людзей ані не аслабла і ані не зьмяніла свайго клясавага характару, мала гэтага, яно нават больш завастрылася і пакінула пэўны сьлед у літаратуры. У кнізе Лаўрова „Кому принадлежит будущее“, капіталісты Карцёжнік кажа, што капітал павінен імкнуцца не да ўсебаковага разьвіцьця асобы рабочага, а да таго, каб зрабіць з гэтае асобы проста індывіда, які-б пакорна выконваў волю яго паноў. Па думцы гэтага капіталістага прогрэс чалавецтва магчымы толькі тады, калі кляса пануючых будзе матэрыяльна забясьпечана за кошт клясы прыгнечаных, другіх-жа шляхоў у чалавецтва, на думку капіталістага, няма і не павінна быць. Такім чынам, пытаньне капіталам пастаўлена выразна і ясна: прогрэс чалавецтва—гэта прогрэс пануючае клясы і ў імя гэтага прогрэсу рабочая кляса павінна страціць усе адзнакі разумнага чалавека. Фактычна капітал гэта і праводзіць у жыцьцё. Хоць цяпер і ня бачым законаў, якія-б забаранялі капіталістым браць шлюб з асобамі ня іх клясы, бо цяпер такія законы не патрэбны, тым ня менш адасобненасьць клясы багатых ад клясы бедных зараз у капіталістычных дзяржавах выяўлена выразьней, чым у сярэднія вякі. Навучаньне ў тых школах, дзе вучацца дзеці багатых,

адбываецца па іншай програме, чым у тых школах, дзе вучацца дзеці бедных кляс. У тыя школы, дзе вучацца дзеці багатых, дзеці беднаты ніколі ня здолеюць трапіць, бо там спаганяюць вялікую плату за навучаньне. Апрача гэтага, адчыненьне школ буржуазіяй для сваіх рабочых выклікана не замілаваньнем да прогрэсу, а ходам конкурэнцыі паміж буржуазіяй розных краін. Усім вядома, што пісьменны рабочы зьяўляецца лепшым работнікам, чымся рабочы няпісьменны, і буржуазія, каб мець высока кваліфікаваную сілу, адчыняе школы для рабочых, але навучаньне рабочых адбываецца па такой програме, каб сьветапогляд рабочага ня вышаў за межы пэўнага кругу ідэй. На фізычную істоту рабочага зварачаецца ўвага пастолькі, пакольні гэта патрэбна для вытворчасьці. З другога боку, рабочыя інтуітыўна змагаюцца супроць свайго фізычнага выраджэньня і духоўнага падняволеньня. Перадавыя рабочыя высоўваюць патрабаваньні аб скасаваньні і аб поўнай забароне звыштэрміновай працы для рабочых усіх галін прамысловасьці, аб скасаваньні ў школах выкладаньня закону божага і г. д. Ясна, што гэтым патрабаваньнем рабочыя маюць на ўвазе пазбавіць ад фізычнага і духоўнага выраджэньня сваіх таварышоў і такім парадкам клясавая сутнасьць фізычнага аздараўленьня чалавека відавочная.

Пытаньне аб вышэйшай і ніжэйшай пародзе людзей ня толькі адбілася ў мастацкай літаратуры, яна глыбока прасякла і ў навукі экспэрымэнтальныя і тут яно ня згубіла свайго клясавага характару. На падставе таго, што індывідуальныя здольнасьці перадаюцца часамі ў спадчыну патомству, некаторыя расійскія вучоныя лічаць, што старая расійская інтэлігенцыя зьяўляецца носьбіткай тых духоўных багацьцяў, якія мелі яе продкі. Што датычыць заходня-эўропэйскіх вучоных, то там думка аб гэтым, што інтэлігенцыя і наогул пануючая кляса, паводле свае прыроды, інтэлектуальна вышэй за клясу рабочых, надзвычайна распаўсюджана. Зразумела, што такая думка ня мае ніякіх конкрэтных даных, яна ёсьць вынік уласнай самаўлюблёнасьці і ня больш. Тое, што індывідуальныя адзнакі перадаюцца ў спадчыну, гэта факт, з гэтым ня прыходзіцца спрачацца, але пяці, шасьці і нават дзесяці пакаленьняў мала для таго, каб у організьме моцна затрымаліся тыя ці іншыя асаблівасьці, для гэтага трэба некалькі дзесяткаў пакаленьняў, але ў гісторыі ня было такога зьявішча, каб цэлыя дзесяткі пакаленьняў разумова сталі вышэй за другія пакаленьні. Возьмем, напрыклад, самага радавітага інтэлігента,—гадоў чатырыста таму назад яго продкі (няхай яны будуць князі або баяры) інтэлектуальна стаялі ня вышэй за халопаў-сялян. Мазгі тагачаснага селяніна мусілі працаваць ня горш за мазгі баярына, бо навуку яны праходзілі амаль што аднолькавую, а стала быць і на разумовы стан патомства яны мелі аднолькавы ўплыў. Зараз мы бачым, што часамі дзеці сялян і рабочых, продкі якіх былі заўсёды няпісьменнымі, вучацца вельмі добра, ані ня горш за дзяцей, бацькі якіх лічаць сябе духоўнымі скарбніцамі мінулых пакаленьняў. Як відаць, дзецям

сялян і рабочых ад іх няпісьменных продкаў засталася добрая духоўная спадчына і калі ў будучыні соцыяльныя ўмовы будуць спрыяць, то кляса рабочых і сялян дасьць больш выдатных людзей, чымся да гэтага часу дала кляса пануючых станаў. Пры самых неспагадных умовах, якія ў нас існавалі да рэволюцыі, з клясы працоўных вышла досыць многа выдатных людзей. Такім парадкам з папярэдняга вынікае, што ў прыхільнікаў маладое навукі, эўгенікі, ня выпрацавалася пакуль-што аднолькавага погляду на духоўную прыроду сучасных людзей, але ўсе згаджаюцца з тым, што будучае пакаленьне павінна быць здаровым і дужым, а для гэтага мы павінны зрабіць усё, што ад нас залежыць. Сярод эўгеністых амаль няма разыходжаньняў у поглядах на тое, як дасягнуць таго, каб будучае пакаленьне было дужае і здаровае. Для гэтага патрэбна здаровая спадчыннасьць і добрыя матэрыяльныя ўмовы. Аднае спадчыннасьці ня досыць для таго, каб асоба была ўсебакова разьвіта, для гэтага патрэбны яшчэ добрыя матэрыяльныя ўмовы, апошнія маюць пераважнае значэньне для фізычнага разьвіцьця. Для ілюстрацыі нашае думкі падамо статыстычныя даныя аб росьце дзяцей заможных клясаў і фабрычна-заводзкіх рабочых:

| Узрост | Дзеці забясьпечаных клясаў (рост у сант). | Дзеці фабрычна-заводзкіх рабочых (рост у сант.) | Розьніца |
|---|---|---|---|
| 9 гадоў. . . | 126 | 122,4 | 4,2 |
| 10 „ . . . | 131,9 | 126,3 | 5,6 |
| 11 „ . . . | 136,2 | 129,9 | 6,3 |
| 12 „ . . . | 140,9 | 134,4 | 6,5 |
| 14 „ . . . | 152,3 | 141,2 | 11,1 |
| 15 „ . . . | 158,6 | 146,7 | 11,9 |

З гэтае табліцы ясна відаць, што фізычнае разьвіцьцё бывае тым паўнейшае, чым лепшыя матэрыяльныя ўмовы. Але, апрача вышэйазначаных пытаньняў, перад эўгенікай зараз паўстаюць наступныя актуальныя задачы: 1) больш глыбокае і ўсебаковае высьвятленьне спадчыннасьці на людзях, 2) устанаўленьне правільных адносін да скарачэньня ліку нараджэньняў у сувязі з перанасяленьнем і 3) барацьба са спадчыннасьцю хвароб. Вось гэтымі апошнімі пытаньнямі запоўнена амаль уся сучасная эўгенічная літаратура. У расійскай літаратуры зараз даволі многа месца прысьвечана вывучэньню генэолёгіі так званых вялікіх людзей. Вывучаецца генэолёгія пісьменьнікаў, дзеячоў навукі і мастацтва, рэволюцыянэраў і наогул дзяржаўных дзеячоў. Ня трэба і гаварыць аб тым, што гэтыя досьледы даюць шмат цікавага і новага матэ-

рыялу аб спадчыннасьці здольнасьцяй у людзей. Але найбольш цікавыя з галіны генэолёгіі працы амэрыканскіх вучоных і вывады з іх прац часамі не адпавядаюць інтарэсам міжнароднага рэволюцыйнага руху. Амэрыканцы маюць зараз вельмі вялікія матэрыяльныя сродкі і ў кожную галіну навукі яны ўкладаюць столькі сродкаў, колькі ня можа ўкласьці ніякая іншая дзяржава і таму шырыня досьледу ў іх, зразумела, большая. Побач з дасьледваньнем генэолёгіі вялікіх людзей, амэрыканцы многа зрабілі ў галіне дасьледваньня зладзеяў і рознага злачыннага элемэнту, а таксама імі шмат зроблена ў вывучэньні генэолёгіі розных бядняцкіх сямей. І тут амэрыканскі вучоны Караль Пірсон, выдатны дасьледца генэолёгіі людзей, лічыць, што беднасьць зьяўляецца вынікам нездавальняючай духоўнай спадчыннасьці. Па думцы Пірсона, чалавек застаецца бедняком таму, што ён атрымаў у спадчыну пэўную няразьвітасьць розуму, адсутнасьць задаткаў волі, гонару і добрых працоўных звычак і з прычыны гэтага ў бядняцкіх сем'ях пераважаюць дрэнныя інстынкты, ад чаго і зьяўляецца ў гэтых сем'ях вялікая пладавітасьць дзяцей. Ня трэба і гаварыць аб тым, што гэта лёгіка чыста амэрыканская—„ты бедны таму, што ты дурань, а каб ты быў разумны, то і быў-бы багаты". З такімі вывадамі мы згадзіцца ня можам. Багацьці і кар'ера многіх людзей часта залежаць не ад розуму гэтых людзей, а ад шмат якіх вакольных прычын. Расійскі народ стварыў прыказку, якая кажа, што „от трудов праведных не наживешь палат каменных". Гэтай прыказкай, народ хоча паказаць, што для таго, каб быць багатым, мала аднае чэснае працы. У нас, у беларусаў, ёсьць такая прыказка, якая кажа, што „ад чэснай працы ня будзеш багаты, а толькі гарбаты". Гэтыя прыказкі адбіваюць многавяковую практыку народу, дый амаль на кожным кроку мы бачым, што службовае і матэрыяльнае становішча шмат якіх асоб нельга прыпісаць розуму гэтых асоб. Зразумела, трэба згадзіцца з тым, што сярод беднаты заўважваецца нейкая адсталасьць, але гэта выклікаецца сыстэматычным недаяданьнем, нездавальняючымі кватэрнымі ўмовамі, адсутнасьцю правільных забаў. Пры амэрыканскім-жа індывідуалізьме так ставіць пытаньне немагчыма, па-іхнаму няхай кожны асабіста паляпшае свае матэрыяльныя ўмовы. Каб дасьледваць духоўную здольнасьць людзей, у Амэрыцы зараз выпрацаваны для гэтага цэлы шэраг прыёмаў і даныя іх досьледаў у галіне разумовай здольнасьці надзвычайна цікавы. Паміж іншым, амэрыканскія дасьледчыкі давялі, што разумовыя здольнасьці людзей аднае і тае-ж профэсіі далёка не аднальковыя. Сярод горнарабочых на сто чалавек прыпадае толькі ўсяго 4 проц. выдатных па свайму разьвіцьцю і адаронасьці.

| | |
|---|---|
| Сярод фабрычных рабочых на сто чалавек прыпадае | 4,12 проц. |
| „ працаўнікоў нар. харчаваньня | 8 „ |
| „ працаўнікоў цаглянае вытворчасьці | 11.10 „ |
| „ мэханікаў | 12,30 „ |
| „ аўтомэханікаў | 13,40 „ |

| | | |
|---|---|---|
| Сярод фабрычных рабочых на сто чалавек прыпадае | 4,12 | проц. |
| „ сясьцёр міласэрдзя | 44,50 | „ |
| „ інжынэраў-мэханікаў | 46,6 | „ |
| „ бухгальтароў | 46,7 | „ |
| „ дантыстых | 54,4 | „ |
| „ мэханікаў-конструктараў | 58,6 | „ |
| „ сакратароў юнацкіх організацый | 71,3 | „ |
| „ дактароў | 77,5 | „ |
| „ інжынэраў-начальнікаў | 95,9 | „ |

Зразумела, што параўнаньні гэтыя не абсолютныя, а адносныя, гэта значыць, што рабочыя раўняліся з рабочымі, а інжынэры з інжынэрамі. Дасьледы гэтыя рабіліся пераважна на салдатах, якія былі прызваны ў апошнюю германа-амэрыканскую вайну і было дасьледвана звыш трох мільёнаў чалавек. З паданых лічбаў відаць, што рабочыя ў масе па свайму разьвіцьцю найбольш аднастайны і выдатных сярод іх параўнаўча невялікая колькасьць. Найбольш-жа выдатных асоб прыпадае на долю інжынэраў-начальнікаў. Падобнае зьявішча тлумачыцца ня толькі соцыяльным адборам, але і ўмовамі жыцьця. Усяго-ж выдатных людзей у ЗШ Амэрыкі 4 проц., прычым сярэдні ўзровень разьвіцьця прыняты адпаведна ўзроўню падлетка ў 13,5 гадоў. Дасьціпная амэрыканская статыстыка нават вылічыла, у якой профэсіі працуючы лягчэй трапіць у выдатныя асобы. Так, напрыклад, сярод некваліфікаваных рабочых выдатных асоб дзяржаўнага маштабу прыпадае на 48.000 чал.—1 асоба.

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| Сярод кваліфікаваных рабочых | на | 1600 | чал. | 1 | асоба |
| „ фэрмэраў | „ | 680 | „ | 1 | „ |
| „ гандляроў і служачых | „ | 80 | „ | 1 | „ |
| „ прадст. вольных проф. | „ | 46 | „ | 1 | „ |
| „ інжынэраў | „ | 161 | „ | 1 | „ |
| „ дактароў | „ | 105 | „ | 1 | „ |
| „ юрыстых | „ | 52 | „ | 1 | „ |

Звычайна ўсе выдатныя ў грамадзкім жыцьці Амэрыкі людзі запісваюцца ў асобныя кнігі, і ясна, што кожнаму хочацца трапіць у кнігу выдатных, і таму, пры выбары профэсій, моладзь часта выбірае тую профэсію, дзе лягчэй можна зрабіцца выдатным чалавекам. Зразумела, што гэта крайнасьць, але гэтая крайнасьць характарная для амэрыканскага індывідуалізму.

Прызнаючы спадчыннасьць духоўных здольнасьцяй у людзей, многія біолёгі лічаць, што ня трэба захапляцца гэтай спадчыннасьцю, бо аднае духоўнае спадчыннасьці надта мала для таго, каб тая ці іншая пэрсона зрабілася выдатнай. Каб давесьці гэтую ісьціну, падаюць шмат прыкладаў з экспэрымэнтаў над жывёламі: вось, напрыклад, калі муху дрозофіла разводзіць у лябораторыі, дык праз пэўны лік пакаленьняў выводзіцца пакаленьне, якое мае характарныя адмоўныя адзнакі, уласьцівыя толькі гэтаму пакаленьню. Але гэтыя адзнакі могуць выявіцца толькі тады, калі карміць мух сухімі харчамі, а калі карміць вільготнымі харчамі, дык гэтыя адзнакі ня выявяцца. Адгэтуль ясна, што харч лепшае

якасьці спрыяе найлепшаму разьвіцьцю організму і тады ў організьме ўсе дрэнныя якасьці або не выяўляюцца, або выяўляюцца вельмі слаба. Апрача гэтага прыкладу, можна адзначыць цэлы шэраг іх з жывёлагадоўлі ў сельскай гаспадарцы. Напрыклад, звычайная сялянская карова можа даць у год каля сарака вёдзер малака, з якога можна атрымаць каля паўтара пуда масла, і вось з гэтае простае пароды выводзілі кароў, якія давалі масла ў год ад сарака да пяцідзесяці пудоў. Ясна, што для вываду такое каровы меў значэньне і падбор, але і харчаваньне адыграла не апошнюю ролю. Так і ў жыцьці людзей адпаведныя ўмысловыя здольнасьці для свайго разьвіцьця вымагаюць адпаведных умоў. Тая краіна дае заўсёды найбольш выдатных вучоных, дзе гэтыя вучоныя найлепш забясьпечаны. Забясьпечаньне з боку матэрыяльнага мае дадатны ўплыў ня толькі на ўмысловую дзейнасьць вучоных, але і на ўмысловую дзейнасьць рабочага. Той рабочы, у якога галава не занята думкаю аб тым, дзе адшукаць кавалак хлеба на абед, такі рабочы ня толькі не зьяўляецца мэханічным дадаткам да машыны, але ён вывучае гэтую машыну і часта ўносіць многа новага ў конструкцыю тае ці іншае машыны. Але і дадатная ўмысловая спадчыннасьць і добрыя матэрыяльныя ўмовы самі па сабе ня выклічуць да жыцьця тыя таленты, якія часам захаваны ў чалавеку—для гэтага патрэбна доўгая і ўпартая праца. Ёсьць вучоныя, якія лічаць, што няма людзей нявдольных, у кожнага здаровага чалавека ёсьць здольнасьць да якое-небудзь галіны і толькі трэба ўмець абудзіць гэтую здольнасьць. Вядомы амэрыканскі вынаходца Эдысон выказаў такую думку, што ў кожнага ёсьць талент, але каб гэты талент абудзіць, то для гэтага трэба два проценты хаценьня і дзевяцьдзесят восем паценьня і тады зьявіцца талент. І гэтае апошняе ў значнай ступені зьяўляецца правільным для ўсякіх умоў і для кожнага чалавека.

II

Ужо зазначалася, што другім актуальным пытаньнем для эўгенікі як навукі зьяўляецца пытаньне аб скарачэньні ліку нараджэньняў у сувязі з перанасяленьнем. Гэтае пытаньне пастаўлена на павестку дня тады, калі эўгеніка як навука яшчэ толькі пачынала зараджацца, яно пастаўлена, зразумела, не эўгенікай, а фактарамі экономічнага парадку. Ужо ў першай палове XIX стагодзьдзя Мальтус сформуляваў свой вядомы закон народанасельнасьці. У гэтым законе ўзята пад увагу толькі колькасьць людзей, кожны чалавек разглядаецца толькі як ядок і зусім не бярэцца пад увагу чалавек вытворца. У пэрыод хуткага і моцнага росквіту капіталістычнае гаспадаркі тэорыя Мальтуса была шырока прызнана, бо зусім адпавядала экономічным запатрабаваньням анарха-капіталістычных суадносін. Экономічны і праўны індывідуалізм таго часу разьвязваў усе соцыяльныя проблемы толькі з пункту гледжаньня даб-

рабыту асобнага індывідуума, а чалавецтва як цэлае ня бралася пад увагу, і таму такая тэорыя, дзе альфаю і омегаю быў пэрсанальны эгоізм, не магла не карыстацца посьпехам. Але як толькі пачаў нараджацца рабочы рух і зьявіліся рабочыя організацыі, то была і выяўлена неадпаведнасьць тэорыі Мальтуса з вымаганьнямі соцыялістычнага ладу. Сапраўды, немагчыма-ж зьнішчыць усе хібы соцыяльнага ладу, як напрыклад: убоства, беспрацоўе, хваробы, кватэрныя хібы, прыгнечанасьць, дзіцячую сьмяротнасьць і іншыя чалавечыя няшчасьці адным толькі скарачэньнем нараджэньняў, як аб гэтым гаворыць тэорыя Мальтуса. Соцыялізм можа быць пабудаваны толькі зьменаю самога соцыяльнага ладу і таму пераважная большасьць рабочых організацый пачала адмоўна ставіцца да закону Мальтуса. Адмоўна ставіцца да гэтага закону і сучасная эўгеніка, якая кіруецца інтарэсамі ня толькі асобнага чалавека, але і інтарэсамі цэлага народу, „расы“, зьвязанае аднастайнасьцю культуры і цэлым шэрагам біолёгічных асаблівасьцяй. Мала гэтага, сучасная эўгеніка мае на ўвазе інтарэсы ня толькі сучасных людзей, яна бярэ пад увагу і інтарэсы будучых пакаленьняў. У зародкавай плазьме сучаснага чалавека эўгеніка як навука бачыць найвялікшую каштоўнасьць, а асобны чалавек зьяўляецца толькі носьбітам і перадавальнікам гэтае каштоўнасьці. У зародкавай плазьме чалавека сконцэнтраваны практыка і этапы разьвіцьця мінулых пакаленьняў, ад чыстаты і здароўя гэтае плазмы залежаць духоўныя і фізычныя здольнасьці будучых пакаленьняў. Вось чаму эўгеніка супроць тэорыі Мальтуса, у якой дзеяньне біолёгічных фактараў падпарадкуецца эгоістычным інтарэсам асобнага індывіда, таксама, як экономічная марксыцкая тэорыя супроць таго, каб вытворчыя процэсы былі падпарадкаваны гаспадарчым інтарэсам аднаго індывіда. У агульным прынцыпе эўгеніка таксама прызнае разумны контроль над нараджальнасьцю, але гэты контроль павінен кіравацца не меркаваньнямі індывідуальнага эгоізму, а колектыўнымі інтарэсамі сучаснае і будучае грамады. Тут трэба зазначыць, што ня ўсюды з гэтымі эўгенічнымі прынцыпамі вучоныя аднолькава згодны: у шмат якіх мясцох прынцыпы эўгенікі пераплецены з прынцыпамі мальтузіянства, а таксама з прынцыпамі клясавага парадку і нават падпарадкаваны ім. Гэта зразумела, бо эўгеніка нарадзілася ў капіталістычных краінах і таму дзе-ні-дзе на яе накладаюцца адзнакі, уласьцівыя капіталістычнаму сьвету. Але ўсюды ўжо прызнаны той прынцып, што немагчыма палепшыць духоўныя і фізычныя якасьці маладога пакаленьня аднымі толькі санітарнымі мерапрыемствамі, напрыклад: палепшаньнем кватэрных і экономічных умоў, зьмяншэньнем колькасьці працоўных гадзін і г. д., усяго гэтага яшчэ мала для таго, каб маладое пакаленьне было фізычна вытрывалае і духоўна адаронае. Для гэтага патрэбны яшчэ фактары біолёгічнага парадку, а менавіта—дадатная спадчыннасьць ад продкаў. Стаўшы на такі пункт гледжаньня, эўгеністыя і кажуць, што няма сэнсу імкнуцца да павялічэньня колькасьці насельніцтва, калі ня рупіцца аб яго духоўнай

і фізычнай істоце, але адначасна ня трэба і баяцца перанасяленьня, бо чалавецтва выкарыстоўвае вельмі нязначны процант тых матэрыяльных рэсурсаў, якімі надзяліла земную кулю прырода. У процэсе-ж вытворчасьці сам чалавек зьяўляецца галоўнаю зброяю, галоўным імпульсам вытворчасьці, а калі фізычная і духоўная істота гэтага галоўнага вытворцы будзе палепшана, то ад гэтага вытворчасьць толькі павялічыцца ва многа раз і яе хопіць на значна большы лік спажыўцоў. Яшчэ рана гаварыць аб перанаселенасьці земнае кулі, гэтая перанаселенасьць калі і будзе, то будзе ня скора, а што датычыць сучасных соцыяльных цяжкасьцяй жыцьця, то іх нельга прыпісаць перанаселенасьці, яны, з аднаго боку, пераважна выкліканы капіталістычным ладам жыцьця, а з другога боку—тым, што на ўтрыманьні працоўнага чалавецтва знаходзіцца шмат індывідаў хворых, колькасьць якіх будзе значна паменшана пры адпаведным правільным падборы.

Але мусім яшчэ раз зазначыць, што як ні яскравы довады эўгенікі, усё-ж такі ідэі мальтузіянства надзвычайна моцна трымаюцца сярод колаў капіталістычных краін. Сродкі, якія раней падпольна практыкаваліся для абмежаваньня нараджальнасьці ў некаторых заходня-эўропэйскіх дзяржавах, напрыклад—у Нямеччыне, у Аўстрыі, у Вэнгрыі і іншых, гэтыя сродкі зараз пачалі практыкаваць зусім адкрыта. Мала гэтага, ужыты крокі, каб скасаваць адпаведныя артыкулы ў крымінальным кодэксе, што караюць за аборт і за іншыя опэрацыі супроць нараджальнасьці. Рух супроць нараджальнасьці ня толькі прасякнуў ва ўсе клясы грамады, але ў сваім разьвіцьці ён ужо набыў міжнародны характар пад назваю нэомальтузіянства. Першыя чатыры міжнародныя конфэрэнцыі нэомальтузіянтаў, што адбыліся да вайны (у 1900, 1905, 1910 і 1911 г.г.), зьяўляліся невялікімі сходамі сэктантаў, але пятая лёндонская конфэрэнцыя, якая адбылася ўлетку 1922 году, ужо была досыць значным сходам прадстаўнікоў ад розных краін з удзелам выдатных эконамістых і соцыолёгаў. Нарэшце, апошняя конфэрэнцыя, што адбылася ў сакавіку 1925 году ўжо была сапраўдным конгрэсам, у якім прымала ўдзел каля тысячы дэлегатаў, прадстаўнікоў ад шаснаццаці краін Усходу і Захаду. Вынікам гэтага конгрэсу зьявілася Міжнародная Нэомальтузіянская Ліга, якая шырока распаўсюдзіла свой уплыў пропагандаю, дакладамі, лекцыямі, лістоўкамі і часопісамі. Яна пачала організаваць консультацыі для падачы контрацэпцыйных парад і націскаць на заканадаўчыя органы і партыйныя рэзолюцыі. Да гэтага новага руху далучылася шмат паасобных вучоных і дзяржаўных дзеячоў. Проблемы нэомальтузіянства пачалі абгаварвацца ў навуковай пэрыодычнай прэсе, на мітынгах і партыйных конфэрэнцыях.

Такім чынам, нэомальтузіянства са зьявішча амаль-што падпольнага паступова абярнулася ў соцыяльнае зьявішча міжнароднага руху. Баявым лёзунгам нэомальтузіянства зьяўляецца лёзунг сьвядомага індывідуальнага контролю над дзетанараджэньнем з мэтаю пазбавіць сябе і краіну

ад тых няпрыемнасьцяй, якія вынікаюць ад перанасяленьня. У сваіх адозвах нэомальтузіянскія організацыі адзначаюць тыя выгады, якія атрымае жанчына ад контролю над дзетанараджэньнем. Нескладанасьць і прастата програмы нэомальтузіянства вабяць у яго шэрагі новых і новых прыхільнікаў. Старое мальтузіянства вяло агітацыю за абмежаваньне дзетанараджальнасьці шляхам устрыманьня ад палавых зносін, новае-ж мальтузіянства гэтага ня радзіць, яно радзіць цэлы шэраг сродкаў супроць цяжарнасьці і ў гэтым бачыць шлях для ліквідацыі розных соцыяльных няшчасьцяў, напрыклад, дзіцячае бяспрытульнасьці, беспрацоўя і г. д. Ідэі нэомальтузіянства ня могуць падзяляцца Савецкім Саюзам; тут у Савецкім Саюзе вызваленьне жанчыны бачаць ня ў тым, каб яна была бязьдзетнаю, а ў тым, каб яна ў часе цяжарнасьці была і з боку матэрыяльнага, і з боку праўнага забясьпечана самым найлепшым спосабам. Тым ня менш ідэі нэомальтузіянства хоць і неофіцыяльным парадкам, але ўсё-ж прасякаюць і ў савецкую грамадзкасьць. Лічба абортаў у нас штогод падвышаецца, а падача контрацэпцыйных парад шырока практыкуецца ўсімі гінэколёгічнымі габінэтамі, толькі ў нас гэта не ўзаконена і, як відаць, ніколі ня будзе ўзаконена, нэомальтузіянства-ж імкнецца ўсё гэта ўзаконіць. У нас, у Савецкім Саюзе, калі і дазваляюць часамі офіцыяльным парадкам рабіць аборты, дык кіруюцца не меркаваньнямі індывідуальнай эгоістычнай філёзофіі, а інтарэсамі грамадзкасьці, інтарэсамі цэлага колектыву пэўнае народнасьці. Вось гэта і адрозьнівае ў корані савецкую політыку ў абсягу нараджальнасьці ад ідэй нэомальтузіянства.

Але нэомальтузіянства ў аснову сваіх ідэй кладзе ня толькі эгоістычныя індывідуальныя меркаваньні асобы, яно яшчэ ў сваіх паводзінах і агітацыі кіруецца і лічбовымі данымі аб перанасяленьні. Згодна статыстычных даных, да вайны, прыблізна да 1913 году, колькасьць насельніцтва земнай кулі была роўна 1.750 мільёнам чалавек. Пасьля-ж вайны, згодна з апошнім перапісам, на земнай кулі 1.793 мільёны насельніцтва. Значыць, ня гледзячы на тое, што апошняя вайна каштавала чалавецтву 11 мільёнаў чалавек, усё-ж такі за дзесяць гадоў прырост насельніцтва роўны 43 мільёнам чалавек. У аднэй Эўропе за гэтыя дзесяць гадоў прыбавілася насельніцтва на 12 мільёнаў чалавек. На тэрыторыі СССР да вайны жыло 135,6 млн. чалавек і ня гледзячы на тое, што шмат загінула ў часе імпэрыялістычнае і грамадзянскае вайны, а таксама шмат эміґравала ў часе рэволюцыі, і шмат мясцовасьцяй адыйшло (Латвія, Літва, Польшча і інш. усё-ж такі пад канец 1925 году на тэрыторыі СССР было налічана 139,75 млн. чалавек. Значыць, колькасьць насельніцтва павялічылася на многа мільёнаў чалавек. Ня трэба думаць, што коэфіцыент прыросту насельніцтва на тысячу чалавек штогод падвышаецца, наадварот, ён з кожным годам зьмяншаецца, але ў агульнай суме прырост усё-ж такі павялічваецца. Зразумела, не ва ўсіх дзяржавах ён аднолькава павялічваецца, напрыклад, Францыя за 120 гадоў павялічыла

прырост насельніцтва ўсяго на 9 мільёнаў чалавек. Пачынаючы з XIX стагодзьдзя, яна давяла колькасьць сваіх жыхароў з 30 мільёнаў да 39 мільёнаў. За апошнія 50 гадоў рост насельніцтва Францыі амаль-што прыпыніўся. Англія за час з 1851 да 1911 году падвоіла колькасьць свайго насельніцтва. Згодна даных апошняга перапісу ў Англіі бяз Уэльсу ў 1924 годзе колькасьць насельніцтва роўна 42.767 тысячам. Нямеччына ў 1871 годзе налічвала 41 мільён чалавек, а ў 1925 годзе без Эльзасу-Лётарынгіі ў Нямеччыне налічана 63.225 тысяч чалавек.

У СССР нараджальнасьць да вайны раўнялася 43,8 на 10.000 чалавек штогодні прырост быў роўны 5,2 млн. нованароджаных. Сьмяротнасьць да вайны раўнялася 25,2 чалавека на тысячу, за апошнія тры гады, ужо пры савецкай уладзе, сьмяротнасьць трошкі скарацілася, яна ўжо раўняецца 20 чалавекам на тысячу. Калі-ж мы возьмем лічбовыя даныя хоць якой краіны аб прыросьце насельніцтва гадоў за дзьвесьце таму назад, дык гэтыя лічбы будуць значна вышэйшыя, чым цяперашнія. Заўважана, што чымся культурней народ, тым меншая сярод яго бывае нараджальнасьць; у кожнай дзяржаве найбольшая нараджальнасьць заўсёды прыпадае на бяднейшыя клясы. Каб падмацаваць нашую думку, адзначым некаторыя лічбовыя даныя, што характарызуюць стан нараджальнасьці розных кляс насельніцтва. Згодна досьледам Томсона, у Англіі на сто шлюбаў паміж асобамі не старэй 55 гадоў дзяцей прыпадала:

| | |
|---|---|
| У настаўнікаў | 95 |
| „ служак культу | 97 |
| „ дактароў | 103 |
| „ пісьменьнікаў і выдаўц. | 104 |
| „ палісмэнаў | 153 |
| „ паштовых служачых | 159 |
| „ возьнікаў і разносчыкаў | 207 |
| „ рабочых докераў | 231 |
| „ тракціршчыкаў | 234 |
| „ горнарабочых | 259 |
| „ чорнарабочых | 438 |

У Нямеччыне, згодна спэцыяльнага рабочага перапісу, на сто рабочых шлюбаў прыпадае дзяцей:

| | |
|---|---|
| У электратэхнікаў | 189 |
| „ гравэраў | 199 |
| „ ювэліраў | 214 |
| „ манцёраў | 231 |
| „ мэханікаў | 244 |
| „ кавалёў тонкае працы | 268 |
| „ „ грубае працы | 282 |
| „ мэталістых | 285 |
| „ зямлякопаў | 304 |
| „ рабочых цагляных заводаў | 308 |
| „ старажоў | 312 |
| „ прадзільнікаў | 444 |

Цікава было-б параўнаць даныя аб нараджальнасьці сярод розных станаў у СССР, але такіх даных у агульнасаюзным маштабе мне адшукаць у бюлетэнях ЦСУ не ўдалося.

Ня гледзячы на тое, што нараджальнасьць у кожнай дзяржаве паступова зьмяншаецца, агульны прырост насельніцтва ўсё-ж такі павялічваецца, бо нараджальнасьць большая за сьмяротнасьць. І калі возьмем паасобныя краіны, дык убачым, што ўзрост насельніцтва ўсё-ж такі значны. Пачынаючы з 1871 году па 1910 г., агульны прырост насельніцтва ў галоўных краінах Эўропы будзе наступны:

| | | |
|---|---|---|
| У Францыі | 9,53 | проц. |
| „ Англіі | 43,6 | „ |
| „ Нямеччыне | 58,1 | „ |
| „ Італіі | 29,4 | „ |
| „ Аўстра-Вэнгрыі | 37,8 | „ |
| „ СССР | 71,9 | „ |

Такім парадкам з гэтых лічбаў відаць, што за 30 гадоў у некаторых дзяржавах прырост насельніцтва перавышае 50 проц. Яшчэ больш навочна выявіцца прырост насельніцтва, калі возьмем процантны прырост яго ў краінах Эўропы за XIX стагодзьдзе (вылічэньні Воблага).

| | | |
|---|---|---|
| Фінляндыя | 226 | проц. |
| Расія | 183 | „ |
| Англія | 158 | „ |
| Голяндыя | 140 | „ |
| Нямеччына | 130 | „ |
| Швэцыя і Норвэгія | 128 | „ |
| Бэльгія | 123 | „ |
| Аўстра-Вэнгрыя | 94 | „ |
| Італія | 93 | „ |
| Швэйцарыя | 90 | „ |
| Гішпанія | 61,80 | „ |
| Францыя | 45,50 | „ |

а прырост насельніцтва ўсяе Эўропы за 19 стагодзьдзе складае 115 процантаў. Калі мы ўявім сабе, што ў далейшым колькасьць насельніцтва будзе павялічвацца штогод на 1 проц., то к 1970 году колькасьць жыхароў земнае кулі будзе роўна 2.796 мільёнам чалавек, а да 2121 году гэтая лічба павінна будзе ўзрасьці да 12.400 мільёнаў чалавек. Гэта будзе самая густая перанаселенасьць, і калі такую лічбу яшчэ ўчацьвярыць, то, паводле слоў аднаго статыстыка, на земнай кулі ня будзе дзе сядзець, а можна будзе толькі стаяць. Учацьвярэньне-ж гэтае пры аднапроцантным прыросьце можа адбыцца згодна вылічэньняў не раней як у 2371 годзе, такім чынам, хоць і вялікі прырост насельніцтва, але што да таго часу, калі недзе будзе сядзець на зямлі і прыдзецца стаяць, вельмі далёка і біць нам трывогу аб гэтым, як гэта робяць нэомальтузіянцы,

яшчэ надта рана. Гушчыня-ж насельніцтва ў розных частках сьвету не аднолькавая:

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| У Эўропе | 450 | мільёнаў | чалавек,— | на 1 | кв. | км. | прыпадае | — 45,6 |
| „ Азіі | 995 | „ | „ | „ 1 | „ | „ | „ | — 24,3 |
| „ Афрыцы | 132 | „ | „ | „ 1 | „ | „ | „ | — 4,7 |
| „ Амэрыцы | 207 | „ | „ | „ 1 | „ | „ | „ | — 4,8 |
| „ Аўстраліі | 8 | „ | „ | „ 1 | „ | „ | „ | — 0,9. |

Згодна апошніх досьледаў у сярэднім на земнай кулі на 1 кв. км. прыпадае 12,9 чалавек. Шчыльнасьць, зразумела, вялікая, але яна далёка ня роўнамерная, у некаторых краінах шмат незаселенае зямлі, але засяліць гэтую зямлю немагчыма з прычын чыста адміністрацыйна-палітычных. Злучаныя Штаты Амэрыкі налічваюць зараз 115 мільёнаў чалавек, а каб у іх была такая шчыльнасьць насельніцтва, як у Нямеччыне, то яны-б мелі 1.000 мільёнаў чалавек, а каб такая, як у Англіі, дык 2.000 мільёнаў чалавек. Але ўжо Амэрыка ў 1924 годзе выдала закон, які забараняе прыяжджаць эмігрантам некаторых нацый, таксама зрабіла Аўстралія і іншыя краіны. Падобныя мерапрыемствы слаба заселеных краін абвастраюць пытаньне з перанасяленьнем у шмат якіх краінах Эўропы і Азіі, а пад уплывам гэтага расьце і пашыраецца нэомальтузіянства. Але нэомальтузіянства, ня гледзячы на яго баявы настрой, усё-ж такі ня можа разьвязаць пытаньня аб перанасяленьні, і гэтае пытаньне зараз разьвязваюць, з аднаго боку, самі жыхары, а з другога боку, зацікаўленыя ўрады.

Як ні вялікая перанаселенасьць Эўропы, усё-ж такі перанасяленьне тут ня так моцна адчуваецца, як перанасяленьне Азіі. Возьмем, напрыклад, Кітай, тут насельніцтва каля 400 мільёнаў, шчыльнасьць цяжка вызначыць, але па ўсіх вестках яна дасягае значнай лічбы. Памірае ў Кітаі на 1000 чалавек штогод 70—80 чал., але, ня гледзячы на гэта, прырост насельніцтва, паводле даных нямецкага статыстычнага штогодніка, падвышаецца. У выніку перанаселенасьці адчуваецца вялікі недахват зямлі, а разам з гэтым сярод незаможных клясаў пануе страшэнная беднасьць. Сярод беднаты даволі шырока распаўсюджана забойства нованароджаных. Жэняцца там вельмі рана, так што, як правіла, у аднэй сям'і заўсёды можна сустрэць прадстаўнікоў чатырох пакаленьняў. Да 1916 году там практыкавалі шлюбы ўтробных дзяцей, але ў 1916 годзе шлюбы ўтробных дзяцей забаронены, затое шырока практыкуюцца шлюбы няпоўналетніх. Нярэдкі выпадкі, калі сустракаюцца ўдовы і ўдаўцы не старэй году. Малечы ўдовы, згодна кітайскага звычаю, павінны быць вернымі сваім памёршым мужам, якіх яны і ў вочы ня бачылі. Гандаль людзьмі і асабліва дзяўчынкамі даволі шырока распаўсюджаны. Купленую дзяўчынку ў нявесткі для сына, пасьля яго сьмерці бацькі або сваякі могуць прадаць і тады яна можа парушыць вернасьць свайму памёршаму мужу. Усе пісьменьнікі і вандроўцы адзначаюць, што нараджальнасьць у Кітаі даволі вялікая, але з прычыны дрэннага харчаваньня і наогул

цяжкіх умоў, з тых, што выжываюць, разьвіваюцца індывідуумы неэнэргічныя, слабыя, нястойкія супроць розных хвароб. З прычыны гэтага ў Кітаі надзвычайна пашыраны розныя эпідэміі, ад якіх часта памірае па некалькі мільёнаў чалавек у год. Кітайскі вучоны Вуль-Іен расказвае, што ў 1921 годзе, каля г. Дальняга, у горах, працавала 8.000 рабочых. Палова была рускіх, а палова кітайцаў, і ад чумы, якая там распаўсюдзілася, памерла рускіх чатыры чалавекі, а кітайцаў—1.000 чалавек. Такую вялікую сьмяротнасьць сваіх землякоў гэты вучоны тлумачыць тым, што організм кітайскага рабочага з маленства не разьвіўся як належыць і таму лёгка паддаецца хваробам. З вышэйпаданага вынікае, што перанаселенасьць зьяўляецца прычынай беднасьці, якая наогул адмоўна ўплывае на разьвіцьцё організму. Ня лепш стаіць справа з перанасяленьнем у Індыі. Індускае сялянства таксама адчувае вельмі вялікі зямельны голад, а з прычыны гэтага сярод індускага сялянства пашырана забойства дзяцей. Праўда, нованароджаных там літаральна не забіваюць, а іх нясуць у лес і пакідаюць там, каб іх падабралі і гадавалі русалкі, зразумела, іх падбіраюць і зьядаюць дзікія зьвяры. Ангельскі ўрад у апошні час ужыў суровыя меры, каб зьнішчыць падобнае зьявішча. Нэомальтузіянства ў Індыі пашырана надзвычайна, шмат хто з тамтэйшых дзеячоў лічаць, што прогрэс Індыі магчымы толькі тады, калі колькасьць насельніцтва ня будзе ўзрастаць. Але Індыя і Кітай—краіны паднявольныя і таму беднасьць і ўбоства, што пануюць там, залежыць ня толькі ад перанаселенасьці, але і ад таго, што гэтыя краіны бязьлітасна эксплёатуюцца і там не разьвіваецца мясцовая прамысловасьць. У Японіі таксама вялікая перанаселенасьць, але сялянства жыве трошкі лепш, чымся кітайскае і індускае.

Калі ў літаратуры абгаварваецца перанаселенасьць, то не бярэцца пад увагу той лад, у якім зараз жыве большасьць чалавецтва, гэта значыць—капіталістычны лад. У ангельскіх колёніях родзіць добра бавоўна, але там няма фабрык, якія-б апрацоўвалі гэтую бавоўну і мясцовыя жыхары ня маюць працы. Вось калі будуць зьнішчаны дзяржаўныя межы, зьліквідаваны арміі і будзе скасавана прыватная ўласнасьць на сродкі вытворчасьці і будзе організавана агульная колектыўная (чалавечая) гаспадарка, тады ўсе сілы прыроды будуць выкарыстаны найбольш рацыянальна і чалавецтва пакіне і думаць аб штучным скарачэньні свайго роду. Чалавецтва цалкам тады стане на шлях натуральнага разьвіцьця, на шлях аздараўленьня свае пароды і фізычна, і духоўна.

III

Апошнім актуальным пытаньнем эўгенікі зьяўляецца пытаньне аб перадачы фізычных і духоўных адзнак у спадчыну, але гэтае пытаньне вельмі складанае і вымагае асабліва дакладных мэтодаў і таму яно вельмі мала распрацавана. Апроч таго, гэтаму пытаньню ня ўсюды надаюць

аднолькавае значэньне. Амэрыканцы аддаюць спадчыннасьці шмат увагі. Хворых асоб, якіх нельга вылечыць, там сьцерыялізуюць г. зн. пазбаўляюць магчымасьці мець патомства, а тых хворых, якіх можна вылечыць, прымушаюць да шлюбу вылечыцца. Усякае ўхіленьне ад гэтых эўгенічных мерапрыемстваў цягне за сабою крымінальную адказнасьць. Зразумела, што падобныя мерапрыемствы існуюць не ва ўсіх штатах Амэрыкі, у некаторых штатах хворых, калі іх і нельга вылечыць прымусова не сьцерыялізуюць, а толькі з такімі элемэнтамі жанчынам маладзей 44-х гадоў забараняецца мець палавую сувязь. Гэты апошні закон датыкаецца выключна суб'ектаў слабых на розум і наогул душэўна хворых. Апрача барацьбы з хваробамі, у Амэрыцы зварочваецца вялікая ўвага на біолёгічную адэкватнасьць тых асоб, якія пераяжджаюць у Амэрыку. Амэрыканскімі вучонымі высьветлена, што некаторыя эмігранты, пасяліўшыся ў Амэрыцы, у мясцох з гарачым кліматам, робяцца гультаямі, неактыўнымі і пры гэтым пладавітасьць у такіх людзей павышаецца. Такая „акліматызацыя“ заўважана пераважна на італьянцах і на жоўтых, гэта значыць японцах і кітайцах. Амэрыканскі профэсар Хэтынгтон, які займаўся дасьледваньнем перасяленцаў у Амэрыцы, праз прэсу пачаў даводзіць, што перасяленцы з цёплых краін, пасяліўшыся ў Амэрыцы, робяцца гультаямі і няўспрымальнымі да цывілізацыі ўсёроўна, як нэгры і гэтае выступленьне зрабіла ўплыў на амэрыканскі ўрад. Як ужо зазначана вышэй, у 1924 годзе ў Амэрыцы быў выданы закон, які некаторым нацыям зусім забараняў перасяленьне ў Амэрыку, а наогул пасьля гэтага закону перасяленцаў пачалі вельмі ўважна фільтраваць і найбольшую ўвагу, паміж іншым, аддаюць жыхаром паўночных краін.

Трэба адзначыць, што і да выхаду прац Хэтынгтона ў амэрыканцаў пад уплывам розных прычын склаліся адмоўныя адносіны да паўднёвых народаў.

Ня трэба думаць, што, выдаючы законы ў галіне эўгенікі, амэрыканцы выходзяць з плятонічных меркаваньняў або з меркаваньняў пастаноўкі экспэрымэнтаў з людзьмі. Зразумела, што не, іх да гэтага прымушаюць выключна фактары экономічнага парадку. Амэрыка—край вялікага багацьця і прогрэсу, але адначасна з гэтым гэта-ж край і вялікага зладзейства. Пры гэтым там зладзейства ня мае эпізодычнага характару. Згодна амэрыканскае статыстыкі, у 1923 годзе ў З. Ш. Амэрыкі на доўгатэрміновае зьняволеньне за крымінальныя злачынствы (не палітычныя) было засуджана бяз малага 110.000 чалавек, а на кароткатэрміновае зьняволеньне за злачынствы таго-ж характару было засуджана 650.000 чалавек, а калі да гэтага дабавіць лічбу нявыяўленых злачынстваў, тады ўражаньне будзе ня зусім прыемнае. На ўтрыманьне злачынцаў, душэўна-хворых і бяспрытульных старых у З. Ш. Амэрыкі ў 1916 годзе страчана 150 мільёнаў руб. Мала гэтага, увесь гэты адэкватны элемэнт у сваім разьвіцьці, паводле некаторых даных, мае некаторую тэндэнцыю на павышэньне.

Калі мы зьвернем увагу на тое, што робіцца ў галіне эўгенікі ў Эўропе, дык тут мы нідзе ня знойдзем тых узаконеных абмежаваньняў для шлюбаў, якія існуюць у Амэрыцы. У Нямеччыне, напрыклад, існуе цэлы шэраг нямецкіх эўгенічных організацый, якія вядуць агітацыю за эўгенічнасьць шлюбаў, але абмежаваньні ў шлюбах, здаецца, зроблены толькі для душэўна-хворых, а для іншых хворых нямецкі ўрад ня робіць. абмежаваньняў з прычыны зьмяншэньня агульнага ліку нараджэньняў. Затое там некаторыя хваробы, напрыклад, вэнэрычныя пастаўлены пад асаблівы нагляд мэдыцыны. Хворага на тую ці іншую вэнэрычную хваробу вучастковыя дактары ня кідаюць у спакоі да таго часу, пакуль ён ня вылечыцца. Цікава адзначыць, што на чале нямецкіх эўгенічных організацый стаяць пераважна настаўнікі. Што да іншых эўропэйскіх дзяржаў, то там таксама вядзецца праца пераважна асьветнага характару. Але там, побач з чытаньнем лекцый, зьбіраецца шмат навуковага матэрыялу аб перадачы ў спадчыну людзьмі розных адзнак. Трэба адзначыць, што эўгеніка—навука выключна біолёгічная і яна цікавіцца ня толькі перадачаю духоўных адзнак і фізычных хібаў у людзей, яе цікавіць цэлы шэраг пытаньняў іншага характару, напрыклад, для эўгенікі зьяўляюцца вельмі цікавымі пытаньнямі, пытаньне аб здольнасьці чалавека прыстасоўвацца да вакольных умоў, пытаньне аб імунітэце ў чалавека і шэраг іншых. Да гэтага часу яшчэ ў навуцы ня высьветлена, ці зьяўляецца імунітэт у чалавека здольнасьцю, набытаю ў часе жыцьця. ці ён перадаецца чалавеку ў спадчыну. Справа ў тым, што чалавек—жывёла спэцыфічная, ён мае цэлы шэраг сваіх уласьцівасьцяй, якіх ня маюць іншыя жывёлы і таму лябораторныя вывады над жывёламі ня могуць быць цалкам у некаторых выпадках прыстасаваны да чалавека. Тут павінны быць зроблены спэцыяльныя досьледы.

# БЕЛАРУСКАЕ КАЗАЦТВА Ў УКРАІНСКАЙ ГІСТОРЫЯГРАФІІ

**Л. Акіншэвіч**

У нумары першым „Полымя“ за 1927 г. аўтар гэтых радкоў даў агульны малюнак цікавага і шырокага беларускага соцыяльнага руху, зьвязанага з украінскай рэволюцыяй пры Багдане Хмяльніцкім. У гэтым артыкуле я пісаў у агульных рысах пра палітычныя падзеі 1654—59 гг. на Беларусі і даваў клясавы аналіз удзельнікаў паўстаньня, характар і мэты гэтага руху. Падзеі і рух гэтага часу на мой погляд ёсьць вельмі і вельмі цікавая і вельмі важная старонка беларускае гісторыі. Аднак, беларуская гісторыяграфія мала іх дасьледвала. У гісторыі Беларусі добра апрацованы пэрыод Вялікага княства літоўскага да Люблінскай вуніі. Тут ужо можна сказаць, што маем мы цалкам выстарчальную базу для прац соцыялёгічна-сынтэтычных. Былі ўжо і спробы такіх прац. Але горш справа з іншымі пэрыодамі. Княскі, старажытны пэрыод у гісторыі беларускага народу мае толькі некалькі прац, што кажуць пра гістарычны лёс асобных пляменьняў ды асобных тэрыторый Беларусі. Сынтэтычнае працы тут яшчэ няма і, як відаць, важным здарэньнем будзе выхад 1-га тому вялікае гісторыі Беларусі акад. Ў. Пічэты. Мала прац ёсьць і пра час пасьля Люблінскае вуніі, тут перш-на-перш трэба прыпамятаць монографію Лапо ды цікавае дасьледваньне В. Дружчыца. Амаль-што нічога няма, як я ўжо казаў, про соцыяльны рух беларускага казацтва. Палажэньне гэтае асабліва ненормальнае цяпер, калі шэраг дасьледцаў працуе над гісторыяй беларускага народу і калі наш час—час вялікіх соцыяльных ды нацыянальных зрухаў, нясе вялікае і зразумелае зацікаўленьне да рухаў соцыяльнага характару і рэволюцыйнага зьместу.

Соцыяльна-клясавых рухаў мала ў гісторыі Беларусі, гэтаму ёсьць шмат прычын, перш-на-перш прычын экономічнага характару. Тым больш прыходзіцца зварачаць увагу на тыя рухі, пра якія ў нас ёсьць весткі.

У гэтым артыкуле я хачу пазнаёміць беларускую грамадзкасьць і нагадаць беларускім гісторыкам-вучоным пра некаторыя працы украінскіх гісторыкаў, што датычаць беларускага казацтва. Справа зразумелая— чаму гэта цікавіла якраз украінскіх гісторыкаў. Аднак, рух і організацыі беларускага казацтва былі вынікам украінскае рэволюцыі палавіны XVII ст. З другога боку, у беларускіх падзеях выдатную ролю іграла украінскае казацтва і яго правадыры Ів. Залатарэнка і Ів. Нечай. Мне нячаста прыходзілася спатыкаць у працах беларускіх гісторыкаў

спасылкі на артыкулы, пра якія я буду пісаць, ня відаць іх і ў сьпісах гістарычнае літаратуры, на аснове якіх пісаліся працы гісторыкаў Беларусі. Думаецца, што такі агляд украінскае навукі можа быць цікавым для беларускае гісторыяграфіі ды для беларускага грамадзтва.

Першы артыкул, пра які тут хачу сказаць, быў надрукаваны ў 1896 г. у Львове ў запісках Навуковага таварыства імя Шаўчэнка (т. XIV, стар. 1—30). Аўтарам гэтага артыкулу, які называецца „Козаки на Білій Руси в р.р. 1654—1656“, быў адзін з вучняў М. Грушэўскага, што тады быў прафэсарам Львоўскага унівэрсытэту і стварыў там школу маладых гісторыкаў—галічан, Амяльян Тэрлецкі. Прычынай, што паслужыла напісаньню працы, была, як прызнаецца сам аўтар, выхад у сьвет XIV тома актаў Поўдзённае і Заходняе Расіі, які, як вядома, мае вялікі матэрыял пра падзеі на Беларусі ў час паўстаньня Багдана Хмяльніцкага.

Аўтар, даведаўшыся, што пра гэтыя падзеі амаль нічога ня пісаў Кастамараў, што пра іх вельмі мала кажа Салаўёў, што ў сваім апісаньні падзей гэтага часу польскі гісторык Шуйскі зусім не адзначаў беларускіх казакаў, зьвёўшы, як некаторыя іншыя гісторыкі, усе падзеі да змаганьня расійскага і польскага войска,—піша пра вялікую гістарычную цікавасьць гэтага пэрыяду. На погляд аўтара гэтая эпоха цікавая тым, што яе выклікала рэволюцыя социяльная ды рэлігійная украінскага народу ў саюзе с казацтвам і агрэсыўная палітыка Маскоўскага ўраду (стар. 2). Пэўна, што мы прымаем толькі першую характарыстыку украінскае (і беларускае) рэволюцыі і гэта была сапраўды социяльная рэволюцыя. Пра рэлігійны характар барацьбы ў той час нямала гаварылася, але гэта па існасьці было толькі прыкрыцьцём нацыянальных змаганьняў, у аснове якіх зноў-такі ляжалі экономічныя прычыны. І цікава, што пра барацьбу „за православную веру“ гаварылі толькі тады, калі змагаліся з палякамі, а далей паміж яе „праваслаўнымі“ ўдзельнікамі непамерна і рэзка адзначыліся асобныя інтарэсы асобных груп.

А. Тэрлецкі ў першым разьдзеле свае працы кажа пра ваенныя падзеі на Беларусі, прычым яго найбольш цікавіць стратэгія украінскага казацтва. Ён кажа пра тое, што ў чэрвені 1654 г. частка украінскага войска з „паказаным гетманам“ Ів. Залатарэнкам пайшла паходам на Беларусь, якая была пад Польшчай. Мелі украінскія казакі злучыцца тут з расійскім войскам цара Аляксея Раманава. У канцы чэрвеня яны пачалі аблогу Гомелю, аблогу, якая скончылася толькі ў жніўні 1654 г., калі украінскаму войску Гомель паддаўся. Далей украінскае войска бярэ Чычэрск, Новы Быхаў і пачынае аблогу моцнае крэпасьці таго часу Старога Быхаву. Далей—паход Залатарэнка, баі з палякамі-літоўцамі, аблога літоўскім войскам Новага Быхаву, у якім сядзеў Залатарэнка (няўдалая), баі з Радзівілам, аблога украінскім войскам Старога Быхаву, паход украінскіх войск пад Вільню і Гародню—1655 г., аблога Ст. Быхаву яшчэ раз і гібель Залатарэнка, падчас аднэй з вылазак быхаўчан, нарэшце, мір Расіі з Польшчай, на які не згаджалася Украіна—увесь

гэты стракаты і цікавы калейдаскоп падзей на Беларусі 1654—1656 г.г. характарызуе і апісвае ў сваім артыкуле Тэрлецкі. Справа, як бачым, канчаецца ў 1656 г.; далейшая дзейнасьць казачых аддзелаў Ів. Нечая, організацыя беларускага Чавусаўскага палка, залежнага ад гетмана Б. Хмяльніцкага, усё гэта не ўваходзіць у тэму Тэрлецкага, пра гэта ён і ня кажа.

Але ўсё гэта—пра дзейнасьць украінскага казацтва, што-ж у артыкуле, у апісаньні тагачасных падзей ёсьць пра Беларускае казацтва Паклонскага. Зусім нямнога. Тэрлецкі толькі кажа, што ў зваяваньні Магілеву браў удзел „і Паклонскі“, шляхціч праваслаўнай веры, што паступіў на Маскоўскую службу і быў ужо палкоўнікам (стар. 5). Больш ніякае характарыстыкі. Вось-жа організатар беларускага казацтва Паклонскі ў львоўскага вучонага выходзіць звычайным расійскім ваенным, які шпарка даслужыўся да палкоўніка (сапраўды-ж гэты ранг быў даны Паклонскаму адразу, адначасна з даручэньнем організаваць беларускае казацтва ды падняць яго супроць польска-літоўскай улады). Далей пра Паклонскага аўтар кажа толькі тады, калі ў 1655 годзе ён здрадзіў Расіі ды пусьціў у Магілеў (у вялікі Магілеўскі вал) польска-літоўскае войска. Пакуль-што толькі адзначаю гэтую рыску апавяданьня А. Тэрлецкага.

Другі разьдзел артыкулу цікавейшы. У ім аўтар перш-на-перш апісвае межы тэрыторыі, якую занялі украінскія казакі. Гэта былі месты: Гомель, Новы Быхаў, Чычэры, Чавусы і г. д. „Гэта тэрыторыя заключала паўдзённую частку цяперашняе (г. зн. 1896 г. *Л. А.*) губэрні Магілеўскай, стары так званы Быхаўскі павет (апроч места Старога Быхаву) і палавіну павету Магілеўскага“.

Аўтара у гэтым разьдзеле цікавіць пытаньне пра адносіны ўлады украінскага казацтва да ўлады расійскага цара. Перш-на-перш ён вызначае іх адмены: улада цара была ўладай цэнтральнай, і ў окупаванай усходняй Беларусі Расія падпарадкавала ўсе організацыі і ўсе станы жыхарства, каб былі яны „ў поўнай слухмянасьці на сваю (расійскую) карысьць“. Ня так было з уладай украінскай „цэнтральнай улады ў такім выглядзе, як у Маскве, тут ня было, тут быў гетман, які меў найвышэйшую ўладу над войскам, ля яго аднаго стаяла казацкая рада, што мела вялікае значэньне. З погляду грамадзкага казацкая ўлада была зусім адменная ад Маскоўскае дзяржавы. Тут закліканы да жыцьця (дзяржаўнага) шырокія масы, якія мелі голас у справах грамадзка-політычных і актыўна выступалі ў справе забясьпечаньня сабе існаваньня“ (стар. 15). Зразумела, Тэрлецкаму трэба было паказаць на адмену соцыяльнага зьместу расійскае ды украінскае ўлады, на рэволюцыйны характар руху украінскага казацтва, у які ў гэты час былі ўцягнуты і шырокія масы сялянства, на дваранска-баярскі ўрад па Маскве ў XVII ст. А адмены ў політычным ладзе не такія характарныя, менавіта, калі прыпамятаць, што якраз з 1654 г. пачынаецца дыктатура Б. Хмяльніцкага ды праўленьне без казацкае рады.

Ілюстрацыю адносін паміж расійцамі ды украінцамі ў окупаванай частцы Ўсходняй Беларусі А. Тэрлецкі хоча бачыць у адносінах казакоў Паклонскага да украінскага казацтва. Ён кажа пра спрэчкі паміж Паклонскім ды Залатарэнкам, скаргі першага на апошняга, на драпежніцтва украінскага войска і на тое, што Залатарэнка займае Магілеўскую акругу. Выяўляецца, што якраз гэта ёсьць характарыстыкай таго, „што казацтва (аўтар кажа пра казакоў Залатарэнкі) і Масква тут, на Літве і Белай Русі, былі элемэнтамі супроцьлеглымі, і ў іх самых было гэтае пачуцьцё супроцьлегласьці інтарэсаў. Як Масква, так і казацтва варожа паступалі адносна адзін аднаго; адзін аднаму не хацеў уступіць нават кавалка зямлі. Цяпер зразумела, чаму казакі ўсё больш бунтуюць супроць Масквы, яе жыхарства і чаму маскоўскі ўрад апрабуе дзейнасьць сваіх падуладных, як Паклонскага, Ункоўскага (расійскі ваявода *Л. А.*) ды іншых, якая была варожай для казакоў" (стар. 21). Вось тут і выяўляецца ўся вялікая памылка Тэрлецкага: ён зусім не зазначыў руху беларускага казацтва. Гэтага мэрам-бы зусім ня было. Ёсьць толькі украінскія казакі, якім спачуваюць беларускія сяляне і расійскае войска, якому яны не спачуваюць. Соцыяльны ды нацыянальны рух беларускага сялянства, які выявіўся ў організацыі беларускага казацтва некуды прапаў. Ягоны кіраўнік Паклонскі Тэрлецкаму здаецца такім падданым ды слугой цара Аляксея Раманава, як і расійскі ваявода Ункоўскі. У сваім артыкуле, пра казацтва на Беларусі я пісаў пра імкненьні Паклонскага да панаваньня над тэрыторыяй, якую занялі яго казакі. Як вядома, ён быў слабы, каб дабіцца гэтага панаваньня. Але зусім не адзначыць гэтых спроб і гэтых выразных тэндэнцый Паклонскага да беларускага казацтва ёсьць кардынальная памылка, якую і дапусьціў Тэрлецкі.

Канчае гэты разьдзел Тэрлецкі апісаньнем спроб Залатарэнка ўвайсьці ў саюз з Швэцыяй—ворагам Расіі ў гэты час.

Нарэшце, апошні трэці разьдзел Тэрлецкі піша пра вельмі для нас цікавую проблему, пра соцыяльныя адносіны ў гэты час на Ўсходняй Беларусі. Казакі (украінцы), на погляд аўтара, „былі тэй палітычнай клясай, якая ў выніку рэакцыі ў Польшчы... была пазбаўлена ўсіх праў ды прывілей, якія яна дагэтуль мела. Таму яна амаль не зраўнялася з сялянствам. Сялянства і казакі адчувалі аднолькавасьць інтарэсаў і яны ў саюзе пачалі барацьбу за свае правы супроць кляс, што стаялі вышэй з погляду грамадзкага і—гэта ідзе адначасна—экономічнага, што мелі правы—прывілеі, якія былі шкодныя як для казацтва, так і для простага сялянства, г. зн. супроць шляхты і, часткова, буйнага мяшчанства. Гэтая барацьба не закончылася ў 1654 годзе (злучэньне Украіны з Расіяй *Л. А.*), а ішла ўсё далей; у гадох, над якімі працуем, яна таксама выяўлялася: казакі, як і перад 1654 годам, змагаліся з шляхецкай Польшчай, толькі, што цяпер адначасна з Масквой (стар. 25). І тыя казакі, што з Залатарэнкам былі на Беларусі, таксама тут адначасна з сялянствам змагаліся з Польшчай. Сялянства беларускае падтрымлівае

Залатарэнка, яны разам з ім змагаюцца з шляхтай, яно бяжыць ад сваіх паноў у шэрагі казацкага войска. Але аўтар кажа, што гэты хаўрус сялянства з казацтвам меў у сябе элемэнты заняпаду, пакольki казацтва ці, прынамсі, ягоны „старшыня" ўжо ў гэтыя часы пачало аддзяляцца ў асобны стан, з яго асобнымі клясавымі інтарэсамі, якія маглі ісьці супроць інтарэсаў сялян.

У гэтым разьдзеле, які мае нямала правільных поглядаў, зноў-такі памылка ў тым, што аўтар забывае пра соцыяльны рух беларускага казацтва. А тымчасам якраз першыя крокі беларускага казацтва Паклонскага прынесьлі крывавую расправу беларускіх казакоў з шляхтай. У паніцы ўцякала ад іх шляхта: адны ў Польшчу, другія да маскоўскага войска. Гэта ўжо потым у організацыю беларускага казацтва праходзіць шляхта. І яшчэ адно: Тэрлецкаму даводзіцца пісаць пра супольнасьць інтарэсаў казакоў ды сялян; калі-б ён памятаў пра беларускіх казакоў першага часу організацыі беларускага казацтва, дык ён пра гэта мог і ня пісаць, гэта-б значыла ламацца ў адчыненыя дзьверы. Адылі гэтыя казакі былі беларускія сяляне, толькі такія, што паўсталі супроць паноў, толькі такія, што ўзялі ў рукі стрэльбы, мушкеты ды халодную зброю. Гэта на Украіне казацтва і да рэволюцыі 1648 году было асобным станам, што стаяў паміж шляхціцам ды селянінам.

У гэтым-жа разьдзеле Тэрлецкі піша пра адносіны да казакоў беларускае шляхты ды мяшчанства. Аднак вельмі мала. „Пра шляхту ня маем ніякіх зьвестак пра яе адносіны з казацтвам. Ёсьць толькі зьвесткі, што яна групамі ідзе пад маскоўскі ўрад з умовай, каб былі зацьверджаны ўсе яе прывілеі, на што апошні цалкам згаджаецца. На аснове гэтага магчыма дапусьціць, што яна ня злучалася з казацтвам, якое ёй было зусім непатрэбна, а лічыла, пэўна, яго за свайго ворага, памятаючы падзеі 1648—1654 г.г." (стар. 26).

У друкованых дагэтуль матэрыялах сапраўды мала фактаў пра адносіны шляхты да казакоў Залатарэнка, хоць нешта пра гэта і ёсьць. А вось адносна беларускага казацтва магчыма намаляваць вельмі яскравы малюнак яго адносін да шляхты: крывавую барацьбу з ёй у першыя часы і зьмену сытуацыі потым, калі беларуская шляхта праходзіць у організацыю казацтва, займае там кіраўнічыя пасады і, урэшце, падрыхтоўвае пераход беларускага казацкага палка на польскі бок. Шмат можна было-б сказаць пра адносіны шляхты да Чавусаўскага палкоўніка Ів. Нечая, але дзейнасьць яго ўжо выходзіць з пэрыоду, пра які пісаў Тэрлецкі.

Нарэшце, пра адносіны з мяшчанствам. На погляд Тэрлецкага яны ня былі добрымі: „Буйнае мяшчанства, як і казацтва, добра разумела, што ім нельга быць разам у прыязьні, яны бачылі ўсё бяздоньне, што іх дзяліла, а было яно ў тым, што мяшчанства (кажам тут пра тое мяшчанства, што мела вялікія прывілеі, магдэбурскае права), як і шляхта мела прывілеі, хоць і іншага зьместу, чым шляхта, але-ж усё-ткі такія,

што давалі яму грамадзкую ды экономічную перавагу над казакамі“, (стар. 26). Гэтыя адносіны напэўна ня былі аднолькавыя ў розных групах мяшчанскага стану. Найгорш адносілася да казакоў вярхушка мяшчанства беларускіх мест, што некалі выходзіла з шляхты, радавое-ж мяшчанства нават часткаю ўвайшло ў казацтва Паклонскага.

Пераходзячы да агульнай ацэнкі артыкулу Тэрлецкага, трэба сказаць, што з ім давядзецца лічыцца беларускім дасьледчыкам і ён дагэтуль цікавы, паколькі пра 1654—59 г.г. на Ўсходзе Беларусі яшчэ так мала напісана. Але цяперашні беларускі дасьледчык, думаецца, мусіць адзначыць у концэпцыі Тэрлецкага шэраг недахопаў. Перш-на-перш, у яго, як было ўжо сказана вышэй, зусім зьнікла беларускае казацтва, а кіраўнікі яго прадстаўлены як непасрэдныя слугі ды падданыя расійскага цара. А тымчасам гэта было зусім ня так: Паклонскі відавочна стараўся організаваць асобную беларускую казацкую організацыю, якая-б мела ўладу над тэрыторыяй беларускага народу. З гэтым толькі не пашанцавала ў выніку цэлага шэрагу прычын як агульна-экономічнага ды соцыяльнага характару, так і прычын конкрэтнае політычнае сытуацыі.

Зусім зьнік у галіцкага вучонага і нацыянальны момант. Ці ён зусім не стаяў на Беларусі? Гэта ня так і пра гэта я спэцыяльна пісаў у 1927 г. ў „Полымі“. Нацыянальную барацьбу аўтар бачыць толькі ў украінскага казацтва Залатарэнка. Але вынікае пытаньне—што гэта было за казацтва? Пра гэта магчыма пісаць спэцыяльна. Але тут можна ў агульных рысах сказаць пра тое, што ў паўночным палку Украіны (у гэтых часох гэта быў полк Нежынскі, потым з яго вылучыўся полк Старадубскі, але і пры Залатарэнку дзейнічалі на Беларусі „паказныя“—часовыя Старадубскія палкоўнікі) было шмат беларускіх элемэнтаў. Справа ў тым, што тэрыторыя Старадубшчыны—у значнай меры тэрыторыя беларуская. Насяленьне Старадубшчыны прыняло ўдзел у украінскай казачай організацыі і украінскай казацкай рэволюцыі. У першым томе „Описания старой Малороссии“ А. Лазарэўскага, прысьвечаным Старадубскаму палку, пералічана шмат беларускіх казацкіх вёсак. Вось гэтыя казакі-украінцы па падданству і беларусы па нацыянальнасьці—прышлі з Залатарэнкам на Беларусь (пэўна, што ў яго войску былі і украінскія казакі). Гэта дало палёгку ў паразуменьні з жыхарствам беларускай Гомельшчыны і Магілеўшчыны.

Соцыяльна-клясавую барацьбу аўтар заўважыў, але ахарактарызаваў яе мала ды няглыбока. Ён больш кажа пра адносіны да казакоў розных кляс беларускага жыхарства. Але ён зусім не заўважыў паўстаньня сялян, расправу з шляхтай, жаданьне замяніць соцыяльныя адносіны. Тут шмат было і конкрэтных падзей, што яскрава характарызавалі клясавыя адносіны і клясавую барацьбу на Беларусі. Антагонізм беларускага сялянства і шляхты, падмечаны аўтарам, сапраўды быў больш рэзкі, чым гэта выходзіць па яго апісаньнях. Але выяўлялася гэтая клясавая барацьба і антагонізм ня так (у першы час) у казакоў Залатарэнка, дзе

было шмат элемэнтаў старога „рангавага“ казацтва, соцыяльна блізкага да шляхты, як у паказаных беларускіх сялян Паклонскага, што ўносілі ў падзеі афарбаваньне сялянскае рэволюцыі.

Як бачым, артыкул Тэрлецкага наогул цікавы, але не бяз хібаў. Позыцыя аўтара, бясспрэчна, часткаю тлумачыцца школай украінскае навукі, да якое ён належаў. Гэта была моцная ў той час паміж маладое украінскае інтэлігенцыі плынь нацыянальна-народніцкага зьместу. Гэта адлюстравалася і ў артыкуле Тэрлецкага: яго народніцкія ідэалы вялі яго да выхваленьня украінскага казацкага паўстаньня пры Багдане Хмяльніцкім, яго нацыяналістычная позыцыя прымусіла яго падаць падзеі на Беларусі толькі як рух украінскага казацтва, а ў рознастайным складзе беларускага казацтва бачыць толькі агентаў баярскай Масквы.

У № 1 за 1890 год Кіеўскага гістарычнага журналу „Киевская старина“ зьмешчаны быў кароткі артыкул А. Вастокава „Судьба Выговских и Ивана Нечая“. Аўтар—прадстаўнік расійскай дакумантальнай гістарычнай школы[1]) прыводзіць у ім некаторыя фактычныя даныя. Ён піша пра беларускага палкоўніка Ів. Нечая, які ў сьнежні 1659 г. быў узяты расійцамі з крэпасьці Старога Быхаву ды сасланы ў Сібір. Вастокаў прыводзіць перапіску пра тое, як дзяржалі Нечая ў Табольскай турме.

Адначасна з гэтым аўтар кажа і пра лёс родных украінскага гетмана Выгоўскага. Яго брат Даніла ў 1658 г. адыгрываў значную ролю ў падзеях на Беларусі; пра гэта шмат могуць расказаць архіўныя матэрыялы Маскоўскага „Древлехранилища“, якія прыходзілася бачыць аўтару гэтых радкоў. Д. Выгоўскі памёр, калі яго ў ланцугох везьлі да Масквы. Прынята думаць, што яго закатавалі. Вастокаў у апошняе ня верыць, але довады яго ня вельмі моцныя.

У Маскву, а потым у Сібір, на раку Лену, саслалі і іншых Выгоўскіх—Васіля (дзядзьку гетмана), Юрку (стрыечны брат), Ільлю (пляменьнік). Выгоўскія былі з шляхты Оўруцкай, на мяжы Палесься ды Валыні. Іх не прызнавалі на Украіне за чыстых украінцаў; пра гетмана гаварылі запарожцы, што нельга яму кіраваць Украінай ды казацкім войскам, бо ён „литвин“ [2]).

Артыкул Вастокава толькі ўскосна закранае беларускую гісторыю, паколькі ён кажа пра гістарычныя асобы—і перш-на-парш пра Нечая,—якія мелі значэньне ў беларускай гісторыі. Шырока проблему ён ня ставіць, а дае толькі шэраг фактаў пра лёс у палоне Нечая і Выгоўскіх.

У 1912 годзе ў Кіеве—Кракаве вышла кніга „Z dziejów Ukrainy“. Амаль ня ўсе артыкулы яе належаць В. Ліпінскаму. В. Ліпінскі—украінскі памешчык з Уманшчыны, прадстаўнік польскае шляхты на Украіне, але такое шляхты, якая ня зусім адарвалася ад украінскае культуры. Але ў апошняй яна ў асобе В. Ліпінскага заняла асобную

[1]) Да украінскай гісторыяграфіі адношу гэты артыкул таму, што ён друкаваўся ў украінскім часопісу.

[2]) Акты южн. і зап. России, т. VII., стр. 192.

позыцыю: В. Ліпінскі цяпер у эміграцыі зьяўляецца правадыром і ідэолёгам украінскіх монархістых, якія групуюцца вакол „гетмана“ Скарападзкага. У свае навукова-гістарычныя працы Ліпінскі цалкам адкрыта пераносіць сваю клясава-палітычную ідэолёгію—ідэолёгію украінскае шляхты і украінскіх памешчыкаў.

Вось як Ліпінскі вызначае свае погляды і свае позыцыі ў прадмове да сваёй кніжкі „Украіна на пераломі“, выданай ужо па-украінску ў 1920 г. ў Вене, у якой перакладзены некаторыя з артыкулаў, зьмешчаных у „Z dziejów Ukrainy“. „За ўвесь час,—піша ён,—сваёй грамадзкай украінскай працы я стаяў на аснове сваёй прыналежнасьці да... шляхецкага стану, хоць і спольшчанага зьверху, але па існасьці такога-ж украінскага, паколькі украінскай была ўся нашая маласьвядомая, і толькі цяпер ствараючая новыя формы нацыянальнага жыцьця, саракамільённая нацыя. Я думаў і думаю, што толькі ўдзел гэтага роднага мне стану ў новым украінскім нацыянальным жыцьці, толькі адраджэньне традыцыйнай духоўнай сувязі з сваёй „зямлёй“ дасьць ёй новую моральную моц ды энэргію і вызваліць яе ад раскладу і загубы. Думаў я таксама і думаю, што без яго актыўнай і сьвядомай дапамогі, аднолькава, як і без такой-жа дапамогі левабярэжнага казацкага (па пахаджэньню *Л. А.*) дваранства, збудаваць дзяржаву украінскую, прынамсі, пры жыцьці найбліжэйшых пакаленьняў, нельга. Бяз уласнай-жа дзяржавы я сабе ніколі не ўяўляў магчымасьці існаваньня Украінскае—не этнографічнай масы—а нацыі“.

У гэтай цытаце Ліпінскі выступае, як яскравы і адкрыты (гэта нячаста бывае) прадстаўнік украінскіх памешчыкаў, вялікага і сярэдняга зямляўладаньня. Для іх ён пісаў і выдаў па-польску сваю кнігу—„для хутчэйшага і шырэйшага пашырэньня украінскае нацыянальнае сьвядомасьці і сваіх палітычна-дзяржаўных задач паміж сыноў шляхецкіх, спольшчанай часткі вялікае і адзінае здольнае да дзяржаўнай творчасьці земляробскае украінскае клясы“.

Вось гэты ідэолёг клясы памешчыкаў і пісаў нешта пра беларускае казацтва XVII ст.

Праўда, спэцыяльных прац ці артыкулаў пра падзеі на Беларусі ў сярэдзіне XVII ст. у В. Ліпінскага няма. Але ў яго працах пра паўстаньне Б. Хмяльніцкага параўнаўча шмат месца займаюць падзеі на Беларусі. У кнізе „Z dziejów Ukrainy“, якую я выкарыстоўваю, як орыгінал і як працу больш поўную, апісаньне гэтых падзей сустракаецца ў вялікіх артыкулах „Станіслаў-Міхась Крычэўскі. З гісторыі вайны украінскай шляхты ў радох паўстанцаў на чале з Багданам Хмяльніцкім“ ды „Два моманты з гісторыі пасьлярэволюцыйнай Украіны“. У апошнім артыкуле цэлы вялікі разьдзел кажа пра падзеі на Палесьсі, на Піншчыне. Я тут пра яго ня буду казаць, паколькі гэта цалкам асобная тэма і падзеі гэтыя ня былі зьвязаны з рухам беларускага казацтва Ўсходняе Беларусі.

В. Ліпінскі гаворыць у сваіх артыкулах, што рэволюцыя „заліла сваімі хвалямі“ ня толькі Украіну, але і „ўсе рускія землі“, у тым ліку і „Белую Русь“ (стар. 225). Шляхта беларуская была опозыцыйна настроена супроць каталіцкай Польшчы, паміж яе было шмат сэпаратыстычных імкненьняў. На іх разьлічваў Хмяльніцкі. Ужо ў першы час украінскага паўстаньня пачынаецца на Беларусі шырокі рух „чэрні“, сялянства. Яно „заражаецца“ ідэямі паўстаньня, зьбіраюцца „свавольныя купы“, якія хочуць „стан шляхецкі цалкам зьнішчыць“ (стар. 405). Соймік Менскага ваяводзтва баіцца „казацкіх драпежнікаў з уласнымі хлопамі нашымі злучаных“ (стар. 406). Мэта Хмяльніцкага пры такой сытуацыі была ў „пашырэньні свайго протэкторату на беларускія землі аднаго вызнаньня“. Гэта апошняе было магчыма ня толькі ў інтарэсах казацкай політыкі, колькі было кардынальным пунктам маючых вялікі ўплыў на дзейнасьць Хмяльніцкага плянаў рускага духавенства і згрупаваных наўкола яго праваслаўных, шляхецкіх сфэр. На разарваньне ўнутранае сувязі, якая была паміж усімі землямі, што ўваходзілі ў склад Кіеўскае мітрополіі— а значыць таксама і Беларусі—і духавенства і шляхта „благочестивая“ згадзіцца, відавочна, не маглі. З другога боку, вызваленьня сваёй айчыны з-пад улады „паноў“ (у двукосьсі бярэ гэта слова Ліпінскі *Л. А.*) і Польшчы дамагаліся ад гетмана таксама і прадстаўнікі, і правадыры „чэрні“ беларускай, якая на зьвестку пра паўстаньне Украіны „разводзьдзем“ рэволюцыі заліла амаль ня ўсё вялікае княства (Літоўскае) (стар. 408).

Сродкі для гэтай мэты ды гэтай політыкі былі, па Ліпінскаму, у тым, што гетман, „маючы цесны контакт з беларускім духавенствам, праваслаўным мяшчанствам і часткай праваслаўнай варожа супроць Польшчы настроенай шляхты беларускай, адначасна ўсякімі спосабамі стараўся выкарыстаць прадстаўнікоў Літоўскага сэпаратызму адносна кароны“ (стар. 409). Вельмі зручнай зброяй для гэтага была „зброя найстрашнейшая для шляхты—„бунт чэрні“, народнае паўстаньне“.

Гэта політыка украінскага казацкага ўраду прынесла пазьней паход на Беларусь І. Залатарэнкі ды окупацыю вялікае часткі Магілеўшчыны. „Гэта окупацыя,—кажа Ліпінскі,—была ў інтарэсах дзяржаўнай політыкі Хмяльніцкага, галоўнай мэтай якой было „вызваленьне з няволі ляшскай“ усіх рускіх зямель Польшчы, здаўна падпарадкаваных духоўнай уладзе Кіеўскага мітрополіта і маючых цяпер падлягаць сьвецкай уладзе украінскага гетмана (стар. 528). Гэта політыка стыкалася з расійскімі плянамі на Беларусь. „Характарны момант“ гэтага змаганьня паміж Расіяй ды Украінай за Беларусь, на думку Ліпінскага,—справа Кастуся Паклонскага. Ён апавядае пра гэтую справу, падкрэсьліваючы опозыцыйны настрой Паклонскага супроць Польшчы, апавядаючы пра яго прыезд да Залатарэнкі і паход на Магілеў расійскага войска (пра казацкую організацыю Паклонскага, пра яго казацкі полк Ліпінскі нічога ня кажа). А Залатарэнка тымчасам „зрабіў сваё і распачаў окупацыю Беларусі на карысьць украінскай дзяржавы, організаваўшы абшар паміж Гомелем

ды Магілевам па-казацку, прыняўшы з ведама Хмяльніцкага тытул гетмана Северскага“ (стар. 529).

Паклонскі, „страціўшы надзею вызваленьня Беларусі з яе (Масквы) дапамогай і перад гэтым парваўшы з Украінай“, шпарка перайшоў на польскі бок. А на Беларусі пачаліся непаразуменьні паміж царскай Расіяй ды казакамі Залатарэнкі, якія хацелі „паказачыць“ усю Беларусь.

Ліпінскі апавядае і пра І. Нечая. Ён вельмі высока ставіць „беларускага палкоўніка“, вышэй, чым яго брата—палкоўніка Брацлаўскага—вядомага героя украінскіх народных дум. У 1649 г. Ліпінскі ведае І. Нечая, як „палкавога старшыню“ ў Брацлаўскім, на Падоліі, казацкім палку. Далей, у 1650 г. ён едзе украінскім рэзыдэнтам у Крым, дзе знаходзіцца пры ўрадзе Крымскага хана да 1654 г. Вярнуўшыся на Украіну, Нечай дыплёматычна кажа расійскім ваяводам, што езьдзіў вучыцца татарскай мове. У 1655 г. на месца забітага Залатарэнкі Б. Хмяльніцкі прызначае І. Нечая палкоўнікам на Беларусь. Тут ён вядзе глыбокую палітыку, якая трымае паўдзённую Беларусь пад протэктаратам украінскага гетмана. Ліпінскі апісвае дзейнасьць Нечая ў агульных рысах ды кажа, што дасьледваньне яе вымагала-б „асобнай монографіі, і думаем, што гэта адна з найцікавейшых старонак гісторыі двух брацкіх народаў шпарка ўжо дачакаецца дакладнай апрацоўкі беларускімі і нашымі гісторыкамі (стар. 280-281). Ліпінскі адзначае, што пра дзейнасьць Нечая „ўспамінае ў сваёй популярнай „Кароткай гісторыі Беларусі“ гісторык беларускі Власт, не гаворачы, аднак, з-за кароткасьці выкладаньня пра дзейнасьць Паклонскага, які хацеў адыграць у сваёй айчыне ролю Хмяльніцкага“ (стар. 281, увага І). Ліпінскі кажа пра дзейнасьць Нечая, яго цяжкую барацьбу з беларускай шляхтай, якая прысягнула Расіі і якую абараняў расійскі баярска-дваранскі ўрад. Ён закранае змаганьне Нечая з расійскімі вайсковымі начальнікамі на Беларусі і вядомае дасьледваньне—ці „праваслаўнай веры палкоўнік Нечай“. Далей ідзе пра тое, як Нечай бярэ Стары Быхаў і як ён у 1658 г., разам з украінскім гетманам Выгоўскім, прымае польскую „протэкцыю“. Дапамогі палякі, аднак, яму не далі, думае Ліпінскі, і ў выніку ў сьнежні 1659 г. Нечай пры здабыцьці расійскім войскам Быхаву пападае ў няволю і высылаецца ў Сібір. Тутака, у Табольску, ён знаходзіцца яшчэ ў 1663 г., але ў 1669 г. яго бачаць ужо на Украіне, дзе, як палкоўнік „літоўскага казацкага палка“, падуладнага Польшчы, ён вядзе перамовы з гетманам П. Дарашэнкам.

Яшчэ некалькі слоў—кажа Ліпінскі пра Беларусь, калі ён піша пра дагавор Б. Хмяльніцкага перад сьмерцю з Швэцыяй і Сяміградзьдзем, які (дагавор) даваў гетману частку Беларусі да Смаленску (стар. 535) і дагавор яго настаўніка Выгоўскага з Швэцыяй, які даваў Украіне зноў-ткі частку Беларусі, на гэты раз да Бярэзіны (стар. 578).

Ацэньваючы нататкі В. Ліпінскага, трэба сказаць, што яны сёе-тое даюць для гісторыі падзей на Беларусі ў часе украінскае рэволюцыі

сярэдзіны XVII ст. Але, бязумоўна, што ўсё гэта сказана паміж іншым, ad hoc і ad porjonam—напр., пра Нечая, Ліпінскі піша, пералічваючы шляхту (Нечай быў шляхціч), што была ворагам Б. Хмяльніцкага. Пішучы пра Беларусь, Ліпінскі ня мае пэўнай сталай концэпцыі. З аднаго боку, ён быццам добра адносіцца да паўстаньня „брацкай“ беларускай „чэрні“. Але, з другога боку—і гэта больш нітуецца з яго агульнай концэпцыяй падкрэсьліваньня заслуг шляхты ў гісторыі Украіны—ён зазначае, што іменна ў інтарэсах украінскае шляхты ды блізкага ў той час да яе праваслаўнага духавенства была окупацыя Беларусі. І ён зноў-ткі цалкам адкрыта кажа, што рабілася гэта ў інтарэсах украінскай дзяржавы. А паўстаньне чэрні было патрэбна перш-на-перш для таго, каб напалохаць беларускую шляхту і каб хутчэй прымусіць яе пайсьці на хаўрус з украінскім казацтвам.

Ці можна з гэтым згадзіцца? Чытач далей пабачыць, што я прыхільнік іншых тлумачэньняў прычын паходу на Беларусь. Ва ўсякім разе, прызнаньне, што гэты паход рабіўся перш-на-перш ня з прычыны ідэйнага характару (як гэта часткаю ёсьць у Тэрлецкага), не для вызваленьня беларускага сялянства, а для практычных інтарэсаў украінскае дзяржавы—правільнае. Толькі-ж гэтыя практычныя інтарэсы не зразумеў Ліпінскі; ён паставіў на першы плян жаданьні праваслаўнага духавенства злучыць усе праваслаўныя землі Польшчы—Літвы. Крыніца для тлумачэньня ляжыць зусім ня ў гэтым, і праваслаўнае духавенста—хацела яно гэтага ці не хацела, разумела ці не—але было правадніком іншых мэт і іншых палітычных ды экономічных плянаў.

Нельга не адзначыць таго, што Ліпінскі зусім ня піша пра тое, што украінскі паход на Беларусь спаткаў, прынамсі, у першы час ня зусім прыхільныя настроі на Беларусі. Супроць яго былі вялікія беларускія месты (чаму—гэта таксама трэба яшчэ тлумачыць) ды беларускія казакі Паклонскага, якія рабілі спробу організацыі беларускае казацкае дзяржавы і пляны якіх адкідаліся украінскім протэктаратам над Усходняй Беларусьсю.

Чытач ужо, думаю, заўважыў вялікую розьніцу ў поглядах пра паход на Беларусь ды окупацыю Магілеўшчыны ў Тэрлецкага і Ліпінскага. Першага больш цікавіць палітыка украінскіх казакоў і іх адносіны з беларускім сялянствам, другога цікавяць дзяржаўныя пляны Б. Хмяльніцкага, іх сувязь з інтарэсамі шляхецкага стану і роля шляхты ў гэтым паходзе. Гэтыя розьніцы ў поглядах цалкам тлумачацца іншымі гістарычнымі і палітычнымі школамі, да якіх належалі аўтары. Трэба сказаць, што наогул у концэпцыях Ліпінскага ёсьць шмат хіб, якія ёсьць і ў Тэрлецкага, ды тут наогул слабейшая характарыстыка розных бакоў пытаньня.

Як вырашае гэта пытаньне маладая марксыцкая украінская навука? Яна яго яшчэ зусім не закранала. У працах украінскіх гісторыкаў-марксыстых яшчэ нічога няма пра паход на Беларусь.

Мне думаецца, што якраз для марксыцкай концэпцыі шмат дае даклад галіцкага вучонага І. Крыпякевіча ў Кіеве 19 красавіка 1929 г. г. зн. зусім нядаўна, пра „Вольны порт у Старым Быхаве ў 1657 г.“. Гэты даклад быў зроблены на пасяджэньні гістарычнае сэкцыі Ўсеукраінскае акадэміі навук у часе прыезду галіцкага вучонага ў Савецкую Украіну.

І. Крыпякевіч зьяўляецца вядомым дасьледчыкам украінскае дзяржаўнае організацыі часоў Б. Хмяльніцкага. І. Крыпякевічу належыць шэраг невялікіх, але цікавых дасьледваньняў пра эпоху Б. Хмяльніцкага. Адным з іх будзе, як відаць, артыкул пра Быхаўскі порт.

У сваім вусным дакладзе І. Крыпякевіч гаварыў спачатку пра вядомыя бакі падзей 1654—1659 г.г., апавядаючы пра дзейнасьць на беларускай Магілеўшчыне Залатарэнкі ды Нечая. Далей ён спыніўся на унівэрсале Б. Хмяльніцкага 1657 г., у якім гетман творыць у Ст. Быхаве вольны порт. Гэты унівэрсал, знойдзены ў Варшаўскіх архівах, Крыпякевіч надрукаваў раней у адным з сваіх артыкулаў пра організацыю дзяржавы Б. Хмяльніцкага [1]).

Я прывяду тут для беларускага чытача найцікавейшую частку гэтага унівэрсалу, захоўваючы орыгінальны правапіс дакуманту. У ім Хмяльніцкі кажа, што шляхта і мяшчане Ст. Быхаву прысяглі, што „по вѣкъ при Войску Запорозкомъ оную (крэпасьць *Л. А.*) заховати мают“. У сувязі з гэтым „позволили омо купцомъ и мещаномъ Киевскимъ (*поневажъ портъ сотворилсе*) вгору, люб самим ити, люб своих факторовъ посылат до Быхова и где колвекъ залоги нашѣ зостают, з вшелякими лекгумѣнами и купецкими речами сухим путем и водою, як хто может. Пилно теды жадаем и приказуемъ, жебы без вшелякого задержаня и гамованя всюди припускано такъ самыхъ, яко и факторовъ ихъ, мыт жадных торговых и подачок абы у них не витягано...“ І далей ідзе абяцанка караньня за парушэньне гэтага дазволу.

Крыпякевіч думае, што перш-на-перш прычыны экономічнага характару прывялі украінскіх казакаў на Беларусь. Справа ў шляху на Бальтыцкае мора. Раней гэты шлях для Украіны ішоў цераз Буг, але пасьля разрыву і вайны з Польшчай гэты шлях закрыўся. Закрыта было ў той час і Чорнае мора. Вольны порт у Ст. Быхаве і ляжаў цяпер на новым шляху да Бальтыкі. Украіна імкнулася да Бальтыцкага мора; гэтым перш-на-перш тлумачыцца окупацыя Беларусі. Дагаворамі з шведамі Хмяльніцкага і Выгоўскага Украіна з гэтай-жа мэтай імкнецца здабыць Беларусь. Але перашкодзіла Расія, што сама ішла да мора.

Такі ў агульных рысах зьмест Кіеўскага дакладу І. Крыпякевіча, дакладу, які, трэба думаць, будзе надрукаваны асобнай кніжкай і які я тут коратка пераказваю, інформуючы беларускую савецкую грамадз-

[1]) Студії над державаю Б. Хмельницького Зап. Н. Т-ва ім. Шевченка у Львовіт, т. 147 с. 75.

касьць пра гэта цікавае для гісторыі Беларусі пытаньне. У сувязі з тым, што мова ідзе толькі пра даклад, што шмат новага аўтар можа ўнесьці пры друкаваньні працы, я ня буду тут рабіць ніякіх заўваг. Скажу толькі, што цалкам згаджаюся з асноўным палажэньнем аўтара, а іменна: прычыны экономічнага характару прывялі украінскае казацтва да паходу на Беларусь. І ў першую чаргу тут было шуканьне гандлёвых шляхоў. На Беларусі ў гэтым імкненьні да мора стыкнуліся на гэты раз інтарэсы гандлёвага капіталу украінскага ды расійскага. Для выхаду на мора Расія пачынае вайну з Швэцыяй, а Украіна Б. Хмяльніцкага, што толькі нядаўна стала ў васальныя адносіны да Расіі, ідзе на саюз з гэтым ворагам свайго сюзэрэна. На гэты раз справа скончылася тым, што выхаду на Бальтыцкае мора Расія ды Украіна не здабылі.

Гэтыя інтарэсы украінскага гандлёвага капіталу і наогул экономікі Украіны перш-на-перш тлумачаць паход на Беларусь. Гэтым-жа тлумачыцца і актыўнасьць украінскае шляхты і духавенства, якую заўважыў, але няправільна зразумеў Ліпінскі. Шляхта асабліва была зацікаўлена ў гэтай справе, бо яна мела не малое значэньне, як кляса, зьвязаная з гандлёвым капіталізмам.

На гэтым канчаю свой інформацыйна-крытычны артыкул. Трэба сказаць наогул, ацэньваючы украінскую гісторыяграфію гэтай проблемы, што названыя артыкулы большай часткай даюць толькі агульныя нарысы падзей і сытуацыі на Беларусі. Тлумачыць гэта, як відаць, трэба тым, што надта мала ёсьць друкаваных матэрыялаў пра гэты час на Беларусі. Новыя дасьледваньні і новыя погляды на беларускае казацтва і падзеі на Магілеўшчыне магчымы на аснове новых матэрыялаў, што яшчэ ляжаць на запыленых паліцах архіваў. Трэба пажадаць, каб яны хутчэй сталі вядомымі ці ў форме навуковых монографій ці ў форме публікацыі іх у зборніках археографічнага характару.

# АРЦЁМ ІГНАТАВІЧ ВЯРЫГА І ЯГО ЛІТАРАТУРНА-ГРАМАДЗКАЯ ЧЫННАСЬЦЬ [1])

**Д. Васілеўскі**

„Бязьмерная адданасьць рэволюцыі, зварот з рэволюцыйным казаньнем да народу ня гінуць нават тады, калі цэлыя дзесяцілецьці аддзяляюць сяўбо ад жніва“.
*(Ленін, т. XII—I, 101).*

У глухую пару Мікалаеўскай рэакцыі, у часы паміраньня прыгоннае гаспадаркі, на літаратурным кругавідзе Віцебшчыны яркай зоркай зазьзяла асоба беларускага пісьменьніка Арцёма Дарэўскага-Вярыгі. Кінуўшы шырокаму колу сваіх прыяцеляў некалькі чароўных твораў на роднай беларускай мове, зацікавіўшы сучасную яму беларускую шляхецкую інтэлігенцыю роднай культурай, А. Вярыга неяк бясьсьледна зьнік у завірусе 1863 году.

Некалькі радкоў у вядомым артыкуле А. Кіркора („Живоп. Россия“, III, 327) два-тры вершы ў друку і славуты „Альбом“—вось і ўся літаратурная спадчына А. Вярыгі, ды яшчэ ўспаміны этнографа А. Маркса, якія нядаўна зьявіліся ў польскім друку—даніна пашаны сучасьнікаў да памяці поэты (часопіс „Lud“).

Запісы „Альбома“ яскрава сьведчаць аб вялікім захапленьні сучасьнікаў літаратараў творамі А. Дарэўскага-Вярыгі на белмове і шырокай павазе, якой карыстаўся „Наддзьвінскі дудар“ сярод шляхоцкай і сялянскай інтэлігенцыі на Беларусі перад паўстаньнем 1863 году. А. Кіркор запэўняе, што „песьні А. Вярыгі, В. Дуніна-Марцінкевіча пеліся на ўсім працягу Беларускага Палесься“ (Живоп. Россия“, III, 327).

А пазьнейшыя польскія дасьледчыкі Віцебшчыны: В. Федаровіч. Зьмігроцкі ды інш., якія падрабязна пералічаюць дзе, калі і які пан убіў маленькі цьвічок у культуру краю, зрабіў што-небудзь карыснае для ўзмацненьня колькасьці на гэтых „Паўночна-ўсходніх крэсах“, ні слова ня кажуць пра дзейнасьць А. Вярыгі. Імкненьні і дамаганьні палякаў з Віцебшчыны вельмі ярка выявіліся ў зборніку „Z okolic Dźwiny“:—усё, што ёсьць з помнікаў культуры, літаратуры на Віцебшчыне,—плод генія

[1]) Лічачы артыкул Д. Васілеўскага вельмі каштоўным, рэдакцыя, аднак, лічыць недаведзеным сьцьверджаньне аўтара пра належнасьць А. Вярыгі-Дарэўскага да рэволюцыйнай організацыі „Зямля і Воля“ і пра напісаньне ім поэмы „Тарас на Парнасе“.
*Рэд.*

польскага панства. Але ў падобных зборніках чамусьці не знайшлося месца для А. Дарэўскага-Вярыгі, хаця некаторыя ўкладальнікі зборніка маглі асабіста ведаць яго. Гэта маўчаньне польскіх гісторыкаў літаратуры і культуры пра дзейнасьць А. Вярыгі робяць надта цікавай, прывабнай яго асобу для дасьледчыкаў-беларусаў.

У літаратурнай дзейнасьці А. Дарэўскага-Вярыгі быў нейкі своясаблівы падыход да беларускага мужыка, такі народніцкі ўхіл, набліжэньне да вёскі, якія вельмі непакоілі частку сучасных яму літаратараў, палохалі сваім нямінуча-трагічным канцом.

Гэта вельмі пуката выяўлена ў вершы Я. Вуля: „К Дудару Арцёму ад Наддзьвінскага мужыка"—у альбоме:

„Што табе, дудар, прысьпела
Сьмела песьні завадзіць?
Ці то лёгкае, брат, дзела
Нашу брацьцю прасьвяціць:
Крыкнуць на цябе паноўе,
Што ты шкоднік і місьцюк.
Страціш голас і здароў'я
Ї дуду упусьціш з рук.
Ї абмыесься сьлязамі"...

*(М. Гарэцкі. Гіст. бел. літаратуры, ст. 209).*

Ня толькі вучыць, але і дружыць з селянінам на Беларусі за Мікалаем I было небясьпечна. Прамысловы капіталізм стыхійна выбіваў розныя клясы насельніцтва Беларусі з звычайных пуцявін быту, гаспадараньня, на невядомыя шляхі іншага ладу. Прыгонная гаспадарка паноў распаўзалася, як згніўшае рызьзё. Каб неяк выкруціцца, паны бязьмерна павялічвалі эксплёатацыю прыгоннага селяніна. У палове XIX сталецьця сялянства Віцебшчыны глуха, нястрымана хвалявалася.

Царскі ўрад быў страшэнна занепакоены за сваё панаваньне ў краіне і старанна церабіў шлях расійскаму прамыслова-гандлёваму капіталу, закрываючы прытулкі польскага гандлёвага капіталу на Беларусі—каталіцкія кляштары ды інш. Маскоўскія купцы вечыста аселі ў Віцебску. Расійскія тавары магутнай зьмяёй паўзьлі па Дзьвіне на Рыгу, за мора. Расійскі капіталізм бязпрока, але важка падначальваў гаспадарку Віцебшчыны свайму ўплыву.

Польскі прамысловы капіталізм групаваўся каля Варшавы, набіраў сілы, каб раптоўна наваліцца на беларускія рынкі, выцісьнуць маскоўскія тавары і ўладу. Царскі ўрад, паны, сяляне, гандляры, прамыслоўцы адчувалі хваляваньне мясцовага жыцьця, і кожны падазрона паглядваў у бок свайго суседа. Справы Віцебскага дваранскага сабраньня 40—50 гадоў, якія захоўваюцца ў Віцебскім акруговым архіве, вельмі ярка адбіваюць гэты процэс.

Справа за справай аб непаслушэнстве, бунце сялян, аб дрэнных адносінах пана да прыгоннага сялянства, аб апецы над маёнткамі зьбяднелага пана, аб продажы панскай маемасьці за даўгі, аб аддачы кляш-

торных будынкаў пад памяшканьне пад войска, пад турмы. Асабліва шмат было спраў „о недостойном дворянскому званию“ жыцьці і паводзінах таго ці іншага пана.

У архіве губарнатара—горы сакрэтных спраў па нагляду паліцыі за няпэўнымі асобамі.

Кругом нейкія прачуваньні няўпэўненасьці трывогі за заўтрашні дзень, інстынктыўныя імкненьні то захаваць, працягнуць, як мага, то падарваць мулкае сёньня.

Такое гістарычнае паветра ахапляе дасьледчыка, калі ён пачне шукаць у архіве сьляды жыцьця А. Вярыгі. З-пад пылу, цьвілі, шэрай паперы жудаснага мінулага паволі ўстае, акрэсьліваецца, выясьняецца постаць Арцёма Ігнатавага ня толькі як беларускага поэты, але і рэволюцыянэра, удзельніка паўстаньня 1863 году.

Герб „Стржэнява“ і род Дарэўскіх-Вярыгаў належаў да такое занялалае зьбяднелае шляхты на Віцебшчыне, што герольдыя царскага сэнату не зацьвердзіла іх у дваранстве, калі ў 1833 годзе правяралася шляхетнасьць дваранскіх радоў Віцебскай губ. Таму першае, што мы сустракаем у справах Віцебскага архіву аб дзейнасьці А. Вярыгі—яго хадайніцтвы перад дваранскім сабраньнем і герольдыкай аб зьцьверджаньні ў дваранстве „агульна з родам“ (Дело № 215 ВДДС о дворянском происхождении рода Веригов—1841 г.).

Справа паволі разгарнае перад намі цяжкі малюнак маленства Арцёма-Аўгустына Вярыгі; нарадзіўся ён у 1816 г. 23|X, у м. Кублічах, Лепельскага павету. Бацька яго, Ігнат Станіславаў Дарэўскі-Вярыга служыў даглядчыкам за меркамі і вагой у м. Кублічах: гэта быў безьзямельны шляхціц Полацкага ваяводзтва, які спачатку служыў у канцылярыі дваранскага сабраньня Полацкага намесьніцтва, а ў красавіку 1790 г. атрымаў прызначэньне ў Кублічы. Тут ён ажаніўся з мясцовай шляхцянкай Юстынай Гласко і меў некалькі дзяцей. Па нараджэньні Арцёма ў 1816 годзе—Юстына Гласко хутка памерла, а 14 сьнежня 1819 году Ігнат Вярыга прычакаў ужо сына Сямёна ад новай жонкі—Багумілы з Буйніцкіх. Род Вярыгаў быў здаровы, пладлівы і доўгавечны. Ігнат Станіславаў Дарэўскі-Вярыга, які нарадзіўся 18|VII 1762 г., дажыў да 80 гадоў, меў 9 душ сям'і (ibidem, ст. 34). У 1815 годзе Ігнат Станіславаў набыў у Дзісенскім павеце, Менскай губ. фальваркі Празоры і Людвінава з 16 дварамі сялян. У фальварак Людвінава пераехала сям'я І. Вярыгі: 3 сыны і 5 дачок. У далейшым ф. Празоры нейкім чынам вярнуўся да свайго ранейшага гаспадара—Буйніцкага. У 1841 г. за Вярыгамі лічыўся ўжо толькі ф. Людвінава з 30 прыгоннымі сялянамі. Тут пражывала Багуміла Сямёнаўна Вярыга з дачкамі: Мар'янай, Кацярынай, Фларанцінай, Фортунатай, Цярэзай Ігнатавымі. Арцём Ігнатавіч Вярыга служыў начальнікам стала, а брат Сямён—канцылярыстым у Віцебскай часовай камісіі для рэвізіі чыннасьці губэрскага дваранскага дэпутацкага сабраньня. Старэйшы брат,—Іван Ігнатаў жыў у Ды-

сенскім павеце ў званьні „былога засядатаeasя Дзісенскага земскага суда", у 1841 г. яму было ўжо 43 гады, і ён меў вялікую сям'ю. Род Вярыгаў расьсяліўся па ўсёй Віцебскай і Магілеўскай губэрнях, але гэта ўсе былі дробныя чыноўнікі з дробнай шляхты.

Дробнае панства мацней адчувала нацыянальнае прыгнечаньне з боку царскага ўраду; заняпад, спусташэньне прыгоннае сельскае гаспадаркі былі больш відочнымі для дробнага панка, чым для магната. Таварнасьць сельскае гаспадаркі ў дробных маёнтках была невялікая. Гандляры і прамысловцы такімі дробнымі гаспадаркамі мала цікавіліся. Але агульнае хістаньне народнае гаспадаркі тых часоў зачапіла і дробны маёнтак, усё часьцей і часьцей дробныя панкі пазычалі ў казны грошы пад заклад сваіх фальваркаў. Агульнага лёсу ня мінуў і фальварак Вярыгаў: Людвінава таксама было ў закладзе. Па ўзроўні сваёй гаспадаркі, быту, дробныя панкі Віцебшчыны недалёка выперадзілі сялянства. У такія пераходныя часы, як 40—50 гады 19 сталецьця, калі руйнаваліся прывычныя, дарагія формы прыгоннага ладу, змаўкалі блізкія, знаёмыя кляштары, касьцёлы, сурова падніmaліся супроць вялікіх паноў цэлыя валасьці прыдушанага, змучанага сялянства, і горды, недасяжны раней, магнат страхліва, як заяц, уцякаў у горад за вайсковай падмогай царскага ўраду,—моцны сялянскі масыў міжвольна падабаўся дробнаму панку, здаваўся яму пэўным апірышчам ад хістаньняў быту і заняпаду гаспадаркі.

Адсюль зразумелы народніцкія настроі Арцёма Ігнатавіча ў гэтыя гады.

Былі і другія прычыны, якія з маленства зрадніла яго з беларускай вёскай. Сямейны ўклад Людвінаўскіх паноў мала чым адрозьніваўся ад жыцьця іх 30 прыгонных сялян. З маленства Арцём Ігнатавіч рос пад уплывам беларускае вёскі. Маладой мачысе яго ня было калі займацца выхаваньнем пасынка, бо свае дзеці прыкоўвалі ўсю ўвагу і сілы, шмат клопатаў было з фальварковай гаспадаркай. Маленькі Арцёмка рос сярод вясковых, дзіцячыя гульні зблізжалі яго з вясковымі хлопчыкамі. Беларуская вёска, жыцьцё і быт прыгоннага селяніна былі добра вядомы і дарагі Арцёму Ігнатаваму.

Вёска не пакідала яго і ў школе. Забельская гімназія ксяндзоў домініканаў у м. Валынцы, куды бацька аддаў Арцёма вучыцца, тонула ў вясковай стыхіі.

Мястэчка Валынцы, на сучаснай Полаччыне, раскінулася па рацэ Дрысе, у досыць прыгожай мясцовасьці; умовы жыцьця ў ім былі пераважна беларускія, толькі маёнтак Забельскіх Шчытоў і домініканскі кляштар са школай давалі моц польскаму ўплыву на ваколічныя маёнткі шляхты. Заснаванае домініканамі вучылішча ў першыя часы не карысталася славай сярод шляхты, бо Полацкая езуіцкая колегія зацямняла, засьціла сабой усе іншыя школы. Але з 1765 г., калі Асьвейскі магнат грап А. Гільзен, палову прыбыткаў з маёнтку ў 8.000 душ сялян, адка-

заў на выхаваньне і адукацыю беднай шляхецкай моладзі, у Забельскую школу дамініканаў пацягнулася за асьветай панская моладзь. У 1811 г. дамініканская школа атрымала правы гімназій. На фундуш Гільзена выхоўвалася ў школе да 50 дзяцей дробнай шляхты (Жив. Россия, т. III, стар. 393; Россия т. IX, 496).

Вучыцца і кончыць у 1835 г. гімназію А. Вярыга здолеў толькі дзякуючы стыпэндыі з фундуша Гільзен-Шадурскіх, бо з прыбыткаў свайго фальварку бацька яго, Ігнат Станіславаў, ня мог даць належнай адукацыі тром сыном і 5 дочкам.

У гімназіі м. Валынцаў вучыліся пераважна дзеці беднай шляхты. Багатыя паны аддавалі сваіх дзяцей у гімназіі павятовых гарадоў, у Полацак, Віцебск.

Валынецкая „Забельская гімназія“ існавала на правох павятовых школ на падставе агульнага статуту школ ксяндзоў-дамініканаў. Настаўнікамі, былі выключна ксяндзы-дамініканы са спэцыяльна-пэдагогічнай адукацыяй. Некаторыя з іх былі выхаванцамі Віленскага унівэрсытэту. Школьнае жыцьцё цацілася паводле вызначанага парадку. Штодня вучні ў 7 гадзін у касьцеле слухалі імшу, заняткі цягнуліся з 8 да 11 гадзін, двухгадзінны перапынак на полудзень, а потым, з 2 да 5 гадзін, вячэрнія заняткі ў школе, 30 гадзін на тыдзень. У гімназіі, апрача закону божага, выкладалі: 1) мовы: лацінскую, польскую, расійскую, славянскую нямецкую, францускую, і гісторыю літаратуры гэтых народаў; 2) географіі агульную і статыстыку Расіі, 3) агульную і расійскую гісторыю, 4) матэматыку: арытмэтыку, альгебру, геомэтрыю; фізыка і прыродазнаўства займалі 16 гадзін на тыдзень, маляваньне—3 гадзіны. Асноўнымі прадметамі былі: мова і прыродазнаўчыя навукі: богаслоў'е зьяўлялася цэмантам усяго выхаваньня і выкладаньня ў школе. У гады 1828—1835, калі там вучыўся Арцём Вярыга, выкладаньне на расійскай мове выціскала польскую мову, якая раней была мовай усяго навучаньня ў школах Віленскай вучэбнай акругі.

Прыстасоўваючы выкладаньне да соцыяльнага складу сваіх вучняў, Забельскія пэдагогі вялікую ўвагу зьвярталі на вывучэньне польскай, расійскай літаратуры і правапісу. Дамінікане мелі на ўвазе, каб іх выхаванцы зараз-жа па сканчэньні школы маглі атрымаць работу ў канцылярыі ўрадавай установы ці маёнтку магната.

Калі па сканчэньні гімназіі, 3-III 1835 году Арцём Вярыга паступіў на службу ў канцылярыю часовай рэвізійнай камісіі Віцебскага дваранскага сабраньня, дык ён вельмі правільна, выразна прыгожа і хутка пісаў па-расійску. У архіўным фондзе гэтай камісіі ў Віцебску ёсьць цэлыя справы і асобныя паперы, пісаныя А. Вярыгай. Беларуская мова і быт ня былі, дый не маглі быць выціснуты за сьцены гімназіі ў Валынцах. Дзеці дома гутарылі па-беларуску і прывозілі з сабой у сьцены гімназіі беларускія казкі, песьні, прыказкі. На школьных спэктаклях, у звычайных тады інтэрмэдыях, дзейнічае з панамі на сцэне беларус-

селянін. У бібліотэках школ звычайна былі кнігі пра Беларусь, Літву, выданьні Полацкай езуіцкай колегії: „Тэатральныя забаўкі“ ксяндза Н. Мусьніцкага 1803-4 гг.; „Хронікі“ М. Стрыйкоўскага, А. Гвагнікі; „Гісторыя Літвы“ Кояловіча; „О состоянии людей в Белоруссии и подошвенных кожах“—Гільдебранта—Віцебск, 1799 г.; часопіс „Месячнік Полацкі“ 1818—20 г.; „Опісание Інфлянт“ Гільзена (Арх. справа № 1, Опісь „б-ки училища“ 1820 г.).

Да нас дайшоў цэлы зборнік беларускіх інтэрмэдый, якія ставіліся ў Забельскай гімназіі. Зборнік укладзены настаўнікамі Забельскага дамініканскага вучылішча, ксяндзамі Морашэўскім і Цяцерскім у канцы 18 сталецьця (В. Ластоўскі. Гісторыя белкнігі, ст. 625). Беларуская мова ўжывалася ў тэатральных пастаноўках вучняў Забельскай гімназіі.

Зусім натуральна дапусьціць, што А. Вярыга з гімназіі вышаў зацікаўленым беларускай культурай і мовай, як краёвай галіной польскае мовы і культуры. Польскае паўстаньне 1831 году павінна было пакінуць значны сьлед у сьвядомасьці шляхецкай моладзі і зацікавіць вучняў гімназіі нацыянальным пытаньнем на Беларусі. Без падтрыманьня сялян паўстаньне хутка згасла. Сялянскія бунты ў Дрысенскім і Себескім павеце таксама ўплывалі на вучняў гімназіі. Палітычныя пытаньні павінны былі зацікавіць іх больш, чым імша і латынь. Сачыць за настроямі вучняў у далёкім мястэчку царскаму ўраду было нязручна: гэтым, відаць, тлумачыцца перавод фундуша і конвікта Гільзен-Шадурскіх у Віцебскую гімназію. У 1836 г. Забельская гімназія была закрыта.

19-гадовым хлопцам Арцём Ігнатавіч апынуўся ў канцылярыі часовай рэвізійнай камісіі пры Віцебскім губэрскім дваранскім дэпутацкім сабраньні. Царскі ўрад быў нездаволены дзейнасьцю дваранскага сабраньня і цар загадаў скласьці часовую камісію з даверaных паноў ды чыноўнікаў для праверкі правільнасьці залічэньня шляхты ў дваранства, апекі над маёнткамі панскіх сірат і г. д. Камісія рэвізавала ўсё кола дзейнасьці дваранскага сабраньня за некалькі гадоў.

Работа ў канцылярыі камісіі азнаёміла Арцёма Ігнатавага з невядомымі бакамі панскага жыцьця 40-х гадоў 19 сталецьця і з далёкім мінулым беларускага шляхецтва. Каб праверыць правільнасьць радаводнага запісу якога-небудзь дваранскага роду, трэба было дасканала вывучыць розныя фамільныя дакуманты, акты, прывілеі за 200—300 гадоў. Вельмі часта трэ' было разабраць беларускі скарапіс 16-17 сталецьцяў.

Род Вярыгаў быў зацікаўлены ўстанаўленьнем шляхетнасьці свайго пахаджэньня, каб упісацца ў расійскае дваранства. Арцём Ігнатаў пільна ўзяўся за гэту і другія справы, у кароткі час ён высунуўся з шэрагаў сваіх супрацоўнікаў і быў прызначаны за начальніка стала.

У рэвізійную камісію зьвярталіся ўсе пакрыўджаныя і нездаволеныя дваранскім сабраньнем дваране губэрні. Разьбіраючы іх справы, Арцём Ігнатаў вельмі часта бачыў, як жорстка кпіць жыцьцё і царскі ўрад з прадстаўнікоў магутных панскіх родаў: патомак багатых і славутых маг-

натаў зараз ня меў нічога, апрача свайго гістарычнага прозьвішча, а выпадковыя ў шляхецтве людзі кіравалі губэрняй. У 1838 г. А. Вярыга падаў шырока мотываваную заяву аб пераглядзе незацьверджаньня роду Вярыгаў у дваранстве (дело № 215 Витебского дворянского депутатского собрания о дворянском происхождении Веригов—1841 г.).

Трэ' было адшукаць, сьпісаць, перакласьці на расійскую мову дакуманты роду Дарэўскіх на Дарове, родаводную Дарэўскіх-Вярыгаў, проста Вярыгаў. 10 год цягнулася справа і геральдычныя досьледы Арцёма Ігнатавага. Ён так шырока і глыбока вывучыў навуку аб дваранскіх родаводах беларускага панства, што ў 1848 г. сэнат быў прымушаны прызнаць шляхецтва Вярыгаў і загадаў занесьці род іх у шостую часьціну дваранскай родаводнай кнігі Віцебскай губэрні (ibidem, ст. 41).

Дзесяцігадовая перапіска аб дваранстве Вярыгаў малюе нам Арцёма Ігнатавага як чалавека добра знаёмага з расійскай мовай, царскімі законамі, шляхоцкім мінулым. Здаецца, ня столькі дамагаецца ён дваранства для сябе, колькі для сваёй многалікай і беднай радні: піша ім заявы, дакладныя запіскі, здабывае з розных гарадоў Беларусі патрэбныя мэтрычныя выпісы, пазямельныя акты ды інш.

Беларуская мова з старадаўных актаў, грамат панскіх радаводаў ярка даводзіла Арцёму Ігнатаваму ступень палітычнага і культурнага заняпаду беларуса. Панаваньне ў краіне забіраў у свае рукі прамысловец з-пад Масквы і Рыгі.

Пад уплывам прамысловага капіталу пачынаецца на Віцебшчыне дасьледваньне сельскае гаспадаркі, ёмістасьці рынкаў, рамесьніцтва, дасьледуецца старадаўнасьць краю і інш. народны фольклёр. Сярод панства пашыраецца падпіска на „Рубон“ І. Буйніцкага, „Незабудку“ Баршчэўскага ды розныя іншыя часопісы.

Зьяўляецца цэлы шэраг паноў дасьледчыкаў беларускай гісторыі, якія стаялі на грунце польскай нацыянальнай думкі а Беларусі, як „Крэсах польскіх“.

Арцём Ігнатаў узяўся за пісаньне вершаў на беларускай мове, а брат яго—Сямён Вярыга за беларускую гісторыю. Служба іх абодвух у канцылярыі рэвізійнае камісіі дэпутацкага дваранскага сабраньня давала ім невялікую пэнсію. У 1842 годзе Арцём Вярыга, як начальнік стала; атрымліваў 14 руб. 28 1/7 кап. асыгнацыямі ў месяц. На такую пэнсію багата не зажывеш. Ажаніўшыся Арцём Ігнатаў набывае ў Віцебскім павеце маёнтак Стайкі, у 106 дзесяцін зямлі. У сваёй заяве дваранскаму сабраньню ад 19/XI 1844 г. Арцём Ігнатаў падпісваецца: „Помещик Витебского уезда Артемий Верига“, „Стайки“.

Такім чынам, Стайкі куплены А. Вярыгам не раней 1843 году. У 1844 годзе Арцём Ігнатаў ужо жыў у сваім фальварку.

У 1850 годзе мы зноў сустракаем у справе № 205 заяву ад 31/X Арцёма Ігнатавага дваранскаму дэпутацкаму сабраньню, каб яму выдалі копію з загаду а зацьверджаньні яго „разам з родам“ у дваранскай

годнасьці і просіць вярнуць яму аўтэнтычныя дакуманты. Месцам пражываньня таксама паказаны ф. Стайкі, Віцебскага павету. На заяве ёсьць расьпіска памочніка начальніка стала Сямёна Ігнатавага Вярыгі аб атрыманьні дакумантаў. У пасямейным сьпісу паноў Віцебскага павету за 1844, 1548, 1863 гг. Арцём Ігнатаў паказаны гаспадаром м. Стайкі, жыхаром г. Віцебску і ва ўсіх гэтых сьпісах лічыцца „ўдаўцом“. У пасямейным сьпісу дваран Віцеб. павету за 1863 год на ўтрыманьні Арцёма Ігнатавага паказаны: дачка Габрыэля 14 год і сястра Цярэза—26 год.

Сямейнае жыцьцё Арцёма Ігнатавага склалася нешчасьліва. Па сьмерці жонкі ён закінуў сельскую гаспадарку і цалкам аддаўся літаратурна-рэволюцыйнай дзейнасьці. Большую частку году жыў у Віцебску. Але сувязь з вёскай, са Стайкамі была самая цесная. Ва ўсіх пасямейных сьпісах дваранства Віцебскага павету маёнтак заўжды паказваецца асноўнай крыніцай жыцьця А. Вярыгі. Хоць жыць у Віцебску было танна, але цяжка дапусьціць, каб прыбытак з маёнтку ў 106 дзесяцін зямлі даваў пану шырокую магчымасьць разьяжджаць па Беларусі. З „Альбома“ ўсё-ж відаць, што А. Вярыга ў 1858 г. быў у Вільні, Менску, Магілеве, а таксама наведваў паноў Магілеўскай губэрні ў 1860 г., аб гэтым сьведчыць запіс А. Рыпінскага з Кукавячына. Маёнтак Кукавячына ляжаў пад Астроўнай, Сенненскага павету. Запісы прыяцеляў Арцёма Ігнатавага ў „Альбоме“ паказваюць маршруты яго падарожаў па Беларусі 1857—1861 гг.

У сьвятле падарожаў робяцца зразумелымі назвы яго лепшых твораў, аб якіх казаў А. Кіркор у „Живописной Росии“: „Быхаў“ навеяны падарожай 1858 году па Магілеўскай губэрні; „Гутарка з плюндроўкі па зямле Латышскай“—напісана з уражаньняў падарожы па Інфляцкіх паветах Віцебшчыны: Рэжыца, Люцын, Дзьвінск. Мэта гэтых падарожаў раскрываецца з запісу Аляксандра Хадэцкага „з-пад Віслы“ ад 24/XI 1859 г. ў Магілеве. А. Хадэцкі дзеліцца сваімі ўражаньнямі аб тагочаснай „беларускай“ інтэлігенцыі, якая гатова падняць сьцяг паўстаньня. Да А. Вярыгі аўтар зьвяртаецца так: „А тымчасам, пачцівы беларускі дудару, цягні далей сваю *„пропаганду“*. Дмухай у вугальля—з часам ускінецца і полымя“. (Карскі, Беларусы, III, 3, ст. 69). Характар гэтае пропаганды выяўляецца з наступнага вершу Вуля:

„Грудзяй цэлай гудзі сьмела
На ўвесь мужыцкі сьвет:
Што пасеем—будзе цэла,
Будзе некалі і цьвет“

*(М. Гарэцкі. Гіст. бел. літ. 210).*

Гэта „пропаганда“ заклікала сялянства да паўстаньня. Паўстаць сялянства магло толькі за новы зямельны лад, за волю. Зямля і воля—вось лёзунгі сялян. Каб разьлічаць на падтрыманьне „мужыцкага сьвету“, А. Вярыга павінен быў напісаць на сваім сьцягу, выкарыстаць гэтыя лёзунгі ў сваіх рэволюцыйных вершах, адозвах.

Гэта павінна было зблізіць яго з таварыствам „Зямля і Воля“, якое зарадзілася каля 1860 г. ў Інфлянтах і ставіла на першае месца вырашэньне соцыяльных, а не нацыянальных задач. Верш Вярыгі „Думкі хлопка з аколіц Віцебска на адглос вольнасьці“ напісаны ў 1858 г.; каля гэтага-ж часу, як можна думаць, напісана „Гутарка з плюндроўкі па зямле Латышскай“. Пытаньні „волі“ для прыгоннага ладу цікавілі А. Вярыгу, „Латышскую зямлю“—Інфлянты—яму давялося аб'ехаць усю, адсюль зусім натуральна дапусьціць, што „Зямля і Воля“ магла наладзіць з ім непасрэдныя зносіны. Тым больш, што ў „Колоколе“ Герцэна гэта таварыства, заклікаючы сваіх прыхільнікаў адклікнуцца, абяцае ім хутка наладзіць асабістыя непасрэдныя зносіны: „Не яны нас— так мы іх знойдзем, бо для гэтага Народны Камітэт імкнецца ўсюды заводзіць сваіх старанных агентаў“. (Агурскі. Револ. движ. в Белоруссии, ст. 230). „Зямля і Воля“ мела досыць шырокія зносіны з іншымі паўстанцкімі організацыямі і вельмі палохала губэрскі ўрад (Сакрэт. перапіска Лепельск. павят. спраўніка за 1858—64 год. Віц. архіў).

Цяжка дапусьціць, каб рэволюцыйная дзейнасьць „дудара“-пропагандыстага, якога ведалі і паважалі лепшыя літаратары краіны: В. Сыракомля, А. Кіркор, В. Дунін-Марцінкевіч, В. Каратынскі, была невядома ў Інфлянтах. Дзейнасьць таварыства „Зямля і Воля“ разьезды А. Вярыгі прыпадаюць на адзін і той-жа час перад паўстаньнем.

Якую асьветную працу вёў у гэты час А. Вярыга сярод сялянства— цяжка сказаць. Але яго вельмі цанілі, дужа шанавалі тыя прадстаўнікі сялянства, якім пашанцавала атрымаць гэтую асьвету: яркім выказчыкам гэтага зьяўляецца вядомы поэта В. Каратынскі, ён быў родам з Віцебшчыны і меў сялянскае прозьвішча „Кароткі“.

Кароткіх шмат ёсьць на вёсках каля мястэчак Янавічы-Калышкі, б. Віцеб. павету. Тут-жа, у 1 стане Віцебскага павету быў маёнтак А. Вярыгі—Стайкі. Аляксандраўскія жандары павінны былі зьвярнуць увагу на разьезды дудара. Жандарскі штаб-афіцэр Турцэвіч пісаў з Віцебску шэфу жандараў у Пецярбург „о злонамеренных действиях“ А. Вярыгі яшчэ ў красавіку 1862 г., за год да паўстаньня [1]): За дзейнасьцю А. Вярыгі быў устаноўлены сакрэтны нагляд паліцыі. Арцём Ігнатаў быў такі ветлівы, вясёлы пан, добры сусед, што станавы прыстаў, павятовы спраўнік адносіліся да яго з пашанай. Сам губарнатар Аголін дружыў з прыяцелем А. Вярыгі—павятовым маршалкам дваранства— капітанам С. В. Драздоўскім. Жандару Турцэвічу прышлося ўжо пасьля паўстаньня скардзіцца, што „нагляд паліцыі быў да таго слабы, што ані не перашкаджаў А. Вярыгу быць адным з галоўных асоб“ сярод організатараў паўстаньня на Віцебшчыне [2]).

Паліцыя не знайшла ў дзейнасьці А. Вярыгі нічога дужа дрэннага, і ён вольна разьяжджаў па Беларусі, зьбіраючы грошы і заклікаючы

[1]) І. Віткоўскі. Rok 1863 на Віцебшчыне № 87 (ад 13/IV 1862 г.)

[2]) Ibidem № 87.

моладзь да паўстаньня. Яго палкія вершы, прамовы мелі надзвычай моцны ўплыў, водгук сярод моладзі, дробнага панства. Адзін з іх, Н. Караткевіч так запісаў у альбом А. Вярыгі:

„Бо ты мілы дударэнька,
Так іграеш харашэнька,
Што душа аж расплывецца,
Што аж сэрца затрасецца
І ад радасьці сьляза пальлецца".

*(Белоруссы, III, 3, 67 стр.)*

Запісы ў альбоме крыху адбіваюць жыцьцё Арцёма Ігнатавага перад паўстаньнем. Сталым месцам пражываньня яго пасямейныя сьпісы двараў адзначаюць г. Віцебск.

Горад жыў напружным жыцьцём. У канцылярыях гораду стыкаліся і варожа, моўчкі ішлі сваім шляхам уплывы варожых капіталізмаў. Прыхільнікі польскага панаваньня на Беларусі выведвалі і перадавалі ў свае польскія штабы паўстаньня замеры царскага ўраду. Сялянства цягнула марудны ланцуг часовых абавязкаў у адносінах да сваіх паноў, якія ўсялякімі спосабамі забіралі пад свае фальваркі лепшую зямлю, а сялянам аддавалі няўжыткоўную і дрэнныя сенажаці. „Воля" аказалася чымсьці недарэчным, надзеі сялянства на добры надзел зямлёй ня спраўдзіліся, вёска прыкра сябе адчувала і варушылася.

А тут адусюль паўзьлі чуткі, што хутка прыдуць палякі і забяруць край. Царскі ўрад больш баяўся сялянскіх бунтаў, чым вестак пра падрыхтоўку паўстаньня палякаў. Сялянская навала магла ўтапіць панска-царскі ўрад губэрні ў моры крыві.

Зусім натуральна, што губарнатара Віцебскай губэрні перапалохала пашырэньне адозваў т-ва „Зямля і Воля" больш, чым паведамленьні паліцыі аб нязвычайным руху сярод шляхты. Паны ўсё-ткі свае людзі, а „Зямля і Воля" прапануе сялянам забраць панскую зямлю бяз выкупу, шляхам захвату. Арцём Ігнатаў добра ўлічаў настроі сялян. Сваю рэволюцыйную дзейнасьць ён грунтаваў на паўстаньні сялян супраць ашуканца-царскага ўраду. Другая група, якая таксама здавалася яму вялікай, перадавой сілай сялянства—былі дворныя і мяшчане гораду. Рэволюцыйная моладзь—порах паўстаньня: яна пачне, а сялянскі масыў падтрымае і пасуне далей. Жандару ўдалося залучыць сабе ў агенты нейкую паненку Настасю Карпаву і падаслаць яе ў арганізацыю А. Вярыгі; праз яе жандары ведалі ў агульных рысах, што рабіў Арцём Ігнатаў для паўстаньня (данясеньне шэфу паліцыі з Віцебску ад 29/IV—1863 г. № 59).

Організацыя была добра наладжана. Паводле данясеньня Н. Карпавай—Арцём Ігнатаў меў годнасьць „старшыні акругі"—ваяводы, зьбіраў грошы, купляў зброю, порах і звозіў усё гэта ў свой маёнтак Стайкі. Частыя разьезды пана былі такой звычайнай зьяваю, што паліцыя не паверыла ў яго дачыненьне да паўстаньня. Калі станавы прыстаў

І. П. Рачынскі атрымаў загад губарнатара зрабіць вобыск у м. Стайкі, дык ён ня выканаў гэтага загаду. За гэта ў траўні 1863 г. быў зволены з пасады. Тое самае было і з Віцебскім павятовым спраўнікам Вайцахоўскім „за зламысныя дзеі і патураньне“ паўстанцам.

Паўстаньне было добра падрыхтавана. Адначасова 21—22 красавіка паўстаньне разьлілося па ўсёй Магілеўскай і Віцебскай губэрнях.

На долю А. Вярыгі прыпала арганізаваць заслону і спыніць зносіны па шашы паміж Смаленскам і Віцебскам. У раёне Лёзна-Бабінавіч павінна было адбыцца аб'яднанае паўстаньне з Аршанскага і Віцебскага аддзелаў.

21 красавіка з Віцебску на Воршу накіравалася партыя моладзі ў вёску ад 15 да 30 гадоў. Сярод іх пераважалі вучні Віцебскай гімназіі і зямлямерна-таксатарскіх курсаў; а чыноўнікі розных губэрскіх установ сталі на чале пададдзелаў. Зборны пункт быў вызначаны ў 20 вёрст ад Віцебску, каля паштовай станцыі Дыманова. Усяго вышла з Віцебску ў гэтым кірунку 44 чалавекі. Паліцыя цэлы дзень у Віцебску правярала жыхароў, хто дома. Выявілася, што ў паўстанцы пайшло:

| | | |
|---|---|---|
| чыноўнікаў Крымінальнай палаты | — 7 | асоб; |
| канцылярыі губарнатара | — 1 | „ |
| губэрскага праўленьня | — 4 | „ |
| казённай палаты | — 1 | „ |
| палаты дзярж. маемасьці | — 3 | „ |
| грамадзкай палаты | — 2 | „ |
| прыказу грамадзкай апекі | — 1 | „ |
| будаўніча-дарожнай камісіі | — 1 | „ |
| павятовага суду | — 1 | „ |
| дваранскага дэпутацкага сабраньня | — 1 | „ |
| вучняў мужчынскай гімназіі | — 11 | „ |
| каморніцка-таксатарскіх курсаў | — 7 | „ |
| паноў і мяшчан, жыўшых у Віцебску | — 4 | „ |

Уся гэта моладзь выпраўлялася ў паход, як на вясельле: новыя гарнітуры паўстанцаў, новыя стрэльбы, вясёлыя паненкі з падарожных маёнткаў.

У паход вышлі дзеці дробнай шляхты і дробныя; чыноўнікі; мяшчане— рабочыя майстэрняў, дваровыя людзі дапаўнялі сабой прадстаўніцтва станаў краю ў аддзеле.

Маёнткі па Магілеўскаму гасьцінцу сустракаюцца досыць часта, а таму паўстанцы дабраліся да станцыі Дыманова толькі позна ўвечары 22 красавіка. За гэты час аддзел Будзілавічы ўзяў ужо горад Бабінавічы, накіраваўся на Лёзну. Гэта ўзварушыла сялянства сумежных валасьцяй, фурманоў на паштовым гасьцінцы. Магчыма, што некаторыя фурманы Бабінавіцкай пошты паўцякалі ў Дыманова. На станцыі Дыманово заўжды стаяла 38 коняй для розных перавозак [1]). Фурманоў павінна было быць каля 30 чалавек. Для большай упэўненасьці ў цэласьці пошты

[1]) Пам. книжка Витеб. губ. на 1861 г. ч. II, ст. 30.

на станцыі стаяла некалькі салдат Віцебскага батальёну ўнутранай варты. Чуткі, што паўстанцы будуць забіраць коняй і людзей з сабой, напалохалі ня толькі вёску, але і фурманоў. Яны выставілі варту і ўначы 22/IV арыштавалі першую партыю паўстанцаў з Віцебску, якая ішла зусім вольна і спадзявалася на ўсеагульнае спачуваньне насельніцтва. Гэта была вучнёўская моладзь: гімназістыя, каморнікі. Сьпярша фурманы затрымалі 15 чалавек моладзі, адабралі ад іх 5 стрэльбаў, рэвольвэр, 7 пісталетаў, 1 кінжал, 42 патроны і каля фунта пораху [1]). Пазьней былі затрыманы другія паўстанцы: 4 мужчыны і 2 жанчыны. Быў затрыманы раніцай 23/IV каля ст. Дыманова, і Арцём Ігнатаў, але ён патрапіў уцячы непазнаным.

Сярод затрыманых на станцыі асоб быў і вольнаадпушчаны дворны Ігнат Канецкі.

Другая партыя з больш дарослых паўстанцаў, у ліку 10 асоб, не знайшоўшы каля ўмоўленага маста праваднікa, пашла ў лес на спатканьне начальніка Аршанскага аддзелу, але заблудзілася. Праблытаўшы ў лесе некалькі дзён, яны кінулі ў маёнтку Новы Стан сваю зброю і здаліся 1 траўня, каля маёнтку Орадзеж адшукаўшым іх у лесе сялянам. 26/IV у маёнтку Пагосьцішча, 10—15 вёрст ад Орадзежа, здаўся ў палон Аршанскі аддзел паручніка Будзіловіча (Пяховіча). Без падтрыманьня сялян паўстаньне ня мела ніякага посьпеху.

Арыштаваныя былі прывезены ў Віцебскі астрог, але ў час папярэдняга сьледзтва некалькі дзён былі ў будынку земскага суду, у 2 часьці гораду, супраць катэдральнага сабору.

Першы страх начальства прайшоў. Была організавана ў Віцебску асобная сьледчая камісія, якая ўзялася за высьвятленьне справы. Першая няўдача паўстаньня не зламала А. Вярыгу. Выцерабіўшыся з Дыманова 23/IV Арцём Ігнатаў, як даведалася камісія пазьней, уначы заехаў да свайго прыяцеля пана Васілеўскага, аддаў яму стрэльбу, сумку з паперамі свайго аддзелу. Гэтыя паперы ня трапілі ў рукі камісіі, хоць за гэта і трапіў пан Васілеўскі ў турму.

24/IV Арцём Ігнатаў быў зноў у Віцебску і зараз-жа наведаў арыштаваных. Некалькі разоў бачыўся ён з падсьледчымі паўстанцамі, раіў, як ім трымацца на сьледзтве, і пачаў рыхтаваць паўстаньне ў самым Віцебску, зноў зьбіраў моладзь, грошы, набываў зброю і порах. Гэта так напалохала паліцыю, што вядомая ўжо нам Настася Карпава 29/IV праз штаб-афіцэра корпуса жандараў зьвярнулася ў III аддзяленьне царскай канцылярыі з распачлівым лістом аб дапамозе. Для паратунку айчыны Карпава просіць арыштаваць „галоўных кіраўнікоў бандаў, вінавайцаў зла“ павятовага маршалка Драздоўскага і Арцёма Ігнатавага— тады ўсё будзе спакойна [2]). Губарнатар Аголін так перапалохаўся, што

[1]) Год 1863 на Віцебшчыне, № 66—70.

[2]) Ibid., № 59.

толькі пасьля настойных дамаганьняў жандара Турцэвіча, аддаў загад арыштаваць А. Вярыгу; 6/V арыштавалі ў Віцебску Арцёма Ігнатавага і перавезьлі адразу ў астрог. 8/V Турцэвіч паведаміў аб гэтым шэфа жандараў. На кватэры А. Вярыгі быў зроблены вобыск, пры гэтым былі знойдзены і забраны паперы „рэволюцыйнага зьместу“. З гэтых папер сьледчая камісія ўстанавіла, што Арцём Ігнатаў быў адным з галоўных дзеячоў паўстаньня ў Віцебскай губ. і меў непасрэдныя зносіны з рэволюцыйным камітэтам[1]). Частку папер Арцёма Ігнатавага схавала яго сястра Кацярына Ігнатава Станкевічава. Сьледчая камісія як ні цягала яе, але папер не знайшла і пакінула „пад сумненьнем у скрыцьці папер рэволюцыйнага зьместу, якія належалі яе брату“[2]). Такім чынам у Віцебскім архіве, дзе захоўваецца архіўны фонд „Асобнай Віцебскай сьледчай камісі“, пры судова-сьледчай справе А. Вярыгі павінны быць вершы, адозвы, поэмы на беларускай мове.

У справе шляхціча Шчыпчынскага нам папаўся цэлы склад вершаў: „Неравный брак“ Растопчынай, „Не жди добра“ Искандэра і цэлы навуковы трактат Граноўскага „Восточный вопрос с русской точки зрения“. А гэтага шляхціча апраўдалі нават царскія судзьдзі. Паперы А. Вярыгі былі каштоўнымі для суда, важнымі рэчавымі довадамі.

Асобная сьледчая камісія ў Віцебску разьвінула шырокую работу: за час з 29/IV па 31/XII 1863 году праз камісію прайшло 127 спраў „аб мяцежніках“. Асоб, меўшых дачыненьне да мецяжа было 364, з іх 158 асоб камісія трымала пад вартай і 206 асоб жыло ў горадзе пад наглядам паліцыі. У часе папярэдняга сьледзтва і на дазнаньні ў асобнай сьледчай камісіі паўстанцы з аддзелу А. Вярыгі трымаліся дружна: ніхто ня лічыў сябе вінаватым, адлучку з гораду адны тлумачылі тым, што нібы хадзілі гуляць ці што езьдзілі на паляваньне, а таксатары—што былі на практычных палявых работах.

Справа Арцёма Ігнатавага была скончана і трапіла да начальніка губэрні 1 лістапада 1863 году. Вярыгу вінавацілі ў організацыі паўстаньня ў Віцебскім павеце, іншых асоб, забраных у Дыманове, у жаданьні далучыцца „да банды мяцежнікаў“.

1 студзеня 1864 году асобная сьледчая камісія ў Віцебску паводле загаду Мураўёва была расформавана. Царскі ўрад жорстка засудзіў паўстанцаў. Рэдка хто быў высланы, большасьць трапіла *на катаргу*.

Арцёма Ігнатавага засудзілі на 8 год катаржных работ у горных заводах, а м. Стайкі быў конфіскаваны [3]). Царскі ўрад хутка расправіўся з маёнткам: 20-VI 1863 году Стайкі былі прыняты ў скарб—„аканфіскаваны“.

У полымі паўстаньня 1863 году згарэлі вялікія надзеі, якія ўскладаў А. Вярыга на рэволюцыйнасьць беларускага селяніна. На вялікую радасьць

[1]) Данясеньне шэфу жандараў ад 9/I 1864 г. № 31.

[2]) Ibidem, № 160.

[3]) „Алфавитный список политических преступников, имущество коих на I-X 1864 г. подлежит конфискации в казну № 252“.

царскага ўраду вёска ў першую чаргу накінулася на пана-суседа. Да цара было далёка, а пан пад бокам.

Царскі ўрад вельмі баяўся, што сяляне падтрымаюць паўстаньне. У адным з сваіх дакладаў начальніку края з Інфлянт камандзір карнага аддзелу пісаў: „небясьпечна ўжываць вайсковую сілу супраць сялян. Шкода будзе, калі зманныя але прывабныя абяцанкі паўстанцаў будуць мець перавагу ў сялян“. Царскі ўрад добра выкарыстаў спрадвечнае нездаволеньне вёскі панамі. Напалоханыя сялянамі паны зараз-жа пачалі тысячамі кідацца цару ў ногі „з вернападданьніцкімі адрасамі“.

На Арцёма Ігнатавага пасыпаліся праклёны матак, якія абвінавачвалі яго ў падбухторваньні іх сыноў ісьці ў паўстанцы. Ужо 8-V 1863 году маёр Турцэвіч пісаў шэфу жандараў: „калі мяцежнікі з Дыманова былі перавезены ў Віцебск, да мяне дайшлі чуткі, што большую частку іх падбухторыў да мецяжу пан Віцебскага павету Арцём Вярыга“ [1]). Яго вера ў рэволюцыйнасьць, вольналюбства мужыка цяпер абярнулася супраць яго. Паны і чыноўнікі, сыны якіх судзіліся за адну справу з Вярыгай, абвінавачвалі яго ў тым, што ён пакінуў сабе значную частку паўстанцкіх грошай. Такое абвінавачаньне зрабілася вядомым жандару Турцэвічу зараз-жа пасьля арышту Вярыгі.

Якую рэволюцыйную работу вёў Вярыга сярод сялян сьледзтва не даведалася. Аб гэтым сьведчаць запісы ў „Альбоме“ яго сучасьніка і земляка В. Каратынскага.

Такім чынам, Каратынскаму з даўных часоў была вядома асьветніцкая работа А. Вярыгі сярод сялянства.

Вядомы этнограф М. Я. Нікіфараўскі, які нарадзіўся і вырас у с. Вымна, бліз м. Стайкі, апісвае вясковую беларускую школу ў часе прыгону [2]).

Сяляне наймалі на зіму настаўніка вучыць іх дзяцей. Школу зьмяшчалі ў вёсцы, далей ад панскага двара. Калі сялянства організавала школу на ўласныя сродкі, без дазволу пана, то А. Вярыга мог заснаваць у Стайках школу для дзяцей сваіх прыгонных ці сялянскіх дзяцей з суседніх вёсак адкрыта.

Беларускія вершы, асьвета сялян надалі А. Вярызе славу „дудара з Наддзьвіньня“, вялікага народніка свайго часу. Беларускага элемэнту ў яго пісаньнях, дзейнасьці было больш, чым польскага. Адсюль зразумела, чаму так хутка забылася памяць яго сярод шляхты і панства Віцебшчыны, чаму загінулі ненадрукаваныя творы на беларускай мове.

У 1885 годзе вядомы этнограф-віцеблянін А. Маркс вярнуўся з сібірскай ссылкі за паўстаньне на Беларусь. У Сібіру ён пакутваў разам з Арцёмам Ігнатавым. Праз яго трапіла на Беларусь поэма А. Вярыгі „Тарас на Парнасе“. Вядомы беларускі бібліограф Р. Зямкевіч ужо

[1]) Рок 1863 на Віцебшчыне № 90.

[2]) Никифоровский. Сельско-школьное обучение до 19-II 1861 г. в Витебском уезде. Витебск, 1893 г.

ў нашы дні знайшоў успаміны А. Маркса (гл. „Сав. Беларусь“ № 78— 1-IV 1928). Цікава было-б надрукаваць іх у выданьнях Беларускай Акадэміі Навук!

У 1889 г. поэма „Тарас на Парнасе“ была надрукавана ў № 37 газэты „Минский листок“ і з таго часу разышлася па Беларусі ў сьпісах і перадруках.

Акадэмік Карскі зазначае, што мова першага выданьня „з гаворкі Віцебскай губэрні“ (Белоруссы III, 3, 79 ст.); гэта зьяўляецца першым доказам правільнасьці вестак Р. Зямкевіча—А. Маркса, што аўтар поэмы быў з Віцебшчыны.

Такім чынам, сама сабой рушыцца думка, якая, з лёгкай рукі Аўдакіма Раманава, пануе ў гісторыі беларускай літаратуры, што поэму напісалі студэнты Горы-Горацкага сельска-гаспадарчага інстытуту. Чаму студэнты інстытуту, якія паходзілі з розных губэрань, павінны былі абавязкова напісаць поэму на гаворцы магілеўскага селяніна?—на гэта пытаньне Раманаў ня даў адказу. Польскі ўхіл магілеўскага панства вядомы здаўна. Беларускія настроі ня мелі тут такога пашырэньня, як сярод шляхты Віцебшчыны. Мясцовыя краязнаўцы правялі шырокую апрацоўку архіўных матэрыялаў аб паўстаньні 1863 г. ў Горках і не адшукалі сталых сьлядоў беларускіх гурткоў сярод студэнтаў інстытуту. Былі польскія, расійскія, народніцкія гурткі. (Агурскі. Революц. движение, 27 ст.). Раманаў зусім правільна лічыў мову галоўнай адзнакай месца напісаньня поэмы, але зусім беспадстаўна было спыняцца на мовах многіх сьпісаў і не зьвярнуць увагі на мову першага друкаванага выданьня поэмы.

Другое абмежаваньне, у адзначэньні Раманавым мовы поэмы, ляжала ў адсутнасьці мясцовых слоўнікаў жывой беларускай мовы. Быў толькі слоўнік І. Насовіча, а ў ім пераважалі словы магілеўскае гаворкі. Зараз, з выданьнем „Віцебскага краёвага слоўніка“ м. Касьпяровіча, „Смоленского областного словаря“ В. Дабравольскага дасьледчыку лягчэй вызначыць тую гаворку беларускай мовы, якая лягла ў аснову слоўнага багацьця поэмы.

Варта толькі параўнаць слоўнае багацьце поэмы з „Віцебскім краёвым слоўнікам“, каб канчаткова ўпэўніцца ў яе віцебскай гаворцы. Вось некалькі прыкладаў:

Аж тут—*лоп-лоп!* цераз дарогу
Як быццам цецярук зьляцеў
Злажыўся стрэльбай—*кляпсь!*
ня паліць
*Крамзель* з другога—не пячэ...

Такія напоўпрыказкі: „лоп-лоп, кляпс-кляпс, крамзель-крамзель, а выхці мне, а-а-вой“ вельмі характарны для Віцебшчыны. М. Я. Нікіфароўскі запісаў іх шмат (Праца катэдры этнографіі, т. I, сш. I, ст. 92—94).

Дабыў з табакай *рагавень*
І храпы напіхаў *цяртухай.*

Словы проста з Віцебшчыны і ёсьць пад адпаведнай літарай у слоўніку М. Касьпяровіча.

Стаяў я доўга і дзівіўся,
Разьзявіў зяпу і глядзеў.

Таксама характарныя віцебскія выразы і слоўцы; сустракаюцца яны ў М. Нікіфароўскага і ў „Краёвым слоўніку". Цэлы шэраг іншых слоў: „дадушы, тронкі сьпіца, восьці, атопак" і г. д.—ёсьць у „Краёвым слоўніку" і няма ў „Словаре Белорусского Наречия" Насовіча. Гульня ў „тронкі" парнаскіх хлопцаў, дзяцюкоў"—пэўная адзнака вёскі б. Віцебскай губэрні. На сучаснай Аршаншчыне гэта гульня зусім невядома, а на Полаччыне ў „тронкі перакінуцца гатовы ня толькі дзеці, але і дарослыя мужчыны.

Слоўныя і бытавыя адзнакі поэмы паказваюць, што аўтар яе быў родам з Віцебшчыны.

Ёсьць яшчэ адзнака географічнага парадку:

Ці знаў, хто, братцы, з вас Тараса,
У палясоўшчыках што быў?
На Пуцявішчы, ў Апанаса
Ён там ля лазьні блізка жыў.

Вёска „Пуцявішча" знаходзіцца недалёка ад Віцебску 15 вёрст. Гэта невялічкая вёска, Жэрабыцкай воласьці была добра вядома віцеблянам у 40 гадох мінулага сталецьця, бо ў гэтай мясцовасьці, Беларускае Вольна-экономічнае таварыства ставіла першыя досьледы новых спосабаў зямляробства і домаводзтва (арх. фонд Бел. Вольна-эконом. т-ва, Віцебск). У сьпісах паселішчаў этнографічнай Беларусі нідзе няма Пуцявішча", апрача б. Віцебск. губ. У б. Менскай губ. мы знаходзім: „Пуціна, Пуцікава, Пуцілава, Пуцілкавічы, Пуцяты", у б. Магілеўскай губ. „Путнікі, Пуцяціна, Пуцятаўка, Пуціца, Пуцімель". Мы пераглядзелі ў дзяржаўнай бібліотэцы ўсе сьпісы „населенных мест". Пуцявішча знайшлі толькі на Віцебшчыне.

Напісана поэма „Тарас на Парнасе" поэтом, які добра ведаў ваколіцы Віцебску. Калі перабраць па аднаму ўсіх поэтаў 40—70 гадоў з Віцебшчыны, якія пісалі вершы на беларускай мове, то ўвага наша спыняецца на асобе А. Вярыгі, які добра ведаў „думкі сялян з аколіц Віцебска".

Калі напісана поэма? Звычайна шукалі адказу на гэта пытаньне ў радку:

У газэце
Я вас аблаю на ўвесь сьвет
Як Гогаля ў прошлым леце.

Вызначаюцца 40 гады 19 сталецьця, як час напісаньня поэмы. Нам думаецца, што лепш для адзначэньня часу напісаньня поэмы выходзіць з наступнага вершу:

Народ то быў усё не такоўскі:
Міцкевіч, Пушкін, Кахаўоўскі
і Гогаль шпарка каля нас
Прайшлі, як павы, на Парнас.

Згодна веры грэкаў вялікія поэты пасьля сьмерці асядалі з панамі на Парнасе. На гэту веру паказвае і наступны верш:

Аткуль куды дарога гэта?
Спытаўся я ў хлопца той час
Дарога гэта с таго сьвета,
Ідзе проста на парнас.

Парнас на зямлі, а дарога, на якую трапіў Тарас, шла „с таго сьвета“. Усім добра вядома, што разумее беларус-селянін пад „тым сьветам“. Адсюль паны, якія лезьлі на гару, апынуліся тут пасьля сьмерці. У 40 гады мінулага сталецьця Ян КахаHоўскі і Пушкін даўно ўжо былі памерлі. Час напісаньня поэмы трэба шукаць пасьля сьмерці Міцкевіча,—пасьля 28-XI—1855 году.

Памалу братцы! Ня душыце
мой фэльетон вы і Пчалу.

Дагэтуль бачылі ў гэтым часопіс Булгарына „Северная Пчела“, але ў 1875—1878 г. г. выдаваўся ў Пецярбурзе часопіс „Пчела“ [1]); выдаўцамі былі А. Базуноў і М. Мікешын. Калі знойдуцца ў гэтай „Пчале“ артыкулы супраць Гогаля, то можна думаць, што аўтар меў на ўвазе гэты часопіс. „Пчала“ была задушана больш моцнай літаратурнай перыодыкай таго часу, бо выданьне спынілася ў 1878 годзе. Пры такіх умовах можна прыпусьціць, што Арцём Ігнатаў напісаў поэму ў Сібіру. А можа ў Дарэўскага проста была перапісана поэма невядомага аўтара. Этнограф Адрыян Маркс доўга жыў у Віцебску, добра ведаў цэлы шэраг віцеблянкультурнікаў [2]), а з А. Вярыгай пакутваў у далёкім Забайкальлі, таму яго сьцьверджаньне, што поэма напісана Арцёмам Ігнатавым мае пэўную рацыю. Адпакутваўшы 8 гадоў на катарзе, А. Вярыга вышаў на пасяленьне і памёр у 1884 г. ў г. Іркуцку на 68 годзе свайго жыцьця. Пусьціць на Беларусь А. Вярыгу царскі ўрад пабаяўся, бо добра ведаў яго ранейшыя народніцкія настроі. Партыя „Зямля і Воля“ акрэпла і шырокім рэволюцыйным струменем разьлілася па Расіі.

Да ідэолёгіі Арцёма Ігнатавага і ўдзельнікаў яго паўстанцкага аддзелу царскі суд не дабраўся, ці ня здолеў ясна разабрацца. У сваёй справаздачы царскаму ўраду аб стане губэрні Віцебскі губарнатар адзначае, што „надзеі паўстанцаў ня спраўдзіліся. Ня гледзячы на шматгадовую пропаганду сярод сялян гэтага краю,—яны засталіся вернымі сваёй карэннай народнасьці і сапраўднай бацькаўшчыне. Спробы рэволюцыянэраў мелі на ўвазе ня столькі посьпех паўстаньня, колькі галоснае абвяшчэньне ў політычным сьвеце аб дзейным спачуваньні Беларусі бунтаўнічаму руху Царства Польскага і аб імкненьнях гэтай краіны да аднаўленьня межаў дзяржавы 1772 году“ [3]).

---

[1]) „Б. Э. Словарь“, т. 50.
[2]) Часопіс „Lud“.
[3]) „Отчет о состоянии губернии 1864 году“.

З гэтага досыць блытанага тлумачэньня ідэолёгіі паўстаньня на Віцебшчыне ясна: 1) вялікая надзея паўстанца на рэволюцыйнасьць сялянства Беларусі, 2) Беларусь—асобная краіна, а беларусы—народнасьць, што можа вольна разьвівацца толькі ў межах 1772 году і пры зьменах, якія зробіць у суадносінах насельніцтва рэволюцыя. Справаздача губарнатара выразна адзначае „спачуваньне Беларусі руху Царства“, а не паўночна-ўсходніх „Крэсаў“.

Гэтай веры ў просты беларускі народ ня вытрулі ў Арцёма Ігнатавага ні высылка, ні катарга.

Глыбокае спачуваньне прыгоннаму селяніну, магутная вера ў вялікія здольнасьці, высокія культурныя ўзьлёты простага працавітага беларускага люду, упартае рэволюцыйнае змаганьне за вызваленьне краіны робяць Арцёма Ігнатавага цікавейшым прадстаўніком беларускай шляхецкай інтэлігенцыі 60 гадоў мінулага сталецьця народніцкага адценьня.

# ХРЫСТО СЬМІРНЕНСКІ

*(Пачынальнік пролетарскай поэзіі ў Баўгарыі)*

**Зьм. Сьнежка і Л. О. Рызор**

Разьвіцьцё баўгарскай літаратуры ішло двума зусім рознымі шляхамі. Першы шлях,— шлях нацыянальнага вызваленьня „народу“ ад турэцкага ярма з тым, каб потым свае вызваленчыя тэндэнцыі ператварыць у заўзяты нацыяналізм. Галоўнейшымі прадстаўнікамі гэтага „нацыяналістычнага“ кірунку ў баўгарскай літаратуры былі: Пецько Р. Славейкаў, Іван Вазаў, Пенчо П. Славейкаў, Н. Лілieў, І. Іёўкаў, крыху П. К. Явараў ды інш.

У эпоху нацыянальна-вызваленчага руху гэтыя пісьменьнікі, тыповыя прадстаўнікі—ідэолёгі дробнай буржуазіі, клікалі да нацыянальнага змаганьня, да вызваленьня, але потым яны паступова рабіліся ўсё больш і больш рэакцыйнымі і прышлі да разуменьня „мастацтва для мастацтва“. Амаль кожны з пералічаных вышэй поэтаў і пісьменьнікаў меў школу,— сваіх пасьлядоўцаў.

Другі шлях,—шлях сацыяльнае літаратуры, першым пачынальнікам якога быў П. Чыншулаў (1822—1886), за ім ішоў Хрысто Воцьёў, Хрысто Ясеняў, крыху Явараў П., А. Страшыміраў і з маладых Гео Мільеў і Х. Сьмірненскі.

Аднак і сярод поэтаў гэтага лягеру магчыма адзначыць некаторыя „плыні“.

Хрысто Боцьёў—вялікі баўгарскі соцыялісты, палітычны дзеяч, поэта,— выхаваны на вучэньні Бакуніна і Прудона—быў правадыром спролетарызаванага шляхецтва, правадыром за нацыянальнае вызваленьне праз вызваленьне соцыяльнае. Поэзія Боцьёва—гэта поэзія закліку супроць экономічнага і палітычнага ўціску. Аднак Боцьёў быў утопістым,—соцыялістым, у якога дробна-мяшчанскае „брала верх“.

Х. Сьмірненскі зьявіўся сапраўдным пачынальнікам пролетарскай літаратуры Баўгарыі. Усе яго творы—клясава-рэволюцыйныя, з пролетарскім зьместам. Праўду кажучы, да пролетпісьменьнікаў трэба аднесьці і Хр. Радзеўскага, Д. Палянава, А. Тодарава ды інш., але толькі ў Хр. Сьмірненскага соцыяльны зьмест не перашкаджае мастацкасьці твору. Галоўная розьніца паміж Х. Боцьёвым і Х. Сьмірненскім у тым, што ў той час, калі ў Боцьёва соцыяльная нездаволенасьць і змаганьне перадана, як бунт супроць тыранаў і багатыроў, як паўстаньне беднаты

наогул; у Сьмірненскага мы ўжо знаходзім шлях сапраўдна рэволюцыйнага змаганьня. Змаганьня ўжо ня супроць багатыроў і рэакцыянэраў, а супроць капіталізму, як клясы; супроць капіталістычнага ладу, праз рэволюцыю (а ня бунт) да соцыялізму.

У Баўгарыі найбольш популярным поэтай зьяўляецца Хр. Боцьёў— амаль усе яго песьні цяпер пяюцца на вёсках; сяляне пяюць песьні, нават ня ведаючы, хто быў іх аўтар. Хр. Сьмірненскі таксама зрабіўся народным поэтай, найбольш вядомым, чым усе іншыя сучасныя поэты і пісьменьнікі, ня гледзячы на тое, што яго творы былі напісаны ўсяго якіх-небудзь 5—6 год назад, некаторыя з яго вершаў (напр., „Вуглякопы“) зрабіліся рабочымі маршамі і іх пяюць пасьля Інтэрнацыяналу разам з іншымі рэволюцыйнымі песьнямі.

Чаму?..

* * *

Хрысто Сьмірненскі—сапраўднае прозьвішча Хрысто Ізьмірліеў, нарадзіўся 30 лістапада 1898 году ў горадзе Кукуш (Македонія), дзе ён і пражыў сваё дзяцінства. Пасьля Балканскай вайны (1912—1913) ён з бацькамі ўцякае з Македоніі ў Софію. Тут ён паступае ў тэхнічнае вучылішча. Каб мець магчымаць вучыцца, ён павінен быў зарабляць сабе грошы, прадаючы газэты на вуліцах Софіі. У хуткім часе пачалася вайна, Хрысто пакінуў вучылішча і зрабіўся юнкерам вайсковай школы. Там Сьмірненскі ўбачыў „сапраўдны твар баўгарскага імпэрыялізму і мілітарызму“. Не жадаючы больш бачыць гэтага, ён пакідае школу. З гэтага часу Сьмірненскі робіцца клясава сьвядомым комуністым. У гэты час, прыблізна, пачынаецца і літаратурная дзейнасьць Х. С., спачатку, як сатырыка, а потым, як сур'ёзнага поэты пролетарыяту. Сваю літаратурную працу Х. Сьмірненскі пачаў як супрацоўнік у тыднёвым комуністычным сатырычным часопісу „Червен Смях“ (Чырвоны Сьмех). Потым яго творы зьяўляюцца ўжо ва ўсіх газэтах і часопісах комуністычнае партыі Баўгарыі: „Работнически вестник“ (Рабочая газэта), „Народна армия“, „Младеж“ (комсамольская газэта) ды інш. Усюды ён прымаў удзел, як комуністы-поэта-сатырык. Крыху пазьней ён выдае свой уласны часопіс „Маскарад“, дзе супрацоўнічалі і другія маладыя поэты.

Але... 18 чэрвеня 1923 г., праз дзевяць дзён пасьля скіданьня ўраду земляробскага саюзу, Х. Сьмірненскі загінуў ад сухотаў.

Хрысто Сьмірненскі быў яшчэ вельмі малады. Аднак аб ім, як і аб яго вядомым папярэдніку Хрысто Боцьёва, магчыма сказаць: „Млад съм аз, но младости не помня“... [1]) – бо жыцьцё абодвух Хрысто было вельмі цёмнае, цяжкае, амаль жабрацкае. Ён—малады Хрысто, быў поўны жыцьця, сілы і адвагі юнак, ён спадзяваўся, ён верыў, ён ведаў, што

[1]) „Малады я, але юнацтва ня памятаю“ *(З. С.)*.

прыдуць лепшыя дні. Каб наблізіць надыход гэтых „лепшых дзён“, ён працаваў і змагаўся за гэта ўсё сваё кароткае жыцьцё.

Усе творы Х. Сьмірненскага—нават і тыя, дзе толькі „цемра і сьлёзы“—мкнуць патосам сонечнасьці, неабмежаванага каханьня да справы, за якую змагаецца, патосам змаганьня і заклікам да яго. Нездарма ў часопісах і газэтах яго завуць „сонечным юнаком“—ён сапраўды быў дзіцём сонца; заваяваць „сонца“ для пролетарыяту—вось што было яго асноўнай мэтай, але ён загінуў, не дачакаўшы гэтага заваяваньня.

Тэмы творчасьці Сьмірненскага—узяты ім з жыцьця рабочай клясы, з царства чорнага, бруднага; з царства працы. Фабрыка, завод, брудная рабочая вопратка, вулічныя дзеці, простытуткі, жабрак-музыка і г. д., і г. д., адным словам, усё сёнешняе капіталістычнай Баўгарыі; а разам з гэтым—барыкады, мітынгі, змаганьне, бойкі, рэволюцыя, штурмы за новае шчасьлівае жыцьцё заўтрашняга пад дэвізам „да бъде ден“ — вось асноўныя тэмы творчасьці Сьмірненскага. Перад, а нават і пасьля Сьмірненскага вельмі мала поэтаў у Баўгарыі маглі, а галоўнае адважваліся—закрануць гэткія тэмы ў сваёй творчасьці. Але ня толькі закрануць, а падаць іх так, як гэта рабіў Сьмірненскі. Тыя поэты, якія раней або потым, а нават і адначасова з Сьмірненскім, пісалі свае творы на гэткія самыя тэмы,—або не далі каштоўнага з боку мастацкай вартасьці (Д. І. Палянаў, А. Тодараў і інш.), або далі, праўда, нешта мастацка-каштоўнае, дзе зьмест, аднак, быў на апошнім месцы, нібы „між іншым“, у postscriptum'е (А. Страшыміраў, П. Явараў, Х. Ясенаў і інш.).

Галоўнае, што вылучала Хрысто Сьмірненскага з ліку амаль усіх маладых поэтаў таго часу—гэта яго адносіны да так званага „эготызму“. У той час, калі ўсе поэты пісалі: „я—правадыр народных мас; я вызвалю свой народ; я дам свабоды, хлеба“—Хр. Сьмірненскі ў адным з сваіх лепшых вершаў „Праз буру“ пісаў:

И *мълчалив* и блед *сред бедните си братя*
Ще понеса аз черния си кръст.

Хрысто Сьмірненскі—сын колектыву, пролетарскага колектыву—і сын сьвядомы, верны і заўзяты. Таму і яго поэзія—поэзія колектыву па сэнсу; яго поэзія пяе пра ідэалы, змаганьне і пакуты ўсяго колектыву, а не паасобных герояў. Галоўны пэрсонаж твораў Сьмірненскага—колектыў басоты, вуглякопаў, дзяцей вуліцы і інш. Нездарма і не бяз прычыны першы сшытак твораў Х. Сьмірненскага завецца „Да бъде ден“ [1])—гэта жаданьне, за ажыцьцяўленьне якога змагаюцца мільёны рабочых мас ня толькі Баўгарыі, але і ўсяго сьвету.

„Да бъде ден!“—паказвае, што гэты лёзунг—жаданьне ня ёсьць утопія, нейкі далёкі ідэал, а што гэта ёсьць імкненьне мільёнаў рабочых мас, якое ня сёньня, так заўтра, а павінна будзе ажыцьцявіцца. Гэты

[1]) „Будзе дзень“ *(З. С.)*.

заўтрашні дзень гарантуе „Йохан“, гарантуюць „Карл Лібкнэхт“, „Чырвоныя эскадроны“ і, урэшце, „*Мы*“ [1]).

Хрысто Сьмірненскі пяе пра заўтрашні дзень, але ён памятае і аб сучаснасьці. Ён добра ведае, што

> Ний всички сме деца на ма́йката—земя
> но чужда е за нас кърмящата и гръд [2]),

што

> Над нас се вие бич, над нас тежи хомот
> и рабския закон на жълтия метал [3]),

але ён такçама ведае, што „ідзе дзень суда“ (иде ден на съд-ний), калі „ўскіпіць наша сьвятая нянавісьць“ і тады мы галосна абвесьцім усім:

> И ние сме деца на майката земля! [4])

і тады ўсюды на ўсёй земнай кулі прагрыміць магутны крык:

> Пролетарии от всички страни
> пролетта и за нас прозвъни
> с обнекрилия зо́в на борбата! [5]) („Пролетта на робите“).

Тэстамант, які пакінуў Х. Сьмірненскі ў вершы „Мы“, і амаль ва ўсіх іншых сваіх творах—быў тэстамантам змагара колектывістага. Вершы Сьмірненскага—гэта захапленьне, энтузыязм, імпэт, імкненьне, упэўненасьць у хуткай перамозе. Сьмірненскі быў буравесьнікам пролетарскай рэволюцыі, „заўтрашняга дня“, які ён называе „дзен першы“.

„Аз ще дочакам празника на мойте братя“ [6]),—піша ён у сваім вершы „Пред бурята“. Бура—гэта адзін з асноўных мотываў яго поэзіі, гэта яна зьяўляецца сымболем рэволюцыі, бо гэта бура ператварае ціхія вуліцы ў

> ...своя мощен гнев
> тя буры огненны от барикады развява
> пред смутните отряди и блика трясъци
> и бурен рев [7]). („Улицата“).

Гнеў пролетараў поэта раўнае з Вязувіем, які бунтуе ад „безумни и разгулни празненства“ і засыпае попелам і абгортвае дымам плошчы, вуліцы і гарады. Так і пролетарыят у мінуты паўстаньня разьлівае свой гнеў, як Вязуві.

---

[1]) Назвы галоўных вершаў Х. Сьмірненскага.

[2]) Мы ўсе—дзеці маткі зямлі, але чужыя для нас яе грудзі (пер. *З. С.)*.

[3]) Над намі разьвіваецца бізун, над намі цяжкі хамут і рабскі закон жоўтага мэталю („Мы“) (пер. *З. С.)*.

[4]) І мы таксама ёсьць дзеці маткі зямлі („Мы“).

[5]) Пролетарыі ўсіх краін, вясна і для нас прышла з вогненнакрылым заклікам да змаганьня! („Вясна рабоў“).

[6]) Я яшчэ прычакаю сьвята маіх братоў. („Перад бурай“).

[7]) ...свой магутны гнеў то бура вогненна ідзе ад барыкады перад смутнымі атрадамі і блізка выбух і бурны рэў. („Вуліца“).

Нястрыманы парыў Сьмірненскі ажыцьцявіў у некалькіх вершах, узятых з гісторыі рэволюцыйнага змаганьня. „Смърта на Делеклюза" (Сьмерць Дэлеклюза)—моцны верш з часоў Парыскае комуны. Другі верш „Карл Лібкнэхт"—паказвае Карла Лібкнэхта такім, якім ён быў— „у неговата протестна демонстрацыя против войната, и във възстанието на Спартака, дето намери смърта си". „Але памятае яго Бэрлін, памятаюць усе, хто носіць свае аковы і рвецца іх скінуць".

Рэволюцыя—гэта справа не паасобных людзей, а клясы ў цэлым, такой яе малюе Сьмірненскі. Рэволюцыя—вышэй сваіх асабовых інтарэсаў. Такім рэволюцыянэрам ён малюе Йохана ў вершы „Йохан", які ідзе на барыкады за справу пролетарыяту, ня гледзячы на сьлёзы жонкі і дзяцей. Паўстаньне Спартака ў Бэрліне „Бурята в Берлин"—лепшы верш Сьмірненскага. Ніхто яшчэ так поўна не апісаў паўстаньня спартакаўцаў у поэтычным творы!

Сьмірненскі—малады поэта-пролетары, які ўсё сваё натхненьне, як для рэволюцыйнага змаганьня, так і для свае творчасьці чэрпаў ад— „Русия—надзеі прыгнечанага чалавецтва". Ён ёй прысьвечвае шмат вершаў у сваіх спытках, „Северен Спартак" — Кастрычнікавая рэволюцыя, „Москва"—„чиято звезда с рубинен лъч трепти над всяка горестна страна", „Три години", „Северно сияние", „Червените ескадрони" ды інш. вершы прысьвечаны Расії. Расія—краіна „канцавоснага зьзяньня", краіна „чырвоных эскадронаў", якія накіраваны „мільёнамі пролетараў".

И когáто сетний камък на обгърнатия в прáмък
и разплуха древен замък се отрони в пепелтá
вий слезнете от конете и земята целунете—
възцарете вéчна обич, вéчна правда на света! [1]).

„Чырвоныя эскадроны"—ачысьцяць, па Сьмірненскаму, зямлю ад „вековните напасти", яны-бо нясуць бадзёрасьць усяму прыгнечанаму чалавецтву.

Але вочы гэты сёнешніх сьпеваў і вершаў глядзяць у мінулае і вераць, што будучыня будзе ў іх руках—і яе яны чакаюць, за яе змагаюцца. Сьмірненскі быў ня толькі поэта „огнените гриви"—поэта „сьветлых дзён", поэта—„закліку"; ён бярэ ў сваю творчасьць і „цёмнае", „мінулае",—сёнешняе, якое трэба скінуць, змагацца супроць якога і заклікае Сьмірненскі. І ў гэтых вершах ён—мастак-грамадзянін. Яго вершы: „Старият музикант" (Стары музыка), „Уличната жена" (Жанчына вуліцы)—зьяўляюцца пэрлямі баўгарскай поэзіі. Дагэтуль яшчэ ніхто ў Баўгарыі не зраўняўся з Сьмірненскім. Трагедыя жанчыны ў

[1]) І калі апошні камень, абкружаны полымем
І старажытны палац—падуць у попел,
Вы сойдзеце з коняй і пацалуеце зямлю.
І запануе вечная любоў і вечная праўда ў сьвеце.
(„Чырвоныя эскадроны". *З. С.*).

баўгарскай рачаіснасьці, трагедыя „бяздушнай“ жанчыны, простытуткі, не намалявана яшчэ нікім так адкрыта, так моцна і сьмела. Але апісваючы „бяздушнасьць“ простытуткі, Сьмірненскі нічога дрэннага, зьняважальнага ня піша па яе адрасу. Ён паказвае яе як ахвяру капіталістычнага ладу. Сьмірненскі ва ўсіх сваіх творах заўсёды з сваімі „героямі“. Ён на баку гэтых сухотных вулічных „Братчетата на Гаврош“ („Браты Гаврош“), „вулічных жанчын“, ён з імі ў змаганьні на барыкадах, ён разам з імі чакае сьвята сваіх братоў.

Яго „вулічная жанчына“—„скача з сьлязамі на вачох“, „сьвяткуе свой вялікі грэх над блескам электрычных лямпачак“—але заўсёды застаецца вясёлай, заўсёды сьмяецца—усё-ж яна сама „разумее боль свайго сьмеху“. Яна сьмяецца, яна весела, але

Закйчила гърди с цвяхнали циклами
Са́ма посърнях цвя̀т,
Завръщаш се дома пияна от измами
За да беседваш с гостенина глад [1]).

І гэта цягнецца гадамі—цягнецца, пакуль сьмерць прыдзе, каб выканаць сваю работу.

„Но шо́м простре ръка душа́та им да вземе,
тя вмит ще се смутѝ:
всевласникът Живот превирал я на вре̂ме
и ти... ождавна без душа си ти!.. [2])

Вось такая „жанчына вуліцы“ па Сьмірненскаму. Падобен да яе і „Стары музыка“, які ўжо даўно сядзіць каля мосту і глядзіць на бягучае навакол яго жыцьцё. Праходзяць дні, тыдні, месяцы—стары сядзіць на тым-жа месцы і грае на скрыпцы, але праходзіць час і прыходзіць другі музыка, больш дужы, крыху маладзейшы, хоць сам і старэйшы, чымся стары музыка:

А зад гърба́ му присто́ня Смърша
кървава и мнобръка,
и по циту́лката старческа тя̀
тебли полекичка лъка [3]).

---

[1]) На грудзь паклаўшы букет альпійскіх фіялак,
Ты сама—загінулая кветка,
Ты зьвяртаешся дадому заўсёды п'яная ад ашуканства,
Каб дома пагутарыць з гасьцём сваім—голадам. *(З. С.)*.

[2]) Але калі толькі працягнецца рука, каб узяць душу тваю,
Яна на момант крыху пасмутнее
Тваё жыцьцё даўно злавіла час,
Ты цяпер жывеш ужо бяз душы. *(З. С.)*.

[3]) І ззаду, за яго сьпіной стаіць ужо сьмерць
крывавая і шматрукая,
і па скрыпцы яна. старая,
водзіць сама смычком.

(„Стары музыка“ *З. С.)*.

Нешта Караленкаўскае ёсьць у гэтым вершы Хр. Сьмірненскага („Старият музикант“). Ён пакідае чытачу самому рабіць вывады. Сам чытач няхай падумае, зразумее, знойдзе прычыны гэтае няроўнасьці клясавае несправядлівасьці; а потым—няхай сам знойдзе шляхі, каб зьнішчыць гэта ўсё, наблізіць да новага жыцьця. Сьмірненскі дапамагае чытачу рабіць гэты аналіз твору.

Зразумела, Х. Сьмірненскі павінен быць поэтай эпосу, а ня лірыкі. Нават і лірыка Сьмірненскага—лірыка „Жанчыны вуліцы“, „Старога музыкі“—аддае эпосам. Творчасьць Сьмірненскага ня ведае утылітарызму, ён нідзе ня раіць, не ўгаварвае. Патос яго поэзіі—любоў да Кастрычнікавае рэволюцыі ў Расіі і яго жаданьне ісьці па яе шляху. Гэта ён паказвае і да гэтага ён кліча ўсіх пролетараў Баўгарыі.

Х. Сьмірненскі зьяўляецца адначасова і адным з найлепшых баўгарскіх гумарыстых. Вось як характарызуе Сьмірненскага крытык В. Хрыстаў у сваім артыкуле „Сьмірненскі, як гумарысты“, прысьвечаным 5-й гадавіне пасьля сьмерці Х. С. [1]).

„У баўгарскай літаратуры дагэтуль былі вядомы тры групы гумору. Саркастычны гумор, які ўколвае, жаліць, замест таго, каб сьмяяцца— гэта гумор Хрысто Боцьёва. Мяккі гумор—які насьмяхаецца і сьмешыць, але не зьневажае—гэта гумор Алеко Канстантынава і трэці тып гумору гэта гумор Х. Сьмірненскага. У ім, акрамя ўразьлівасьці, пякучасьці Х. Боцьёва, гумору Канстантынава, ёсьць яшчэ адзін элемэнт—трагізм Гогалеўскага гумору. Але ў Сьмірненскага гэта ня ёсьць пацыфіскі гумор Гогаля, над якім вісіць воблака шэрай расійскай рачаіснасьці, пад нізкім небам царскага дэспотызму. У Сьмірненскага гэты гумор—ёсьць гумор барацьбіта, які параджае пакуты рэволюцыйнай клясы, але ніколі ня прыводзіць да пэсымізму. Гумор Х. Сьмірненскага—ёсьць спэцыфічны гумор сёнешняга дня“.

Тэмы, якія Сьмірненскі абгаварвае ў сваіх гумарыстычных творах— вельмі рознастайныя. Вясковыя кулакі, гарадзкія багатыры, паліцыя, соцыял-дэмократы-рэформістыя, міністры, політыкі, поэты, таварышы-комуністыя—вось галоўныя пэрсонажы гумарыстычных твораў Х. Сьмірненскага. Усе яны атрымліваюць пад пяром Сьмірненскага свой сапраўдны твар. Нездарма Х. Сьмірненскага за яго гумарыстычныя творы назвалі „маладым чырвоным д'яблам“.

Х. Сьмірненскі і ў сваім гуморы застаецца верным сынам свае клясы, „дзіцём сонца“.

Апошнім творам Х. Сьмірненскага зьяўляецца яго лірычная поэма „Зимни вечери“ [2]). Гэты твор характарызуе поэтычную „сьпеласьць“ поэты. Аднак і тут ён застаецца верным сынам свае клясы; з першых

---

[1]) „Смирненски—като хуморист“ В. Хрыстов. Зборнік „Х. Смирненски“. 6 стар.

[2]) „Зимни вечери“ Х. Смирненски, з прадмоваю Г. Цанева. Сафія, 1924.

радкоў ён вядзе чытача да сафійскіх рабочых кварталаў—грабніц, „дзе цёмна, як у могілках“. У гэтых кварталах жабрацтва, беднасьць

глядзіць праз мутнае шкло.

„Зимни вечери“—журботная мэлёдыя соцыяльнай несправядлівасьці, мэлёдыя, пераплеценая прыгожымі мастацкімі поэтычнымі малюнкамі.

У Хр. Сьмірненскага поэта-гуморысты, грамадзянін, рэволюцыянэр-комуністы—ішлі поруч. „І ён быў добрым поэтай, бо нёс разам гістарычную праўду рэволюцыі“, так пісаў аб Хр. Сьмірненскім крытык Х. Радзеўскі.

Сьмірненскі пачаў сваю поэтычную дзейнасьць у пэрыод абвастрэньня клясавае бойкі, у пэрыод, калі рабочая кляса Баўгарыі мела ўжо свае яскравыя рэволюцыйныя лёзунгі. Вось гэта і зрабіла поэзію Сьмірненскага больш яскравай, сьвядома клясавай, сапраўды рэволюцыйнай.

У баўгарскай літаратуры Сьмірненскі займае месца насьледніка Боцьёва. Боцьёўскія мотывы ў Сьмірненскага набываюць яскравую афарбоўку. Боцьёў быў пачынальнікам соцыялістычнай поэзіі. Пасьля яго быў пэрыод народніцкай літаратуры. Боцьёў быў пісьменьнікам трэцяга стану—дробнага шляхецтва, нацыяналістычнай дробнай буржуазіі. Х. Сьмірненскі—поэта новага масавага пад'ёму, поэта чацьвертага стану, поэта баўгарскага пролетарыяту. „Пролетарыят—гегемон у змаганьні за ўвесь працоўны народ, за вызваленьне шырокіх народных мас. Таму Сьмірненскага можна сьмела назваць народным поэтай у ісьцінным значэньні гэтага слова“ [1]).

У Сьмірненскага поэта і грамадзянін зьліліся ў адно непарыўнае цэлае. Яго поэтычная творчасьць была заўсёды соцыяльнай грамадзкай работай, і свае ідэалы ён выказваў і абараняў у форме літаратурна-мастацкай.

Стыль Сьмірненскага наогул бадзёры, юнацкі, баявы. Рытм жыцьцёвы, шпаркі, баявы ў вершах нават і па сэнсу, напр.: „Чырвоныя эскадроны“, „Паўстаньне Вязувія“ ды інш. У вершах з павольным, нярадасным зьместам рытм павольны і павеўны. Так, напр., у „Стары музыка“, „Голад“, „У Паволжы“, „Иохан“ ды інш.

Адна асаблівасьць твораў Сьмірненскага—гэта пасьпяховае выкарыстаньне алітэрацый у баўгарскай мове. Так:

„*С*р*е*д *с*енкште на вековѐте
закъ*р*мен *с* бу*р*я и пожа̀*р*
*с*мехът ни бодъ*р* я*р*ко свѐти
в *с*иянието на ханджа*р*“

(„Чырвоны сьмех“) [2]).

---

[1]) Бакалов. Георги Христо Смирненски. София. 1925. Кн. выд. „Ясная Поляна“.

[2]) Сярод ценяў стагодзьдзяў,
ускормлены у буры і пажар.
жывы наш сьмех ярка сьвеціць
у сіяньні хандажар (турэцкі вялікі меч). *(З. С.)*.

Або:

И *прибърбен, той пристъня едва*
*спира се тук-там и стене*
*шепнат му злъчни, невнятни слова*
*зимнити вихри студени*

(„Стары музыка“)[1].

І ў вершы „Йохан“:

*Безумцы! Всека капка кръв пред вас*
*ще бликне нови хиледи борци!*[2]

Умовы баўгарскай рачаіснасьці вінаваты ў тым, што за гэтыя 5 год, якія прайшлі са дня сьмерці Хрысто Сьмірненскага, аб баўгарскай літаратуры наогул і аб Х. Сьмірненскім паасобку вельмі мала, а то і зусім ня ведаюць за межамі.

У самой Баўгарыі Хрысто Сьмірненскі цяпер „абвешчаны па-за законам“. Так у ліпні 1928 г. радактара профсаюзнай газэты „Адзінства“ судзілі па „закону аб абароне дзяржавы“ за тое, што той надрукаваў у першамайскім нумары газэты верш Х. Сьмірненскага „Першае мая“.

У Баўгарыі мала выдана кніжак аб Сьмірненскім, нават дагэтуль ня выданы поўны збор твораў Сьмірненскага. Ня гэтак даўно адно комэрцыйнае буржуазнае выдавецтва „Хемус“ абвясьціла аб сваім жаданьні выдаць творы Сьмірненскага. Гэта яно робіць толькі з-за комэрцыйных выгад, бо ведае, што творы Сьмірненскага хутка будуць усе распраданы. Пакуль гэты проект застаецца проектам.

Мы ўпэўнены ў тым, што, калі зьменіцца ўнутранае становішча ў Баўгарыі,—а аб тым, што яно зьменіцца—сьведчаць сучасныя падзеі ў Баўгарыі; калі пролетарыят сам будзе гаспадаром свайго жыцьця—тады ня толькі ў Баўгарыі, але і за межамі будуць больш ведаць аб пачынальніку баўгарскай пролетарскай літаратуры Хрысто Сьмірненскім.

Ён заслугоўвае гэтага!

---

[1] І згорблены ён, амаль ідзе—
Застановіцца то там, то сям—усюды стогне,
Ціха шапоча яму, незразумелыя словы,
Зімні студзёны вечар.

*(З. С.)*.

[2] Вар'яты! Кожная кропля крыві перад вамі
Узбрызьне новымі тысячамі барацьбітоў.

(Пер. *З. С.*).

# КНІГАПІС

**Працы Горы-Горацкага Навуковага Таварыства. Том V. Коштам Інстытуту Беларускае Культуры.** *Горы-Горкі. БССР. 1928. Стар. 245. Цана 2 руб.*

Беларуская акадэмія сельскае гаспадаркі мае моцны дасьледчы актыў, што стварыў працаздольнае навуковае таварыства. Дзякуючы гэтаму таварыству было зроблена шмат цікавых досьледаў, якія цяпер і апублікаваны.

Паколькі прыродазнаўства дае пэўныя дакладныя веды, якія потым выкарыстоўваюцца для гаспадарчых мэтаў, дык добра зрабілі рэдактары зборніка, што раней зьмясьцілі артыкулы чыста натуралістычнага зьместу (71 старонка), а потым ужо даныя аб сельска-гаспадарчых досьледах (132 старонкі). У канцы знаходзіцца інформацыйны аддзел-статут таварыства і сьпіс яго членаў.

Для чужаземных вучоных выгодна тое, што кароткі зьмест артыкулаў даецца і па-нямецкаму.

Артыкулы ідуць адзін за адным паводле добра абмеркаванага пляну. Перш за ўсё—глебазнаўства: П.П. Рагавы даў артыкул „Глебы Беларусі (гео-морфолёгічны нарыс)“, Г. І. Пратасеня—„Глебы гаспадаркі Фатынь“, Р. Г. Страж — „Буфэрнае дзеяньне глебы Горацкага раёну“, К. Н. Кораткаў і І. Т. Іваноў—„Гліны Горацкага раёну“.

Пры артыкуле Рагавога ёсьць схэматычная глебавая карта БССР, складзеная ім на падставе паасобных прац ранейшых вучоных. Ёсьць і малюнкі глеб у разрэзе. У наступным досьледзе Г. І. Пратасені—„Глебы гаспадаркі Фатынь“—ёсьць і глебавая карта гэтае зямельнае маемасьці. Буфэрнае дзеяньне або здольнасьць глебаў захоўваць сваю рэакцыю знаходзіцца ў пэўнай сувязі з іх ураджайнасьцю. Таму зразумела ўся важнасьць дакладных досьледаў данае заявы. Гэта і бачым у артыкуле Р. Г. Стража. У артыкуле доцэнта К. Н. Кораткава і асыстэнта І. Т. Іванова аб глінах Горацкага раёну, гэтыя гліны разглядаюцца не як глеба для рольніцтва, а як мінэральная сыравіна для прамысловасьці (галоўным чынам—чарапічнае і цагельнае).

Мох сфагнум мае вялікае значэньне для зьмены характару мясцовасьці. Таму нічога дзіўнага, што З. М. Дзянісаў дасьледваў „Разьмяшчэньне відаў сфагнуму ў махавым насьціле імшару Горацкае лясное дачы“. Паданы і плян разьмяшчэньня розных відаў сфагнуму.

Зьдзічэньне культурных расьлін (таксама як і асваеньне дзікіх)—зьява вельмі цікавая і важная для гаспадаркі. Я. Н. Сьвірскі напісаў артыкул аб пашырэньні „Бэльліс Пэрэньніс“ у Горы - Горках“. Гэтая стакротка павялічвае сваю тэрыторыю і дае нямала цікавых об'ектаў для назіраньня (анамаліі і некаторыя іншыя цікавыя асаблівасьці, што не наглядаюцца ў культурных экзэмпляраў).

Пладавод зацікавіцца артыкулам М. Ганчарына: „Да пытаньня аб вызначэньні апылкавальнікаў пладовых дрэў лябораторным шляхам“.

Беспасрэдна для рольніцтва важнае значэньне мае артыкул проф. О. К. Кедрава-Зіхмана „Аб уплыве торфу і фосфарыту на ўраджай і хэмічны склад яравой пшаніцы і выкі“. Ня менш значэньня за добрае ўгнаеньне мае і сартовы склад культуры. Гэтаму прадмету прысьвечаны артыкул Г. Р. Рэго „Сартовы склад галоўных культур БССР“. Цікава і „Дасьледваньне засеўнага матэрыялу Калінінчшыны“, зробленае А. Савельевым.

Беларусь і цяпер, як і раней, можа ганарыцца сваімі гатункамі пладоў—бэрамі, сапяжанкамі, бойкенамі, шклянкоўкамі, пэпінкамі, антонаўкамі ды іншымі. Аб іх мы маем весткі ў артыкуле проф. М. І. Бурштэйна „Матар'ялы да вывучэньня садоўніцтва БССР“ (працяг). Плады, аднак, не заўсёды выкарыстоўваюцца мэтазгодна. Р. С. Гуржы рабіў досьледы наконт магчымасьці вінаробства ў Горацкім раёне пры ўмове карыстаньня мясцовымі пладамі і ягадамі ў якасьці матэрыялу. Паводле апублікаваных вынікаў выходзіць, што гэтай справай заняцца варта. І сапраўды, ня толькі інтарэсы мясцовага садоўніцтва, але і чыста гігіенічныя меркаваньні спрыяюць гэтай справе. Замест агіднае гарэлкі мець чыстае пладовае віно, зразумела, значна лепш.

Да жывёлагадоўлі маюць дачыненьне артыкулы: С. І. Журыка „Пажыўная каштоўнасьць беларускае макухі“ і Т. А. Паўлава: „Матар'ялы да вывучэньня ўтрыманьня мясцовага малочнага быдла і мэтысаў мясцовага з пародзістым быдлам на навучальнай фэрме Бел. акадэміі с.-г.“. Аўтар зазначае на тое, што ня пры ўсякіх умовах карысна бывае трымаць у гаспадарцы пераважна каровы з найвышэйшай удойнасьцю. Яны часта бываюць і найбольш пераборлівыя і таму перш трэба палепшыць і павялічыць кармовыя запасы, а потым ужо палепшыць гатунак кароў. Сялянская гаспадарка будзе мацнейшаю пасьля зямляўпарадкаваньня, якому і прысьвечаны артыкул А. Е. Камінскага „Да пытаньня аб чакаемым (?! *Л. С.*) эфэкце зямляўпарадкаваньня ва ўмовах Беларусі“. Кніга напісана наогул даволі чыстай моваю, хоць мусіць, частка артыкулаў перакладзена з расійскае мовы. Гэткіх рэчаў, як „чакаемыя“, параўнальна ня шмат.

**Л. Смаляціч.**

**Антон Навіна (А. Луцкевіч). Вільня ў беларускай літаратуры. Публічная лекцыя, чытаная ў 1925 г. з пазьнейшымі дапаўненьнямі. У зборніку „Адбітае жыцьцё“ таго-ж аўтара, кніжка I.** *Вільня, 1929, стар. 122—137.*

Адпаведна краязнаўчым прынцыпам беларуская літаратура яшчэ вельмі мала вывучалася. Таму кожная такая праца спатыкаецца з асаблівай цікавасьцю. Тым большую цікавасьць становіць гэтая праца, выкананая па той бок мяжы, у паняволенай Заходняй Беларусі.

Як вядома, кожны беларускі край або горад мае больш значную або менш значную ў агульнанацыянальнай літаратуры сваю літаратуру. Разам з тым, кожны беларускі край або горад у большай ці ў меншай меры адлюстраваны ў беларускай літаратуры. Гэта дае магчымасьць краязнаўцу-літаратуразнаўцу вывучыць краёвую літаратуру г. зн. разьвіцьцё літаратуры ў сваім краі або горадзе, а таксама дасьледваць, як у беларускай літаратуры паказаны мясцовы край або горад.

Да першага віду прац у нас належыць „Беларуская літаратура ў Латвіі“ („Полымя“, 1928, № 7, стар. 50—172), „Беларуская лірыка ў Латвіі“ („Маладняк“, 1928, № 10, стар. 103—107), „Там, дзе твар ыў Каганец“ („Наш край“, 1928, № 10, ст. 14—26). „Віцебская краёвая літаратура“ ды інш. Першай з другога віду прац зьяўляецца праца „Вільня ў беларускай літаратуры“.

У першым разьдзеле гэтай працы аўтар абмяркоўвае наогул проблему гораду ў беларускай літаратуры. Ён

зусім слушна адзначае, што горад у данашаніўскай беларускай літаратуры амаль зусім не апісваўся, а часамі выклікаў адмоўныя адносіны да сябе з боку пісьменьнікаў („Немец“ М. Бурачка). Пасьля рэволюцыі 1905 г. беларуская літаратура, пачынаючы Цёткай і канчаючы апошнімі днямі, адлюстроўвае горад у сваіх творах даволі значна, хоць і ў непараўнальна меншай ступені, чым вёску. Больш за ўсіх прасякнуў сваю творчасьць гарадзкімі мотывамі, паводле думкі аўтара, М. Багдановіч. Пры гэтым А. Навіна адзначае, што адных беларускіх пісьменьнікаў больш захапіў вонкавы выгляд гораду (Я. Колас), другіх—мінулае гораду (Багдановіч, Бядуля), трэціх—проблемы сучаснага гарадзкога мяшчанскага жыцьця (Аляховіч) і чацьвертых—горад, як кузьня новага культурнага і гаспадарчага жыцьця Беларусі (Чарот, Гурло, Гартны). У канцы аўтар адзначае, што Вільня адлюстравана ў беларускай літаратуры ў большай меры, чым усе іншыя гарады.

Пасьля гэтага ўступу ў другім разьдзеле свае працы, аўтар абмяркоўвае, як паказаў Вільню ў сваіх творах Якуб Колас. Апошні захоплены вонкавым характарам Вільні і параўноўвае яго з вясковым харастном. Нутранога жыцьця Вільні поэта не закрануў і, як цьвердзіць аўтар, Вільня так і асталася для яго нейкай „незнаёмай красуняй“.

У трэцім разьдзеле свае працы А. Навіна высьвятляе месца Вільні ў творчасьці пісьменьніка-гараджаніна Максіма Багдановіча, які першы з усіх пачаў пісаць пра Вільню. Ён у сваіх творах адлюстраваў Вільню, як звычайнае „шаблённа-банальнае места“ і як горад беларускага мінулага, калыску беларускай культуры.

Чацьверты разьдзел працы аўтара заняты вызначэньнем адлюстраваньня Вільні Янкам Купалам і Францішкам Аляховічам. Купала ў сваім вершы „Замковая гара“ апяваў „Вільню мінуўшчыны“, а драматург—віленец Аляховіч, паказваў у сваіх творах учарашніх людзей Вільні.

У пятым разьдзеле, пасьля невялічкай нататкі аб тым, што ў сваім „Антоне“ Максім Гарэцкі даў „кінэматографічны абразок віленскага жыцьця“, як комплексу рознанацыянальных узаемаўплываў, аўтар вызначае ролю Вільні, як калыскі, у якой дзейнічала і культурна-нацыянальна выгадавалася большасьць беларускіх пісьменьнікаў. Паводле яго думкі, Аляховіч у „Няскончанай драме“ ўжо паказаў „змаганьне жывых беларускіх сіл“ у Вільні. Далей ён вызначае, што сваімі творамі аб Вільні „Бядуля будуе жывы мост паміж Вільняй мінуўшчыны і Вільняй сучаснай“.

Шосты разьдзел працы паказвае, што Лявон Родзевіч вызначае Вільню, як калыску беларускага культурна-нацыянальнага адраджэньня, сталіцу Беларусі і месца, дзе абудзілася беларуская сьвядомасьць работніцкіх гушчаў, якія 1 мая 1925 году на Гедымінавай Гары ўзьнялі чырвоны сьцяг з беларускім надпісам.

У сёмым разьдзеле аўтар вылучае творы Уладзімера Жылкі, якія паказваюць Вільню абуджальніцай беларускасьці і выдатным беларускім местам у будучыні.

Урэшце, у восьмым, заключным разьдзеле аўтар даводзіць, што вешчаваньне Жылкі аб будучыні Вільні збудзецца. У новыя часы Вільня была рассаднікам польшчыны і „русскою твердынею“, а цяпер абернена ў „czysto polskie miasto“, якое павінна ўступіць „прыбою з беларускіх палёў“ і навекі адрадзіцца беларускім горадам,—думае А. Навіна.

Пасьля дэталёвага азнаямленьня з гэтай працай зусім нормальная вялікая зацікаўленасьць да яе значна астывае. Абмежаванасьць ужытага аўтарам матэрыялу і аўтаравы мэтодолёгічныя прыёмы—галоўная гэтаму прычына.

Аўтар пабудаваў сваю працу выключна на творах дакастрычнікавае пары і часткова на творах пасьля-

кастрычнікавае пары пісьменьнікаў, якія тварылі па-за межамі савецкае бацькаўшчыны. Творы пасьлякастрычнікавае пары пісьменьнікаў з БССР аўтар не скарыстаў дзякуючы цэнзурным умовам, адсутнасьці некаторых з іх у Вільні і свайму нежаданьню некаторыя скарыстаць. З другога боку, ён спыніў свой агляд на 1925 годзе, тымчасам як напісанае ў назьве працы: „з пазьнейшымі дапаўненьнямі абавязвала аўтара працягнуць яго хоць-бы да 1928 году.

Усе нескарыстаныя аўтарам літаратурныя творы паказалі-б Вільню ў беларускай літаратуры крыху інакш, чым яна паказана, калі-б, зразумела, былі прыцягнуты да досьледу.

Галоўнаю мэтодолёгічнаю памылкаю аўтара зьяўляецца тое, што аўтар, не з усяго скарыстанага матэрыялу рабіў усе магчымыя вывады, а пад некалькі загадзя прынятыя тэзы падбіраў патрэбныя довады з матэрыялаў. Адпаведна гэтаму ён даў агляд Вільні ў беларускай літаратуры, як калыскі беларускага нацыянальнага адраджэньня. А гэта ўжо штось іншае ад самой назвы працы.

У сувязі з гэтым-жа аўтар даў няправільнае ідэолёгічнае асьвятленьне. Ня проста нацыянальнае вызваленьне беларускага народу, а соцыяльнае і нацыянальнае вызваленьне беларускай працоўнай клясы зьяўляецца кіраўнічай ідэяй новай беларускай крытыкі, якая даўно падмяніла сабой першую, нашаніўскую.

Усе гэтыя асноўныя памылкі выклікалі і шэраг іншых. Ня прыбой сялян вызваліць Вільню з-пад польска-панскага ўціску, як думае аўтар, а работнікі, якія ўзьнялі памянёны штандар у 1925 г., зразумела, пры дапамозе сялянскай беднаты, а таксама рабочае клясы Польшчы. Паводле думкі аўтара, старая віленская буржуазная беларуская культура складае сабой асаблівую Душу (з вялікай літары) Вільні, якой ня мае Менск, і таму, Вільня больш адлюстравана ў беларускай літаратуры, чым Менск. Па-першае, і ў старым Менску была свая буржуазная беларуская літаратура і, значыць, ён мае сваю Душу, хоць, можа, меншую і з меншай літары. Падругое—сталічным літаратурным беларускім цэнтрам да Кастрычнікавае рэволюцыі была Вільня, а, як вядома з іншакраёвых літаратур, сталіца найбольш з усіх гарадоў адлюстроўваецца ў літаратуры. Па-трэцяе, Менск у нашай найноўшай літаратуры адлюстраваны даволі багата. Па-чацьвертае, мы называем памянёную Душу буржуазнай культурай, адносімся да яе утылітарна і часамі скарыстоўваем часткі яе, як як матэрыял пры будаваньні беларускай пролетарскай культуры, і, урэшце, многія віленцы ня так ужо прыхільны да Душы свайго гораду і ўцякаюць адтуль у Менск, як сьцьвердзіў сам аўтар на прыкладзе адраджэнца Васіля з „Няскончанай драмы“ Аляхновіча.

Кожны горад зьяўляецца сваясаблівым, непаўторным культурна-гаспадарчым комплексам, які і адлюстроўваецца ў літаратуры. Заняўшыся ня гэтым, а містычнай Душой, аўтар зусім няпоўна распрацаваў сваю тэму, ды прытым некалькі раз выявіў сваю пагарду да віленскае „таўпы“, якая па сутнасьці складае аснову, масу віленскага жыцьця.

Адзначаючы заслугу аўтара, як пачынальніка данага віду працы, мы змушаны падкрэсьліць патрэбнасьць у будучых працах аб іншых гарадох і ў новай працы аб Вільні, будучым рабочым горадзе беларускім, ухіліцца ад усіх памылак данага аўтара.

**М. Касьпяровіч.**

**Вакол сьвету. № 1. С. Майер. У Новай Каледоніі.** *Беларускае Дзяржаўнае Выдавецтва. Менск, 1929 г. Стар. 263. Цана 1 р. 25 к.*

Відавочна Дзяржаўнае Выдавецтва мае на мэце выдаць цэлы рад кніжок аб далёкіх краінах. Успаміны Сымона Майера, удзельніка Парыскае ко-

муны, потым палітычнага катаржніка і сасланца—кніжка вельмі каштоўная. Яе трэба ставіць на роўні з „Записками из мёртвого дома“ Дастаеўскага. Аб зьмесьце яе больш падрабязна скажам далей. Але, паколькі гэта ёсьць францускі роўналежнік вышэйпамянёнага твору, то ясна, што ня варта было ўлучаць яго ў сэрыю „Вакол сьвету“. Пад гэтым загалоўкам зьмяшчаюцца звычайна падарожжы, прыгодніцкія раманы аб экзотычных краінах і да г. п. Гэтыя кніжкі ўлюбёнае чытаньне падлеткаў. Успаміны Сымона Майера ня надта доўга спыняюцца на апісаньнях прыроды. Гэтыя малюнкі ёсьць, але ўвага аўтара накірована на іншае. Таму чытач-падлетак, набыўшы гэтую кніжку, будзе расчараваны. Апроч таго у кніжцы Майера апісваюцца ў некаторых месцах аномаліі ў сфэры плоцьцевага жыцьця крымінальных элемэнтаў,—наогул кніжка разьлічана на саўсім дарослага чытача. Дзяржаўнае Выдавецтва добра зрабіла, выдаўшы гэтую кніжку, але ня трэба было ставіць загаловак „Вакол сьвету“. Лепш было-б даць адпаведную для падлеткаў перааправоўку з вялікімі папаўненьнямі з іншых крыніц адносна прыроды і этнографіі краю. Але справа ўжо зроблена. Можна цяпер даць разгляд гэтае кніжкі ў яе цяперашнім выглядзе. Пераклад зроблен ня ўсюды ўдала: ёсьць „васьміногія шасьціножкі“, стар. 125, „нічога агульнага“ („нічога супольнага“) ст. 145 і т. п.

Трэба мець здаровыя нэрвы, каб чытаць „Записки из Мёртвого Дома“ Дастаеўскага або „У Новай Каледоніі“ Сымона Майера. Лёс абодвух паліткатаржан быў прыблізна аднолькавы. Іх прысудзілі да кары сьмерцю, потым „уласкавілі“, „памілавалі“, г. зн. выправілі на катаргу, а потым у сасланьне і, урэшце, дазволілі вярнуцца на бацькаўшчыну. Гэтыя ўспаміны—гэта дзьве кнігі, поўныя жаху. І цяжка сказаць, хто быў больш жудасна лютым—агідны зьвер Мікола Першы Палкін, ці „рэспубліканец“ прэзыдэнт Т'ер, сплямлены крывёю комунараў і іх нялюдзкімі пакутамі.

Усе чыста гатункі катаваньняў і зьдзекаў мелі мэтаю фізычнае зьніштажэньне катаржнікаў: адных забівалі насьмерць, іншых даводзілі да вар'яцтва, некаторых да роспачных учынкаў, за якія ўжо каралі расстрэлам або павешаньнем у Сібіры, расстрэлам або гілётынаю ў Каледоніі. У Сібіры яшчэ каралі прагнаньнем „праз шых“ („сквозь строй“); у Каледоніі білі людзей насьмерць і без праформы сапраўднага суда. Тыпы катаржнікаў, катаў, дазорцаў даюцца ў Сымона Майера вельмі яскрава. Яго ўспаміны хронолёгічна прыходзяцца якраз па сярэдзіне паміж мэмуарамі Дастаеўскага і Мельшына. Нячуваная жорсткасьць і зьдзекі паказваюць, што начальства не клапацілася аб новым жыцьці для катаржнікаў, а імкнулася да іх фізычнага зьніштажэньня. І жудасным сымболем гэтае сьляпое адданасьці старым поглядам, гэтага недарэчнага консэрватызму—зьяўляецца самагубства аднаго ката, які павесіўся з гора калі гілётыну ня тое, што скасавалі (дзе-ж гэта бачана ў буржуазным сьвеце), а толькі хацелі рэформаваць „палепшыць“ яе конструкцыю. І сярод усіх гэтых тыпаў героі камуны захоўвалі ў большасьці цьвёрдую адданасьць сваім ідэям, гуманныя людзкія пачуцьці, спагаду да людзей і да ўсяго жывога. Перайшоўшы з катаргі ў сасланьне яны абкружалі сябе хатнімі жывёламі, якія значна палягчалі і ўпрыгожвалі гаротнае жыцьцё выгнанцаў, некаторыя комунары ў сасланьні вельмі старанна займаліся гаспадаркай, наглядамі зьявы прыроды і г. д. Кніжка выдадзена добра; ёсьць малюнкі і карта пуцявіны ў Новую Каледонію, кніжка ня надта дарагая. А ў наступных выпусках „Вакол сьвету“, мы чакаем іншае тэматыкі.

**Л. Цьвяткоў.**

Полымя, 1929, № 6

# ХРОНІКА БЕЛАРУСКАГА КУЛЬТУРНАГА ЖЫЦЬЦЯ

* Саўнарком БССР асыгнаваў на лекавую дапамогу беларускім пісьменьнікам 2.500 рублёў. Таксама саюзам дана 2 месцы на курорты і дзесяць месцаў у дом адпачынку. На пасяджэньні праўленьня дому пісьменьнікаў гэтыя сродкі разьмеркаваны паміж 30 чалавекамі адпаведна стану іх здароўя і матэрыяльнага забесьпячэньня.

* Цішка Гартны здаў Беларускаму дзяржаўнаму выдавецтву першы том збору твораў, у які ўваходзяць вершы. Ён-жа скончыў і падрыхтаваў да друку трэцюю частку роману „Сокі Цаліны“—„Крыжавыя дарогі“.

* Вышла з друку трэцім выданьнем апавяданьне М. Зарэцкага „Голы зьвер“.

* Белдзяржкіно ўнесла ў плян гэтага году фільм „Навальніца“ з эпохі бежанства па сцэнарыю Алеся Ляжневіча.

* Анатоль Вольны зараз піша сцэнары да культур-фільму „Наша пяцігодка“. Ім-жа задумана цікавая гістарычная тэма „70 і 80 гады ў беларускім соцыяльна-культурным руху“.

* „Беларускі рабочы тэатр“ мае з восені перайсьці на сталую працу ў Гомельшчыну, стаўшы гомельскім акруговым тэатрам.

* Галоўмастацтва абавязала Белдзяржкіно на працягу пяцігодкі зрабіць спробы здымкі беларускае гукавое фільмы і азнаямленьня беларускага грамадзтва з гукавымі фільмамі іншых кіноорганізацыяй.

* У разгледжаным і зацьверджаным Галоўмастацтвам пяцігадовым пляне Белдзяржкіно прадугледжана давесьці лік фільмаў к канцу пяцігодкі да 14 з 8 культурфільмамі; павялічыць кіноўстаноўкі ў мястэчках з разьлікам 1 на 2.000 чал. і ў вёсцы адну перасоўку — на 12.000 насельніцтва.

* У гістарычным музэі і Ленінскай публічнай бібліотэцы ў Маскве знойдзены тры беларускія аповесьці старых часоў аб Волаце Валатовічу. Адна аповесьць 1614 году, другая—1672 г. і трэцяя—1749 г. Аўтары аповесьцяй невядомы.

* Дзяржаўная акадэмія мастацкіх навук у Маскве ў сваім акадэмічным пляне вызначыла плян працы па вывучэньню мастацтва народаў СССР. Для концэнтрацыі гэтай працы пры акадэміі ўтвораны спэцыяльны камітэт, у якім з леташняга году існавалі наступныя аддзелы: грузінскі, украінскі і татарскі; у гэтым годзе заснаваліся аддзелы: беларускі, узбэцкі і яўрэйскі.

Да працы ў нацыянальных аддзелах прыцягнуты дасьледчыкі, пісьменьнікі і мастакі.

У беларускім аддзеле зараз прымаюць удзел наступныя т. т.: Шукайла, Хлябцэвіч, Равенскі, Бярозка, Філіповіч, Якоўчык, Буйла К. і інш. Апроч памянёных асоб, далі згоду прымаць удзел у беларускім аддзеле Я. Купала і Цішка Гартны.

На пленуме акадэміі, які адбудзецца ўвосень, будзе ўзьнята пытаньне аб зацьверджаньні цэлага шэрагу беларускіх пісьменьнікаў праўдзейнымі членамі акадэміі, у тым ліку Я. Купалы, Якуба Коласа і Цішкі Гартнага.

Беларускі аддзел зараз займаецца як навукова-дасьледчай, так і грамадзка - популярызацыйнай працай. Вядзецца падрыхтоўка да арганізацыі сустрэчы прадстаўнікоў беларускага і расійскага мастацтва, а таксама па арганізацыі выстаўкі беларускага мастацтва пры акадэміі і за межамі СССР; падрыхтоўваюцца да выданьня популярныя брошуры аб беларускім мастацтве. У першую чаргу будуць надрукованы брошуры на тэмы: сучасная беларуская літаратура, беларускі тэатр, беларуская народная песьня і музыка, беларускае сучаснае мастацтва.

* У Беларускай акадэміі навук распрацоўваецца пытаньне аб арганізацыі экспэдыцыі ў цэнтральную Сібір. Экспэдыцыя ставіць сваёй мэтай вывучыць колёнізацыйныя вучасткі для перасяленьня з БССР. Апроч гэтага, экспэдыцыя мае правесьці вывучэньне стану, культурнага быту і інш. раней пераселеных у Сібір беларускіх сялян.

* У некаторых мясцох Віцебскай акр. паміж насельніцтвам існуе некалькі варыянтаў поэмы „Тарас на Парнасе". У Сураскім музэі ёсьць запіс гэтае поэмы, запісанае ад 65-гадовага старыка.

* Беларуская асоцыяцыя рэвалюцыйных мастакоў скончыла перагаворы з асоцыяцыяй рэволюцыйных мастакоў Украіны аб організацыі ў Менску выстаўкі украінскага мастацтва. У выстаўцы прымуць таксама ўдзел члены асоцыяцыі рэволюцыйных архітэктараў Украіны. Выстаўку мяркуецца адкрыць увосень. На ёй выставяць свае работы каля 40 мастакоў і архітэктараў Украіны.

* Прэзыдыум акадэміі навук уключыў у плян будаўніцтва будучага году пабудову Беларускай геофізычнай обсэрваторыі. Апошняя будзе мець у раёнах БССР 60 пунктаў.

За горадам намячаецца таксама абсталяваньне сэймографічнай станцыі. Работы будуць каштаваць каля 100.000 руб.

* У гэтым годзе археолёгічная камісія БАН ладзіць цэлы шэраг археолёгічных экспэдыцый. Адна экспэдыцыя накіроўваецца на р. Сож, дзе будзе працягваць раскопкі палеолітычнай стаянкі каля в. Бердыж (археолёг Палікарповіч). Другая экспэдыцыя, пад кіраўніцтвам таго-ж археолёга, будзе вывучаць стаянкі бронзавага веку на нізоўях р. Прыпяці (Мазыршчына).

Экспэдыцыя на рр. Случы, Прыпяці пад кіраўніцтвам археолёгаў Ляўданскага, Дубінскага ставіць сваёй задачай вывучэньне гарадзішчаў і курганоў дагістарычных часоў, прычым будуць вывучаны гарадзішы ў самым Слуцку, Тураве і Мазыры. Экспэдыцыя на р. Прыпяць ставіць задачу прасачыць засяленьне гэтага краю славянамі і наогул старажытную колёнізацыю краю.

Апроч гэтага, будзе працягвацца вывучэньне гарадзішчаў і курганоў у некалькіх пунктах Меншчыны.

* Белдзяржвыдавецтва ў 1929-30 г. мяркуе выдаць на беларускай мове 3.080 аркушаў, на яўрэйскай—520 аркушаў, на польскай, расійскай, літоўскай і латыскай мовах—па 200 аркушаў.

Агулам на ўсіх мовах будзе выдана рознай літаратуры і падручнікаў 4.000 аркушаў з тыражом у 4.663.000 экз. на суму 883.785 руб. (па сабекошту).

* А. Вольны закончыў кіно-сцэнары „Волат". Сцэнары атрымаў станоўчы водгук Галоўрэпэрткому БССР. Фільм, паводле гэтага сцэнарыю, будзе афармляць рэжысэр У. Корш.

Рэжысэрам Ю. Тарычам закончаны кіно-фільм „Да заўтра". Фільм атрымаў станоўчую ацэнку ад Галоўрэпэрткому БССР і РСФСР.

Фільм увосень г. г. будзе пушчаны на экран.

* Пры катэдры этнографіі БАН адбылося выступленьне беларускага квартэту, у які ўваходзяць сьпевакі Мацэлевіч, Патапаў, Швайка і Мікалаевіч. Квартэт будзе выконваць

мэлёдыі песьняў, апрацаваных катэдрай этнографіі. Квартэт у паказаным складзе павінен адбыць пры песеннай камісіі гадавую асьпірантуру, пасьля чаго кватэру будзе надана годнасьць акадэмічнага.

* Проф. Эпімах-Шыпіла перадаў БАН сваю бібліотэку, якую ён зьбіраў на працягу 40 год. Бібліотэка складаецца з 5.000 кніг розных назваў. Бібліотэка будзе зьмешчана ў асобным пакоі і для яе будзе складзены асобны каталёг.

* Сёлета ў БССР будуць організаваны 3 геолёгічных экспэдыцыі. Адна экспэдыцыя пад кіраўніцтвам проф. Лунгерсгаузэна будзе вывучаць геолёгічную будову паўночнай БССР, а рэшта 2 будуць вывучаць геолёгічныя прадпасылкі для правядзеньня мэліорацыі р. р. Волмы і Іпуці.

* Белдзяржкіно выпушчае новы агрокульт-фільм „Беларуская вёска". Здымкі рабіліся ў плямгасе „Калініна" і ў рэдакцыі газэты „Беларуская вёска". Рэжысэр фільму— Арнольд Найдзіч. Опэратар—Кальчаты.

* Беларуская дзяржаўная капэля хадайнічае перад Наркамасьветы БССР аб пасылцы капэлі на працягу летняга сэзону ў раёны БССР дзеля популярызацыі беларускай песьні.

* Беларускі нав.-дасьл. інстытут сельскай і лясной гаспадаркі перадае Беларускай акадэміі навук усю ўстанову Белгеофізу.

* Беларуская акадэмія навук камандыруе сёлета ў Латвію проф. Бузука для вывучэньня асаблівасьцяй беларускае мовы беларускага насельніцтва Латвіі.

* Вышаў з друку ў выданьні акадэміі навук другі том твораў М. Багдановіча. У гэтым томе ёсьць разьдзелы: артыкулы па гісторыі літаратуры і крытыцы, беларуская грамадзкасьць, славянства, нататкі і рэцэнзіі, пераклады, а таксама вялікі крытычна-бібліографічны нарыс аб Багдановічу проф. Замоціна.

Друкуецца ў акадэмічным выданьні зборнік твораў Алеся Гаруна і падрыхтоўваюцца да друку зборнікі твораў Цёткі і Багушэвіча.

* Акадэмічная рада Беларускай акадэміі навук ухваліла ў асноўным проект апрацаванага беларускага правапісу. У проекце нанава разгледжаны правапіс чужаземных слоў і ўласных іменьняў.

Далейшы разгляд проекту пераносіцца ў колегію Наркамасьветы, пасьля чаго будзе вылучана зьмешаная камісія для канчатковага апрацаваньня правапісу.

Проект мае быць надрукаваны і разасланы ва ўсе ўстановы Наркамасьветы для ацэнкі.

# БЕЛАРУСКАЯ КУЛЬТУРА ЗА МЕЖАМІ БССР

* У № 15—16 бюлетэню Ўсесаюзнага таварыства культурнай сувязі з замежамі, які выходзіць на ангельскай, францускай і нямецкай мовах, зьмешчаны артыкул: „Вітэ Русіан Поэтэс“ (беларускія поэты), у якім даецца характарыстыка наступным пісьменьнікам: Янку Купалу, Якубу Коласу, Цішку Гартнаму, Ал. Гурлу, Міхасю Зарэцкаму і Андрэю Александровічу. Да артыкулу дадаены фотографіі Янкі Купалы, Якуба Коласа і Цішкі Гартнага.

* У аргентынскай расійскай газэце, што выдаецца ў г. Буэнос-Айрэс, № 791 назваю „Нуево Мундо“ (Новый мир) зьмешчаны артыкул назваю „Новая Беларусь“. У артыкуле ў кароткіх рысах даецца характарыстыка БССР, апісваецца Зьезд Саветаў гэтага году.

* Вядомы славацкі літаратурны крытык Дворжак прасіў прыслаць для надрукаваньня ў славацкіх часопісах артыкул пра беларускую літаратуру. З свайго боку Дворжак піша для „Полымя“ артыкул пра славацкую сучасную літаратуру.

* На зьезьдзе украінскіх пролетарскіх пісьменьнікаў (ВУСПП), які адбыўся ў канцы мінулага мая месяца з вялікім дакладам пра беларускую літаратуру выступаў сябра БелАПП П. Галавач.

* У літаратурным дадатку да украінскай газэты „Вісти ВУЦВК“ № 19 ад першага чэрвеня г. г. зьмешчаны портрэт пісьменьніка П. Галавача.

* У другім томе „літаратурнай энцыклёпэдыі“ будуць зьмешчаны артыкулы пра наступных беларускіх пісьменьнікаў: Цішку Гартнага, Алеся Гурло, Ул. Галубка, М. Грамыку, А. Гаруна і інш.

* У № 4 часопісу „Славішэ Рундшау“, што выходзіць у Празе, зьмешчаны артыкул проф. Вазьнясенскага пра беларускі тэатр.

* Сярод перакладчыкаў твораў Янкі Купалы для зборніка, які выдае Дзяржвыдат РСФСР, знаходзяцца гэткія вядомыя расійскія поэты, як Сяргей Гарадзецкі, В. Маякоўскі, М. Ражджэственскі, П. Арэшын, М. Галодны і інш.

* Творы Цішкі Гартнага, Міхася Чарота і Андрэя Александровіча ў зборніку „Современная белорусская поэзия“, які выдае Дзяржвыдат РСФСР, запрашоны перакладаць поэта Сяргей Гарадзецкі.

* Вядомы нямецкі проф. Вінклер зьвярнуўся да рэктара Беларускага унівэрсытэту проф. У. Пічэты з пропозыцыяй організаваць увосень гэтага году Кёнігсбэрска-беларускі тыдзень. Плян тыдня наступны: перш у Менск прыяжджае дэлегацыя кёнігсбэрскіх навуковых работнікаў, якая робіць рад дакладаў пра нямецкае мастацтва, літаратуру і інш., пасьля беларуская дэлегацыя з тымі-ж мэтамі выяжджае ў Кёнігсбэрг.

Вырашэньне пытаньня перадана беларускаму таварыству культурнай сувязі з замежамі.

* 3-га чэрвеня ў Рызе (Латвія) адбылося ўрачыстае адчыненьне латыскага таварыства культурнай сувязі з народамі СССР. Беларускае таварыства культурнай сувязі з замежамі і літаратурнае аб'яднаньне „Полымя“ паслалі ўрачыстаму сходу прывітальныя тэлеграмы.

# КУЛЬТУРНАЕ ЖЫЦЬЦЁ Ў РСФСР

* У парадку паглыбленьня культурнай сувязі паміж УССР і РСФСР гурток ленінградзкіх расійскіх пісьменьнікаў (Федзін, Сямёнаў, Казакоў, Лаўрэнеў і інш.) езьдзілі на Украіну, дзе праявілі вялікую працу ў сувязі з дзесяцігодзьдзем дзяржвыдату і двухтыднёвікам савецкае кнігі. Ленінградзкія пісьменьнікі выступалі з дакладамі, якімі абслужылі да 20 тысяч чытачоў. Сабраны пісьменьнікамі матэрыял хутка дзяржвыдат выдасьць асобнаю кніжкаю.

* За 22 дні, у якія адбываўся ў Маскве кніжны рынак, зроблены зварот у 240.000 рублёў. Выдавецтвамі прададзены да 500.000 экз. кніжак. Цэнтральны кніжны рынак наведала звыш мільёну чалавек.

* 8 чэрвеня закончыўся ў Маскве Ўсерасійскі зьезд сялянскіх пісьменьнікаў. У цэнтральную раду УССР тав. сялян. пісьменьнікаў абрана 37 чал. зьезд пастанавіў арганізавацьцэнтральны дзяржаўны сялянскі тэатр.

* У 8 нумары маскоўскай „Літаратурнай газэты“ ў перадавіцы ўздымаецца пытаньне пра далейшае разгортваньне культурнага зьліжэньня паміж асобнымі рэспублікамі СССР. Газэта вітае нараджэньне украінскай і грузынскай фэдэрацый пісьменьніцкіх аб'яднаньняў і заклікае іх да сыстэматычнай і плянавай сувязі паміж сабою.

* Пісьменьніца Л. Сэйфуліна піша аповесць „Пагібель“ і падгатавала да друку кніжку „З апавяданьняў Ганны Максімаўны“.

* Аляксей Платонаў скончыў новы раман „Жаніханьне Гардона“.

* Для азнаямленьня з музычным мастацтвам СССР у Маскву прыехаў амэрыканскі композытар і музычны крытык газэты „Нью-Ёрк-Таймс“ О. Даунс.

* МГСПС абвясьціў конкурс на мастацкае афармленьне клюбаў. На конкурс падана звыш 150 работ.

* М. Райзман закончыў роман „Чорная сотня“ пра антысэмітызм і яўрэяў-земляробаў.

* На профэсарскім сходзе ў Маскоўскай консэрваторыі рэктарам апошняе абраны Б. С. Пшыбышэўскі, сын вядомага польскага пісьменьніка Стан. Пшыбышэўскага.

* У Дзяржаўным выдавецтве РСФСР вышаў з друку трэці нумар альманаху народаў СССР „Савецкая страна“.

* У выдавецтве „Земля и фабрика“ друкуецца роман Д. Гатуева „Гага-аул“, з жыцьця горцаў паўночнага Каўказу.

* У выдавецтве „Московский рабочий“ выходзіць роман С. Монтэгю „Прэч з карты“ з паўднёва-амэрыканскага жыцьця.

* У канцы мая каля будынку Малога тэатру адкрыты памятнік расійскаму драматургу Астроўскаму. Памятнік зроблены па проекту скульптара Н. А. Андрэева.

* У Ленінградзе, у Гатчынскім палацы, адкрылася выстаўка „Военнаабсолютычны“ рэжым часоў Паўла І. На выстаўцы знаходзяцца экспонаты, якія характарызуюць унутраную і замежную палітыку ўраду Паўла І.

На стадыёне МГСПС супроць парку культуры і адпачынку адкрываецца выстаўка АХР „Мастацтва

ў масы". У выстаўцы прымае ўдзел, апрача АХР, „Асоцыяцыя мастакоў чырвонае Украіны" і „Асоцыяцыя мастакоў-самавучак".

Сярод выстаўленых работ найбольш цікавымі зьяўляюцца: Карпава („Арышт Пугачова", пасьмертная праца), Радзімава (сэрыя крамлёўскіх этудаў, „Сэсія ЦВК СССР", „Футраная фабрыка"), Кацмана („Калязінскія кружаўніцы", „Піонэры"), Котава („Комсамолец", „Сплаў лесу"), Перальмана („Ратацыйнае аддзяленьне друкарні „Известий"), Ёгансона („Рабфакаўцы") і інш.

* Сёлета мінае 300 год ад дня надрукаваньня першай грузінскай кнігі. Організаваная пры Наркамасьветы БССР спэцыяльная юбілейная камісія падрыхтоўвае поўную бібліографію тых грузінскіх пэрыодычных і непэрыодычных выданьняў, якія вышлі ў сьвет за апошнія 300 год.

Скліканая пры Фэдэрацыі савецкіх пісьменьнікаў Грузіі шырокая нарада вылучыла спэцыяльную камісію, якой даручана падрыхтаваць матэрыялы для антолёгіі.

* У цэнтраархіў перадаецца ад спадкаемцаў архіў А. Я. Рудзевіча, вядомага генэрала вайны 1812 году. У архіве сярод розных вайсковых і дзяржаўных дзеячоў Аляксандраўскае эпохі (Вітгэнштэйна, Лянжэрона) знойдзены лісты дэкабрыстых: Сяргея Валконскага, Паўла Пэстэля. Лісты апошняга цікавы для характарыстыкі асабістага нездаволеньня Пэстэля Аляксандрам, у сувязі з няўдачамі па службе. Архіў падрыхтоўваецца да друку В. С. Нячаевай і будзе апублікован у бліжэйшы час у „Красном архиве".

* 9 чэрвеня вышаў першы нумар штотыднёвай масавай „Музыкальной газеты", якая ставіць сабе задачаю—аб'яднаць шырокія колы музычнае грамадзкасьці вакол актуальных пытаньняў організацыі і разьвіцьця савецкага музычнага жыцьця. „Музыкальная газета" зьяўляецца органам Галоўмастацтва РСФСР, сэкцыі композытараў і ленінградзкага саюзу драм. і музпісьменьнікаў і прызначана для абслугоўваньня композытараў, музыкаў, вучняў, клюбных працаўнікоў, гурткоўцаў, музыкаў Чырвонай арміі, рабочых, якія цікавяцца музычным мастацтвам, і шырокага кола слухачоў. Адказным рэдактарам новай газэты назначаны Л. Л. Абаленскі.

* У Дзяржаўнай акадэміі мастацкіх навук РСФСР 19 мая адкрылася выстаўка тэатральных макетаў, пастановак сэзону 1928—29 г. Прымаюць удзел Малы тэатр, Мастацкі, Камэрны, Мастацкі 2-гі, тэатр Мэйерхольда, тэатр МГСПС, Дзіцячы тэатр і інш. Некалькімі макетамі прадстаўлены таксама тэатральна-дэкорацыйны факультэт ВХУТЭІНА. ДАМН выпусьціла да выстаўкі каталёг з артыкуламі П. С. Когана, В. Т. Сахноўскага і А. М. Эфроса.

* Усерасійскае таварыства сялянскіх пісьменьнікаў умовілася з выдавецтвам „Молодая гвардия" на выпуск сэрыі „Навінкі сялянскае літаратуры". Зараз рыхтуюцца да друку наступныя кнігі: „Земля цветет"—роман Яравога, кніга вершаў Песьцюхіна, „Гайданцы" — роман Юрына і інш.

* Дваццаць пятая гадавіна ад дня сьмерці А. П. Чэхава, што мінае 15 ліпня, а таксама будучы 50-гадовы юбілей у 1930 г. ад пачатку яго літаратурнае дзейнасьці адзначаюцца выданьнем раду работ, прысьвечаных творчасьці Чэхава.

Дзяржвыдавецтва РСФСР рыхтуе да выданьня зборнік артыкулаў пад рэд. П. П. Лебедзева-Палянскага і новы поўны збор твораў Чэхава. У выд. „Академия" выходзіць зборнік артыкулаў і дасьледваньняў пад рэдакцыяй Н. Ф. Бальчыкава. У выд. „Мир", выходзіць досьлед А. Б. Дэрмана аб творчасьці Чэхава. „Московский рабочий" выпускае этуд аб Чэхаве П. С. Когана і досьледы Мышкоўскай („Чехов и юмористические журналы"). Друкуецца „Чеховский сборник" таварыствам імя А. П. Чэхава, куды ўвойдуць нявы-

даныя чэхаўскія апавяданьні, артыкулы і лісты, а таксама дасьледваньні Н. К. Піксанава, С. Д. Балухатага, І. Н. Кубікава і інш. Кніжная палата прыняла да выданьня вялікую працу І. Ф. Масанава па бібліографіі твораў Чэхава і літаратуры пра Чэхава.

Надзвычай цікавым мае быць зборнік чэхаўскіх лістоў, падрыхтаваны музэем ім. Чэхава пры Ленінскай бібліотэцы. У зборнік увойдзе да 300 неапублікаваных да гэтага часу лістоў А. П. Чэхава.

Да 15 ліпня ў музэі імя Чэхава адкрываецца пашыраная выстаўка з цэлым радам новаорганізаваных аддзелаў: „Чэхаў на фоне эўропэйскае творчасьці", „Чэхаў і навука" „Зарубежныя тэатральныя пастаноўкі Чэхава" і інш. Музэю прадастаўлены дзьве новыя залі.

Маскоўскія тэатры адзначаюць чэхаўскія дні наладжаньнем у пачатку будучага сэзону „Тыдня Чэхава". „Межрабпом-Фильм" выпускае чэхаўскі кіно-альманах, куды ўвойдуць інсцэніроўкі некалькіх апавяданьняў Чэхава.

* У рэпэртуар „Большого театра" на той год будзе ўключаны балет С. Пракоф'ева „Сталёвы скок" Ён пойдзе ў адзін вечар з аднаўленымі „Часінамі году" Глазунова і „Шчалкунчыкам" Чайкоўскага. Балет „Футбалістыя", што рыхтуецца да пастаноўкі, сёлета будзе даведзены толькі да генэральных рэпэтыцый.

* Студыя Малога тэатру распрацавала вытворчы плян на 1929-30 г. Першым будзе пастаўлена п'еса Шчэглова (назвы яшчэ няма). Тэма— рабочае вынаходніцтва. Па лініі клясычнага рэпэртуару ў плян уключана п'еса Астроўскага „Бяз віны вінаватыя". Літаратурныя матэрыялы для пастаноўкі гэтае п'есы дае музэй імя Бахрушына. Трэцяй пастаноўкай будучага сэзону пойдзе інсцэніроўка роману О. Гэнры „Каралі і капуста", прысьвечаная гаспадараньню амэрыканскіх капіталістых у маленькіх рэспубліках.

## ХРОНІКА УКРАІНСКАЕ КУЛЬТУРЫ

* Колегія Наркамасьветы пастанавіла організаваць у Харкаве новы навукова-дасьледчы інстытут усходазнаўства.

* Катэдра навуковага дасьледваньня яўрэйскае культуры пры Ўсеукраінскай акадэміі навук мае пераорганізавацца ў навукова-дасьледчы самастойны інстытут.

* Аб'яднаньне украінскіх мастакоў АХЧУ і АРМУ паслалі на сусьветную выстаўку ў Голяндыю каля 600 карцін Харкаўскіх, Кіеўскіх і Адэскіх мастакоў.

* Днепрапятроўскае навуковае т-ва пры ВУАН організоўвае гэтым летам навуковую экспэдыцыю ў Беларусь.

* У Кіеў перавозіцца Ўсеукраінскі Пантэон, які складаецца з шэрагу зарысовак выдатных дзеячоў політыкі, навукі і мастацтва. На чале Пантэону стаіць акадэмік М. Мельнікаў-Разьведэнка.

* Усеукраінскае т-ва культурнай сувязі з замежамі пасылае за межы ў Заходнюю Украіну і Турэччыну лепшых украінскіх музычных дзеячоў і артыстых з мэтай популярызацыі украінскай музыкі.

* Выдавецтва РСФСР (Масква) выдае перакладзены з украінскай на расійскую мову „Кобзар“ Т. Шэўчэнкі пад агульнай рэдакцыяй проф. Піксанава і ўдзелам украінскага інстытуту імя Шэўчэнкі.

* Выдавецтва „Пролетарий“ распачынае выдаваць біографіі украінскіх пісьменьнікаў. Сабрана пакуль-што матэрыялаў на два томы.

* Украінскі поэта Паўла Тычына піша лібрэто да опэры „Маруся Богуслаўка“; композыцыйны плян лібрэто склаў народны артысты Лэсь Курбас. Музыку да опэры „Маруся Богуслаўка“, піша композытар Гліер.

* Танчэнка М. напісаў новы кіносцэнары „Мостом через Дністер“, які адбівае рэволюцыю ў Бэсарабіі.

* Музэй украінскага мастацтва наладзіў выстаўку сучаснай украінскай графікі. У выстаўцы прымаюць удзел, апроч савецкіх мастакоў, і замежныя.

* Рускі музэй у Ленінградзе па прапанове Галоўнавукі РСФСР перадае Інстытуту імя Шэўчэнкі ў Харкаве мастацкія творы Т. І. Шэўчэнкі, якія захоўваюцца ў музэі.

* Драматург Якуб Мамантаў здаў Галоўмастацтву НКА УССР лібрэто опэры „Залаты абруч“ (па роману Франка, Захар Беркут“). Музыку да гэтай опэры піша композытар Лятошынскі.

* 17 сакавіка сьвяткаваў свой 10-гадовы юбілей тэатр імя Шэўчэнкі, які вырас з драматычнага тэатру, што быў заснаваны ў Кіеве ў 1918 годзе. Гэта найстарэйшы за ўсе тэатры Украіны, створаныя пасьля Кастрычнікавай рэволюцыі. Загадам СНК УССР тэатр стала пачаў працаваць толькі 15 сакавіка 1919 г. Гэтая дата мае гістарычнае значэньне, бо з гэтага часу тэатр пачаў праводзіць сваю працу, украінскае мастацтва панёс пролетарыяту. Гэта быў першы на Украіне тэатр шырока-эўропэйскага маштабу, які ўключыў п'есы соцыяльнага зьместу.

Калі Кіеў захапіла дзянікінская банда, усё было зруйнавана, загнана ў падпольле і тэатр распаўся. Калі-ж Чырвоная армія вызваліла Кіеў ад

белых бандаў, тэатр распачаў працаваць далей.

Улетку 1921 году па загаду Губрэўкому тэатр выехаў у Кацярынаслаў (Днепрапятроўск). Гэты горад упяршыню пабачыў у сябе такі украінскі тэатр шырокага маштабу. У пачатку 1922 году тэатр абслужыў N-ую Чырвонаштандартную Валынскую дывізію ў Белай Цэркві. Улетку тэатр выяжджаў у лягер школы Чырвоных старшынь ў Сьвятошыне.

Пяць гадоў мінула з Кастрычніка, а сталіца Украіны Харкаў яшчэ і дагэтуль ня мела ў сябе ўзорнага мастацкага украінскага тэатру. НКА выклікаў тэатр Шэўчэнкі ў Харкаў і ў пачатку 1923 г. ён распачаў свае гастролі ў Мусуры. Для Харкава шэўчэнкаўцы былі неспадзяванасьцю, бо ўпяршыню на сцэне харкаўчане пабачылі пастаноўкі на украінскай мове ў мастацкім выкананьні эўропэйскіх клясыкаў і украінскіх драматургаў. Матэрыяльна тэатр ня быў забясьпечаны і змушаны быў вярнуцца ў Кіеў. У Палтаве, дзе ён спыніўся, здарыўся пажар і шмат згарэла тэатральных рэчаў. Гэта зусім падарвала моц тэатру і ён пераходзіць на палажэньне колектыву.

Па дзяржаўнаму каштарысу (1925 г., Палтава) тэатр наведаў Палтаўшчыну, Днепрапятроўск, Таўрыю, Хэрсоншчыну, Харкаўшчыну.

Сэзон 1926—27 году тэатр абслугоўвае: Данбас, Марыуполь, 1927-28 г. і 1928-29 г. працуе ў Днепрапятроўску. Тут тэатр зрабіў вялікую работу мастацка-грамадзкага значэньня. Днепрапятроўск вельмі зрусіфікаваны горад, які спачатку да украінскага тэатру аднёсься няўважліва. Шэўчэнкаўцы, не зьвяртаючы на гэта ўвагі сьмела разьвінаюць сваю работу ў ваколіцах гораду, на заводах і розных прадпрыемствах. Тэатр уводзіць новую сыстэму—зачыненыя спэктаклі, якія кардынальна зьмяняюць усю тэатральную работу. Замест „вуліцы“ ў тэатр пападае арганізаваны глядач—рабочы. У гэтым годзе, напрыклад, усю мастацкую продукцыю тэатру прэзыдыум Профсавету заставіў за сабой. Гэта яшчэ нябывалая зьява ў гісторыі украінскага тэатру.

За 10 год свае працы тэатр паставіў 94 прэм‘еры, 56 аўтараў. На украінскую орыгінальную драматургію прыпадае 38: Гайдамакі, Шэўчэнка, 10 п‘ес Вінічэнка, 5 п‘ес—Лёсі Украінкі, сучасных—Куліша, Дняпроўскага, Мамантава ды інш.; эўропэйскіх—Шэксьпір, Мольер, Гауптман, Іозен, Гольдоні, Золя, Гюго, Гогаль, з сучасных расійскіх—Лаўрэнёў, Луначарскі, Трэцьцякоў, Мікулін ды інш.

За 10 год у тэатры былі рэжысэрамі: Курбас, цяпер мастацкі кіраўнік „Берэзіля“, Загараў, Берэжні, Васілько, Сьмірн ў, Тынскі, Равінскі, Юхіменка, Буторын ды інш. Мастакамі: Пятрыцкі, Мелер, Саньнікаў, Назараў ды інш.

На працяцу 10 год у тэатры ў розныя пэрыоды працавала 267 актораў, большасьць з іх выхаванцы тэатру. Былыя шэўчэнкаўцы на сёньня складаюць асноўны кадр іншых дзяржаўных тэатраў. Цяпер у тэатры працуюць: Левіцкі (засл. артысты), Сідарэнка, Аляксандраў, Харашун, Марыніч, Багдановіч, Стапырына, Лысенка, Лебедзева, з маладых: Капацкі, Корбін, Чайка, Каўтун, Петракоўскі, Кветка, Дуброўскі, Башчанка, Башчук, Маркава. Мастацкі кіраўнік, ён-жа і заснавальнік тэатру—Зьмітро Равінскі. Рэжысэр—Буторын, мастак—Назараў.

Увесь час так складалася, што НКА заўсёды пасылаў шэўчэнкаўцаў у тыя месцы, дзе пра сучасны украінскі тэатр нават ніколі ня чулі, дзе буйным кветам панавала халтура. На долю тэатру прыпадала быць першым аратым гэтай цаліны, праворваць шлях іншым тэатрам. Скрозь, дзе ён быў, тэатр праводзіў вялікую культурна-асьветную работу, якая ўскладалася на яго партыяй і савецкай уладай.

За апошнія тры гады тэатр меў 600 пастановак, абслужыўшы каля

500.000 гледачоў. Гэтыя лічбы набываюць вялікае значэньне, бо яны прыпадаюць выключна на рабочыя цэнтры Украіны: Данбас, Крыварожжа, Мікалаеў ды Днепрапятроўск.

Дзяржаўны тэатр імя Шаўчэнка, узяўшы сабе імя поэты і барацьбіта Украіны, выкінуў лёзунг: праз нацыянальную форму мастацтва, праз яскравае, простае мастацкае эстэтычнае ператварэньне ісьці ў тэмпе і рытме сучаснасьці; быць правадыром і выхавальнікам гледача, паказваючы яму мастацкую рэальную праўду жыцьця, наблізіць яго да украінскай і сусьветна-клясавай культуры пролетарыяту, нішчыць старую тэатральную трухляціну, агідную халтуру, мяшчанства, маларасійскае культурніцтва, абмежаваны фізыолёгічны нацыяналізм і варожую рэволюцыі нэпманска-хутаранскую ідэолёгію.

Узяўшы на свае плечы гэтае вялікае заданьне, тэатр на працягу 10 гадоў настойліва праводзіў яго ў жыцьцё. Нялёгкая гэта была работа. Ня было ў мінулым традыцыі, ня было з чаго браць прыкладу, усё даводзілася рабіць з самага пачатку. Гэты тэатр, выкліканы Кастрычнікавай рэволюцыяй тварыць новае, раднасае, сьветлае жыцьцё, цьвёрда вырашыў перамагчы гэтага найлюцейшага ворага.

10 гадоў існаваньня тэатру імя Шаўчэнка, 10 гадоў жорсткай барацьбы, 10 гадоў надчалавечай энэргіі за новы тэатр, 10 гадоў, што ўпісаны крывёю і потам жыцьця ў гісторыю украінскага тэатру, 10 гадоў працы шаўчэнкаўцаў—гэта жывая сьведка буйнога ўзрастаньня творчых жывых сіл народу, што вызваліўся ад спрадвечнага ўціску. Гэта цэлая героічная эпопэя, гэта ёсьць яскравы паказальнік здабыцьця вялікага Кастрычніка ў галіне тэатральнай савецкай культуры на Украіне.

За гэтыя 10 год тэатр перанёс шмат розных надворных і ўнутраных крызісаў. Былі часы, калі тэатр занепадаў, але затое ён моцна трымаў у сваіх руках штандар „художний рэалізм“, настойліва праводзячы яго ў жыцьцё.

Найлепшыя яго пастаноўкі: „Гайдамакі“—Шаўчэнки“, „Па дарозі в казку“—Олеся, „Приборка на гострух“—Шэксьпіра, „Пієнічні Велетні“ Ібсэна, „Ганна Крісті“—О' Нэйля, „Разлом“—Лаўрэнёва, „Рички Китай“—Трэцьцякоўскага, „Яблуневий Полон“—Дняпроўскага, „Собор“—Гюго, „Мина Мазайло“—Куліша ды інш.

Распачынаючы другое сваё дзесяцігодзьдзе, тэатр з дапамогаю пролетарыяту выканае ўсе заданьні, што на яго ўсклала партыя і савецкая ўлада.

А. І.

## ЗАМЕЖНАЯ КУЛЬТУРНАЯ ХРОНІКА

* З Нью-Ёрку паведамляюць, што вядомы індыйскі пісьменьнік Робіндранат Тагор нагэтулькі зьняверыўся ў Амэрыцы, што літаральна адтуль уцёк.

Прыехаўшы ў Сан-Францыска, Робіндранат Тагор рашуча адмовіўся прыняць інтэрвьюераў. Ён заказаў сабе каюту на першым параходзе, які адплываў у Азію, і як толькі пераехаў на параход, дык даў волю свайму нездавальненьню. Перш за ўсё Робіндранат Тагор заявіў рашучы протэст супроць чыннасьці амэрыканскай эміграцыйнай улады. Ён заявіў, што эміграцыйныя чыноўнікі з ім абыходзіліся надзвычай груба. Ён сьцьвярджае, што яму былі запрапанованы яўна абсурдныя пытаньні і што з ім абыходзіліся так, што ён пераканаўся ў няпрошанасьці азіяцкіх гасьцей для Амэрыкі, у адносінах да якіх дазваляецца ўсякая грубасьць і якія могуць быць západaзроны ў чым хоць. Пры гэткіх умовах Робіндранат Тагор ня лічыць магчымым выкарыстаць гасьціннасьць Амэрыкі.

* Вядомы аўстрыяцкі композытар Эрнэст Кшэнек, аўтар нашумеўшай опэры, якая прайшла па 70-ці сцэнах сьвету „Джоні найграе“, напісаў новую опэру „Жыцьцё Орэста“. Опэра гэта будзе пастаўлена ў студзені 1930 году ў Лейпцыгскім новым тэатры.

* На паседжаньні Гётаўскага таварыства ў Вэймары забалётаваны пры выбарах у склад таварыства вядомы нямецкі поэта Томас Ман.

* У Празе, у выдавецтве Адольф Сынэка, вышаў зборнік раньніх вершаў і вершаў сатырычных вядомага пісьменьніка, аўтара твору „Прыгоды бравага салдата Швэйка“, Яраслава Гашэка. Зборнік названы „Маёвыя крыкі і іншыя вершы“.

* У Лёндоне дадумаліся да наступнага: нейкі Осбэрт Сітвэль пусьціў у ход моду выконваць вершаваныя портрэты-поэмы. Цана за портрэт „ва ўвесь рост“ ім назначана ў 100 гінэй (адзін шылінг). За палову гэтае сумы Сітвэль апісвае ў вершах усяго галаву і плечы. За сямейныя групы ён бярэ 200 гінэй.

Сітвэль, як кажуць газэты, робіць поэму-портрэт у тры сэансы, па дзьве гадзіны кожны. Перад тым, як пісаць вершы, поэта апытвае „натуру“, што яна любіць, да чаго адчувае агіднасьць і інш. Портрэт ва ўвесь рост робіцца ў Тыцыянаўскай манеры: апісваецца ўвесь характар і ўсе нахілы заказчыка. Галаўны партрэт робіцца, вядома, многа прасьцей, бо за яго бярэ аўтар усяго 50 гінэй.

* У Бэрліне прадэмонстраваны першы гаварыльны фільм—амэрыканская карціна „Жартаўнік, які пяе“. У Амэрыцы гэты фільм меў шумлівы посьпех. У Бэрліне яго сустрэлі таксама з захапленьнем.

* Вядомы аўстрыяцкі пісьменьнік Сьцяпан Цвэйг мае хутка паехаць у Фінляндыю ды Эстонію.

* Копэнгагенскі (Данія) унівэрсытэт адсьвяткаваў чатырыста гадоў свайго існаваньня.

* На аукцыёне карцін, які адбыўся ў Бэрліне, за 79 карцін вядомых мастакоў атрымана чатыры мільёны марак. Карціны гэтыя належалі пры-

ватнай асобе. На аукцыён сабралася 1.800 чал.

* Рэдакцыя нямецкай літаратурнай газэты „Дзі Літэралішэ Вэльт“ зьвярнулася да членаў прускае літаратурнае акадэміі з пропозыцыяй, каб кожны акадэмік „усынавіў“ морально аднаго маладога літаратара і пасобіў яму ў далейшай працы. З свайго боку рэдакцыя „Дзі Літэралішэ Вэльт“ абяцае ўсяк памагчы, напрыклад, выданьнем спэцыяльнага нумару і інш.

* Нямецкі часопіс „Дас Тагебух“ зьвярнуўся да шэрагу вядомых пісьменьнікаў з запытаньнем: „Якая з кніжак кожнага была найнесправядлівей трактавана“? З вядомых пісьменьнікаў пакуль адгукнуўся Бернард Шоу, які сказаў: „Жадная з кніжак ня была патрактавана несправядліва. Глупства, а не несправядлівасьць, ёсьць ворагам“.

* Адзін з флямандзкіх рэжысэраў нядаўна паказаў на сцэне змодэрнізаванага ім „Мешчаніна ў шляхецтве“ Мольера, якога ён падпасаваў пад сучасную джазбандную музыку. У бэрлінскім Лесінгавым тэатры быўшы рэжысэр яўрэйскага маскоўскага тэатру Граноўскі інсцэнізаваў тую-ж п'есу фарсам, даўшы назву „Мешчанін застаецца мешчанінам“. Дзеля гэтага Граноўскі ўзяў толькі першую частку з п'есы Мольера, а да яе прыдаў другую частку, зложаную нямецкімі сучаснымі пісьменьнікамі Газэнклеверам ды Тольлерам. Крытыка бэрлінская гэту навіну прыняла ніякавата.

* У Нямеччыне пад кіраўніцтвам Леа Ланія нядаўна выкананы фільм бяз удзелу актораў, ён каштуе ўсяго 9.000 марак. Фільм адбівае грамадзкія стасункі ў Амэрыкі.

* Вядомы чэскі пролетарскі пісьменьнік Язэп Гора друкуе ў праскім выдавецтве Фр. Боровага новы зборнік сваіх вершаў назваю „Дзесяць год“.

* Італьянскі друк аднагалосна з захапленьнем гаворыць пра багатыя галасавыя і іграўыя здольнасьці маладое чэскае пявіцы Ярміны Навотнае, якая нядаўна выступала ў неапальскім тэатры „Сан-Карло“ ў ролі Адзіны ў опэры Доніцэтті „Каханьне Амура“.

* Вядомы драматург Франц Молнар напісаў новую п'есу, назваю: „Раз, два, тры“, якая пойдзе ў тэатры „Комедыя“ ў Вене з удзелам вядомага артыстага Макса Паленбэрга.

* 7 чэрвеня г. г. ў Парыжы памёр вядомы мастак Генры Жэрве, якому было 77 год. Яму належыць вядомы малюнак „Купальніца, што сьпіць“ і „Сатыр з бакханкаю“. Жэрве быў сябрам акадэміі мастацтваў.

* Пагоня за прыгодніцкай літаратурай у Заходняй Эўропе нараджае даставу апошняй з боку пісьменьнікаў. Нядаўна ў Празе аднachасна напісаны два романы на тэму пра шпіёнства. Аўтар аднаго роману концэнтруе ўвагу на аднэй аўстрыйскай шпіёнскай афэры. Гэты роман будзе друкавацца ў бэрлінскай газэце „Бэрлінэр Тагеблят“. Другі роман, напісаны чэскаю пісьменьніцай А. Цільшовай, выводзіць інтэрнацыянальнае ваеннае шпіёнства.

* Румынскае міністэрства асьветы да 13 ліпня ўздымае нацыянальную літаратурную прэмію да 100.000 лей.

* Міжнародная прэмія францускага астрономічнага таварыства ў суме 10.000 франкаў прысуджана нямецкаму профэсару Обэрту за лепшую працу аб проблеме міжплянэтных зносін.

* У францускім горадзе Німе рабочыя асьвісталі шовіністычны фільм „Вэрдэн, гістарычнае бачаньне“. За гэта было арыштавана 15 рабочых.

* Па адноснаму ліку радыёслухачоў першае месца ў Эўропе займае Данія, у якой 74 слухачы на 1000 жыхароў (у Швэцыі—64, у Англіі—58, у Аўстрыі—50, у Нямеччыне—42).

* У Калькуце (Індыя) заарыштаваны 90-гадовы пісьменьнік Шаттэр'і. Ён зьяўляецца адным з буйнейшых прадстаўнікоў індыйскае інтэлігенцыі. Шаттэр'і вінавацяць у дзяржаўнай здрадзе.

* Юбіл. „Восенскі Салён“ 1928 г. ахапляе малярства, плястыку, архітэктуру і мастацкія рамёствы. Прыкладныя мастацтвы, прадстаўленыя на выстаўцы, у большай меры зьвязаны з сучаснымі разуменьнямі аб экстэтыцы, чым выстаўленае малярства. Побач з работамі маладога Влямінга (Vlaminek), Мацiса (Matissa) выстаўлены палотны Гогена (Gauguin), Кар‘ера (Carriére), Рэнуара (Renoir), Гільомэна (Guillaumin) і Рэдона (Redon). Крытыка адзначае работы Бунара (Bounard), Герэна (Guérin), Рэдона (Redon), Вiйяра (Villard), якія становяць культурную спадчыну імпрэсыянізму. Рожэ дэ-ля-Фрэснэй (Roger de la Fresnaye), Руоль (Rouault) і Сегонцак (Segonzac) крытыка называе найбольш яскрава выяўленымі творчымі асобамі салёну. „Вэнэра“ Майоля (Maillol) амаль аднагалосна прызнаецца закончаным творам, паказаным на выстаўцы.

* У выніку спаборніцтва, абвешчанага Пруская акадэміяй мастацтва, прэмія за скульптуру прысуджана Паўлю Мэрлінгу (Paul Merling) за два рэльефы ў камні і мужчынскую галаву.

Архітэктурная прэмія прысуджана Рудольфу Ульрыху (Rudolf Ullrich) за монумэнтальны проект будынку. Проект прадугледжвае гладкія паверхоўнасьці і лініі, аснованыя на вэртыкалях.

Работа Ульрыха прызнана значным укладам у проблему вырашэньня сучасных вялікіх гарадзкіх форм.

* Антон Файстауэр (Anton Faistauer) выстаўляе ў галярэі Хардбэрга сорак карцін, портрэтаў, ляндшафтаў і актаў. У разьвіцьці аўстрыйскага малярства Файстауэр займае значнае месца. Мяккае і стомленае мастацтва Клімта, якое яшчэ і цяпер мае ўплыў на густы венскіх майстроў, у асобе Файстауэра выцiскаецца мастаком, непарыўнымі ніткамі зьвязаным з моцнай сялянскай зямлёй.

* Невялікую выстаўку малюнкаў і літографій мастака Тулуз-Лотрэк (Toulouse-Lautres) паказвае выдавецтва Касірэра. Фігуры балету, опэры, зарысоўкі танцорак, сьпявачак і какотак жывуць сваясаблівым жыцьцём, ня гледзячы на абмежаванасьць тэм, вабяць да сябе хуткім і тонкім штрыхам.

* Саксонская акадэмія мастацкіх рамёстваў мяркуе ў 1929 годзе наладзіць выстаўку ў Парыжы ў Grand Palais Salon des artistes decorateurs і ў Нью-Ёрку ў музэі Metropolitan.

* У Вільні адбыўся конгрэс польскіх пісьменьнікаў, які ўхваліў пастанову аб звароце да ўрадавых інстанцый з паказаньнем на патрэбнасьць барацьбы з пануючым культурным адзічэньнем. У ліку іншых мер конгрэс запрапанаваў: 1) правядзеньне закону аб літаратурным фондзе; 2) уключэньне пісьменьнікаў у сыстэму соцыяльнага страхаваньня і рэвізію закону аб прыбытковым падатку; 3) прыцягненьне пісьменьніцкіх організацый да разьмеркаваньня так званага „нацыянальна-культурнага фонду“; 4) тэрміновы разгляд закону аб бібліотэках.

На конгрэсе было закранута пытаньне аб стварэньні польскай акадэміі літаратуры. Пісьменьніцкія організацыі маюць намер у самы кароткі тэрмін выявіць свае адносіны да стварэньня акадэміі.

* Італьянская энцыклёпэдыя будзе выдана ў ліку 36 тамоў. Першы том выйдзе ў сьвет у палове сакавіка 1929 г. Наступныя тамы будуць выходзіць праз тры месяцы. Кожны том будзе зьмяшчаць да 1.000 багата ілюстраваных старонак у 2 слупкі і 200 табліц.

* Організаваны ўвосень 1927 году ў Reykjavik (Ісьляндыя) „Саюз ісьляндзкіх мастакоў“ яднае 40 самых выдатных ісьляндзкіх поэтаў, мастакоў і музыкаў. Цяпер саюз вядзе перагаворы з міністрам асьветы аб ператварэньні „Саюзу ісьляндзкіх мастакоў“ у акадэмію мастацтва.

* Габрыэль д‘Аннунцыо скончыў дзьве п‘есы, якія задуманы як дадатак да яго твораў: „Сон у веснавую раніцу“ і „Сон у веснавы вечар“.

* Памёр вядомы пісьменьнік Leon Bazalgette перакладчык Уітмэна і аўтар вялікае працы аб ім. Bazalgette быў супрацоўнікам левай прэсы і працаваў у „Humanite“, „Clartè“, „Monde“, быў членам рэдакцыі „L‘Europe“ і шмат энэргіі ды сіл аддаў справе міжнароднага духоўнага зблізжэньня.

* Адзіны рукапісны экзэмпляр вершу „Ворон“ Эдгара Аллана По набыў Брытанскі музэй за поўмільёна франкаў. За гэты верш аўтар у свой час атрымаў дзесяць даляраў.

* Андрэ Жыд (Andrè Gide) скончыў новы твор пад назваю „Школа жанчын“. Кніга будзе выдана спачатку ў Амэрыцы і потым у Францыі.

* Нямецкі музычны інстытут для чужаземцаў (Musikinstitut für Ausländer) адчыніцца ў канцы чэрвеня 1929 г. ў Бэрліне, у Шарлётэнбурскім палацы. У ганаровы Савет інстытуту ўваходзяць многія выдатныя дзеячы мастацтва, у тым ліку Альбэрт Эйнштэйн (Albert Einstein), Гергард Гауптман (Gergard Hauptman), прэзыдэнт Акадэміі мастацтва Макс Лібэрман (Max Libermann), Макс Рэйнгард (Max Reinhardt), Ф. Шрэкер (F. Schrecker), Фрыц Крэйсьлер (Fritz Kreisler). Старшынёю будзе Вільгельм Фуртвэнглер (Wilhelm Furtwängler).

Інстытут організуе вышэйшыя курсы па роялі, скрыпцы і спэцыяльны дырыжэрскі курс. Прадстаўнікамі запрошаны: д‘Альбэрт (d‘Albert). Эдвін Фішэр (Edwin Ficher), Вальтэр Гізэнкінг (Walter Gieseking), Вілі Хэс (Willy Hess) і Жозэф Сігеці (Ioseph Szigeti). Фуртвэнглер прачытае цыкль дакладаў аб мастацтве дырыжэра. Па гісторыі ды эстэтыцы музыкі лекцыі будуць чытацца на нямецкай і ангельскай мовах. Эйнштэйнам (Einstein), Леіхтэнтрытам (Liechtentrit), Вэйсманам (Weissman) лекцыі па інструмантазнаўству будзе чытаць Закс (Sach), лекцыі па разьвіцьці нотнага пісьма і музычным бібліотэказнаўстве—Вольф (Wolf).

* Бэрлінская гарадзкая опэра намеціла організацыю Junge Opernbühne (маладны опэрны тэатр), у якім меркавалася пастаноўка твораў маладых і невядомых композытараў. Комуністычная фракцыя бэрлінскага гарадзкога самакіраўніцтва галасавала супроць організацыі студыі, матывуючы свае адносіны да проекту тым, што сучасны тэатр ня мае ніякага дачыненьня да рабочых мас. Проект організацыі студыі адхілены.

* П‘еса таленавітага маладога актора Рыхарда Душынскага „Лістапад у Аўстрыі“ пачынаецца ў момант абвяшчэньня сусьветнай вайны і канчаецца аўстрыйскай рэволюцыяй, што пагражае абярнуцца ў соцыяльную. У гэтай п‘есе пісьменьнік змагаецца з акторам і там, дзе актор перамагае пісьменьніка—у трапных і эфэктных сцэнічных сытуацыях — п‘еса найбольш моцная. Ва ўсякім выпадку, „Лістапад у Аўстрыі“ яскравы сьведка падзей: „пира во время чумы“ ў тылу, разлажэньня фронту і надыходзячай рэволюцыі.

* У Кёнігзбэргу пастаўлена п‘еса драматурга Карла Блюта (Karl Th. Bluth) „Зьмітра“. Аўтар, які стаў вядомым пасьля пастаноўкі ў нямецкай дзярждраме экспрэсыяніцкай п‘есы „Абурэньня Люцыя“, распрацоўвае гістарычны матэрыял пасвойму і малюе Зьмітра змагаром за свабоду і права народу.

* Малады нямецкі мастак Пэтэр-Марцін Лямпэль (Peter-Martin Lampel) напісаў п‘есу „Паўстаньне ў выхаваўчым доме“, якая выклікала жвавую полеміку ў прэсе. Аўтар, які жыў некаторы час у выхаваўчым доме, малюе яго быт, звычаі і конфлікты. П‘еса была пастаўлена сіламі маладых актораў у нязначным тэатры і пасьля шумнага посьпеху перайшла на буйную сцэну. Эрнст Толер і Карл Цукмаер у адкрытым лісьце да „Народнага тэатру“ называюць п‘есу Лямпэля творам вялікай сілы, які пакінуў у іх нязвычайна моцнае ўражаньне. Цяпер п‘еса прапрацоўваецца для фільму.

* У Амэрыцы выпушчана да 2.000 гаворачых кінофільмаў.

* Як паведамляюць са Стокгольму (Швэцыя), у гэтым годзе Нобелеўская прэмія за літаратуру будзе прысуджана нямецкаму пісьменьніку Э. Рэмарку за яго роман „На заходнім фронце—бяз зьмен".

* Сусьветна вядомы скрыпач Ян Кубелік прадаў амэрыканцам сваю скрыпку Страдываріюса за адзін мільён даляраў.

* Нэгрыцянскія організацыі ў Амэрыцы зьбіраюць сродкі для вялікага фонду, з якога мяркуюць штогод выплачваць нэграм рад узнагарод (прэмій) за дасягненьні ў галіне навукі і мастацтва, кшталтам нобелеўскіх прэмій.

* Італьянскі акадэмік Бэльтрамэлі зацьвярджае, што аўтар „Дон-Кіхота" Сэрвантэс—італьянец і нарадзіўся ў італьянскім горадзе Форлімпополі. У гэтым горадзе ўжо зьбіраюцца ўрачыста сьвяткаваць „Зварот блуднага сына".

* У Парыскай нацыянальнай бібліотэцы адчынілася выстаўка сучаснай нямецкай графікі. Выстаўлена каля 300 твораў 70 мастакоў.

* У Нью-Ёрку згарэў нашчэнт пабудаваны сто тры гады таму назад гістарычны тэатр Бовэры, у якім раней выступалі ўсе выдатныя амэрыканскія акторы. Вялізнае полымя было відна ва ўсіх частках гораду.

* Аўстрыяцкі піяністы Отто Браун-Новак паставіў новы рэкорд працяжнасьці іграньня на роялі. Ён іграў бязупынна 80 гадзін 15 хвілін—на чатыры гадзіны даўжэй за папярэдняга рэкордсмэна. Публіка ўсяк яго падбадзёрвала.

* Ольмюцкі (Чэха-Славакія) „Позор" у вялікодным нумары зьмясьціў анкету, дзе пытаўся ў пісьменьнікаў і мастакоў аб законных падставах для адрозьніваньня правых і левых кірункаў у мастацтве, аб уплыве на сучаснае мастацтва з боку крытыкі і аб тым, ці павінны мастакі шанаваць густ грамадзкасьці. Падзел мастацкіх твораў на правыя і левыя— аўтары ў большасьці адкінулі. „Маладое пакаленьне", піша пясьняр К. Бібль, „прызнае толькі адно мастацтва — сусьветнае, новае". Аб уплыве крытыкі Бібль напісаў: „Крытыка, знаходзячыся ў заняпадзе, ня мае ўплыву на сучаснае мастацтва. Аднаго вершу Аполінэіраў хопіць на тое, каб перамагчы ўсе чыста сонныя парашкі і атруты, якія ёсьць у крытыкаў". Наадварот, Яраслаў Дурых бараніў крытыку: „Крытыка мае, або ў кожны момант магла-б мець, свой уплыў і занядбаньне яе зьяўляецца памылкаю". Нешта падобнае напісаў і драматург І. Бартош. Эрнэст Дворжак аднак-жа піша: „На сучаснае мастацтва крытыка мае нязначны ўплыў, у выніку нязначнае профэсіянальнае адукацыі большасьці цяперашніх крытыкаў. Выключэньні бываюць, але вельмі рэдка". Таксама і Віктар Дык: „Крытыка ў сучасным мастацтве ўблытвае хоць і невялічкую меншасьць людзей у лёзунгі і модныя настроі больш крытычных асоб". Р. Мэдэк наракае на прасякнутасьць крытыкі палітычнымі меркаваньнямі. І. Копта прызнае добры ўплыў праўдзівае крытыкі. На пытаньне, ці трэба патураць густу грамадзкасьці, большасьць прысланых нататак адказвае адмоўна.

* *Пясьняр Канстантын Бібль*, які выпускае ў сьвет у выданьні „Авэнтыну" сваю поэму „Новы Ікарос", падрыхтоўвае цяпер новую кнігу лірыкі пад назваю „Модэль 1929", што выйдзе ў выданьні „Гіпэрыёну" (выдавецтва К. Янскага). Апроч гэтага, падрыхтоўвае ён і прозу—роман „Пісьменьнік Кароль Конрад, аўтар твораў: „Ринальдина", і „Динах", падрыхтоўвае для выдавецтва Мэлянтрых новы роман: „Канец оазу Вэран".

* Эм. Летэград выпускае ў сьвет прозу „Сверхована туха"—Найвышэйшая туга (бібліофільскае выдавецтва Жыкетовай у Празе выдае гэты твор). Апроч таго, Лешэград у Гінка выдае роман „Добродушно место" (Горад прыгодаў). Для друку

ён падрыхтоўвае „Выбор з модерні англіске поези“ („Выбраныя творы новае ангельскае поэзіі“).

* У выдавецтве „Сфинкс“ выходзіць у сьвет новы вялікі роман М. Б. Бэнэля „Мілачек“ (Каханак), далей таксама буйны роман Яраслава Марыі „Orlové a strizlici“ (Арлы ды груганы) і ўрэшце роман Вахэка з сфэры палітычнага жыцьця: „Власть в небезпечи“ („Айчына ў небясьпецы“).

* Выдавецтва „Pokrok“ („Прогрэс“) яшчэ перад сканчэньнем сэзону выпусьціць у сьвет у цыклю „Добра четва“ (Добрае чытаньне) наступныя дзьве цікавыя кніжкі: Леонгарда Франка „Karel a Anna“ (Кароль і Ганна) у аўтарызаваным перакладзе Ярмілы Гаасавай ды адзначаную ўжо кнігу Яраслава Зэйфэрта „Hvězdy nad rajskou zahradou“ („Зоркі над райскім садам“). У зборнай сэрыі „Legionárke knížky“ выйдуць два томы, а іменн Іка „Shrabki“ (Пазадзьдзе) і Р. Уласак (Власак)—„ Ztèplušky do tèplušky a june houpačky“ (З цяплушкі да цяплушкі ды іншыя гушкалкі).

Таксама выйдзе ў сьвет яшчэ і трэці том твораў Эгона Эрвіна Кішэ — „Cari, popi, bolševici“ (Цары, папы, бальшавікі).

Выдавецтва „Čin“ (Чын) падрыхтоўвае збор твораў Марылі Маеравай. У першым томе выйдзе роман з жыцьця парыскіх анархістых „Namesti republiky“ (Рынак рэспублікі); першае выданьне гэтага роману ўжо даўно распрадана. Збор твораў будзе мець асабліва старанна ўдасканалены знадворны бок і будзе надрукованы першым чэскім шрыфтам „Тусар“ і і кожны том будзе самастойна ілюстраваны асобным маляром. „Рынак рэспублікі“ ілюструе Язэп Чапэк.

* У Пршыбраме (Чэха-Славаччына) у канцы красавіка памёр малады 32-гадовы пясьняр Фр. Кучэра, чые „Pisničkі hlibin“ („Песенькі глыбінныя“) зьяўляюцца цікавым узорам нашае пролетарскае лірыкі, пролетарскае ня толькі паводле сваіх ідэй і тэм, але і ў сувязі з жыцьцёвым шляхам аўтара, які з гарняка зрабіўся службоўцам у капальні, а ўрэшце памёр ад пролетарскае хваробы—сухотаў. Кучэра быў пашыральнікам справы Бэзруча і Волькера, а яго вершы былі шчыраю і балючай лірыкаю цяжкога жыцьцёвага лёсу пршыбрамскіх гарнякоў.

* *Богуміл Матэзіус* напісаў для трэцяга нумару агляду „Plan“ літаратурна-крытычны разбор „Палкоўніка Шваца“ (Plukovnika Švece), напісанага Мэдкам.

* У Вялікавым выдавецтве (Прага) толькі-што пачала выходзіць асобнымі томамі новая, трэцяя сэрыя романаў Жюля Вэрна, у якой зьмяшчаюцца наступныя творы: „Да цэнтру зямлі“, „Прыгоды капітана Гэтэраса“, „Містрыс Брэнікэн“, „Плывучы горад“, „Кlёніс Дардэнтор“ і „Бязыменная сям'я“.

* Чэскі пісьменьнік Адольф Вэсэлы выпускае ў сьвет выдаўцоў Квасьнічкі і Гампля ў Празе новае выданьне свае кніжкі лірычных твораў: „On a ona, milenci“. (Ён і яна, каханак з каханкаю). Новае выданьне гэтае кніжкі пашырана радам новых вершаў. Кніжка выходзіць у беззаганным з друкарскага боку вонкавым выглядзе, у вокладцы Кірыла Боўды, які таксама аздобіў кнігу сотняю адбіткаў, друкаваных на паперы ручное работы і выкананых шчыльным прыгожым офортам.

*Рэдакцыйная колегія:* **З. Жылуновіч, Я. Купала, А. Некрашэвіч, М. Чарот, І. Шыпіла.**

*Выдавец:* **Беларускае Дзяржаўнае Выдавецтва.**

# ЗЬМЕСТ